# Полымя Рэволюцыі

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

*КНІГА ДЗЕСЯТАЯ*

1 9 3 5



# Полымя Рэвалюцыі

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

Орган
Праўлення Саюза
Совецкіх пісьменнікаў
БССР

*КНІГА ДЗЕСЯТАЯ*



МЕНСК ЛІМ
ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
1 9 3 5

## ЗМЕСТ

Ал. Кучар.

# ТВОРЧЫ ШЛЯХ ЗМІТРАКА БЯДУЛІ

Дваццаць пяць год таму назад, у верасні 1910 года, у адзінай тады беларускай газеце „Наша ніва“ былі надрукаваны невялікія імпрэсіі маладога пісьменніка Самуіла Плаўніка, які выступіў пад псеўдонімам Змітрака Бядулі.

Самуіл Плаўнік нарадзіўся ў беднай яўрэйскай сям'і ў мястэчку Пасадзец былога Віленскага павета ў 1876 годзе. З дзяцінства ён ведаў гора, галечу голад. Выхоўваўся ў яўрэйскай талмудысцкай школе і толькі ў пятнаццацігадовым узросце вывучыў рускую мову. Бацька яго—мястэчковы балагол, не мог пратрымаць шматлікую сям'ю і шаснаццацігадовы Самуіл Плаўнік навучае дзяцей грамаце ў сваім родным мястэчку. З трынаццаці год ён піша вершы на стара-яўрэйскай мове, з дзевятнаццаці—на рускай, а пазней—на беларускай. Ва ўзросце дваццаці пяці год ён змог нарэшце надрукаваць першыя творы на беларускай мове. Выхаванне ў талмудысцкай школе гэтаксама, як і нерадаснае жыццё дома прывівалі маладому Самуілу Плаўніку рамантычныя, а часамі і містычныя адносіны да рэчаіснасці. Гукі, колеры, таемная фантастыка прыроды акружалі маладога талмудыста, з дзяцінства ён быў увесь у іх палоне.

Адзін з ранніх вершаў Змітрака Бядулі надзвычайна яскрава характарызуе псіхалагічны стан маладога паэта—рамантыка.

Вячэрнія гаснуць зарніцы
Палоскаю беднай над лесам,
Мой бацька іграе на скрыпцы
Хасіцкую сумную песню.
Ён цягне смычком так дакучна,
Ў шафу ўгаропіўся ўзрокам
У шыбах пабітых анучы—
Праз шыбы працэджаны змрокі,
Падлогу з'еў грыб аж дашчэнту
І тупаць па ёй так няёмка.
Сягоння няма атрамэнту,
Пісаць буду вершы алоўкам.

У 1910 годзе імпрэсіі Змітрака Бядулі звярнулі ўсеагульную ўсагу беларускіх літаратараў. Апавяданні, сабраныя ў зборніку „Абразкі“, рэзка вылучаліся на агульным фоне тагочаснай беларускай літаратуры. У маладой беларускай прозе тады панавала бытавое апавяданне, бытавая аповесць. У паэзіі—сантыментальна-слязлівае аплакванне долі селяніна. Апавяданні-ж Бядулі імкнуліся, адштурхваючыся ад натуралізма, быта, філасофскі асэнсаваць з'явы жыцця. Агульнасць творчых установак у гэтыя гады збліжае Бядулю з такімі культурнейшымі майстрамі беларускай літаратуры, як Янка Купала, і Максім Багдановіч. Хутка

выявіліся аднак, што творчыя ўстаноўкі Бядулі фармуюцца пад уплыват сімвалізма. Ужо ў зборніку „Абразкі“ жыццё, прырода выступаюць напоўненыя таемнымі і казачнымі істотамі. Рэчаіснасць у пісьменніка паказана ў пясімістычным праламленні, як безсэнсоўная, якую мы не толькі не можам пазнаць, але ад якой мы павінны адыходзіць як ад чагосьці страшнага. Пісьменнік не ставіў сваёй мэтай змаганне, а наадварот лічыў, што душа яго самога перапоўнена змрокам, тугой, як заваленая студня:

„Як дзяцел асіну дзяўбець, так мае кволыя грудзі напоўнены горам. Ці такі праўда, што душа мая загачана, нібы заваліўшаяся старая студня? Ці такі праўда, што светлая новая крынічка не знойдзецца ўжо для мяне?“

Сімвалістычныя ідэі ўцякання ад рэчаіснасці ў таемны свет мар і фантазіі накладваюць свой адбітак на ўсе абекты творчасці пісьменніка. Жыццё, рэчы, з'явы прымаюць адпаведны вобраз кволасці, лёгкасці, быццам бы яны сабраліся разам з пісьменнікам адлянець ва ўяўны надземны свет.

Ужо назвы імпрэсій з „Абразцоў“ характарызуюць іх змест: „Нуда мая“, „Плач пралесак“, „Прытуліся ка мне“.

„Прытуліся ка мне, дзяўчынка каханая, бо сонейка заходзіць, бо цені гусцеюць каля млына, і над возерам устае, быццам белая воўна, пахучы туман.

„А мо“ і праўда, што ў розных там замчышчах крыштальных ваююць паміж сабою рыцары дня і рыцары ночы.

„А мо“ і праўда, што на пурпурных хмарках ручайкамі ліецца чырвоная кроў.

„Мо“ і праўда, што ў цёмнай хмызе русалкі з доўгімі валасамі пяюць цяпер песні захада? Нешта казачнае бачу я ў багатых колерах неба...

„У гэты самы час тку я са смутку свайго карону для шаўковых валасоў тваіх. Здаецца, нашуся з табою куды-та далёка за рэчкай, за хмызняком“.

Аднačасова са зборнікам імпрэсій „Абразкі“ Бядуля змяшчае ў „Нашай ніве“ вялікую колькасць вершаў. Уласна кажучы і прозу са зборніка „Абразкі“ можна былоб з поўным правам прылічыць да вершаванай творчасці пісьменніка, бо яна рэзка адрозніваецца ад яго наступнай рэалістычнай прозы. У вершах яго пераважалі эпічнасуровыя карціны прыроды, вельмі часта ім выкарыстоўваліся з вялікім мастацкім густам вобразы народнай міфалогіі. Рытмічныя ходы ў вершах, бадай, заўсёды былі незвычайнымі, рабіўся вялікі ўпор на ўнутраную сугучнасць верша, на навізну рыфмы, асананса.

У вершах Бядулі яшчэ мацней праяўляецца агульнасць яго паэзіі з рускім і заходня-еўрапейскім сімвалізмам. У сваю паэзію ён увабраў усю багацейшую спадчыну беларускага народнага эпаса. праўда, вельмі часта ўнаследваючы і містычныя бакі гэтага эпаса. Лепшымі з пункту гледжання паэтычнага майстэрства творамі гэтага перыяда творчасці Бядулі трэба лічыць: „На балоце“, „Начлежнікі пяюць“, „Ці ведаеш зямлю арлоў—людзей“, „Зімовая казка“, „А ў бары“, „Юда жэніцца“, „Браты“, „Шатан смерці“. „Кат“.

Сіла і абаяльнасць вершаў Бядулі ў іх рытмічнай суровасці, блізасці да народнай песні. Карціны, якія ён стварае, ненатуралістычныя, ён шукае новых фарбаў у прыродзе, людзях. Скульптурна-акрэсленыя і яркія вобразы народнаи творчасці пераплятаюцца з народнай міфа-

логіяй. Лёгкая цень недавыказанага, недамоўленага заўсёды суправаджае гэтыя творы паэта. Аднак гэта цень недавыказанага, якае так гарманіруе з агульным характарам яго творчасці, вельмі часта пераходзіць ў імпрэсіяністычную разарванасць кампазіцыі верша, ў сімвалістычны туман і змрок, які засланяе вобразы людзей і прыроды а скульптурна-яркія карціны народнага эпаса абвалакваюцца містычным пакровам. Тут аптымістычны характар вершаў Бядулі змяняецца безнадзейнасцю, упадніцтвам, няверʻем у творчыя сілы чалавека.

Незвычайна характэрна, што ва ўсёй ранняй паэзіі Змітрака Бядулі няма рэалістычных карцін вёскі, быта яе, цяжкага гаротнага становішча бядняцкіх мас сялянства. Змітрака Бядулю цікавяць выключна карціны прыроды, непагоды і завірухі, адзінокага сузірання свету.

„Вея слепіць абшар на шырокім балоце
Ў балахонах у белых застылі стагі,
Пушча стогне, звініць у трывожнай самоце.
І едуць на рум вазакі.
Адзінока стаю і чакаю пад хвояй:
Можа снежная вея раптоўна засне.
Хвоя лапай дрыжыць над маёй галавою,
Наводзіць тугу на мяне.

У другім вершы Змітрок Бядуля зноў піша пра тугу, якая апанавала яго душу, пра тое, як ён ідзе „У сыр-бор, дзе гняздзяцца арлы“.

*Аб дзяўчыне маёй,*
Каб не слухаць хвалы.

І ўсё-ж гэты „сыр-бор“ знарок гаворыць аб ёй, каб разварушыць яшчэ незажытыя раны паэта.

Аднак, гэтыя параўнаўча-ціхія карціны „філасафічнага суму“ і вобразаў прыроды хутка ў Змітрака Бядулі змяняюцца крыкам тугі безнадзейнасці:

А за мною ў непрытульнасці, у полі імглістым,
І крычыць варонне, як на страшны пажар.
Пад нагамі не жабы, а квокат багністы
О, задушыцца дзень, пад дзяругамі хмар.

Толькі вельмі, і вельмі рэдка мы сустракаем ў Змітрака Бядулі малюнкі вёскі, яе змучанасці, „анямеласці, зачумленай смерці“, якая пануе ў гэтай вёсцы.

Птушкай лезе ўспамін з абяздоленай вёскі.
Там замерлі жыцця галасы, адгалоскі.
Людзі сталі маўклівы, як, пні,
Пазадушана ўсё, пад цяжарам магілы.
Чорным крыллем бяда нават сонца замгліла.
І прапалі, патухлі агні.

Вельмі паказальна і тое, што ва ўсіх гэтых вершах юнага рамантыка-сімваліста, які быццам бы стаіць „па тай бок дабра і зла“, як ён сам піша ў адным з сваіх твораў, няма крыку пратэста супроць убогасці, забітасці вёскі, няма закліку да змагання. Толькі ў некаторых вершах гучыць неакрэслены гнеў у паэтавым сэрцы:

Начлежнікі пяюць. Кіруйце спеў туды,
Дзе ў сэрцы, у грудзёх так горача і цесна
Вы знойдзеце шмат слоў, шмат новых—і тады...
У полымя-пажар разгневаецца песня.

Стварыўшы за годы 1910—14 цэлы шэраг вельмі яркіх паэтычных карцін прыроды, складаных пачуццяў і перажыванняў інтэлігента, прарабіўшы вялікую работу ў выкарыстоўванні народнае творчасці,

узбагаціўшы сваю паэзію незвычайна-складанымі і разнароднымі рытмічнымі ўзорамі, Змітрок Бядуля нарэшце ў гады 1915-16 становіцца артадаксальным сімвалістам рэакцыйнага напрамку. Гэта якраз супала з тымі часамі, калі Бядуля паступова пачынае увaходзіць у нацыяналістычнае асяроддзе „Нашай нівы“ і ўспрымае яе буржуазна-нацыяналістычную ідэалогію. Бадуля пачынае абараняць ідэю місіянскай выбранасці беларускага народа, ідэю класавага адзінства гэтага народа, у мінуўшчыне шукаць апраўдання феадальнай „велічы“ Беларусі, пра якую марылі буржуазныя нацыяналісты.

Крайні містычны сімвалізм быў тормазам не толькі ідэйным для Змітрака Бядулі (а як вядома, містычны сімвалізм паглыбляў нацыяналізм Бядулі), але і тормаза ммастацкага развіцця пісьменніка. Вельмі вялікія фармальныя здабыткі траціць Змітрок Бядуля на дробныя, да немажлівасці суб'ектывісцкія, тэмы, фармальна дасканалыя вершы выражаюць усе тыя-ж да бязліча разоў паўтораныя ідэі жаху перад жыццём, заняпада, смерці, магіл.

Вось адзін з такіх незвычайна дасканалых і цэнных вершаў прысвечаных тэме „холаду магіл“.

У самоце я сяджу пад крыжам, пад пахілым,
Я чую стогн зямлі, я чую споведзь маці.
Люблю я ў гэты час туліцца да магілаў—
Прымусам тайных слоў памёршых выклікаць.
Брыдуць яны, плывуць, як шэраг лятуценняў,
Як ледзь прыкметны пыл над роснаю зямлёй.
Скажыце мне ён ёсць?.. І нікнуць, таюць цені,—
Маўклівасць пада мной, маўклівасць нада мной...

І ў наступным вершы „На Галгофе“ мы можам здзіўляцца і высока цаніць майстэрскасць вобразаў створаных Змітраком Бядулем, але мы можам таксама са здзіўленнем адзначыць, агульную ўбогасць ідэі твора, якая паўтарае адпаведныя-ж ідэі рускіх сімвалістаў тыпа Салаўёва і якая акрамя таго ўзята з біблейскіх твораў. Вось ён гэты выдатны вобраз, які выконвае функцыю ўсхвалення, „мук“ і пакут чалавека“ „перад тварам усевышняга“:

І смаглыя вусны малітву бясконца шапталі.
Так шэпча расліна ў падводнай празрыстай крышталі,
Так волас шапоча, як б'ецца аб нож з вострай сталі.

Тое-ж самае мы можам сказаць і пра многія вобразы з „біблейскага“ твора „Тамус і Егова“.

Пазіцыі буржуазнага нацыяналізма спрыялі той істэрычнасці, з якой Бядуля сустрэў імперыялістычную вайну. Пісьменнік, абцяжараны дробна-буржуазным грузам, не ў сілах быў зразумець соцыяльнай сутнасці падзей. Тады ён піша поўныя суму, тугі, містычнага жаху вершы пра вайну. У гэтых вершах імперыялістычная вайна паўстае ў вобразе Юды-здрадніка, які носячыся па палёх вайны, жэніцца са смерцю. У другім вершы вайна паўстае ў вобразе Вавілона, дзе ненасытныя жрацы кідаюць на алтар бязлікія ахвяры, і дзе мацеры кінуўшы ў агонь сваіх дзяцей, шчаслівыя адыходзяць ад вогнішчаў. Такія-ж настроі выяўлены і ў незвычайным па мастацкай сіле вершы „Кат“.

У разуменні Змітрака Бядулі вайна ўзнікла ад нейкае страшнае містычнае істоты, якая высіцца „на гары крыві і слёз“. У вершах Змітрака Бядулі, дзе мы адчуваем цень недавыказанага, недавыяўленага, гэтая містычная істота аднак паўстае перад намі, бадай, фізычна адчувальнай.

Заліў быдлячы лой валоўі твае грудзі—
Бязумна ты жывеш, без сэрца, без вачэй,

Не трэба нам такіх—няхай такіх не будзе!
Дык згінь, шальмец, як цень захмараных начэй.

У другім вершы істота, якая стварыла вайну, не менш выразная, чым у цытаваным вышэй. Гэта—„Шатан смерці“:

Над зямлёй нясецца чорны шатан смерці,
На кані крылатым пяруном грыміць.
Неба запалала, неба разарвецца,—
А зямля ў трывозе, як дрыгва, дрыжыць.

І нарэшце трэцяе ўвасабленне вайны—„Кат“.

Цікавасць верша „Кат“ у тым, што ўсё кола вобразаў выкліканых Бядулей з глыбінь сваёй фантазіі для выяўлення „жахаў вайны, як не трэба лепш гарманіруюць з замыслам і ідэяй аўтара. Карціна, створаная Бядулем, адчувальная да галюцынацыі. Кожны з вобразаўтропаў, эпітэтаў, метафар параўнанняў заклікані адыгрываць адну функцыю—стварыць абставіны жаху, безнадзейнасці. Паказальная і вобразная фактура гэтага верша Змітрака Бядулі „Кат“. Поўнач. Кур, які пяе. Чорны кот, які бяжыць праз пакой. Груган шуміць аб шкло. Каменная сцяна пакою, Сякера ў іржы і г. д.

Такім чынам ствараецца цэльная, незвычайна адчувальная карціна.

Першы кур пяе. Паўночная гадзіна...
Маўклівы, чорны кот праз мой пакой бяжыць.
Жудасць, смерць і страх плятуцца павуцінай.
Зданнё вядзе свой спеў, зданнё, як ліст дрыжыць...
Сэрца ў цішыні таемнасцяй чакае...
Груган шуміць аб шкло. Груган—мой родны брат.
Ноч маўчыць, як цень, трывожная такая...
О, буду я ў крыві купацца, бо я—кат.

Мастацкая сіла паэзіі Змітрака Бядулі ўзмацняецца, як мы ўжо гаварылі вышэй незвычайна смелымі і нечаканымі рытмічнымі ходамі, якія ён ужывае ў сваіх вершах. У Бядулі вялікая рознавобразнасць і рознастайнасць рытмікі. Для таго, каб стала ясна, наколькі паэт умее даць у вершы глыбінныя, можна сказаць, падземныя складаныя рытмічныя ходы, прывядзем невялічкую вытрымку з паэмы „Голад“, якая напісана Змітраком Бядулем значна пазней, але якая дае незвычайны ўзор апраўданасці рытмічнага строю твора. Для таго, каб стварыць найбольш жахлівую карціну голада Змітрок Бядуля робіць рытмічны перабой ў кожным трэцім радку, але як гэты рытмічны перабой глыбока апраўданы і як ён адпавядае зместу твора.

Там загула галадуха касцістая,
Смаглая, гідкая, дзікая, мглістая,
Меле клыкамі атручанымі;
Косіць людзей яна голадам, морамі
Кідае косці вятрамі—віхорамі,
Ловіць іх пальцамі скручанымі.

Аднак, пакінем гэтае невялікае адступленне ў аналіз формы паэзіі Бядулі, і паспрабуем ахарактарызаваць той ідэйны багаж, з якім Бядуля вышаў з эпохі імперыялістычнай вайны. Гэта быў багаж містычнага сімвалізма, пацыфісцкай мальбы, вера ў тое, што братэрскасць паміж людзьмі спыніць імперыялістычную вайну. Так у вершы „Браты“ Бядуля дае малюнак, як два браты пайшлі ў разведку і як адзін з іх быў паранены. Тады другі брат, напружваючы апошнія сілы, панёс на сваіх плячах брата ў свае акопы. Калі ён, сам паранены і ледзьве жывы, дайшоў да акопаў, аказалася, што ён нёс на сваіх плячах—ворага. А далей ідзе мараль самога аўтара: „Кінце бітвы, любіце ворага свайго, як самога сябе, і чалавецтва будзе шчаслівым“.

Інтэлігенцкі гуманізм, нацыяналістычная рамантыка мінулага—вось тыя ідэі, з якімі Змітрок Бядуля вышаў з імперыялістычнай вайны.

Ва ўсе гады сваей дарэволюцыйнай творчасці Змітрок Бядуля ўпарта працуе ў галіне прозы. Ім напісаны цэлы шэраг вельмі выдатных навел. Гэта такія, як „Сорам“, „Туга старога Міхайлы“, „Бондар“, „Злодзей“, „Пяць лыжак заціркі“, „Ашчасліўіла“, „Чараўнік“, „Вялікодныя яйкі“, „На Каляды к сыну“ і „Панас на небе“.

Цікава адзначыць, што Бядуля, які ў паэззіі, як нам ужо вядома, з‘яўляўся сімвалістам, у мастацкай прозе побач з рамантычнымі рэчамі многія творы будуе ў рэалістычнай манеры. Калі ў вершах, уся ўвага аддаецца суб‘ектыўным пачуццям і перажыванням паэта, паказу незвычайных карцін прыроды, дык у многіх творах прозы, пісьменнік праўдзіва і пераканаўча паказвае соцыяльны твар дарэволюцыйнай беларускай вёскі, жыццё і быт якой ён ведае выключна добра. Бядуля ў сваіх навелах раскрывае (вельмі часта і праз юмар) трагічныя бакі дарэволюцыйнай, убогай, жабрачай, забітай, беларускай вёскі. У апавяданнях „Сорам“ ён стварае яркі вобраз селяніна-бедняка, даведзенага падаткамі, беззямеллем да жабрацтва, да зладзейства. Ва ўсіх гэтых творах вобраз селяніна-бедняка, якога ненавідзіць вясковае начальства, над якім здзекуецца кулацтва, паказан з выключнай любоўю і праз юмар, якім аўтар малюе вобраз, прабіваецца сапраўдны і непадкупны трагізм. Вось перад намі стаіць худая, згорбленая постаць бедняка Ігналя, якога кулак Марцін збівае да поўсмерці за ўкрадзены мех сена. Ігналя стаіць абкружаны тупым раўнадушшам сялян, якія рыхтуюцца да самасуду. Ён перажывае жах пабояў, ён перажывае пакутны шлях ад хаты Марціна к сабе дамоў з мехам крадзенага сена за плячыма, які ўсё-ж падараваў яму „дабрадзей“ Марцін. Гэтая страшная ноша, што цяжкім каменем прыгнетае Ігналя, вось якімі словамі апісана Зм. Бедулем:

> „Ужо неба пачало шарэць, як Ігналя валок дахаты ёмка напханы сенам мех. Гарачка пранікла ўсё яго цела. Нейкі салона-горкі пах прыстаў да яго носу. Ён уцягваў у сябе свежае паветра вільготнага прадвясенняга снегу, круціў галавою: хацеў адтрасці ад сябе гэты прыкры пах—і не мог. Ён ні аб чым не думаў, толькі вялікі гнеў панаваў у яго душы на самога сябе.
>
> — Ліха на мяне! Ліха на мяне!
>
> І не чуў, як ногі глыбока ступалі па каўдобінах, як хлюпалі парваныя атопкі. Не бачыў, як сена сыпалася ва ўсе бакі, пакідаючы за сабою па Ігналевых слядах адзнакі вечнага, вялікага сорама.
>
> Чым бліжэй Ігналя падыходзіў да сваёй хаты, тым рухі яго рабіліся цяжэйшыя, тым марудней ён ступаў, тым мацней сапеў пад цяжарам сваім.
>
> — Ліха на мяне!
>
> Кінуў раптам мех з сенам у лужыну, прытаптаў нагою і пашоў паволі дахаты з пустымі рукамі.“

Такім чынам, лепшыя рэволюцыйна - дэмакратычныя бакі творчасці Змітрака Бядулі знаходзяцца ў яго мастацкай прозе. Але Бядуля, як рэволюцыйны дэмакрат, не толькі фіксуе цяжкае становішча бядняцкіх мас сялянства—ён стварае і вобразы сялян-бунтароў, якія не хочуць мірыцца са сваім становішчам. Так, у аповесці „Дванаццацігоднікі“ Бядуля нарысаваў вобраз селяніна Лявона, які помсцячы за ўсю сваю вёску—сагнаную памешчыкам з зямлі,

падпаліў вялізны панскі маёнтак. Паказальна, што ў гэтым творы рэалізм Змітрака Бядулі пераплятаецца з рамантыкай. Тут рамантычным з'яўляецца сівы і ўпарты дзед Лявон, які так настойліва помсціць за крыўду—пасля падпала маёнтка Лявон прыходзіць да пана і прызнаецца; што маёнтак падпаліў ён. Рамантычным у гэтым творы з'яўляецца і маўклівая панурнасць Лявона і самы гест і словы з якімі ён звярнуўся пасля падпала да пана.

„Лявон сказаў слабым дрыжачым голасам:

— Вось усе гэтыя апошнія гады злосць на цябе трымала мае сілы. Як куслівую гадзіну, я грэў у сваіх грудзёх пякельную помсту на пана за тое, што ты знішчыў нашыя крывёй і потам здабытыя гаспадаркі. Во гэтымі каравымі рукамі я яшчэ хацеў задушыць пана, але ўстрымаўся: не хацеў паганіць свае чэсныя мазалістыя рукі панскай нячыстай крывёй...“

Трагічным бакам дарэвалюцыйнай вёскі прысвечана апавяданне „Ашчаслівіла“, у якім маці-жабрачка, каб ашчаслівіць сваю толькі што народжаную дачку, выкалвае ёй вочы. Толькі фізічна пакалечанай, лічыць маці, дачка яе будзе шчаслівай. У апавяданні рэалізм Бядулі даведзены да натуралізма, і ўсё-ж аўтар зноў-жа імкнецца гэтыя натуралістычныя бытавыя карціны рамантызаваць, надаць ім выгляд незвычайнага і захапляючага.

Рэволюцыйна - дэмакратычныя элементы дарэволюцыйнай прозы Змітрака Бядулі не прывялі пісьменніка да ўсведемлення таго, што толькі адзіная сіла—пролетарыят здольны вывесці сялянства з беднасці, з галечы, праз рэволюцыйна-класавае змаганне.

Навелы Змітрака Бядулі пераважна псіхалагічнага характара, з вельмі яркім сюжэтам і інтрыгай. У Бядулі вялікае пачуццё юмара, асабліва юмара вясковага. І тут зноў ён чэрпае гэты юмар з найвялікшых запасаў народнае творчасці. Возьмем апавяданне „Панас на небе“. У апавяданні расказваецца пра палешука Панаса, які трапіў на неба і пачаў стукацца ў браму рая. Але ключар Пятро паслаў Панаса навучыцца раней чытаць, а потым ужо загадаў яму прыйсці ў рай. За адзін тыдзень палешук так навучыўся чытаць, што мог бы „псалтыр чытаць на добрых хаўтурах пры чарцы гарэлкі“, і такім чынам трапіў у рай:

„І зрабіўся Панас памочнікам ключара пры браме рая. Калі душа якая ў браму стукалася, дык Пятро толькі ключ паверне, а Панас адчыняў вароты. Пятро гляне, ці варта ў рай пускаць,- а Панас тым часам высуне лысіну, глядзіць, мо' знаёмага спаткае. Часта гутарыў ён гэтакім чынам са сваімі аднасельчанамі' дапытваўся навін і нічагусенькі. Палешук усюды ў вус не дзьме·

Аднаго разу высунуў ён таксама галаву між варот, каб зірнуць, дзе што дзеецца, пры гэтым уздрыгануўся, як бы яго хто ўкусіў.

— Божухна! Каго гэта я бачу? Гэта-ж Тэкля! Жонка мая! Яна! Вочы не падманулі...

Пятро шмат не дапытваўся яе, бо ведаў, якая яна была пакутніца пры Панасе на зямлі, ды адразу ўпусціў у рай.

— А, і ты тут ёсць?—грымнула Тэкля, угледзеўшы Панасану і неспадзеўкі! Ці не заблудзілася я? Бо твае месца ў пекле..

— Божанька, а мне цяпер рай горш пекла стане!—закрагнаў Панас і з вялікага імпэту пераскочыў высокі паркан і ўцёкі.“

Да ліку найбольш яркіх рамантычных навел Змітрака Бядулі, якія пераклікаюцца з сімвалізмам яго вершаў, адносяцца такія навелы, як „Тата“, „Туга старога Міхайлы“ і інш.

Чым-жа вытлумачыць такую вялікую розніцу ў агульна-ідэйным змесце многіх твораў мастацкай прозы Бядулі і яго паэзіяй? Якім чынам Змітрок Бядуля—прадстаўнік рэволюцыйнай дэмакратыі ў свеёй прозе, які развіваў лепшыя бакі буржуазнага рэалізма,—у паэзіі быў прыхільнікам сімвалістычнай школы?

Гэта даволі складаная з‘ява, характэрная для многіх беларускіх пісьменнікаў, часткова тлумачыцца тым, што маладая беларуская паэзія развівалася пад уплывам рускага сімвалізма, які і ў Расіі ў гэты час, як вядома, быў пануючай літаратурнай школай. Наадварот, фарміраванне і развіццё беларускай прозы адбывалася пад уплывам рускай рэалістычнай народніцкай белетрыстыкі.

Зразумела, нельга сабе ўяўляць, быццам бы ўся маладая беларуская паэзія знаходзілася выключна пад уплывам сімвалізма, аднак сімвалістычная школа аказала вялікі ўплыў на паэзію Купалы, Багдановіча, Бядулі, таксама як рэалізм народнікаў сказаўся мацнейшым чынам у прозе Якуба Коласа і Змітрака Бядулі.

Праўда, у гады 1916-17 уплыў буржуазнага нацыяналізма на творчасць Бядулі быў такім вялікім, што аўтар і ў сваёй мастацкай прозе часткова пераходзіць да сімвалістычных, а часцей за ўсё да рамантычных форм, працягваючы на многа год пакінуты імпрэсіянізм ранніх апавяданняў з „Абразкоў“.

Змітрок Бядуля моцна увайшоў у буржуазна-нацыяналістычнае кола дзеячоў з „Нашай нівы“ і натуральна, што прыход Кастрычніцкай рэволюцыі, ён сустрэў варожа з пазіцый беларускага буржуазнага нацыяналізма.

Бядуля ў 1917-18-19 годзе піша шэраг фельетонаў і твораў, накіраваных супроць пролетарскай рэволюцыі.

На буржуазна-нацыяналістычных пазіцыях Бядуля стаяў пэўны час і ў дні грамадзянскай вайны.

Гэта асабліва яскрава выявілася ў такіх творах, як „Беларусь“, „Спадчына“ і г. д.

У дні грамадзянскай вайны і першыя гады НЭПа Змітраку Бядулі быў чужы пролетарскі характар нашай рэволюцыі. Актывізацыю дзейнасці нацыяналістаў у гэтыя гады ён разглядаў, як адраджэнне феадальнай „велічы“ Беларусі. Вось чаму ён пісаў:

І край магіл, той край, дзе жыў Скарына
Зноў парадзіў пракрокаў і байцоў:
Ідуць, брыдуць, бы Нёман з месца рынуў.
Бы грамада ўзброеных касцоў.

Нацыяналізм Змітрака Бядулі прымае форму актыўных заклікаў да нацыяналістычнай дзейнасці. Беларусь, якая ўяўляецца яму ў вобразе казачнай істоты „акропленай слезамі дудароў“, заклікаецца ім „самой адзначыць свае межы“ і бараніцца аднолькава, як „ад усходу, так і да захада“. Так містычны сімвалізм і дробна-буржуазная сутнасць завялі З. Бядулю вельмі глыбока ў балота нацыяналізма. Мінуўшчына для Бядулі ў гэтыя гады з‘яўляецца нейкім выключным культам, вось чаму ён заклікае нацыяналістычную моладзь „помніць песню аб сваіх дзядох, бачыць іх паходні, ісці наперад па святых слядох“.

У артыкуле пра М. Багдановіча мы гаварылі, што сімвалізм, як літаратурная плынь, заклікана афармляць нацыяналістычную ідэалогію буржуазіі. Тое-ж самае мы бачым і ў Змітрака Бядулі. У гады сваіх

найбольш цяжкіх нацыяналістычных блуканняў ён зноў вяртаецца да містычнага сімвалізма, да пропаведзі жаху, заняпаду, гібелі чалавецтва. У 1915 годзе паэт у роспачы крычаў пра сваю прыхільнасць да „крыжоў і магіл“. Гэта быў час нацыяналістычных блуканняў Бядулі. У 1921 годзе зноў да пісьменніка прыходзяць старыя вобразы „крыжоў і магіл“.

А мерцвякі жывуць у кожным маім кроку
Іх водбліскі мігцяць з майго жывога вока,
Ува мне і пада мной і нада мной высока
У голасе маім, у кожным маім стогне,
У думках, у крыві, ў трывожным забабоне,—
Яны кіруюць мной,—я вечна ў іх палоне.

Але ўжо ў 1922 годзе пад уплывам поспехаў совецкай дзяржавы пісьменнік пачынае часткова адыходзіць ад нацыяналістычных пазіцый. Ён не можа абыйсці тыя вялізарныя змены, якія адбыліся за часы Кастрычніцкай рэволюцыі, як у горадзе, так і ў вёсцы. Ён не можа не заўважыць рэволюцыйнага энтузіязма сярод мас працоўных, як у змаганні са знадворнымі ворагамі і акупантамі, так і ў мірным будаўніцтве па аднаўленню народнай гаспадаркі. І тут Бядуля—рэаліст падаўляе ў сабе Бядулю—сімваліста. Гэта адлюстроўваецца не толькі ў яго мастацкай прозе, але і ў вершах. З'яўляюцца такія творы, як „Беларусь“ (1923 г.), „З сказаў буры і віхуры“, „Чырвона-чорная жалоба“, „Чырвоны календар“. Праўда, усе гэтыя творы адзначаюцца непатрэбнай і лішняй рытарычнасцю. Але ідэйна ў творчым шляху З. Бядулі яны адыгрывалі вялікае значэнне. Упяршыню ў сваёй творчасці пісьменнік па-новаму гаворыць пра совецкую Беларусь, якая „штохвілю размаўляе з роднай сваёй сястрою, з Масквою“. Змітрок Бядуля дае зусім новы вобраз Беларусі:

„А Беларусь бязбожніцаю стала,
Цвіце, расце, партыйкай маладой,
Глядзіць у даль—ў Еўропу капітала,
Трасе сярпом і молатам з гразьбой.
Няхай наш сцяг спрабуе здзерці з месца,
Ганебны пан, сусватны капітал:
Тады мы ўсе—чырвоныя армейцы,
Тады мы ўсе—чырвоны страшны шквал.

І вось не гледзячы на ўсю рытарычнасць і абстрактнасць гэтых і многіх падобных радкоў з паэзіі Бядулі, яны ў нейкай меры абумовілі, хоць яшчэ не арганічны і павярхоўны, але адыход пісьменніка ад пазіцый нацыяналізма.

Перамога Бядулі—рэаліста азначала пераход пісьменніка да тэматыкі з жыцця маладой совецкай краіны ў процілегласць усхваленню сівой мінучшчыны і феадальнай „велічы“ Беларусі, якое мы бачым у творах Бядулі 1918—21 г. г.

Рэволюцыйная барацьба рабочых і сялян супроць сваіх прыгнетальнікаў, супроць нямецкіх і белапольскіх акупантаў займае вялікае месца ў творчасці Зм. Бядулі. У апавяданні „На балоце“ ён паказвае карціны партызанскага змагання сялянства супроць белапольскіх акупантаў, паказвае расправу сялян над правакатарам Бавельчыкам. Вельмі тонка і з вялікім майстэрствам стварае Бядуля ў гэтых апавяданнях вобразы беларускага пейзажа—суровых лясоў, што хаваюць партызанаў ад ворагаў, непраходных балот, сцежкі якіх вядомы толькі палешукам. Карціна разгрому панскага маёнтка, дзе жыве „панскі дух“, паказана Бядулем у апавяданні той жа назвы.

Нельга сказаць, каб пісменнік ва ўсіх творах гэтага перыяду правільна разумеў сутнасць рэволюцыйных падзей. Анархічны бок

рэволюцыі прыцягвае яго да сябе. Ён бачыць пакуль што толькі разбураючы бок рэволюцыі, але не бачыць яе творчых, будаўнічых перамог. Між іншым анархічныя бакі сялянскага жыцця прыцягвалі да сябе Бядулю яшчэ ў дарэволюцыйнай творчасці. Так, ва ўпамянутым ужо апавяданні „Сорам", дзе сялянства рыхтуецца да самасуду над Ігналем, моцна адчуваецца захапленне сялянскім анархізмам. Штосці агульнае з гэтым мы бачым і ў апавяданне „Панскі дух", „На балоце". Тут анархічная сутнасць сялянства некалькі гіпертрафіравана і засланяе яго сапраўдныя рэволюцыйныя настроі.

Моцныя бакі рэалізма Зм. Бядулі асабліва ярка выявіліся ў яго апошніх вялікіх творах якія з'яўляюцца не толькі паказчыкамі творчай перабудовы выдатнага пісьменніка, але і творчай перамогай усёй беларускай совецкай літаратуры. Тут мы маем на ўвазе раман „Салавей", раман „Язэп Крушынскі" і аповесць „Набліжэнне".

Зм. Бядулю на працягу ўсяго творчага шляху прыцягвае да сябе вобраз народнага мастака. У гады сваіх нацыяналістычных блуканняў ён па-ідэалістычнаму абагуляў мастака. Мастак з'яўляецца прарокам і трыбунам народа. Гэта думка выражана не толькі ў Зм. Бядулі, але і ў многіх творах Янкі Купалы („Прарок", „Забытая скрыпка"), а таксама Якуба Коласа (паэма „Сымон-музыка"). У Бядулі-ж гэта тэма вар'іруецца многа разоў. Вось, напрыклад, апавяданне „Вялікодныя яйкі" эпіграфам да якога ўзяты словы Ніцшэ: „я люблю толькі тое, што пісана крывёю". У апавяданні паказана гора маленькага мастака, народнага таланта, забітага галечай, які не мае грошай, каб купіць сабе фарбы, і прымушаны маляваць сваёю крывёю. Але пакуты гэтага таланта яшчэ нішто перад вялікасцю вечнага мастацтва—такая думка Зм. Бядулі.

І ў другім апавяданні „Бондар" выражана тая-ж ідэя:

„Трэба ахмялець ад... думак: цела павінна гарэць, як у агні, тады толькі пачаць работу і так працаваць, каб рук і плеч не чуць, каб галава кружылася, каб сэрца млела, каб пот цурком ліўся і не ведаць гэтага. Трэба забыцца аб усім на свеце, і толькі адчуваць і бачыць усёй істотай адно шчасце, што азарае чалавека залатымі праменнямі",—такім павінна быць мастацтва на думку бондара Данілы".

Але вось у 1927 г. Бядуля піша раман „Салавей", дзе вобраз мастака атрымлівае прынцыпова-новае ідэйнае асвятленне. Тут вобраз мастака не з'яўляецца самамэтай, а мастацтва не знаходзіцца па-за утылітарнасцю. Тут вобраз мастака з народа ўвасабляе рэволюцыйныя імкненні гэтага народа і ставіць свае мастацтва на службу народу. У цэнтры рамана аб прыгонным праве на Беларусі—Сымон, вясковы хлапец, які пераймае галасы і гукі ўсёй жывой прыроды, які пяе салаўем. Хлопчык увесь у палоне колераў і гукаў:

„Хлопчыка апанавалі колеры і гукі—піша Зм. Бядуля,—усімі пачуццямі, ўбіраў у сваю істоту вакольнае. Увесь свет быў як у гняздзе у яго сэрцы для яго".

А вось спявае Сымон-салавей:

„Тады здаецца, што зоркі падаюць у хмызняк і звіняць срэбрам і шклом. Тады здаецца, што салаўіная песня застывае на лузе кроплямі расы, дыямэнтамі радасных слёз".

Гэты раман пісьменніка некалькі пераклікаецца з „Тупейным художником" Лескова. Бядулі ўдалося у ім паказаць старонкі жудаснага прыгнёту сялянства панамі ў прыгонную эпоху на Беларусі.

Аднак асноўнай тэмай твора застаецца тэма пра ролю мастацтва ў класавай барацьбе. Бядуля ярка паказаў, як памешчыкі эксплаатавалі не толькі фізычныя, але і духоўныя, творчыя сілы народа. І вось паказ эксплаатацыі маральных, інтэлектуальных сіл народа з'яўляецца галоўнейшым стрыжнем гэтага рамана, які ставіць яго ў шэрагі лепшых твораў беларускай літаратуры. Зм. Бядуля ў рамане паказвае, як сапраўднае мастацтва не аддзяляіма ад рэволюцыі і Салавей - сын прыроды, можна сказаць, сам горды дух прыроды абраў замест славы у князя сярод арыстакратыі, паўстанцкі атрад цімакоў, які помсціць вяльможнаму панству за свае гора, пакуты, паніжэнні. Раман канчаецца вельмі гнеўным малюнкам расправы цімакоў над панам Вашымірскім:

„Праз некалькі хвілін пасвятлела на дзядзінцы—піша З. Бядуля,—з усіх будынкаў маёнтка шугала полымя. У падпале прымалі ўдзел і ўсе прыгоннікі пана. Вецер рос. Галавешкі, цэлыя снапы агню—перакідваліся ў паветры з даху на дах, ляцелі агнявымі птушкамі. Будынкі панскага маёнтка трашчэлі. З вокнаў высоўваліся чырвоныя языкі полымя. Тым часам загарэўся і парк... Корчылася лісце, вугліліся вяршаліны дрэў. Сотні залатых кудзеркаў мігаліся па дрэвах, пераскаквалі маланкавымі дугамі-вясёлкамі адразу на многа сажняў угару, потым вуглевымі лапамі шорхаліся па зямлі, паўзлі прыгінаючыся.

—Генеральная рэпэтыцыя,—смяяўся Каспар, пакалечаны мінулай зімой на лютым марозе па загаду пана“-

Такім чынам мы бачым, што тэма пра народны талант, мастака з народа, якая асвятлялася раней Бядулем з ідэалістычных пазіцый, у рамане „Салавей“ знаходзіць правільнае і глыбока мастацкае вырашэнне.

Другой буйнай творчай перамогай Зм. Бядулі ў працэсе яго адыхода ад нацыяналістычных памылак мінулага, ў працэсе творчай перабудовы быў вялікі двухтомны раман „Язэп Крушынскі“.

Першы і другі томы рамана нераўназначаны па сваей ідэйнай і мастацкай якасці. Гэта і зразумела. Першы том рамана напісаны ў 1928 годзе, а другі ў 1930—32 годзе.

Ідэя рамана з'яўлялася і па сённяшні дзень з'яўляецца вельмі, актўльнай для совецкай літаратуры. Зм. Бядуля стварыў каларытны-поўнакроўны вобраз беларускага кулака. Гэта не плакатны, не выдуманы кулак, а жывы кулак, здольны на ўсякія подласці, але які маскуецца і дзейнічае ціхай сапай. Цікава і тое, што гэты вобраз, які быў створаны пісьменнікам у 1928 г.; быў накіраваны супраць палітыкі Прышчэпава, ідэолага контррэ-волюцыйнага кулацтва, які засядаў тады яшчэ ў беларускім Наркамземе і праводзіў палітыку насаджэння хутароў і кулакоў тыпу Крушынскага. І тут на правільны творчы шлях пісьменніка прывялі перамогі соцыялізма ў нашай краіне, разгром партыяй Леніна-Сталіна буржуазнага нацыяналізма, а таксама рэалізм яго ранейшай творчасці.

Аднак, стварыўшы поўнакроўны вобраз кулака Крушынскага, Бядуля, знаходзячыся яшчэ пад некаторым уплывам нацыяналізма, хістаецца ў сваіх адносінах да гэтага вобраза: то мы сустракаем у рамане палкія, накіраваныя супраць подлай дзейнасці кулака Крушынскага старонкі, то наадварот мы сустракаемся з некаторым захапленнем аўтара размахам дзейнасці Крушынскага і гэта не дзіўна, бо Зм. Бядуля дрэнна яшчэ разумее сутнасць класавага змагання на

вёсцы, а часамі проста падмяняе яго біялагічнымі матывамі. Вось напрыклад, што ён піша пра падзел на вёсцы на „багатых і бедных":

„Праўда, пасля Кастрычніка, — піша Бядуля, — пачаўся быў у ваколіцы падзел на багатых і бедных... Але класавае пачуццё ў іх не мела патрэбнага развіцця. На гэта былі розныя прычыны і перашкоды. Мудрагельна сплецены ланцуг крэўнасці быў гэтаму адной з галоўных перашкод".

Другі том рамана „Язэп Крушынскі" стаіць на значна больш высокім ідэйным і мастацкім узроўні. У другім томе рамана Бядуля паказвае сувязь паміж дзейнасцю кулака Крушынскага і буржуазна-нацыяналістычнай інтэлігенцыяй, якая з'ўлялася ідэолагам кулацтва. Змітрок Бядуля на незвычайна цікавых фактах раскрывае нацыяналістычную палітыу кулацкай інтэлігенцыі ў вёсцы. Адзін з зуброў нацыяналізма, звяртаючыся да Крушынскага кажа:

„Дык вось трэба старацца, каб людзі баяліся комуны, як чумы. Як гэта рабіць? То там коні дохнуць, то гумно гарыць, то... ды самі не лыкам шыты. Во інакш і каля вас наладзіцца комуна. Бы свой чалавек, і я вам кажу шчыра, што думаю. Арганізавацца трэба. Вось што.

„— Робіцца гэта ўнас, але кожны сам па сабе, — адказвае Крушынскі.

„— Трэба арганізавана рабіць".

Змітрок Бядуля раскрывае крывавы твар нацыяналістаў, якія марылі тапіць у крыві працоўны народ Беларусі.

„— Некалькі шыбеніц? — Якое гэта мае значэнне пры перабудове дзяржаўнага ладу?

„— Культура?—Захад. Еўропа. Зруйнаваныя фальваркі, маёнткі зноў адбудуюцца".

Так мараць нацыяналістычныя балахоўцы пагромшчыкі пра сваё панаванне, калі-б ім удалося ўладу ўзяць у свае рукі. Побач з такімі гнеўнымі старонкамі, якія раскрываюць крывавы шлях нацяналістычных бандытаў з беларускай рады, Змітрок Бядуля паказвае ўсю смехатворнасць, лялечнасць замыслаў нацыянаністаў. Вось як ён піша пра фармаванне „беларускай нацыянальнай арміі".

„Ёсць генералы, лейтэнанты, ад'ютанты, камандуючыя арміямі, ёсць вайсковыя статуты, песні, а няма салдат: нацыянальная трагедыя... Аднаго вярбоўшчыка сяляне хацелі біць. Сябры „нацыянальнага" камітэта „бандытамі" называюць беларускую моладзь. Гэтыя бандыты тым больш небяспечны, бо не рабуюць сялян, а нападаюць на братніх жаўнераў братняга Пілсудскага"

У другім томе рамана створан цэлы шэраг дадатных вобразаў будаўнікоў соцыялістычнай вёскі (Міксла Ярэмчык, Сакалоўскі Антось і інш). Раман мае моцную інтрыгу і пабудован на кантрасных вобразах, каларытных зарысоўках, яркіх дэталях. Змітрок Бядуля вельмі чула ставіцца да пейзажа і па-свайму стварае малюнкі яго:

„Колеры пачынаюць бляднець, вянуць, губляюцца ў шчылінах. Сімфонія фарбаў адыходзіць у далячынь, на многа, многа, міль, губляецца недзе ў прасторах, дзе, відочна для вока, жыве ранейшым жыццём. Сонца сканала."

Аднак, імкненне аўтара да кантрасных чалавечых вобразаў часамі прыводзіць Бядулю да шаржа, да гратэска, што некалькі зніжае мастацкія якасці твора. Да хібаў 2-га тома рамана трэба аднесці і лішнюю публіцыстычную памфлетнасць асобных месц твора, а таксама непатрэбную шаржыроўку некаторых вобразаў.

Не гледзячы на гэтыя мастацкія хібы, раман „Язэп Крушынскі" з'яўляецца паказчыкам вялікай творчай перабудовы Бядулі, вялікага павароту ў светапоглядзе пісьменніка. Раман паказаў аднолькава плённыя мастацкія магчымасці пісьменнікаў як у галіне невялікай навелы, так і пры стварэнні вялікага сюжэтнага эпічнага палатна.

На працягу ўсяго дваццаціпяцігадовага літаратурнага шляха беларускія буржуазныя нацыяналісты імкнуліся зрабіць з Змітрака Бядулі „атрадаксальнага шавініста". На асобных этапах творчасці пісьменніка яны дасягалі сваёй мэты. І вось у сваей крытыцы розныя контррэвалюцыянеры тыпу Гарэцкага, Чаржынскага, Байкова, Любецкага ўсхвалялі нацыяналістычныя творы Бядулі і шальмавалі яго там, дзе выяўляліся рэвалюцыйныя элементы яго творчасці. Так, нейкі Любецкі ганьбіў і шальмаваў творы Бядулі тольк за тое, што Бядуля не даволі пачціва гаварыў у адным сваім творы пра бога. Любецкі азвярэлы беларускі шавініст які ненавідзеў Маскву як сцяг пролетарскай рэволюцыі, бачыў у гэтым уплыў „маскоўскіх хуліганствуючых паэтаў".

Нямала шкоды прынеслі Змітраку Бядулю і аглобельшчыкі— вульгарызатары, якія трэціравалі яго ярлыкамі „крамніка" і інш. антысеміцкімі выпадамі.

Змітрок Бядуля адносіцца да ліку нашых пладавітых пісьменнікаў. За 25 год творчай работы ім напісана вялікая колькасць празаічных і паэтычных твораў, многія з якіх з'яўляюцца гордасцю беларускай совецкай літаратуры. За апошнія год-паўтары ён нястомна працуе над новымі творамі. Нядаўна ім закончаны гукавы кіносцэнарый па раману „Салавей", а таксама аповесць „Набліжэнне". Аповесць „Набліжэнне"—аўтабіаграфічная. Яна расказвае пра пакуты юнага інтэлігента-рамантыка ў невялікім яўрэйскім мястэчку старой Беларусі, пра пакуты людзей, скованых „чертой оседлости", галечай, казацкімі налётамі і грабяжамі, пра зямлю і дарогі, дзе адбывалася вялікая імперыялістычная бойня, пра зямлю і дарогі, залітыя крывёю нямецкімі, белапольскімі акупантамі.

Гэтая невялікая аповесць па замыслу аўтара павінна з'явіцца часткаю вялікай аўта-біяграфічнай трылогіі пра яго жыццё, пра першыя дваццаць год нашага стагоддзя.

*ДАРАГІ ЗМІТРОК БЯДУЛЯ!*

*Праўленне саюза Савецкіх пісьменнікаў ад імя ўсіх літаратараў Совецкай Беларусі горача вітае вас у дзень 25-ці гадовага юбілея літаратурнай дзейнасці.*

*Шмат хто з інтэлігенцыі, сярод якіх былі і Вы, у часе Кастрычніка хісталіся і не зразумелі ўсёй гістарычнай велічы пролетарскай рэволюцыі, як новай эры ў гісторыі чалавецтва. Нас асабліва радуе тое, што Вы сёння цвёрда сталі на совецкія пазіцыі і з'яўляецеся актыўным удзельнікам барацьбы за пабудову соцыялістычнага грамадства.*

*Сёння Вы, як і большасць таленавітай старой інтэлігенцыі, зусім шчыра прызнаўшы памылковасць сваіх поглядаў, адчынена заявіўшы аб гэтым, сталі ў рады барацьбітоў за перадавыя ідэі чалавецтва, з'яўляецеся адным з выдатных прадстаўнікоў у справе стварэння соцыялістычнае культуры.*

*Ваш юбілей з'яўляецца яскравым прыкладам клапатлівых адносін партыі, якая цярпліва перавыхоўвала людзей старой культуры, ствараючы ўсе ўмовы для плённай творчай работы на карысць новым людзям—новага, светлага, разумнага соцыялістычнага жыцця.*

*Ваш юбілей—бліскучы паказчык правільнага правядзення ленінска-сталінскае нацыянальнае палітыкі паказ вялікага росту і росквіту культуры беларускага народу.*

*Будаўнікі соцыялізма чакаюць ад Вас паказу дзівосных спраў людзей нашай краіны, паказу нашай гераічнай рэчаіснасці, паказу гарачых дзён будаўніцтва соцыялізма.*

*Мы ўпэўнены, што Вы і надалей будзеце ў радах актыўных творцаў вялікага мастацтва большэвізма.*

*Жадаем Вам доўга жыць і працаваць на карысць рабочага класа. Жадаем Вам поспеху ў справе стварэння вялікіх мастацкіх палотнаў, вартых нашай вялікай эпохі—эпохі любімага Сталіна.*

*А. Александровіч, Я. Бранштэйн, П. Броўка, І. Гурскі, П. Галавач, Я. Купала, Я. Колас, М Клімковіч, М. Лынькоў, К. Чорны, М. Чарот, І Харык.*

*ДАРАГІ ЗМІТРОК БЯДУЛЯ*

*Рэдакцыя часопіса „Полымя рэволюцыі“ горача вітае Вас з юбілеем 25-ці гадовай літаратурнай дзейнасці.*

*Хай плённа развіваецца Ваша творчая работа на карысць соцыялістычнай рэволюцыі і нашай соцыялістычнай радзімы.*

*Рэдакцыя часопіса.*





Я. Колас.

## ЗМІТРАКУ БЯДУЛЮ

Адсек і ты, Змітрок, тым часам—
Не жарты: дваццаць пяць гадоў!
І па дарозе да Парнаса
Пакінуў многа ты слядоў.
У гэтым доўгім падарожжы
Ты перабраў не мала тэм.
Шмат абразкоў нам даў прыгожых
І шмат аповесцей, паэм.
Ды без таго не абышлося—
Навошта нам таіць грахі?—
Было ў пісьменніцкім пракосе
Крыху нацдэмаўскай трухі.
Але на свет з цвілога склепа
Ты смела вынес прасушыць
Свайго „Крушынскага Язэпа“,
Каб выбіць фуз з яго душы.
А разам з ім даў галерэю
Другіх тыпажаў і асоб,
Не шкадаваў ні акварэлі,
Ні фарб алейных ім на гроб.
Праз „Салаўя“ і „Набліжэнне“
Ты стаў у фокус новых дзён.
Дык хай не ведае зніжэння,
Змітрок, парнаскі твой разгон!
Ты не зважай, што часы крушаць,
Згінаюць постаць нашу, стан
І што „гуменца“ на макушы,
Як месяц свеціць праз туман.—
Дарма: расці і ў глыб і ў шыркі,
Вітай свой дваццаць шосты год
І не зважай на „нашатыркі“—
Валі з эпохаю ўпярод!

Міхась Зарэцкі

## НАВЕЛА ПРА КАХАННЕ

Кожны раз, як глядзела яна так на Ўладзіка—халодна, адчужана нібы разглядаючы нейкую незнаёмую і не надта прыемную рэч,—у яго з бурнай настойнасцю ўздымаліся мары аб невядомым геройстве. Сціснуўшы зубы ад злосці, ён у думках пагражаў ёй:

—Чакай, я табе яшчэ пакажу! Ты яшчэ пазнаеш мяне...

Ён ішоў потым да свайго стараватага, але заўседы спраўнага, люботна дагледжанага „Фордзона" і доўга глядзеў на яго—халодна, адчужана, так, як глядзела тое нялюбае ганарыстае дзеўчанё. З пагардлівым дакорам ён гаварыў свайму вернаму другу:

—Эх ты, стары чорт! Ну, што я зраблю на табе, ты толькі падумай... Каб быў ты хаця самалётам, або караблём дальняга плавання, або стратастатам, або парашутам нарэшце... О, я-б ураз навучыў тады, каго трэба, якімі вачамі на мяне глядзець!

У яго, як у пакрыўджанага дзіцяці, ўсе мары канчаліся трагічна. Зрабіўшы вялікі геройскі ўчынак, ён неадменна цярпеў аварыю і паміраў пад агульныя слезы і жалобнае спачуванне ўсяго народа. Тады яна, гэтая нікчэмная задавака, рвала на сабе валасы з гора і роспачы, з познага каяння, што парой не ацаніла ўсіх захаваных якасцей гэтага маладога і прыгожага (пэўна, што прыгожага!) хлопца, лепшага трактарыста-ударніка.

А часам Уладзіку ўсёткі здавалася, што Вера кахае яго, добра, моцна кахае, што яна проста хаваецца, хітруха, за гэтым сваім чужаватым поглядам. Бо чаго-ж бы іначай прыходзіла яна так часта да яго ў гараж? І чаго-б з'яўлялася яна акурат тады, як у гаражы, апроч яго, нікога няма? І чаго-б распытвала яна яго пра ўсякую дробязь, каб праз колькі хвілін забыцца і зноў папытаць тое самае?

Уладзік ахвотна гаварыў з ёй пра свайго старога друга, ахвотна паказваў яго выпрабаваны механізм, тлумачыў прынцыпы яго работы. Гаворачы, ён злёгку пагладжваў ясна начышчаныя часткі машыны і рабіў гэта з такой чулай пяшчотнасцю, якой, напэўна, не дачакалася-б ад яго нават самая прыгожая дзяўчына, не кажучы ўжо пра гэтае малое кучаравае стварэнне.

Калі-ж кучаравае стварэнне, захопленае, пэўна, яго размовай, само нясмела працягвала руку да машыны і, калі гэтая зусім тандэтная ручка чамусці чаплялася за трывалую, цьвёрдую руку трактарыста, Уладзік раптам спыняў свае тлумачэнні, узнімаў на Веру адважны погляд і раскрываў рот, каб сказаць ёй нешта абсалютна не звязанае з механізмам трактара.

І вось тут якраз натыкаўся ён, небарака, на халодны адчужаны погляд, які, здавалася, настарожана вывучаў, ці ёсць у ім, у Уладзіку, сапраўды што-небудзь вартае асаблівае ўвагі.

Тады Уладзік сціскаў зубы ад злосці і пагражаў у думках:

— Чакай, я табе яшчэ пакажу! Ты яшчэ пазнаеш мяне!...

* * *

Канчаліся канікулы, і Вера выяжджала ў горад на заняткі. Дзень яе ад'езду прыпадаў на выхадны дзень трактарыстаў, і Уладзік чакаў яго амаль што спакойна: ён быў упэўнены. што ўправіцца ў гэты дзень пагаварыць з Верай і сказаць ёй нарэшце сваё рашучае слова. Ён нават сумысля ўхіліўся ў апошнія дні ад сустрэчы з ёй, каб больш важнай і значнай зрабіць развітальную гутарку.

Напярэдадні выходнага, позна ўвечары, калі змораны Уладзік паклаўся ўжо спаць і ў салодкім тумане першай дрымоты плёў недарэчна-яскравыя ўзоры заўтрашняй размовы з Верай,—да яго прышоў брыгадзір і сказаў, што па загаду праўлення выхадны дзень пераносіцца і што заўтра раннім золкам Уладзік павінен на цэлы дзень выехаць у поле.

Як вышаў брыгадзір, Уладзік доўга яшчэ сядзеў на ложку, амаль не лабіраючы сэнсу гэтага неспадзяванага загаду, потым, сам не ведаючы чаго, пачаў паспешна апранацца. Апрануўшыся, вышаў на вуліцу і без усякае пэўнае мэты пашоў у той бок, дзе жыла Вера.

Чорныя вокны Верынае хаты глянулі на Уладзіка халодна і адчужана, як часам глядзелі на яго чорныя Верыны вочы, і ён вярнуўся з яшчэ вастрэйшым пачуццём адзіноты. Дамоў ён не пашоў, бо ведаў, што ўсёроўна не ўдасца заснуць — ён пабудзіў брыгадзіра і выдумаў яму, што ў яго не зусім спраўны матор, што трэба загадзя аглядзець яго. Узяўшы ключы, ён пашоў адзін у гараж і там поркаўся да самага рання, выліваючы ў шчырыя клопаты над машынай усю напружаную сілу свайго нявыказанага кахання і свае крыўды.

А раніцою, зухавата праяжджаючы праз вёску, Уладзік яшчэ раз глядзеў на Верыны вокны — яны былі нібыта весялейшыя троха, але ўсёроўна чужыя. Сэрца ў яго балюча заныла, калі за вакном — так, прынамсі, здалося яму — цёпла мільганула была нейкая белая пляма.

* * *

Уладзіку адвялі ўчастак на плоскім узвышшы, якое адным сваім берагам зрывалася ў круты і глыбокі яр. Праз участак ішла дарога. І яр і дарога заміналі ў рабоце, не давалі як след разгарнуцца, і гэта Уладзіку падабалася. Чым цяжэй было працаваць, тым лягчэй было на душы. Часамі Уладзіку нават здавалася, што яму весела, і ён спрабаваў сам сабе ўсміхнуцца.

Апаўдні яму дужа захацелася есці і ён агледзеўся, што не ўзяў з сабой нават кавалка хлеба. Каб заглушыць яшчэ і голад, ён узмацніў тэмпы работы да магчымае крайнасці. І толькі раз-по-раз—зусім несвядома кідаў погляд на дарогу пад вёску: ці не дагадаецца хто паднесці ўсётакі чаго-небудзь перакусіць.

Праз гадзіны паўтары на дарозе паказалася жаночая постаць Яна была надзвычай знаёмая, гэтая невялічкая зграбная постаць, але Уладзік толькі на зусім блізкай адлегласці пазнаў ці, праўдзівей, паверыў, што гэта Вера: ён ніяк не мог чакаць яе тут.

Яна прышла развітацца... Як гэта неспадзявана і як прыемна! Але дарма яна думае, што ён хоць адным словам, хоць адным мігам пакажа ёй сваю радасць! Ён нават не спыніць машыну. Не, машыну ён—хай сабе—спыніць, але зусім не затым, каб пачакаць яе. Яму проста трэба сёе-тое паправіць. Ён нават не выключыць матор, ён толькі на адну хвілінку саскочыць на зямлю.

—Дзень добры, Уладзік!

Уладзік з тугой марудлівасцю падымае галаву, нібы яму проста незмога адарвацца ад працы, і глядзіць на Веру, злёгку прыжмурыўшы вока,—строга і дзелавіта.

— Добры дзень!

І зноў нахіляецца да машыны, хаваючы ад Веры свой твар і сваё хваляванне. І з затоеным сэрцам чакае, што скажа яна далей.

Але Вера маўчыць. Вера не хоча сказаць больш ніводнага слова. Мабыць, стаіць і чакае, каб ён першы завёў гаворку. Дармо, хай сабе пачакае;

Чамусці дужа назойліва пыхкае трактар. За гэтым трактарам можна і не дачуць якога, ненадта голасна сказанага, слова.

Уладзік спрабуе цішком, неўзаметку зірнуць на Веру, і бачыць яе ўжо крокаў за дзесяць ці за пятнаццаць. Яна пашла далей па дарозе—памалу сабе, спакойненька, нібы зусім не да яго ішла, нібы проста так, мімаходзь, прывіталася з ім.

О, нялюбае стварэнне! Яна ўжо не вернецца—гэта ясна—яна ўжо не азірнецца нават!

Уладзік момант стаіць аслупянелы, потым, зусім разгубіўшыся, інстыктыўна парываецца ўперад, і рука яго, цьвёрдая рука трактарыста неўзаметку чапляе здрадліва слухмяны рычаг.

Далей было жудасна незразумелае, страшнае...

Нешта раптам ірванула яго за нагу з такой сілай, што ён, як сноп, перакуліўся на дол. І—боль... Вялізны непераможны боль, які ўзнік, здаецца, не там, у раструшчанай колам назе, а недзе глыбока ўсярэдзіне, у самым сэрцы і, шалёна разросшыся, ўзлёг на яго чорным бязлітасным гнётам.

У змятушаных, пераблытаных думках чамусці мільганула зусім непатрэбнае:

— Не крычаць... Толькі каб не крычаць...

І ён, сударгава сціснуўшы зубы, задушыў у сабе гатовы вырвацца енк.

Потым свядомасцю заўладаў абыклы і, як здавалася цяпер, бясконцы, вечны гук трактара. Ён плыў над галавой, над агнёва балючым целам незамутнёна-спакойнай патокай. І ён паволі цішэў, аддаляўся.

Ён аддаляўся...

Працяты раптам трывогай, Уладзік узняў галаву і зірнуў у той бок, адкуль ляцелі знаёмыя гукі.

Трактар, падрыгваючы, няроўна, але ўпарта ішоў туды, дзе поле зрывалася крутым і глыбокім ярам.

Забыўшы на ўсё, Уладзік ірвануўся на ногі і, ашаломлены нясцерпным болем, паваліўся назад на зямлю.

Трактар ішоў на пэўную гібель.

„Трэба на аднэй назе... скакаць...“

Уладзік устаў на здаровую нагу, скочыў некалькі раз і, зачапіўся за раллю, рынуўся долу.

Тады ён рашыў паўсці.

Ён цягнуў за сабой пакалечаную нагу, як грамоздны, амаль непасільны цяжар. Нага балюча скародзіла па раллі, і здавалася, што яна набірае на сябе цэлыя пласты вільготнай тлустай зямлі, што яна расце, вырастае ў вялізную неўваротную камлыгу.

Уладзік ужо не трымаецца больш—слёзы наплываюць яму на вочы, пякучыя даўкія слёзы роспачы і ён, плачучы, гукае свайго свавольнага друга:

— Чакай ты... чакай...

Трактару асталося да абрыва ўсяго некалькі крокаў.

Уладзік напінае астатнія сілы. Галава ў яго пачынае туманіцца, момантамі ён зусім забываецца, дзе ён, што з ім такое, чаму ён мусіць праз гэты нялюдскі боль і напружанне імкнецца некуды наперад, неадступна некага даганяць. Хворая нага разраслася, здаецца, ў цэлую гару—ён не нагу ўжо цягне за сабой, а ўсё гэта поле, усю гэту чорную, прасычаную кроўю раллю.

—Чакай-жа ты... Ну, чакай...

Адлегласць да трактара ўсё змяншаецца, яшчэ некалькі крокаў, некалькі секунд нялюдскага напружання—і ён ратуе машыну.

Дзікі прарэзлівы крык, які аднекуль здалёк даляцеў да Уладзіка, скалануў яго новым прылівам сударгавага парывання. Ён не зразумеў чый гэта крык, адкуль ён сюды прыляцеў—ён успрыняў яго, як сігнал да апошняга адчайнага напружання сіл, якое павінна вырашыць усё. І калі трактар ужо ўзышоў пярэднімі коламі на самы край абрыва, калі ясна Уладзіку стала, што яму не дапаўсці, не перамагчы гэтых астатніх крокаў, ён ізноў, занядбаўшы боль, узняўся з зямлі, абапёрся з усіх сіл на здаровую нагу і, рынуўшыся ўперад, павіс грудзьмі на сядзенні трактара.

Рука яго — ўжо зусім цяжкая, неслухмяная — вяла намацала добра знаёмы рычаг.

Трактар пярэднімі коламі ўгруз у мяккі бераг абрыва і стаў так, нахіліўшыся ўніз, нібы ён затым і ішоў толькі, каб паглядзець, што там ёсць, на дне гэтага крутога, глыбокага яру.

Перад тым, як канчаткова страціць прытомнсць, Уладзік убачыў у цяжкіх зыбучых хвалях тумана чорныя вочы, шырока раскрытыя, налітыя полымем дзікага жаху.

* * *

І вось ён, канец...

Белыя сцены пакоя распасціраюць наўкола празрыстую бязмежна спакойную пустату. Няма на чым суняць вока, няма за што зачапіць млявую думку.

Усё назойліва белае, усё пустое. Белы ложак, белыя прасцірадлы на ім, белая тумбачка побач з ложкам. Не іначай,—з белага зроблен той падазронны скрутак на канцы нагі, што роўненькай горкай уздымаецца пад прасцірадлам.

Уся белая ўваходзіць у палату сястра. Падыходзячы да Уладзіка, яна ўсміхаецца дужа ласкава і трошачку вінавата—так заўсёды падыходзяць да няшчаснага калекі добрыя чулыя людзі.

Яна сядае пры ложку і мякка загаварвае з Уладзікам. Яна гаворыць пра нейкае геройства, пра яго, Уладзікаў, геройскі ўчынак. Ён, бач, пакалечаны, ледзве жывы, увесь сыходзячы kpoўю, кінуўся ратаваць трактар, грамадскую ўласнасць. І ён ратаваў яго, самааддана рызыкуючы сваім жыццём.

Уладзік дасадліва крывіцца. Ён упэўнены, што сястра гаворыць усё гэта, каб заспакоіць яго, каб пагадзіць яго з тым, што адбылося. Няма чаго казаць, знайшлі героя!

Зноў расчыняюцца дзверы ў палату і ўваходзіць яшчэ адна ў белым, мабыць, другая сястра. Яна таксама ідзе да ягонага ложка. Першая чамусці борздзенька ўстае і ў лёгкім замяшанні выходзіць з пакоя. Уладзік з вострым здзіўленнем, з неймавернасцю глядзіць на гэту другую, на малое кучаравае стварэнне.

Ён злосна настарожваецца. Хай толькі падыйдзе, хай паглядзіць на яго так, як тады... Ён крыкне ёй проста ў твар:

— Гэта праз цябе! Гэта ты вінавата!

Вера ціха падыходзіць да ложка і з простай спакойнай ласкай, з матчынскай ласкай папраўляе падушку. Калі яе зусім тандэтная ручка дакранаецца да яго шчакі, яму робіцца раптам лёгка і прыемна. Але ён яшчэ не здаецца, ён з суровай дапытлівасцю ўзіраецца ў яе чорныя вочы, шукаючы ў іх хоць маленькай дробачкі халоднага, чужога, няшчырага. І бачыць у іх такое яснае, такое глыбокае святло пяшчоты і ласкі, ад якога ўраз расстае ў ім увесь лёд варожае недаверлівасці.

Тады—пераможаны, расчулены, ён пераводзіць сумны погляд на ложак, туды дзе роўненькай горкай уздымаецца белае прасціна радла.

Вера не дае глядзець туды—яна паварочае да сябе яго твар і з радаснай дзелавітасцю тлумачыць яму:

— Я ўжо аб усім гаварыла... Як ты папраўішся, мы паедзем у горад і там зробяць так, што нават ніякага знаку не будзе... Сто процантаў працаздольнасці...

Уладзік моўчкі ўсміхаецца—яго больш за ўсё пацяшае гэтае смешнае нечаканае „мы“.

—І наогул мы астанемся ў горадзе. Цябе пасылаюць на вучобу, гэта вырашана канчаткова. Будзем разам жыць, вучыцца, працаваць...

Уладзік выразна чуе, як празрыстая пустата, што была распасцёршыся навокал яго, цудоўна напаўняецца зусім рэальным і надзвычай прыгожым зместам. Падбадзёраны гэтым адчуваннем, ён узнімае на Веру адважны погляд і раскрывае рот каб сказаць, нарэшце, тое чаго ніяк не патрапіў сказаць дагэтуль.

Але Вера раптам нахіляецца да яго твару і закрывае рот яму ціхім доўгім пацалункам...

Яна ізноў—гэтае нялюбае дзяўчанё—не дала яму сказаць рашучага слова. Але Уладзік ужо не злуецца, бо ён і сам бачыць, што гэта слова цяпер зусім непатрэбнае.

---

Ільля Гурскі

# СУСТРЭЧА

— Дзеду-у! А, дзеду-у!—бягучы насустрач шчабятала Галя.—Па цябе прыяжджала машына, каб забраць...

— Машына, каб забраць?..—здзіўлена пытаўся стары дзед Апанас.—Здаецца нічога такога... На сваім вяку нікога пальцам не крануў...

Дзед Апанас набіўшы люльку, адвярнуўшыся, падставіўшы, свае шырокія сутулістыя плечы ветру, які рваў стрэхі, моцна пахкаючы, стаў прыкурваць. Наляцеў вей—вецер, ускружыў, падняў пыл слупам. Занепакоілася квактуха, якая з куранятамі разгульвала па двары.

— Дзядуля, пэўна будзе бура?

— А хто-ж яго ведае... Але-ж не... Не павінна быць...

Найшла вялікая чорная хмара, якая засланіла сабою сонца. Завывалі вятры. Занепакоіўся і Лыска, які разам з Галяй ветліва сустракаў гаспадара. Галя на сваім настайвала:

— Не, такі будзе бура.

— Бура, бура...

— А ты не лайся!..

— Ды не, я так... Толькі, каб сказаў украў што, ці забіў каго... А то без дай прычыны... Не, не павінна быць... А табе ўнучка, мусіць холадна?

— Не-е.

—Не, не. А ў самой пасінелі губы. Рукі, як у жабы.

Дзед Апанас сеў на прызбу, прытуліў да сябе Галю, ахутаў яе кажухом.

— Ну, добра?

— Добра.

Яны пераглянуліся паміж сабой. Дзед Апанас разважаў:

— Гм... Хто-ж бы гэта?... Чаго?.- Каб сказаў, што якое... Ды што там, неяк нават камісара выратаваў. Выходжу раніцай, бачу чалавек паўзе. Падыходжу бліжэй, гляджу, увесь у крыві.

— Дзядуля, а хто ён такі.

— То я-ж казаў, камісар. Напярэдадні палякі растралялі шаснаццаць чалавек. Яны самі сабе капалі магілу. Просіць чалавек дапамогі. Падабраў я яго, абмыў, стаў лячыць.

— І вылечыў?

— Вылечыў.

Дзед Апанас сказаў Галі, дзе ён хаваў камісара, як ён тайком насіў яму есці.

— І ніхто не ведаў?

— Не.

— А мама?

— Уга-а. Мама, надта доўгі язык мае. Усюды ўлезе, дзе трэба і дзе не трэба...

— А тата?

— Тата быў на вайне.

— Дзеду-у! А ў мяне язык кароткі... Паглядзі...

— Ты малайчына! Язык у цябе без касці...

— Я нікому не скажу... Не-е...

— Аднойчы, ўнучка, белыя перавярнулі ўсё сена, шукаючы нечага.

— Мусіць нехта падказаў.

— Ну, вядома. Вось толькі хто—загадка?

— Дзеду, а як-жа ён застаўся жывы, калі яго растрэльвалі?

— А іх, унучка, калі яны выкапалі магілу, іх выстраілі ў рад. Далі залп—стрэлілі. Ну, вядома, яны асунуліся. А закапаць і не закапалі. Пакінулі да раніцы. Надта ўжо нашы—на фронце далі ім дыхту. А фронт той—рукой падаць. А ранены камісар выбраўся з магілы і паўзком да мяне. Ага, вось што, тады як быў вобыск у нас, то адзін афіцэр прымусіў салдата перавярнуць усё сена, а сам усё шабляю калоў. А шабля тая, што брытва. А я, як гэта гаворыцца, стаю, ні жывы, ні мёртвы.

— Дзядунька, а дзе-ж быў той камісар.

— Ён, унучка, ў адрынцы сядзеў. Казаў, тросся, як асінавы лісток.

— Баяўся?

— Баяўся, ўнучка. Гэта-ж не жартачкі—на валаску ад смерці. Нікому ўнучка, паміраць не хочацца.

— Так і не знайшлі?

— Не.

— Ото-ж добра!

— А камісар, унучка, весь пасівеў; вядома такі страх.

Уважліва слухала Галя ўспаміны старога дзеда пра камісара, пра зверствы белапалякаў, ловячы наляту кожнае яго слова. Перад дзедам Апанасам паўстаў жудасны малюнак здзекаў над чалавекам.

... Дзмулі заходнія вятры.
Аднойчы ў поўдзень вецер прынёс дым.
Гарэла спелае жыта.
Дым быў едкі, кругом пахла хлебам.
Устрывожыўся народ. Тушыць не давалі.
Ламалі людзі рукі. Прасілі літасці ў бога.
Усхадзіліся вятры.
Пылала вёска.
Усё было ў агні.

Запахла саломай, смалой. Чорныя хмары віселі над краем. Праз гадзіны дзве вёску як языком злізала. Дзеці на вогнішчы ў галавешкі гулялі.

Афіцэр рагатаў:

— Пся крэў... Паскачыце.... Будзеце ведаць, пачом фунт ліха...

Моўчкі стаялі згорбленыя людзі, безнадзейна апусціўшы галовы.

— Быдло! —крычаў афіцэр.—Хто ў партызанах?.. Выходзь.,.

Наперад вышла сухотная жанчына з упалымі грудзьмі і зямлістым тварам, у белай вышытай кашулі, з вялікім жыватом і доўгімі рукамі. Яна слабым голасам, узняўшы высока галаву, сказала:

— Я іду ў партызаны.

— У пся крэў!.. —звярынай ненавісцю працадзіў праз зубы афіцэр.— Холера!...

Грымнуў стрэл.

Пахіснуўшыся назад, нязграбна апусціўшы доўгія рукі, грузна апусцілася постаць сялянкі.

— Мама! Мамка — дзікім голасам закрычала дзяўчынка з тоненькай коскай і блакітнымі вочкамі—уставай! Дзядзя не будзе сварыцца.

Маці нічога не адказала дачцэ. Яна была забіта напавал. Дзяўчынка залілася горкімі слязмі. Нехта з грамады прашаптаў:

— Партызаны... партызаны... каля могілак...

— Па конях!—скамандваў афіцэр.

Завязаўся бой, не на жыццё, а на смерць. Пагарэльцы кінуліся дапамагаць партызанам. Праз гадзіну, зямля, нібы дыванамі, была ўслана сялянскімі світкамі. Енчылі людзі просячы літасці ў бога. Патроны вышлі, пашлі ў рукапашную. І ўсёж белапалякі далі драпака.

Скончыўся бой.

Грымнуў гром, бліснула маланка, ліўнем лінуў дождж.

На вогнішчы, расклаўшы агонь, абсушвалася дзетвара, што засталася ў жывых.

А цяпер адбудавалася вёска Узляны, што і не пазнаеш. „Жывучы народ“—падумаў пра сябе Апанас.

— Дзеду-у, а што сталася з камісарам?

— Як паправіўся, то зноў пашоў у Чырвоную армію! Аж пад Варшавай быў...

— А дзе была я, калі хаваўся ў нас камісар?

— Цябе, унучка, не было яшчэ на свеце.

— А дзе-ж была я?

— Ну, зусім не было.

— А дзе-ж ён цяпер, той камісар?

— Не ведаю.

— А чаму ён да нас не прыходзіць?

— Ён недзе далёка.

— І ты яго ніколі не бачыў?

— Бачыў, унучка. Ён пазваў мяне, да сябе ў госці. Кашу елі з аднае міскі.

— Смачная каша?

— Уга—а, яшчэ якая! А потым камандзір выстраіўшы ўвесь полк, скамандваў:— „Смірна-а!“ і ад імя ўсяго палка вынес мне падзяку, за тое, што захаваў жыццё яго баявому таварышу.

— І спадабалася табе?

— Ого, яшчэ і як! Вядома, тысячы радасных вачэй глядзяць на цябе. А цяпер машына прыяжджае, каб забраць... За што?.. Нікуды я не паеду!..

Да хаты пад'ехаў аўтамабіль. Адтуль вышаў нізенькі шчупленькі чалавек у вайсковым. Дзед Апанас напалохана ўглядаўся.

— А-а, дзядуля!—падышоўшы, моцна паціскаючы руку, гаварыў чалавек у вайсковым.—Здароў! Што, не пазнаў? А я па цябе другі раз.

— Сокалаў! Здароў, здароў! А каб на цябе... Ты дзе? А бадай на яго ліха... І трэба-ж было так непакоіцца....

Яны моцна абняўшыся, пацалаваліся.

— Якім ветрам цябе сюды занесла?

— Начальства... Некалькі дзён таму назад прыняў справы—старшыні РВК. А гэта чыя дзяўчынка?

— Унучку бог даў...

— А-а.

— Дзядзя, а ў нас камісар хаваўся...

— А-я-яй! А казала,, што нікому не скажаш!?—усміхаючыся, гаварыў дзед Апанас.

— Вось гэта і будзе, унучка, той камісар. І трэба-ж было так непакоіцца... А помніш, як мы елі з табой кашу?..

— А як-жа!

— Смачная была каша...

— Каша нічога, але ў адрынцы... Паедзем, дарогай...

— Куды-ы?

— У раён. Пісьмо падпісваць таварышу Сталіну.

— А-а-а. То можа і ўнучку можна?

— Можна.

— Паедзеш, Галя?

— Паеду.

— Ну то я толькі пераапрануся.

7. VII. 35. Менск.

---

Ц. Гартны

# ПЕРАГУДЫ

Раман *)

## XXVI

Яны варочаліся ў вёску, абмінаючы рагавую хату, як раптам з бліжэйшага двара ім пераціяў дарогу старшыня калгаса. Знакам рукі ён спыніў іх і весела праказаў:

— На лаўца і звер бяжыць. Я выбраўся вас шукаць.

Абое пільна паглядзелі на старшыню.

— Здарэнне ізноў?

Усе ўтраіх зарагаталі.

— Ты ўжо вельмі хочаш! Думаеш, што мы аднымі здарэннямі і жывем...

Юстын, сагнаўшы ўхмылку з свайго твара, дагадліва паглядзеў на старшыню. Думаючы пра сваю сутычку з Лагодаю, ён здзівіўся, якім чынам так хутка мог даведацца пра гэта старшыня. Апошні, між тым, быў упэўнены, што Сніпічу расказаў пра гісторыю з бацькам у полі сам Павал. Павал скеміў гэта, але, каб не вызываць лішняе размовы, запытаў старшыню:

— Навошта мы патрэбны?

— Скора мае адбыцца паседжанне ячэйкі.

І праз хвіліну, гледзячы на Паўла, іншым тонам дадаў:

— Стаіць і ваша пытанне.

— І маё пытанне?—здзівіўся Павал.

Мігам у Паўлавай галаве прамільгнулі ўспаміны з нядаўніх гутарак з Янінаю Крэмень. „Ага, вось яно ў чым“—праказаў ён сабе.

— Значыць, і маё пытанне!—працяжна паўтарыў Павал.—Якое, хаця?

Старшыня паціснуў плячыма.

— Пэўна-ж нейкае знайшлося. Так бывае: не чакаеш, а цябе сцерагуць. Жыццё, таварыш, пабудавана на розных выпадках.

Іронія старшыні паказалася Паўлу недарэчнай.

— Што-ж, пойдзем, таварышы!—сказаў старшыня і рушыў першым;—там дазнаемся.

— А дзе-ж вызначана паседжанне?—справіўся Сніпіч:—Мне трэба было-б зазірнуць да сябе... І таварышу Перагуду, магчыма...

---

*) Праціяг. Пачатак гл. „Полымя рэволюцыі“ № 8, 9.

— Я думаю, што гэта не надоўга... Давайце не зрываць агульнае справы... У сельсовеце...

Яны пашлі да недалёкага будынка сельсовета.

На хаду Павал аддаўся руплівым дагадкам наконт зусім нечаканага звароту спраў. Безумоўна, трэба было спыніцца толькі на адным— гэта на прыкрай гісторыі з наведамі Каніцы, і з тымі, кінутымі яму на хаду неасцярожлівымі словамі, што так шчыльна за іх ухапілася Яніна Крэмень. Але яму не верылася, каб гэты выпадак, за які ён зараз бязлітасна гатоў-бы сябе дакараць, аб'ектыўна мог разрасціся ў гэткае прыкрае здарэнне. Бач, ён Павал, ніколі не думаў нават паступіцца сваёю большэвіцкаю цвёрдасцю, а між тым, атрымоўваецца, што...

Яны прайшлі ў памяшканне; там ужо чакала паўтара дзесятка партыйцаў, маладых вясковых хлапцоў і мужчын, сярод якіх некалькі вылучаліся сваім пажылым узростам. Павал ад парога абвёў сход пытальным узрокам, затрымаўшыся на акружанай таварышамі Яніне. І яму паказалася пры гэтым, нібы Яніна нават не паглядзела на дзверы, напэўна, каб падкрэсліць сваю бесстароннасць, ці мо... Ён, даволі стрымана сустрэў цікавыя позіркі некалькіх чалавек, кінутыя проста яму ў твар, і заняў месца на вольным кончыку ўслона. Гэта было звычайнай цікаўнасцю таварышоў, упершыню ўгледзеўшых у сваёй таварыскай сям'і новага гарадскога партыйца, між тым Павал і тут вычытаў тое, што муляла яму ўнутры.

— Цяпер можна, таварышы, пачынаць сход!—акінуўшы ўзрокам прысутных, праказаў сакратар, які сядзеў каля Яніны.

— Дык вось... У нас сёння на павестцы дня два пытанні: першае— аб хлебанарыхтоўках у сельсовеце, другое—бягучыя справы... Дадаткаў не будзе?

— Няма!

— Ну, дык слова мае таварыш Крэмень!

Яніна спакойна дастала з папкі некалькі густа спісаных лісткоў блокнота, хвіліну памаўчала, як-бы шукаючы, з чаго пачаць:

— Таварышы! На бягучы год па нашаму сельсовету кантрольная лічба хлебаздачы крыху іншая ад леташняй: яна на дзве тоны вышэй. І гэта правільна. Сёлета мы маем значна лепшы ўраджай, асабліва жыта і пшаніцы... Нашы тры калгасы, як вам вядома, паспелі вясною ўвогуле падняць звыш трыццаці дзесяцін цаліны, што дало вялікае падтрыманне яравому кліну... Гэтыя даныя, зразумела, павінны яшчэ папоўніцца, таварышы, асноўнай умовай, без якой нам не выйсці з гонарам з гэтай важнейшай кампаніі. Я маю на ўвазе нашу большэвіцкую настойлівасць, нашу цвёрдую рашучасць у барацьбе за хлеб... Леташні выпадак мусіць стаць урокам для кожнага з нас, таварышы. Мы павінны вырваць з коранем усякія ваганні, любыя, простыя ці ўскосныя спасылкі на аб'ектыўныя прычыны. Памятайце, таварышы (Яніна паглядзела на Паўла), што нашу перамогу можа гарантаваць перш за ўсё, большэвіцкая напорыстасць... І ніякага апартунізму ў справе... Бач, нікому не сакрэт, што слабым месцам леташняй кампаніі з'яўляліся шкодныя патуранні кулаку і падкулачнікам. Сярод нас прысутнічаюць тыя, хто не волен ад віны за гэта перад партыяй, перад дзяржавай, таварышы... (Павал яшчэ больш насцярогся). Між тым гэта не навучыла ўсіх... І хоць не прыстала, у даным выпадку, звязваць адно з другім, ды можа крыху тут будзе нацяжка, але для перасцярогі я мушу ілюстраваць свае словы адным выпадкам... Вы-

падкам, за які, як мне вядома, моцна хапаюцца класавыя ворагі. Рэч датычыць нашага паважанага госця... таварыша Перагуда.. (у Яніны прамігнула на твары ўкрадлівая ўхмылка, а сярод прысутных прабег шорах і зацікаўленыя позіркі). Няхай наракае на сябе, а я не магу не давесці да ведама таварышоў—тут усе партыйцы, свае, аб даволі слізкім учынку, магчыма, і выпадковым, які выліўся ў неасцярожлівы візіт таварыша Перагуда да Каніцы... Ведайце, што ячэйка не зацікаўлена ў тым, каб узводзіць дарэмшчыну на таварыша, і я, у прыватнасці, не з'явілася на гэты сход помсціць за сваю асабовую крыўду. Дарэмна, Павал, будзеш упікаць мяне ў гэтым... Я, гэта раблю, не з намерам цябе скампраментаваць, а па-таварыску абмеркаваць... Так, дык вось, таварышы, я клічу вас не траціць класавай пільнасці...

Яніна спынілася яшчэ на шэрагу выпадкаў кулацкага супраціўлення хлебанарыхтоўкам. Нарэшце, заклікаўшы да рашучых дзеянняў у выкананні пастаноў партыі, закончыла даклад пад дружныя воплескі ўсяго сходу.

— Хто-б хацеў узяць слова па дакладу?

Некалькі таварышоў паднялі рукі, але іх пераняў Павал сваім зваротам да сакратара:

— Я думаю, што першае слова сход уступіць мне?

Да паўтара дзесятка пар вачэй накіраваліся на Паўла. Дапытліва глядзела на яго разам з усімі і Яніна Крэмень.

— Таварыш Крэмень тут перад вамі закранула ў сваім выступленні выпадак, які бессвядома здарыўся са мною некалькі дзён таму назад... Гэта было на другі дзень майго быцця ў Ружанах, куды я прыехаў, таварышы, каб наведаць старых бацькоў, якіх я не бачыў больш сямі гадоў. Як магчыма, некаторым з вас вядома, мой прыезд супаў з вяселлем майго малодшага брата... Па прыкраму збегу прычын, супроць якіх мне было ужо позна выступаць, мая сям'я паўтарыла сваю ранейшую памылку... Як гразёю, яна абрудзіла сябе сувяззю з гэткім заўзятым кулаком, якім з'яўляецца ўсім вам вядомы Адам Каніца... Я нічога, прызнаюся вам таварышы, не западозрываў, калі раптам у час вясельнай пачосткі ў бацькавай хаце, выклікалі дамоў прысутнага на пачостцы Каніцу... І ніхто з быўшых у хаце не паспеў разабрацца, у чым рэч, як пабегшая за бацькам дачка, г. ё. мая братавая, з плачам вярнулася па мяне і, на чым свет стаіць, пачала прасіць прыбегчы да Каніцы... Я без усякага абдуму, без жаднага намеру, без хоць-бы якой думкі даць параду, ці ўцеху, ці абяцанку—з'явіўся да Каніцы і нечакана сустрэў у Каніцавай хаце таварышку Крэмень... (Усе здзіўлена азірнуліся на Яніну... Яніна гіранічна ўсміхнулася). Яна прынесла цвёрдае заданне, якое ашаламаніла Каніцу. У непрытомнасці, перапінаючы мне дарогу да выйсця, ён, чуць не сілком, выцягнуў у мяне з вуснаў... сказ, які нічога не азначаў: „Добра, я пагавару“— вось уся мая абяцанка Каніцу ў дапамозе... Той абнадзеіўся, хапіўся за яе і пайшло, і пайшло... Так, стараецца, паскуда, выкарыстаць...

Павал зрабіў перадышку, правяраючы беглым узрокам зробленае на таварышоў ражанне. Было ясна відаць, што на тварах некаторых партыйцаў выглядае яўнае нездаваленне. Кожны чакаў вывадаў, падганяючы ўзрокамі Перагуда канчаць.

— Так, дарагія таварышы, гэта мой недагляд... Прыкры недагляд. Яго можна тлумачыць усяк. Я папусціўся ўгаворам сваіх бацькоў, пад уражаннем моманту... чаго, прызнаюся, не павінен быў рабіць. І ў гэтым я прызнаю сваю віну... Я не злую на таварышку Крэмень,

што яна вынесла гэты выпадак на сёнешні сход, больш таго, лічу правільным гэта... Нарэшце, аднак, маю запэўніць ячэйку, што ў мяне пры гэтым не было і намёку паступіцца інтарэсамі партыйца...

Ён бадзёра глядзеў у вочы сакратару ячэйкі, цвёрда стоячы на месцы.

Потым, упэўнены, сеў на ўслон.

— Прымаем пад увагу тлумачэнні Перагуда?

— Так, так!

— Запісваць не будзем?

— Не, не варта!

Бягучыя справы, складаўшыя два незначных пытанні, не вызвалі абгавору і прайшлі без значнай уважлівасці з боку раду таварышоў.

Павал таксама мала зацікавіўся іх зместам, знаходзячыся пад уражаннем свае справы. Яго прыўзняты настрой ўраўнаважыўся; на шчаках заставаліся апошнія сляды нервовай узбуджанасці, якія паволна ўступалі месца спакойнай усмешцы. Ён здолеў бездакорліва з адкрытымі вачамі стрэць Яніну, вылезшую з-за стала і падышоўшую адразу да яго.

— Не злуеш на мяне?—запытала яна Паўла без намёку на якое-б не было выбачэнне.

Павал нейкі час не знайшоўся, што сказаць: дзесці у глыбіні яго нутра як быццам бы яшчэ штосці мулкае, непрыязнае да Яніны давала сябе адчуваць. Ён пасіліўся яго развеяць, і праз хвіліну сказаў:

— Кінем гаварыць, Яніна... Ты пастуліла правільна...

І калі яна нечага адвярнулася да сакратара ячэйкі, Павал першым пакінуў памяшканне сельсовета.

Азірнуўся з-пад трэцяе ад сельсовета хаты, як-бы жадаючы яшчэ раз, стрэцца ўзрокамі з сакратаром.

Сярод людзей, што на значным адгоне следавалі за ім, сакратара не было. Павал не заўважыў зразу і Яніны, але на яго вачах раптам яна быццам вырасла з зямлі. Яе партфель мігам апынуўся ўгары, закалыхаўшыся над купай чорных валасоў. Яніна гэтым давала знак Паўлу пачакаць яе. Павал сцішыў ходу. Калі ён пачуў за плячыма чыесьці крокі, то, павярнуўшыся, угледзеў, Яніну.

— Мне захацелася цябе правесці да хаты... Не мецьмеш нічога?— весела, з маладым задзёрам, праказала яна і ўзяла Паўла пад руку.

Павал цёпла ўсміхнуўся.

— Буду ўдзячны!

Яны моўчкі мінулі некалькі хат. Некалькі жанчын стаючы пры адным з двароў, цікаўна правялі іх вачыма. Следам упоўголаса, але каб яны чулі, адна з іх праказала:

— Пэўна, Лявончык гэту сельсоветчыцу кахае... Нешта вельмі яны блізка сышліся.

Яніна многазначна паглядзела Паўлу ў вочы:

— Чуеш? Які, аднак, цікаўны народ—гэтыя ружанаўцы...

— Што-ж, жывыя людзі...

— Так... і часамі занадта...

Павал насцярогся.

— Што ты гэтым хочаш сказаць?

— Я ўспомніла, можа і як-раз недарэчы, тваіх бацькоў, Павал...

— Маіх бацькоў?—здзіўлена перапытаў ён Яніну.

— Бач, іхнюю сёнешнюю гісторыю ў палетку.

— Табе паспеў расказаць старшыня калгаса?

— Хоць-бы і старшыня... Прызнацца, я не чакала ад іх.

— А думаеш я сам чакаў?

І, каб змякчыць Яніне ўяўленне аб пачутым ёю, растлумачыў:

— Усё-ж гэта не дае нам права рабіць папярэднія, дачасныя вывады аб іх настроях. Мне здаецца, што тут адыграла ролю бессвядомая ўспышка ўласніцкага інстынкту... які ўжо ў іх значна ўсё-ткі, падарваны... У кожным разе я яшчэ не паспеў пасля таго бачыцца ні са старымі, ні з братам. Вось прыду дамоў—перагавару...

— Цікава!—ухапілася за Паўлаў намер Яніна.

І здагадліва запытала:

— А ты не дапускаеш таго, што тут доля Каніцавага ўдзелу?

Павал разгублена пацяў плячыма.

— Магчыма...

— Я так і разумею... Лагода таксама добрая птушка...

Яны набліжаліся да Перагудавай сядзібы і абое перанеслі сваю ўвагу на новую хату, што жаўцела у пераплёце кляновых галін.

## XXVII

Прыблізна ў той самы час, калі Павал Перагуд даваў сваё апраўдальнае тлумачэнне сходу ружанаўскае ячэйкі, нечакана для Лявона з'явіўся ў перагудаўскую хату Адам Каніца. Перагуды ўсё яшчэ былі пад моцным ўражаннем, якое на іх пакінула сёнешняе здарэнне ў полі. З усіх іншых момантаў выразнейшым быў той, калі бацькі з братам сустрэлі Паўлава асуджэнне сваім паводзінам. Стары Лявон прыпісваў сыну адчужанасць да іх сямейных інтарэсаў і спраў. Маці не магла падшукаць ніводнага матыву, на які-б можна было цвёрда аперціся ў абмеркаванні Паўлавых паводзін. Ды ёй, па праўдзе сказаць, не хацелася гэтых матываў шукаць.

— Каб іначай павёў сябе Павал,—справа прыняла-бы зусім другі паварот,—запэўняў Пятрусь бацькоў.

— Гэта табе здаецца, сынок,—разуважвала Перагудзіха:—Паўлу ніхто не набаяў крыўдзіць сваіх бацькоў.

— І мне думаецца, грэшнаму, што можа так і трэба, ведаеце,—вагаўся ў канчатковым заключэнні Лявон, паступова астываючы ад хвіліннай ўспышкі.

Старая храбрылася:

— Ну, сапраўды, родненькія, каб-то Павалка бачыў карысць для нас у сварцы, а то-ж яму адразу стала відаць, што з нашага ляманту нічога не выйдзе... Тады, я спытаюся вас, нашто распаляць дарэмна злосць? Сушыць сэрца?...

— Ды ўжо-ж, кажы-не-кажы—не вернецца...

— А я патом Паўлу дапомню,—хапіўся за апошняе Пятрусь. Перагудзіха нязгодліва заківала галавою.

— Вось ты, Пятруська, усё наперакор меціш... Ну, навошта табе падымаць у хаце сварку? Хочаш, мабыць, каб Павал раззлаваўся, кінуў усё ды ўсіх ды развітаўся... Ой, які ты чалавек...

— Ды кінь ужо сыне,—падтрымаў жонку Лявон

Але на Петруся мацней за бацькаўскія развагі уплыў суровы, зніштажальны позірк Люцы. Яна моўчкі сядзела за сталом, лічачы, чамусці не патрэбным для сябе ўмешвацца ў сямейныя спрэчкі. Сваю думку Люця выказала на усё гэта там, у полі, палічыўшы мужа і яго-

бацькаў неправымі ў паднятым скандале, выказаны мужам намер вымавіць Паўлу яго паводзіны, узрушыў Люцю. Гэта ўжо звыш меры!

— Ты ўпарты, Пятрусь, як той...

Недавымоўленыя словы былі ўсім зразумелы. Пятрусь мігам загарэўся, злосна кінуўшы ў адказ:

— Далікатная, як свіння...

На гэтым месцы Каніцаў прыход абарваў сварку. Перагуды, як адзін, павярнуліся ў бок госця. Лявон нават вышаў з-за стала і стрэў свата з працягнутаю рукою.

— Падсядай, Адам, да стала... Вось добра, што якраз на полудзень, падсядай!

Домна ўважліва адсунула ўслон і прайшла па ім анучкаю.

— Запрашай бацьку, Люця,—весела павярнулася старая да нявесткі.

Заварушыўся і Пятрусь: ён адсунуўся ў кут, паказваючы месца цесцю.

Каніца самавіта заняў месца побач з зяцем і ахвотна згадзіўся падзяліць сватаву бяседу. Знойдзеная Домнаю ў каморы выпіўка і дарэчы, нечакана нават для сваіх, пастаўленая на стол, прыдала скромнаму полудню больш самавіты характар.

— Вы мяне проста спанталыжылі... сваты... Каб ведаў... Навошта, сваце, быў той клопат,—сказаў Каніца.

Лявон старанна падліваў другую чарку, не змяншаючы ўвагі да свата. Домна падкладала к Адаму лусты хлеба, падсовала міску з крупнікам, Пятрусь падсміхоўваўся, задаволены нечаканым зваротам спраў. Крута зменены ў бацькавай прысутнасці Люцін настрой асабліва ўцешліва адбіваўся на яго падвышаным адчуванні.

— Закусвай, сват, што ёсць... Не чакалі—развяла рукамі Домна.

— Кі-ынь, До-омна-а!—стрымаў Перагудзіху Каніца.—Ці-ж можна богу грашыць... Вот калі... Столькі ежы... Каб я гэта меў на сваім стале...

Люця раптам нахмурылася.

— Вы, татка, бадай сёння яшчэ і не абедалі?

На Люці спыніліся недаўменныя позіркі старых Перагудаў.

— Такі і не! Затое як добра наснедаўся... Аксеня, ведаеш, налаўчылася... Такую адмысловую мачанку згатавала, што я не мог адарвацца ад міскі, пакуль усяе не скончыў... Малайчына—захапляўся Каніца, не думаючы, што на языку вартавала ўжо скарга і на тую-ж Аксеню і на жыццё, і на ўвесь свет.

Апаражніўшы чрговую чарку і падзакусіўшы ў смак густою капустаю з затаўкай, Адам іншым, фальшыва-чуллівым голасам заспавядаўся.

— Праўда, усё яно, між намі кажучы, не тое, што калісь было... Дзе там! Вось сілаю-гвалтам падцягаецца, чалавек, а сапраўды жыўцом пруць у магілу... Здаецца і шчасліў-бы быў—дачку выдаў, гаспадарка сякая-такая, а потом—усё няміла, сваточкі, няміла. Парабілася ў свеце ліха ведае што... Круцяць, ломяць, што вякамі збіралася... Падумайце, як дацінаюць хоць-бы мяне. Жа-арты-і, трыста пудоў ім аддай збажыны! Каб яны хварэ-элі! Кішкі выцягваюць са старога, адзінокага чалавека. А-ах-х! Ратуйце-э!

Каніца, як непрытомны, разам хапіўся аберуч за галаў, заскрыгітаў зубамі і моцна стукнуўся патыліцай аб шаляванне акна. Дзвынгнула шкло.

Уміг да яго працягнуліся рукі мужчын, якія хутка паўсхопліваліся з месц. Але Каніца тут-жа паў на стол, страсянуўшы ім да таго моцна, што недапітая гарэлка лінула на зямлю з павернутай пляшкі, а недаедзеная капуста абярнулася на рукавы Каніцавай курткі.

— О-ой! Тта-атта-а, што з вамі?—гістэрычным голасам прагукала Люця, абняўшы бацьку за плечы.

Якраз на яе выгук стрымгалоў уляцеў у хату Васіль Лагода: ён знарок ішоў да Перагудаў парадзіцца і паскардзіцца на Юстына Сніпіча. Павал быў сведкаю нападу з боку паплаўнічага—няхай цяпер скажа, як яму быць. Раптоўны нямы Люцін выкрык пераняў Лагоду пры завароце ў двор, і ён, не ведаючы, у чым справа, зайцам пераляцеў цераз зачынетыя веснніцы і мігам апынуўся каля стала.

Каніца гэтым часам падняў голаў і здзіўлена азірнуўся па хаце. Нечаканае з'яўленне Лагоды здзівіла яго: пасля хвіліннага разгляду ён спужана запытаў:

— Ты-ж, Васіль, адкуль гэта сюды?

І, недачакаўшыся адказу, разгублена азірнуўся на стаяўшых перад ім Перагудаў.

— Што са мною здарылася? Тьфу, ты, прымха нейкая,—праказаў ён.

Люця не зводзіла з бацькі вачэй. Усё яшчэ напалоханая, склаўшы рукі на грудзях, утароплена глядзела ў праяснеўшы Каніцаў твар старая Перагудзіха. Адпускаўся ад раптоўнага перапалоху Лявон.

— Вот калі дзіва! Што можа з чалавекам зрабіцца!—паспагадаў ён свату.

Каніца выпрастаўся ўзняў голаў і сярдзіта вылаяўся:

— Давялі, каб ім-м...

Ён стукнуў кулаком у грудзі іікнуў. Люця падалася да бацькі з разнятымі рукамі.

— Тата, супакойцеся! Вы гэтым не паможаце,—перасцерагла яна.

Каніца гэстам рукі супакоіў дачку, і сарамліва паглядзеў на стол, дзе цямнелі пісагі ад пралітай гарэлкі.

— Вось цяпер выпіў-бы ў смак ад злосці—смяшліва, праказаў ён.

Домна вінавата затупала каля стала, праверыла пустую бутэльку з-пад гарэлкі і выбачылася:

— На жаль—ні звання... Трэба-ж так да капелькі ўся выцякла... Вельмі ўжо моцна здрыгануўся стол,—я думала перавернецца... Ды бутэлька, наліха, якраз, гэткая гарластая...

Лявон маргнуў жонцы, каб яна не вельмі шкадавала. Перагудзіха скеміла мужаў намер і, запытала:

— Можа-б, Адаме, малака кіслага чарпануў?.. У мяне яно халоднае, у склепе.

Каніца задумаўся; пасля рэзка матнуў рукой.

— Ліха мяне не возьме... Усё будзе добра... Вось толькі-б мне з Паўлам яшчэ раз шчырым словам перакінуцца... Я не веру, мае мілыя, каб ён усё-ткі не памог... Было-б не толькі не па сваяцку, а і не па людску... Як ты, сваце, думаеш?—звярнуўся ён да Лявона.

Лявон паціснуў плячамі.

— Чаму-ж...

— А дзе-ж бок, Павал Лявонавіч?—запытаў Каніца.

— Я гадзін тры таму, а мо' больш бачыў яго ў калгасных палетках, ён пайшоў з гэтым басалыгай Сніпічам у бок вясковых сядзіб,— сказаў Лагода.

— Куды-ж бы ён мог зайсці?—паглядзеўшы на мужа, здзівілася Домна.

— Хто яго ведае: можа, часамі, у сельсовет, або... хіба яму няма куды...

— На партыі, напэўна... Я чуў, як старшыня калгаса заказваў Янку Цыбульскаму з'явіцца на паседжанне.

Перагуды ўтароплена паглядзелі на Каніцу.

— Ніхто-ж не кажа, што не,—апраўдвалася Домна. Або-б мы таіліся, каб ведалі... Не ганьба ў тым, сваце...

Каніца нязгодліва паківаў галавой; у яго нутры замуляла неспакойлівая вгрожасць да больш эвікоў. Умомант к горлу падступіла жаданне аблегчыць сэрца якою-кольвечы востраю лаянкаю. Але нешта яго стрымала. Ён рашыўся толькі на наступнае:

— Без партыяў гэтых было-б і лепш...

Лявон прыняў гэта за абразу Паўла і не сцярпеў:

— Свату так здаецца... а я, прынамсі, шчаслівым сябе лічу, што прыждаў усяго гэтага. Цяпер, па крайняй меры, большэвікі людзям свет адчынілі.

— Ха-ха-ха!—Ну, ужо ты, Лявон, занадта...

Каніца іранічна паглядзеў на Лагоду, які таксама хіхікаў у кулак.

— Не сходзімся мы ў ацэнцы з бацькам,—упічліва падаў ён.

Нашто Домна заўважыла:

— Ды ты, вядома, што не сходзішся,.. Хто цябе не ведае.

Пятрусь не ўмешваўся ў гутарку, але адчуваў, што яго сімпатыі не на баку цесця. Не падабалася Пятрусю і ліслівае паддакванне Каніцу з боку швагра Лагоды. Яму зарупіла па свойму пасупярэчыць ім абодвым, але гэтаму перашкодзіў увахад у двор Паўла з Янінаю. Стук вешніц умомант прымусіў усіх прысутных у хаце павярнуцца ў акно і следам насцерагчыся ў апаўшым, як камень, маўчанні. Чаго-ж разам з Паўлам і гэта?!! выступіла на збянтэжаных тварах Васіля, Люці і Каніцы.

Бразгатанне клямкі ў сенешніх дзвярах рассадзіла ўсіх на месцы. Каніца ў застыўшай паставе глядзеў, немігаючы, у парог, занядбаўшы ўсімі прысутнымі.

— А-а-а—міжвольна выскачыла з яго вуснаў пры ўваходзе Паўла, які напружаным поглядам абвёў па хаце і запрапанаваў Яніне вольную мясціну на лаве.

— Толькі крыху не трапіў на полудзень!—праказала Домна. Сядай, сынку, за стол...

Лявон азірнуўся на Яніну.

— А мо' таварышка падзяліла-б з Паўлам полудзень!

— Дзякую, дзякую, дзякую,—адмахнулася Крэмень абедзвюма рукамі.

— Чаму-ж, Яніна?—падаў Павал і адвярнуўся да лавы, дзе побач сядзелі Каніца з Лагодай.

Каніцу паказалася, што Павал шукае прычыны загутарыць з ім і, каб не марнаваць часу, падняўся на ногі.

— Я чуў, Павал Лявонавіч...—нерашуча вымавіў ён, адным вокам сочачы за Янінай.

— Што вы чулі?—даволі суха прапытаў Павал.

Каніца замяўся, але ўжо не хацеў адступаць ад свайго намеру выказаць усё, што прышло на язык.

— Што вы, быццам бы на партыі разбіралі маё пытанне?

— Чаму-ж бы не так...

На Каніцавым твары выступіла надзея. Ён ступіў пару крокаў у бок Пятруся.

— І як-жа, нябожа, вырашылі?.. Збавілі?..

Апошні склад патануў ў горле.

— Прыбавілі!—сурова і адрыўна праказаў Павал.

— Ко оль-кі-і?

— Сто пудоў!

Каніца, як падпіленая асіна, хістануўся на месцы, падхоплены Пятрусем; яго роўная кражыстая постаць мігам згорбілася, асела; кудлатая галава лягла на зяцева плячо. Не то замармытаў, не то застагнаў. Праз момант ізноў узняў голаў, пагражальна страсянуў ёю, і гукнуў на хату:

— Ты не чэсны, Паўлюк! Я не чакаў ад цябе гэтага.

Яго выгук зрабіў уражанне лопнуўшай бомбы.

Усіх ахапіла адчуванне чагосці цяжкага і рашучага. Кожны з свайго месца, застыўшы ў непарушнасці, палахліва пазіраў у бок Яніны Крэмень. Сельсоветчыца стаяла пры акне, змерваючы суровымі позіркамі раззлаванага Каніцу.

Павал хвіліну маўчаў, пасля крута павярнуўся, рэзкім махам выцягнуў да дзвярэй руку і спакойна, але цвёрда праказаў:

— Грамадзянін Каніца, папрашу пакінуць хату!

Усе на момант застылі. Хістаючыся на нагах, Каніца разгублена павярнуўся на лаве, непрытомна завадзіў непаслушнаю рукою. Люця падбегла да бацькі, падала яму шапку. Адам моўчкі вышаў за дзверы ў саправаджэнні дачкі.

Пятрусь пастаяў пры акне, пакуль яны паказаліся ў двары і, пабег за імі.

— Я не чакала гэтага!—праказала спусціўшы пару хвілін Яніна Крэмень.—Якое нахабства!

— З розуму сышоў, ці якое ліха,—уставіла Домна, не могучы апамятацца.

Лявон, не аднімаючы вачэй з акна, прыкурыў затухшую люльку, у смак зацягнуўся і, выпускаючы клубок дыму, дадаў:

— А, ён на гэта здатны... Думае, што яму стары час і старыя людзі... Але гэтым мала выйграе...

— Будзе яму стары час!

Павал перакінуўся поглядам з Янінаю, і на іх тварах забегала здавальняючая ўхмылка.

— Папалуднуй, таварышка, з Паўлам, чаго там сароміцца, свае людзі.

Яніна падышла да стала і села побач з Паўлам.

## XXVIII

Гадзіны праз дзве пасля апісанага, на змроку, у Перагудавой хаце сядзелі за дзелавою гутаркаю двое старых, Лявон і Лагода. Амаль нічога не дапамінала пра нядаўняе здарэнне. Лявон спакойна пахкаў люльку, стоячы каля прыпячку і не зганяючы з твару лёгкіх раздумаў. Домна ўвіхалася з начыннем у мыцельніку. Павал тупаў

па хаце. Ён думаў над адказам на апошняе бацькава запытанне. Раптам спыніўся павярнуўся, да старога і праказаў:

— Старшыня калгаса не зазлаваў. А наконт прырэзкі ў замен абрэзанага клінка, сказаў, хоць заўтра.

— Цікава, усё-такі, дзе яны прырэжуць?—зацікавіўся Лявон.

— Нойдуць месца...

— У Нізкох-бы; возік лішняга сена, каб не пазычаць у другіх...

Лагода засмяяўся.

—Навошта вам тое сена? Каня-ж на зіму не трымаеце, звычайна... Пры гародах, кажыце... Чаго саромецца. Абрэзалі—няхай узнагароджваюць...

— Або ты не шкадуеш калгаснае зямлі?—Яна-ж цяпер і твая,—упікнула Домна, адхіліўшыся ад начыння.

— Мая...—не спадабалася Васілю:—прашу толькі не кпіць у вочы Я ўсю вам магу перадаць... Вось Павал бачыў сёння, што я дастаў ад калгаса...

Намерыўшыся ўдакорыць зяця за яго гарэзлівыя адносіны да калгаса, Лявон пакінуў гэта і з цікавасцю запытаў:

— А што такое?

— Дзендзібер гэты даўгавязы, Сніпіч, біцца сёння кідаўся да мяне. Узбеглі знянацку каровы на канюшыну,—падохлі-б яны, трэба было мне брацца іх выганяць на пашу!—дык згледзеў і з папруцінаю на мяне. Без дай прычыны так таўхануў, што... Аж яшчэ які знак над вокам... Бачыце!

Старыя падышлі да зяця і ўважліва прыглядзеліся.

— Та-ак, гэта ўжо па-свінску зрабіў Юстын... Можа хіба ты яго?...

Лягода гнеўліва перапыніў цешчу.

— Павал няхай скажа, калі мне не даўяраеце. Зяць, наогул, я бачу, вам лішнім становіцца.

Лявон, прысеўшы каля Васіля, мігам устаў, выхапіў люльку з губ, дакорліва вырачыўся:

— Нну-у, а гэта закід да чаго?.. Можа не праўда, што і сам добры певень?..

— І казаць нічога нельга...—падала з мыцельніка Домна.

— Трэба думаць, што казаць,—зазлаваўся Лагода.

Потым махнуўшы гарэзліва рукой, як-бы кажучы гэтым, што не варта гутарыць са старым, павярнуўся да Паўла. Той гіранічна сачыў за ганарлівым шваграм.

— Вось скажы, Павал, як-жа мне ўсё такі быць з гэтым жулікам, Сніпічам, выбачай?.. Хоць ён... ну, і таварыш табе, але—прахвост, даруй мне за рэзкі сказ... Ці-ж маўчаць? Каб другі раз паправіў? Га-а? Як па-твойму? Я думаю, што ты пасведчыш, калі я на суд перадам? Га-а?

Павал спакойна глядзеў у зманныя вочы швагра.

— Я пры завязцы не быў... Хто вас ведае, каторы вінават... Калі толькі Юстын—то ён мо' і пагарачыўся неўмеру, таўхануўшы. Але тут я цалкам прыпісваю віну табе: пара навучыцца бліжэй да сэрца прымаць агульную справу... А ў цябе гэтага няма. Ты не шануеш калгаснага дабра, Васіль. Забываеш, што, па-мойму, табе ўступаюць, як...

Лагода нервова затупаў па хаце, увесь трасучыся ад раздражэння Паўлавай гутаркай.

— Як каму?—насцярогся ён, і дадаў:

— Мо' скажаш: як злодзею?.. Забойцу?.. Падпальшчыку?.. Навошта намякаеш?

Пры гэтым ён ад злосці ўздрыгваў, нервова махаючы рукамі. Яго вочы заблішчэлі халодным шкляным святлом. Ён раптам спыніўся перад шваграм, хапіў яго за штрыфель і застыў на месцы. Старыя Перагуды спужана павярнуліся ў іх бок, чакаючы далейшага.

— Астынь, Васіль!—палажыў Павал руку на Лагодава плячо: —Недарэчы гарачышся!... Як былому хутараніну, калі хочаш ведаць... Ды... антысовецкаму чалавеку, к таму-ж...

— Хутараніну!.. Антысовецкаму, кажаш?—прашыпеў ён, звёўшы твар у драпежлівую грымасу.

Яго рука выпусціла Паўлаў піджак.

— Ху-тта-рані-ну! Ну, што-ж няхай выкідаюць!—дзёрзка выгукнуў ён.

— А Волька, тае-ж думкі?—холадна падаў Павал.

— Волька-а!.. Пля-аў-ваць мне-э!..

Але ён не асмеліўся выказаць усяго, што набегла на язык... Быццам аплявуха зазвінела ў галаве—прагучэла:

— Трэба, Васіль, кожны крок узважваць перад адказным рашэннем. А ў цябе гэтага нестае. Ты ва ўсім чалавек аднаго настрою хвіліны... толькі гэты настрой пусціў глыбока карэнні ў мінулае... І ёсць людзі, якія перашкаджаюць іх табе вырваць... Апамятайся покуль не позна...

—Кінь, швагер! Ты мяне не перастроіш... Я маю свой розум... Думаеш, я малы хлапчук?..

—Тады чаго прыходзіш са мной радзіцца наконт выпадку са Сніпічам? Годзе!.. Больш ні слова!..

Павал адвярнуўся к акну

—Ах, табе не падабаецца, што я прышоў у бацькаву хату? Абясславіў цябе?.. Я ведаю, вы ўсе мяне зненавідзелі... Бывайце!..

Лагода крута сарваўся с места і выбег з хаты.

—Шалёны!—сказаў Лявон.

—Табе не варта было ґаварыць наперакор, Павал,—пашкадавала Домна.

—А што цацкацца з ім? Гэты шал з яго выб'юць...

З двара пачулася гучная размова: у вешніцах Лагода стыкнуўся з Петрусём, на запытанне якога:

—Чаму-ж не пагуляў даўжэй?

Знарочыста, каб пачулі ў хаце, адрэзаў:

—Куды-ж хутараніну з комуністам.

І паспешна завярнуў на гасцінец.

—Чым вы пакрыўдзілі Васіля?—насцярогся Пятрусь, увайшоўшы ў хату.

Павал ўсміхнуўся. За яго адказаў Лявон.

—Знойдзеш ты з ім лад... Кінь, ці варта спагадаць... А той скажы, як сябе адчувае, Каніца, бач? Нябось грозіць Паўлу?..

Павал халодна ўсміхнуўся. Чакаў, што скажа Пятрусь. Той, было ўжо віддаць, знаходзіўся пад уражаннем гутаркі з Каніцамі, якія паспелі яго нацкаваць супроць брата. Але спакойны Паўлаў настрой спаралюшаваў Пятрусёву хісткую нервовасць. Ён далёка не ў тым тоне, у якім памыкаўся на хаду, праказаў:

—Разбярэшся тут. Можа Паўлу і не варта было так рэзка...

Той жа з гарачкі гаўкнуў...

—Ці ты зразумееш што ў сабачым брэху; з гарачкі ён, ці не...—адмовіў за Паўла Лявон.

Пятрусь сярдзіта ўтаропіўся на бацьку.

—Навошта вам, тата, так казаць...

—Хі-хі-хі! Ліха яго не возьме—пераживе твой цесць... Думаеш, не дастане трохсот пудоў жыта! Чатыраста, добра Павал кажа!.. Каб столькі хоць раз урадзіла наша поле, колькі ў яго яшчэ леташняга, а мо', нават, і залеташняга. Каму казаць! Ведама... Вось чалавекам скнарнасць авалодвае... За каласок гатоў другога абязвечыць... Хіба не было прыкладаў? Гэта цяпер яму звязалі рукі... Як-бо то! Робіць хоць бы і Паўлу гэткія закіды:. „Нечэсны“. Азірніся раней на сваю чэснасць. Чэсны!.. Крамная чэснасць... На іншага, сапраўды, узяў-бы за каўнер ды за парог... Кулаччо паганае!...

Па меры гутаркі стары Перагуд усё больш разгарачаўся, абурана тупаючы каля прыпечка і сурова азіраючыся па хаце. На яго ўзбуджаным ад гневу твары, выступалі чырвоныя плямы, па ўсім целе прабягалі рэзкія дрыжыкі ад хвалявання. Ён несціхана то вымаў люльку з губ, то зноў браў яе ў рот. Змоўкшы, падышоў к вакну і ўглядзеўся ў шызы змрок адвячорка:

—А яшчэ тая... Люця... твая... як прыдзе, то прынясе з сабой гутаркі... Звязаліся, наліха, нечага сказаць...

—Не клапаціцеся толькі больш за другіх... Звязаліся!—неўзлюбіў Пятрусь, прыняўшы бацькавы слова за вызаў сабе.

—Бацька праў...—падтрымаў старога Павал.

—Дык што-ж, мо' вяліце разлучыцца?.. Га-а? Нябось і з вамі мірыцца не лёгка, я бачу...

Домна засвяціла газоўку і паглядзела на Пятруся, які злосна глядзеў на хату, у прагал між бацькам і братам.

—Не шкадуй ужо так цесця...—парадзіла яна.

Пятрусь замаўчаў. Маўчалі ўсе.

Павал выкарыстаў паўзу і вышаў з хаты. Цёплае надвор'е абдало яго пахам палёў. Багаты перажываннямі дзень адышоў у нябыт. У яго нутры адкладалася заспакоенасць, роўнавага. Закарцела ўбачыць Яніну, каб падзяліць з ёю хараство надыходзячай ночы. Яна, Крэмень, яксці раптоўна пакінула яго пасля інцыдэнта з Каніцам. Сёняшняе яе выступленне на сходзе ячэйкі яшчэ больш падняло Яніне аўтарытэт у яго ваччу. „Так, яна была права“,—прапусціў Павал у думках мо' дваццаты раз пасля растання з Янінай. „І так добра, што яна прысутнічала пры інцыдэнце з Каніцам“. У яго нутры закалыхалася цёплае прагнае пачуццё таварыскай даверлівасці к Яніне. Ахоплены ўздымным настроем, пакорны гэтаму пачуццю, ён смела закрочыў напрамкам да всёкі.

Праз дзесяць хвілін ужо апынуўся каля хаты, у якой Яніна кватэравала. Цёмныя кусты бэзу ў палісадніку затулялі акно Янінінай бакоўкі. Азірнуўшыся па вуліцы, Павал лёгкім скокам падняўся на лаўку пры плоце і разняў рукамі бэзавыя галінкі. Праз акно было відаць: лямпа на рагу маленькага століка асвечвала лісты разгорнутай кніжкі ў Яніных руках. Злёгку нахіленая галава выдавала яе ўважлівасць. Белая маркізетавая блузка з глыбокім горсам ападала брыжамі на лёгкую маладую пакатасць грудзей, агаляючы жамчужнае цела. З-пад таго-ж краю выступалі непрыкрытымі яе стройныя рукі. Час ад часу Яніна адкідала правай рукою ападаўшыя на

вочы густыя пасмы чорных валасоў. Павал падаўся бліжэй да акна, схаваўшы голаў у лісце, і памкнуўся пазваць Яніну, але ў гэты момант галінка всыкаўзнула з яго аслабелых пальцаў і гучна хвасянула па шыбах акна. Яніна ў раз патушыла святло. Павал чуць-чуць заўважыў, як апала за акном фіранка і, дакараючы сабе за неасцярожнасць, апусціўся на зямлю. У суседнім двары забрахаў сабака. Павал адышоўся к двару Янінінай кватэры і, як на злосць, угледзеў пераступаўшага парог з сянец высокага, усяго ў белым мужчыну. Гэта прыкрая акалічнасць зблытала яго меркаванні выклікаць Яніну на вуліцу.

Ён адышоўся на сярэдзіну вёскі, за хату, пастаяў некалькі хвілін, узіраючыся ў тое месца, дзе мелася быць Яніна акно, і разуверany, павярнуў да бацькаўскай хаты.

Ідучы, Павал адчуваў у душы млявую пустату, і пачуццё мулкага нездавальнення перашкодзіла пераключыцца на іншыя пытанні. Але недалёка ад дому ён, нечакана для сябе, апынуўся думкамі ў Менску, на заводзе. Яркімі карцінамі праплылі перад ім цэхі, станкі, знаёмыя постаці і твары майстроў, рабочых, тэхнічнага персанала. Пачалі выступаць адкладзеныя ім меркаванні, планы, розныя разлікі і дапусканні. Павал адчуў сябе ў палоне настойлівых клопатаў, знайшоўшых яго ў далёкай вёсцы і напомніўшых аб сваім існаванні.

Каля вешніц ён на момант прыпыніўся, аглядзеўся навакол, пасля цішком прайшоў у двор. І, вось не паспеў па двары зрабіць трох крокаў, як пачуў ззаду сябе стрыманы сыгнальны кашаль. Павал спыніўся і проста павярнуўся к вуліцы. На вешніцы узлазіла, перакідаючы нагу, Люцяя.

— Павал?——запытала яна раўнадушным голасам.

— Я. А вы адкуль, Люця Адамаўна?

— Забягала да суседзяў па справе,—зманіла яна.—Ужо спаць?—зазірнуўшы Паўлу ў вочы, спыталася братавая.

— Думаю.

— Шкада ночы... Вот пагода,—крутнула Люця галавою, падняўшы вочы к небу.

— Ноч цікавая.

Яго негаварлівасць, звязаная з перарванымі думамі крыўдзіла Люцю. Яна думала аб прычынах абыякавасці да яе з боку Паўла „З-за бацькі, пэўна, няйначай“, падумала, вагаючыся, ці працягваць гутарку з шваграм, ці кінуць яго і ісці спаць. Люці не хацелася ўпускаць слушнага моманту. У яе вушах гучэў напамінак Каніцы зрабіць спробу пасярэдніцтва. Адам не саромеўся пры дачцы асудзіць сваю занадтую гарачлівасць. Факты казалі за тое, што лепш паступіцца гонарам, як трымастамі пудоў... ды яшчэ з прыбаўкай. Пераступіўшы парог сваей хаты, ён ужо гатоў-быў варочацца да Перагудаў на перапросіны Паўла. Ды гэтаму перашкаджала Яніна Крэмень, якую ён пакінуў у сватавай хаце... І Адам прыпаручыў гэта Люці. Цяпер яе брала за жывое, што каторы раз ужо бязлітасна разбіваецца ў шчэпкі яе манеўр.

— Вы злуецеся праз бацьку і на мяне, Павал Лявонавіч?

У яе голасе прагучэла выбачальнасць, роўная з ахвярнасцю.

— Я, асабова? Няма прычыны...

І Павал памкнуўся ісці. Заглушыўшы пачуццё прыкрасці, мяжуючае з абразаю, Люця нагнала яго недалёка ад дзвярэй, і хапіўшы за

руку, рашуча затрымала. Гэта яе фамільярнасць і дзёрзкасць была зусім неспадзяванай для Паўла.

— А далей што?—суха запытаўся ён.

— Мой бацька вас перапрашае, Павал Лявонавіч. Не злуйце, прашу, на яго,—амаль крыкнула Люцыя і так блізка паднесла сваю галоў да Паўлавай, што абдала яго твар гарачым подыхам.

— Праз вашага бацьку дазвольце нам не гаварыць...

У вокнах хаты знянацку бліснула яркае святло запаленай паперкі. На зямлі, каля іх ног, лягла паласа праменняў, на якой матнула некалькі разоў засаб велізарная цень Петрусевай галавы. Следам пачулася трывожнае запытанне:

— Хто тут у двары?... Лю-цця-а?

Павал не даў адгучэць братавым словам, як бразнуў клямкаю. Люцыя кінулася да вешніц.

## XXIX

Васіль Лагода вярнуўся ад Перагудаў прыцемкам. Усю дарогу да „Кудравага Ясеня“ ён прайшоў, не азірнуўшыся на бакі, ні назад. Галава была мэрам-бы наліта волавам. Ён памацаў рукою месца, якім стукнуўся аб стырчаку. Гуз патаўсцеў і зрабіўся больш чуллівым пры датыканні пальцаў. Васілёва нутро напоўніла вострая пякучая злосць на Сніпіча, на цесця з свякроўю, на Паўла і на ўсё, што ён у гэты момант змог ахапіць думкамі. Рабілася моташна і балюча: ён натужліва шукаў прычыны, выпадку, каб хоць на кім ці на чым спагнаць сваю злосць. Дакараў сябе за тое, што тады нічым не адплаціў за штуршок Сніпічу. „Не я буду, калі не спаганю за ўсё“...

У стане крайняга абурэння Васіль адамкнуў дзверы і ўвайшоў у хату. Адсутнасць жонкі адгукнулася ўспышкай гнеўнага нездаволення. Але ён у наступны момант нібы забыў пра Вольку. Знянацку зірнуўшы, ў люстэрка Васіль затрымаўся і, вытрашчыўшы, як з перапуду, вочы здзіўлена разглядаў свой твар. Не ў меру разданы ўдаўжкі, твар выглядаў мярцвецка бледным, аж зялёным. Лагода сумятліва забегаў па хаце, шукаючы ў пячурцы, на гратаўцы і ў шуфлядцы якое-колечы чыстае анучкі. Нідзе нічога не пападалася пад рукі, тады ён сярдзіта сарваў з вешалкі ручнік, зачэрпаў конаўку вады, намачыў кавалак палатна і шлёпнуў на лоб. На імгненне скрывіўся, а пасля з палёгкай уздыхнуў. Кампрэс не толькі разагнаў боль у галаве, а, быццам-бы, утаймаваў унутры завіруху злосці, сполаху і крыўду на сваю падатлівасць. Весялей зірнулі вочы. Захацелася каб чаго кіслага, рэзкага, ну, хоць-бы гурка, або капусты. Зірнуўшы на печ, успомніў пра жонку. Ужо вечарэла, а яе няма. Ён прачыніў акно, пралез у яго чуць не па пояс, паглядзеў навакол і прыслухаўся: з-пад хляўца несліся галодныя піскі запёртае свінні. Дзіва. Вочы не натраплялі на Спевака. Няўжо ён прытуліўся дзе-колечы ў кутку і моўчкі ляжыць. Ніколі з ім гэтага не было. Спевак пачуў-бы гаспадарову прысутнасць, каб быў дома. Але-ж дзе ён дзеўся, у такім выпадку? Хутчэй-бы з'явілася Волька, тая-б унесла якую-колечы яснасць. Дзе-ж яна такі дзелася? Начаваць сабралася ў калгасе?

Хутка бліснула калючая падазронасць: яна гэта знарок спаганяе яму крыўду. А раз так—гэтага нельга спусціць ёй... Няхай толькі з'явіцца.

Лагода вылез з акна, зачыніў—у хаце было цёмна. Засвяціў газоўку. Хвіліну пастаяў, пасля рашыў даследваць у печы. Засланка была халодная, але нібы апякла Васіля. Ускіпеўшы ад гневу к Вольцы, з прыціскам вымавіў: „Значыць, яна не паліла сёння ў печы. Вунь яшчэ якая навіна! Скора, сапраўды, ёй не патрэбны будуць ні муж, ні хата... Калгас заменіць усё“... Засланка з бразгаценнем прытулілася да закураных цялешнікаў. Кавалак гліны глуха стукнуў аб прыпек скаціўся на зямлю. Не зважаючы на гэта, Лагода схапіў газоўку і ўспешкі, ганяючы вычварныя цені па сталі, па печы, вышаў у сенцы, Шэсць важкіх крокаў—далей каморныя дзверы. „На снедание сала і на вячэру сала. Глядзіш,—за тыдзень і кубельчык апарожніш. А жонцы ні ў галаве... Калгас усё пакрые...“ Рука таўханула дзверы—зашчапка адказала зычным бразгам. „Што-ж за-ліха?“ Пахілены ўзрок улавіў замок на прабоі... Ага-а. За левым вушаком, у прарэзе, ляжыць ключ. Шорпат рук прабег з гары да самага долу—няма. „Ведаю—яна пачала браць з сабою ключ. Каб гаспадар не адрэзаў лішняга кусочка сала. Што за новыя ўводзіны!“

Злосць ахапіла яго ўсяго. Ён нават не мог рушыць з месца, быццам прыліпшы да зямлі. У галаве ўсё змяшалася ў адзін камяк.

У гэты момант пачуўся раптоўны, незвычайны стук дзвярэй. Уляцеўшы з двара вецер загасіў газоўку.

— Васіль!—гукнула Волька, павярнуўшыся да хатніх дзвярэй.

Зрабіўшы пару крокаў, яна нечакана наткнулася на рушыўшага з месца мужа,

— Во-ой,—міжвольна крыкнула з перапуду.

— Хто цябе збіраецца ўхапіць?—сярдзіта прабурчаў Лагода.

— Я думала...

— Ты думала... да поўначы ўсе недзе думала... Ты брала ключ ад каморы?

Волька апынулася ў хаце. Мацаючы па коміну рукою, шукала запалак.

— Я ключа не брала... Можа ты, забыўшыся, палажыў сабе ў кішэню... Пашукай лепш...

— Палі агонь...

Ён з разгону ўскочыў у хату, стаў побач і моцна стукнуў газніцаю аб прыпек. Волька запаліла запалку,—засвяціла газоўку.

— А ты чаму сёння заленавалася ў печы прапаліць? Эканомію на абедах спаганяць маеш?... Давай есці.—Прагучэла ў Волькі над самым вухам.

Яна разгублена зірнула на мужа.

— Бяры сала... а не, вунь, я малака прынесла... з калгаса... І сваё стаіць у мыцельніку на лаўцы...

Момант памаўчаўшы, Васіль адышоў да стала. Прысеў і задумліва падаў...

— Вось скора праз калгас і зварыць не будзе чаго. Нясі малако...

— Мне не пакідай,—сказала яна, ставячы на стол адной рукой гладышок, а другою газоўку.

— Вось чым калгас плаціць за працу,—паказаўшы на гуз, паскардзіўся Лагода.

Волька схамянулася—вытрашчыла з перапуду вочы.

— Пакажы, пакажы адно,—схапіла яго за галаву:—Хто-ж гэта? Якім чынам?

Лагода расказаў жонцы гісторыю сутычкі з Снінічам і заключыў:

— Думаў з братам тваім парадзіцца, як быць, дык... толькі непрыемнасці набраўся... Перагуды...

Волька здзіўлена стаяла на адным месцы. Сцераглася гаварыць: мужаў узбуджаны настрой перасцярагаў ад лішніх гутарак, але крыўда за брата, у паводзінах якога Волька ніколі не бачыла вялікае віны, узяла верх. Асцярожліва, змякчаючы да ветлівасці голас, яна праказала:

— Ты дарма, Васіль, на Паўла не маеш ласкі...

Той, як сядзеў, дапіваючы малако, так раптам адштурхнуў ад сябе гладыш, які з грукатам зваліўся на лаву, пусціўшы раўчук малака. Ускочыў на ногі і, стукнуўшы па стале кулаком, крыкнуў.

— Але! я таго і чакаў. Братава сястрыца!... Вядома, што ва ўсім віновен Лагода... Так, Лагода... І ў тым, пэўна, што звязваўся во-а з гэткімі... як сама...

Ён паказаў рукою на Вольку, ледзь не ткнуўшы пальцам у нос, пасля сярдзіта адапхнуў заслон і намерыўся ісці. Стук у акно прыкаваў яго на месцы. Захоплены знячэўку, Васіль з хвіліну не мог павярнуцца да акна. Яго выручыла Волька, смела запытаўшы:

— Хто там?

— Адчыніце... гэта я... Адам...

— Не засунута... чакайце-э...

Лагода спешна падышоў к парогу, але не паспеў пераступіць яго, як стукнулі дзверы і перад ім вырас Каніца.

— Праходзьце, дзядзька!—папрасіў Васіль.

— Выбачайце, што позна... Каня завёў на пакошу і думаю—зайду, спяць—пайду назад, а не—наведаю...—вытлумачыў Каніца выбачальным, неўласцівым яму голасам.

— Сядайце!

Васіль вярнуў на месца ўслон. Волька выкарыстала гэта, каб выйсці ў сенцы. Каніца і Лагода пачалі нешта шаптаць. Падазраючы сакрэты, Волька знарок замарудзіла з падушкамі на ложку. І тут пачула.

— Я да цябе, Волька, маю справу!...

Зваў Каніца.

— Да мяне?—перапытала недаверліва Волька, увайшла ў хату і спынілася ў мыцельніку.

— А чаму-ж, думаеш, да цябе не можа быць справы?

— Ну, ну—слухаю вас... Кажэце...

Каніца нерашуча устаў. Падазрона падумаў „ці не ведае чаго? Нешта вельмі лагодна адзываецца“.

— Справа ў тым, нябога—як-бы шукаючы слоў, працягнуў ён:— што ў нас з Паўлам надоечы вышла маленькае непаразуменне. Ен табе скажа, як і што... я вінаваты... Ды мо ўжо і сама чула. Папрасі, галубка, каб ён не злаваў на мяне... Я пагарачыўся залішне... Мала што бывае... Ды яшчэ тады, калі чалавек у душэўным разладзе... Добра-а?

Волька чакала ўсяго, толькі не гэтага.

Баючыся не пэўным адказам пашкодзіць брату, яна прамаўчала.

— Табе, бачыш, дзіва, што ў мяне магло з Паўлам атрымацца.

Лісьлівая ўхмылка на хвіліну бліснула на Каніцавым твары. Вочы разбегліся ў масляністым позірку, Але хутка ад гэтага не засталося і следу.

— Я сам дзіўлюся з сябе: так, здаецца, добра ўсё ішло і раптам, на табе, сарвалася,., Павал гатоў падумаць, што мо“ я нешта супроць яго маю, а сапраўды, нябога, ніякае крыўды... Намёку на яе... Чуеш, Волька?

Гутарка аддавала востраю неабходнасьцю. Каніца, здавалася, вымагаў ад Волькі, загадваў ёй, а не прасіў, хоць і стараўся надаць голасу фальшывую ветліваць.

— Угледзеўшыся з Паўлам, я... —нерашуча паабяцала Волька.

— Або табе гэта цяжка зрабіць?—ушчунліва сказаў Васіль...

— Не пабягу-ж мо“ цяпер, ночу, ды не...—недасказала Волька, будучы няпэўнай у тым, што муж не ўсшалее ды не наможацца, каб яна ішла зараз-жа да бацькоў...

— Ды не, не... пэўна не ў гэту хвіліну.

Каніца пытальна азірнуўся на Лагоду. Той нервова затрос галавою і апусціў вочы,

— Я думаў сам, але, хто яго ведае; Паўла, бач,.. Будзе лепш, калі ты... Можа заўтра, можа... Зробіш, Волька?

— Паспрабую—няпэўна адмовіла яна каб не даць поваду касіцца на сябе мужу.

— Глядзі-ж!—Дзякую!... Цяпер пайду спакойна спаць...

## XXX

— Я правяду, дзядзьку... А ты лажыся, калі хочаш, спаць.—Волька перш не хацела лажыцца, пакуль не вернецца Васіль, потым рашыла ў ложку пачакаць. З гэтай прычыны яна не загасіла газоўку, а паставіла яе за гаршком на прыпеку, каб менш пакінуць святла ў вокнах, і прылягла. І як не намагалася каб не заснуць, але ўжо праз хвілін дзесяць моцна храпела.

Яна нават не чула даволі зычнага сквілу Спевака, які аднекуль з‘явіўся і пачаў бразгаць клямкаю ў дзвярах.

Васіль правеў Каніцу чуць не да самае вёскі, паспеўшы дарогаю навярнуць горы скаргаў і ўсякай хлусні на Паўла, на цесця, нават на сваю жонку. Яго варожасць да Перагудаўскае сям‘і паставіла ў некаторую няёмкасць самога Каніцу, які пачаў стрымліваць разышоўшагася Лагоду. Але Васіль не мяняў сваёй ацэнкі Перагудаў і пры ёй развітаўся з дзядзькам Адамам.

Толькі выпусціў іх з думкі, калі, падыходзячы к дому, мімаволі вярнуўся да Сніпіча. Гуз даваў сябе адчуваць. Зноў яму зарупела напаткаць Юстына дзе-небудзь аднаго і спагнаць крыўду. Было-б нядрэнна, каб ён цяпер, ночу, абходзіў поле. Як тыгра Васіль наскочыў-бы на яго і тады-б... Ён аж глытнуў сліну ад гэтае думкі Спыніўся тут-жа і, не дышучы, больш хвіліны ўзіраўся ў сталёвую муць ночы. Нішто пе падавала адзнакі на прысутнасць каго-небудзь жывога. Сніпіч не мог цяпер рабіць абходу. „Ён спіць... І пэўна, смачна спіць у сябе ў пакоіку пры калгаснай канцылярыі. Яшчэ мо, пры адчыненым акне“, схамяніўся Лагода. І пад націскам гэтае думкі мігам злажыўся ў яго дзікі план замаху. Думка гэта да таго ўзмоцнілася, да таго прыняла выразную форму цвёрдага намеру, што Лагода цалкам апынуўся ў яе абдыме... Быццам кімсьці падганяты, Васіль дабег да двара, спрытна перескочыў вешніцы і ўмігхапіўся за клямку. З гарачкі наскочыў на Спевака, які з перапуду голасна заскавытаў, кінуўшыся к боку.

— Шш-а, каб ты здо-ах!... Паш-оў!—гыркнуў Лагода на сабаку і ўляцеў ў хату.

У хаце крыху ўмерыў гарачку, астыў, але з увішлівасцю патушыў газніцу, у поцемку перапрануў шэрую куртку на рудую падраную жакетку, абмацаў у кутку ядлоўцавую палку і з ёю падышоў да стала. Падышоў і на момант застыў. Глянуў на ложак, дзе спала Волька. Прыслухаўся. З напружанай асцярогаю, весь абярнуўшыся ў навостраны слых, ён заматаў рукамі па стале, каля хлеба, пад абрусам і следам украдкаю апусціў руку пад стол. Хутка вярнуўся і на пальчыках, украдліва вышаў з хаты.

Спевак ціха, перапрашальна заскавытаў яму насустрач, баючыся падысці блізка...

— Пільнуй, сцерва, хаты, а то атрымаеш ад мяне за збегі. Што, табе дрэнна тут?

Ураз і сабаку, і жонку, фальварак і ўвесь свет засланіў яму Спініч. Яго вобраз стаяў перад вачыма Лагоды, перамяняючы вачавідкі выгляд, паставу палажэнне.

Летняя ноч танула ў водырных пахах збажыны, скошанае травы, канюшыны. Навакола яго разліваліся гаммы начных гукаў, якіх Лагода зараз не чуў і якімі ані не цікавіўся. Яго ўзрокі напруджана свідравалі змрок ў напрамку калгаснага цэнтра. Ні будынкаў, ні гайку было не відаць, але ён інстынктыўна адчуваў месца іх знаходжання і ўпэўнена ішоў нацянькі.

На гасцінцы, куды узвяла сценка, Лагода на момант спыніўся, думаючы кудэю лепш прайсці—дарогай, што ляжала ўправа, ці сцежкай, што забягала ў калгаснае жыта злева. Нечакана рашыў ісці наўпрост, каб выйсці на сцежку, і ў міг схаваўся ў высокай густой збажыне. Жыта хвастала яго па твары, чуць вільготнымі цяжкімі каласамі, путала нагі, засыпала нейкім едкім пылкам вочы, але ён рашуча адмерваў крокі, бязлітасна топчучы тоўстыя сцяблы, аж яны трашчэлі. Сцежкі не было.

Васіль ступіў на яе, калі жыта разам абарвалася і перад ім ляжала пакоша. Тут-жа у шэрым змроку, яму здалося, намеціліся сілуэты калгасных будынкаў, якія праз дзве хвіліны стаялі перад ім.

Канцэлярыя, пры якой жыў Спініч, узіралася ў яго цямнейшымі ад сцен чатырохкутнікамі адчыненых акон. Ці гэта здаецца? Лагода прыглядзеўся—сапраўды, адчынена было толькі тыльнае акно. Ён уявіў сабе адчыненымі і суседнія. „Добра спіць, шэльма...“ Ён увішліва забег к тыльнаму боку агарожы і ў момант бахнуў у шамкае гарбузенне. Пачакаўшы. пакуль заціхне шоргат лісця, падняў нагу, адну, другую, і вось рука лягла на баку, абмацаўшы ў кішэні дзяржанне нажа. Раптам з-за плоту пачуўся рэзкі брэх сабакі. Лагода з перапуду адхінуўся назад і тут-жа пачуў грузны скок з плота пазнанага Спевака. Следам прагучэла над самым вухам з акна:

— Дзядзька Нічыпар?...

На момант, які здаўся доўгаю гадзінаю, Лагода прысеў потым усхапіўся, паткнуўся у адзін і другі бок і, трапіўшы на незаткнутую ў плоце дзірку, вылез з гародчыка. Далей ён з усёй сілы драпануў бегчы, з перапуду страціўшы арыентоўку і завернуўшы паўз калгасныя будынкі на адлегласці не больш поўганоў. Зусім недалёка ад яго расла і шырылася трывога: хтосьці гукаў, нечага стукалі дзверы і рыпелі вешніцы. Тут-жа пачулася засаб тры стрэлы і на перабой забрахала некалькі сабак. Гэта трывожная завіруха гукаў, здавалася

Лагодзе, як страла, ляцела яму на пярэсцікі, будзячы шэрыя прасторы. А ён, як мага, бег, моцна сапучы і баючыся азірнуцца каб не стрэцца. вока ў вока з жахліваю пагоняю; пасля быццам нехта сілком адвярнуў яго голаў назад, і Лагода ўбачыў тут жа каля сваіх ног, Спевака. Сабака не адставаў ад гаспадара ні на крок—бег па слядах і спагадліва бурчаў. З заду ўсе прадметы танулі ў шэрым змроку. Няўціхшыя гукі паднятай трывогі рабіліся цішэйшымі. Тады Лагода адчуў, што спіраўшая яго грудзі дыхавіца быццам-бы крыху адлягла, стала лягчэй бегчы. Усё-ж аслабіць бег ён баяўся.

Жаданне як хутчэй схавацца дзе-колечы, у жыце, за грудком, ці ў гайку, хвастала, як пугаю. Вось нага яго шаснула каласамі жыта; у наступны момант некалькі калючых каласоў хвасянулі па твары так балюча, што ён затрымаўся на месцы. Сабака віўся пры мяжы, не хочучы залазіць у жыта. Васіль аглянуўся навокал сябе. Падазроная цішыня скаланула яго мацней, чымсь нядаўняя трывога. Не адгінаючыся, ён ускочыў у жыта і адбегся з гоні, Спевак, бягучы ўслед за ім дражніў яго сваім назойлівым скігатам.

— Пшоў, каб ты здох!—не ўцярпеў Лагода, замахнуўшыся рукою на сабаку:—я табе пакажу ўжо... Хто цябе паслаў за мною... В-во-ан, каб...

Той скочыў ў бок. Чуць не з-пад самых Васілёвых ног выпархнула з жыта патрывожаная птушка. Лагода збянтэжана бахнуўся на зямлю. Яго рука інстынктыўна хапілася за кішэню, у якой быў нож „Што такое“, кальнуў жах: „Дзе нож“? Нервова абмацаў вакол пояса яшчэ раз—нажа не было. Па целе прабеглі колкія, рэзкія дрыжыкі. На момант яго пакінула прытомнасць. Потым, як іскраю, апаліла думка:

— Няўжо я нож згубіў... У гародзе?

Працягнуў яе далей

— А што, калі Юстын знайшоў і цяпер цішком вядзе за мною пагоню? Магчыма ён недалёка... каля жыта...

Спалох перарастаў у жах. Не, яму не выйсці адгэтуль жывым! Яго манеўр выкрыт і зараз, во, нечая рука, схопіць яго для заслужанай расплаты. Мільганула збавіцельная думка аб Паўлу—але следам згасла, не знайшоўшы пад сабою апоры; яе змяніла вострае западозранне на Вольку, і тут Васіль завагаўся;—абясчулены страхам, ён магаўся ўспомніць: Волька чула яго зборы, падсачыла, як ён браў нож, як украдкаю вышаў з хаты. Ішла па слядах, за Спевакам.

„Ах, вось ён зноў стаіць з боку, высокі, як конь, і насцярожліва азіраецца назад, адкуль Васіль увайшоў у жыта“. Лагода выхапіў з-пад галавы руку, прылажыўся вухам к зямлі. Усхваляванасць перашкодзіла выдзеліць хоць адзін акрэслены гук з хааса нечуваных ім да гэтага гукаў, піскаў, зыкаў. Рыўком ён падняўся на ногі і выраўняўся слупам. Павеем ветру сагнала даўкі цяжар. Васіль выразна улавіў брэх калгасных сабак. Лагода праверыў, ці пры ім Спевак. Лішні і шкодны да гэтага, раптам сабака здаўся надзейнейшым абаронцам: Васіль адчуў да яго гарачую ласку. Ветліва памахаўшы над ім рукою пахваліў:

„Вось можа і лепш, што ты наскочыў... Толькі ўсяго,.. А то магло-б, крый чаго...“ У кожным разе—прабівалася ў адзнанні—па крайняй меры, ён цэлы і ў бяспецы, а ў выпадку іншага павароту падзей—цяжка рашыць, чым-бы ўсё яно скончылася... „Сніпіч мог-бы... з дапамогаю... брр.“,

Каля паўгоняй ён прайшоў, як з завязанымі вачамі. Потым шырэй адплюшчыў вочы.

Управа ад яго цёмнаю сцяною стаяла града знаёмага гаю.

Васіль крута звярнуў у гай, прайшоў густым хмызнячком і апынуўся на гасцінцы. На полі нікога не было. Да Лагоды вярнулася некаторая роўнавага. Хутка ўвайшоў у свой двор. Волька, відаць, ужо не спала, бо зразу падняла галаву і пільна паглядзела на акно. Лагода адступіўся за сцену. Было неяк прыкра ўваходзіць у хату: ён не чакаў, каб жонка так рана прачнулася. „Што ёй сказаць, калі...“ З неўтаймованаю падазронасцю Васіль адчыніў дзверы.

— Ты толькі што вярнуўся з праводзін Каніцы?—запытала Волька, ўстаючы з пасцелі.

— Н-не-э!... Што-ты, Волька, я выходзіў на двор,—схлусіў Васіль, заспакойваючым голасам, не азірнуўшыся к ложку.

## XXXI.

Пераплёт цікавых здарэнняў, уцягаўшых Паўла Перагуда ў свой вір з першага дня яго прыезда ў вёску, не засланяў, аднак, сабою яго думак і клопату аб перарваных у Менску абавязках намесніка дырэктара завода. Прадпрыемства, якому Павал аддаў звыш васьмі гадоў свайго жыцця, напружаных стаіанняў, шчырага дбання і гаспадарчых захадаў, ўрывалася ў яго нутро і ўздымала руплівыя раздумы. Праз доўгі тэрмін свайго знаходжання на заводзе, перш у якасці рабочага, пасля майстра-зборачнага цэха і, нарэшце, намесніка дырэктара, ён да дробязі вывучыў усе нутраныя спружыны заводскага жыцця, усе слабыя месцы ў арганізацыі рацыянальнай пастаноўкі працэсаў вырабу, забяспячэння сыравінаю, выкарыстання рабочых прапаноў. Не адлучаючыся з завода доўгімі гадзінамі пасля сканчэння працы, Павал не знаходзіў хвіліны, якая-б заставалася незапоўненай думкамі, планамі, меркаваннямі аб удасканаленні работы прадпрыемства. Тыя велічэзныя дасягненні, якія завод „Сталінец“ здабыў (пры яго дапамозе так сама), ператварыўшыся з невялікіх, поўкустарнага тыпу, майстэрань у вядучае прадпрыемства з асваеннем складаных станкоў, з канвеерным спосабам працы ў паасобных цэхах, не ўкалыхавалі Паўла. Уласцівай адзнакай яго натуры з'яўлялася пастаянная цяга да новых удасканаленняў свайго завода. Яму прыемна было бачыць апошнія ўстаноўкі прывезеныя або з-за рубяжа, або з асвоеных на нашых совецкіх прадпрыемствах. Павал не мог без хвалявання адносіцца да размоў, у якіх чулася заспакоенасць, расхалоджванне. І, апынуўшыся пасля двух гадоў работы, у вёсцы, ён трывожыўся за акуратную наладжанасць і бесперабойнасць у працы „Сталінца“.

Павал уяўляў напружаную працу над новымі аб'ектамі вырабу, якія вымагаюць высокай кваліфікацыі, дакладных вылікаў для асваення многалікіх тэхнічных працэсаў над дэталямі... Павышанага тыпу прадукцыя, выходзячы ў свет, будзе ганарыцца дасканалаю маркаю „Сталінец“. Завод апынецца ў шэрагу лепшых, узорных прадпрыемстваў вялікае пролетарскае краіны...

Ахоплены палкім натхненнем, Павал адчуў у сваім нутры настойлівую, напружаную цягу перанесціся ў Менск і аддацца з новымі сіламі жыццю прадпрыемства.

Захоплены марамі аб сваім заводзе, ён не прыкмячаў часу, не цікавіўся ім. Можа дваццаты раз механічна павертаючыся пры дзверах

ды каля вулічнага акна, ён змерыў невялікі разгон бацькавай хаты. Павал не прыкмячаў увішлівай тупатні старой маці, тут-жа, во, за прачыненымі дзверамі, у сенцах.

У двары корпаўся з дзеравякамі бацька. Удары сякеры ў яго руках зліваліся ў адно з стукам, які даносіўся з прыгумення, дзе цеслі канчалі пабудову новае хаты. Павал так прывык да аднастайнага стука цeслярскіх інструмантаў, што яны прымаліся яго слыхам, як арганічная нота ў суладдзі музыкі летняга дня.

Нечакана гэта глыбокая самазамкнутасць Паўла абарвалася: на двары ўзнялася раптоўная гутарка старых бацькоў, у якой прагучэла яго імя. Павал раптам спыніў хаду і паглядзеў у акно. З двара, матнуўшы скураною торбаю, вышаў лістаносец. Бацькі, з ветлаю ўхмылкаю на тварах, праводзілі яго ўзрокамі за вугал хаты. Лявон далікатна, як крохкае шкельца, трымаў у руках пераданы лістаносцам канверт.

— На, занясі Паўлу.

Домна, бяручы, азірнулася на акно і падняла руку.

— Ці не табе толькі, Павал?—запыталася яна.—Можа, крый чаго, патрабуюць у Менск?

Бацькі, падышлі да акна, чакаючы Паўлавага адказу. Яны крыху адпусціліся сэрцам, калі, прачытаўшы ліст, сын з несхаванай ухмылкай паглядзеў на бацькоў:

— Ну, як?—не стрымалася Домна.

— Нічога... яшчэ пабуду,—суцешыў ён бацькоў.

У гэту хвіліну да іх данесся з-за вешніц рэзвы вокліч.

— Павал у хаце, дзядзькі?

Ста́рыя спалохана азірнуліся: каля вешніц стаяла вясёлая Яніна Крэмень.

Старыя адказалі прыветлівымі ўсмешкамі.

— А без Паўла баішся ў двор прайсці?—пажартаваў Лявон.

— Зусім не, дзядзька Лявон,—адказала Яніна, спрытна пералезшы вешніцы.

— Вунь, у акне,—кіўнуў галавой стары Перагуд і пасачыў, пакуль яна прывітаецца з сынам.

Домна, накіроўваючыся ў сенцы, усцешліва пазірала на Яніну.

Павал высунуў галаў у акно, каб падаць Яніне руку. На акне ляжаў прачытаны ліст. Заўважыўшы, Яніна перавярнула канверт, паглядзела на штэмпель станцыі адпраўлення.

— Ёсць цікавыя навіны?—паглядзела яна Паўлу ў вочы.

— Ліцейную перавялі надоечы ў новае памяшканне... Перамога! Павал радаваўся. Яніна бачыла, што пісьмо прынесла Паўлу сапраўднае здавальненне.

— Вось добра, што я прышла к часу,—усміхнулася яна.

— Гэта як разумець?.. Заходзь у хату...

Яніна порстка сарвалася з месца. Павал пачуў з сянец яе гутарку з маткай:

— Можа шклянку халоднага малачка? Чым хата багата!—запрапанавала старая.

— Дзякую, піла!—адмовілася Яніна.

—Добрае, галубка, малако, як цэд.... Лішняя шклянка не пашкодзіць... Ты ўжо не гэтакая поўная, каб...

Зацікаўлены гутаркаю, Павал прычыніў злёгку дзверы:

Яніна знячэўку ўздрыганулася: недапітае малако выплюхнула з шклянкі часткаю на дол, часткаю на блузку.

—Ах ты... Ну, нічога...

Старая Перагудзіха падала ёй хутчэй адперазаны фартух.

Праз хвіліну ўсе апынуліся ў хаце. Павал запрапанаваў Яніне заняць месца каля покутняга акна. Яна ахвотліва прысела. Лявон падлажыў пад палок сякеру і голасна ўздыхнуў.

—Што з табой? — напалохана запытала Домна і з дакорам дадала:

—Вось ад цёмнага як возмецца за сякеру, ці за рыдлёўку, дык не пакіне, пакуль не застогне... Якая натура ў чалавека... Перадыхнуў-бы, ды пасля ізноў, а то...

—А хто за мяне зробіць? — незалюбіў Лявон, апёршыся плячыма на прымураку ў печы: — Будзем сядзець — есці ніхто не прынясе.

Потым звярнуўся да Яніны.

—Ведаеш, нябога, здаецца, і гаспадаркі тае, як курыцы стаць, а клопату не абабрацца.... І тое трэба, і тое неабходна... А я ўжо такі ўдаўся, што не цярплю, каб заставалася абы як... Хочацца бачыць усё на сваім месцы, у толку... — І так цэлы век як запомню, мілая. Толькі бацька паставіў на ногі, як быццам прывязала да сябе зямля... А толку, думаеш, з яе... Каб не ён, во, Павал, ні за што-б не вывелі хаты. Куд-ды-і!

Лявон махнуў рукой.

—Завецца — гаспадарка! А што, спытай, яна мне дала на старасць? Вось, можа...

Стары замяўся. Пасля выпытліва паглядзеў на Яніну, на Паўла; вагальным тонам дасказаў:

—Вось можа ўжо калгасы палепшаць справу... Бо калі-б ішло па бывалашнему, то не выбраліся-б сяляне на раўнейшую дарогу...

Яніна перакінулася з Паўлам намеклівымі позіркамі. На яе твары выступіла шырокая, ветлая ўсмешка. Лявон з цікавасцю чакаў адказу на свой закід.

—Аднак, дзядзька, я бачу, што вы адчуваеце карысць ад калгасаў. І правільна... Павінны-ж былі бачыць, як справа стаіць у калгасе „На варце“. Ці-ж параўняеш з леташнім? Правіцца, расце, удасканальваецца... Кожнаму гэта відно, але вашы ружанаўцы надта закаранелыя людзі. Быццам іх нехта прывязаў да сваіх шнуркоў. А яшчэ на вуха шапнуць крыху сёе-тое падобныя Каніцы, дык...

—Ну яно-ж вядома. Вёска, сяляне... — уступчыва сказаў Лявон.

—Сяляне, вёска... Сяляне-ж, бачыце, працуюць у „На варце“, ды ў іншых калгасах...

Яніна рашыла паставіць перад Лявонам пытанне рубам, цікавячыся, што той адкажа.

—А чаму-б, дзядзька, вам не падаць прыкладу для адстаючых аднавяскоўцаў? Узялі-б і падаліся ў калгас... Не думаю-ж, каб вы да канца засталіся аднаасобнікамі... Напэўна і Павал мае-ж думкі.

Лявон шырэй раскрыў вочы, прыўзняў вышэй галаву. Кінуўшы выціраць міску, адвярнулася на хату Домна. Некалькі секунд панавала ціша. Раптам Лявон сарваўся з месца і зрабіў два рашучых крокі да Яніны.

— Усё можа стацца, таварышка. Сёння так, а заўтра... Думаеш, дачушка, я не прыглядаюся да калгасных спраў? Жывы чалавек і крыху разбіраюся ў гаспадарцы...

Відаць было па вясёлых вачах, што Лявон не прыкідваецца.

—Ён у нас вельмі адважны! — пагіранізавала Домна.

—Гы-гы-гы! — гнеўна перадражніў ён жонку: — Адважны! А чаго цябе палохае калгас? Яшчэ якую капу ці снапоў пяць-дзесяць нарэжаш за дзень... А колькі табе трэба на пракорм? Вельмі ўжо саграе цябе твая гаспадарка...

Лявон нездаволена пакруціў галавою.

— Вось, чуеце, як з гэткімі меркавацца. Ты стараешся ісці, а цябе трымаюць за полы... Тое самае і Пятрусь... То гэта-ж хоць старая жанчына — не дзіва, а то — малады, сучасны чалавек і... за маткай... Або маці за ім — разбярэшся тут...

Ён зарагатаў маладым, здаровым, звонкім смехам.

Яніна умільна глядзела на старога Перагуда, які паказваўся досыць цікавым і характэрным чалавекам. Яго здаровая, без каліва рысавання і без прымесі хітрасці развага дазваляла пакладацца на Лявона ў самых сур'ёзных рэчах.

Яніна дапусціла ў думках па адрасу Паўла новы дакор за яго слабую напорыстасць на бацькоў, дзякуючы чаму яны ўсё яшчэ папаўнялі сабою аднаасобніцкую частку ружанаўцаў. Безумоўна, заключала яна, што запіс Перагудаў у калгас адыграў-бы значную ролю ў пераломе ружанаўскіх аднаасобнікаў. Настрой у вёсцы прыкметна змяняўся—недавер'е да калгасаў слабела. Восень абяцала рашучы зрух аднаасобнікаў. Пры наяўнасці падобных умоў—перагудаўская ініцыятыва адыграла-б вялікую ролю. Лявонава гутарка прыходзілася так дарэчы.

Яніна з выразным намёкам паглядзела на Паўла, які нутром адчуў яго сэнс. Узнятая Янінаю гутарка рабіла своеасаблівае, моцнае ўражанне і на яго. Не гледзячы на частыя факты падкрэслівання бацькамі свае прыхільнасці да аднаасобніцкай, старой формы гаспадарання, у перагудаўскай сям'і знаходзілі пэўнае месца думкі і меркаванні пра паступленне ў калгас. Дасціпны і разбітны Лявон выступаў у гэтай справе на першае месца. Яніна цяпер выразна гэта адчувала.

Павал добра разумеў гэта. Ён з асаблівай асалодай сачыў за разгортваннем размовы. Захопленая ёю Яніна казала далей:

—Вы-б, дзядзька, як галава сям'і, утлумачылі-б Пятрусю. А не то-б і націснулі злёгку. Магчыма, ён таго і чакае. Сабе думае, бацька маўчыць, чаго-ж самому рупіцца... Га-а?..

—А што-ж, нябога, думаеш, часамі карысна і па-твойму... Хоць чалавеку хацелася-б цішэй ўсё гэта, ладам... Ці-ж, разумееш, добра, калі ў хаце паднімаецца верлах? Але...

—Што але?—адступілася на хату Домна, сурова кінуўшы мужу пару сухіх слоў.

—Толькі не пасварыцеся,—сказаў спакойна Павал.

—Дык вось-жа-ж,—паказаў нездаволена Лявон пальцам у мыцельнік:—ты ёй адно, а яна табе другое. Знаток вялікі... Маўчала-б лепш,—папярэдзіў ён Домну.

Тая пайшла на козыр: яе ўзяло за жывое.

—Чаму так маўчала-б? Ці я ў хаце не сем'янін? Валацуга якая?...

Адчыніліся хатнія дзверы і на парозе вырас Пятрусь.

—Добры дзень!.. Ці можа ўжо і вечар...—прывітаўся ён з Янінаю.

—Напэўна я перабіў вам гутарку?—запытаў тут-жа, не адрасуючыся проста ні да каго.

—Чаму так? У нас, думаеш, змова якая?—пераняў яго Лявон.

—А чаго-ж вы так усе насцерагліся, як толькі я пераступіў парог?

—Табе здалося, сыне.

Бацькаў сур'ёзны тон зрабіў належнае ўздзеянне на Петруся: ён злёгку паціснуўся, зазірнуў, што робіць маці і стаў пры лаве, поўзваротам да стала. Некалькі хвілін маўчаў, як-бы вывяраючы Яніну прыхільнасць да таго, што хацелася паведаміць.

—Выбачце мне, таварышка, я хацеў-бы ў вас папрасіць аднае рэчы... Можна?

—Чаму-ж не, калі ласка!

Пятрусь на секунду разгубіўся, не ведаючы, як пачынаць. Раптам неспадзявана запытаў:

—Вы майго цесця, Адама Каніцу, напэўна ведаеце?

„Што яму далося пытаць гэтага? Цудны!“—паціснуў плячуком Лявон і паглядзеў на Домну, якая таксама здзівілася сынаваму запыту.

—Крыху знаёмы,—жартаўліва, але насцярогшыся адмовіла Яніна.

—Яго сельсовет пакрыўдзіў... Чатырыста пудоў яму не падняць, таварышка... Неможна так...

У цеснай хаце адразу зрабілася цясней і душней. Так недарэчна прышлося гэта, што ўсе змянілі свае паставы, настрой, выгляд. Нейкая няёмкасць, вязкая, як глей, лягла на кожнага з прысутных. Лявон дэманстрацыйна застукаў люлькаю аб прыпек, гнеўным мармытаннем выказваючы сваё нездаваленне. Домна аж асела на лаўку. Павал нервова заперабіраў пальцамі па стале, сціскаючы губы.

Першую хвіліну несамавіта адчула сябе і Яніна. Але тут-жа яна ўгледзела, што сям'я не спачувае ўзнятаму Петрусем пытанню, а гэта дазваляе і ёй не саромецца ў яго вырашэнні. Усё-ж яна не хацела даваць рэзкі адказ, тым болей, што Пятрусь скмеціў неспрыяльную да сябе агульную насцярожлівасць і збянтэжана завадзіў вачыма.

—Вы ручаецеся за свае словы, Пятрусь Лявонавіч?—справодзячы гэта запытанне нязлослівай усмешкай, паглядзела Яніна на Пятруся.

Ён не зразумеў адразу, куды дзяўчына хіліць, і замяўся з адказам. Калі-ж падабраў словы, то Лявон апярэдзіў сваім дакорлівым закідам, у якім прагучэла важкая бацькава воля:

—Менш бы дбаў аб цесцю, то яно-б лепш было.

—Шкадуе небараку,—нечакана далучылася маці.

Зведзеныя ў адно бровы абярнулі Петрусёў твар у камяк адухоўленае злосці. Вочы звузіліся ў вузкія прарэзы.

—А што ён вам дрэннага зрабіў?

Лявон не ўцярпеў.

—Больш, як добрага.

Дагэтуль маўчаўшы Павал рашыў умяшацца ў спрэчкі, каб надаць ім больш выразны наварот.

— Няўжо ты думаеш, Пятрусь, што сельсовет гэта так, з простае прыдзіркі да Каніцы абклаў яго кантрольным? Падумай!

— Тота-ж!—уставіў Лявон.

— Бывае і так!—запярэчыў, нервуючыся, малодшы Перагуд.

Павал усхапіўся з месца. „Ці то Пятрусь пераконаны ў сваіх словах, ці толькі наперакор яму?“

— Як табе не сорамна гэта казаць! Ты адно разбярыся ў сваіх словах. Хіба яны не нашаптаны тваім цесцем? Апамятайся, Пятрусь.

Рашучы тон Паўлавых слоў, іх цвёрдая, як сталь, укорлівасць, шчырасць, з якімі Павал выразна адчаканіў кожны гук, вочавідкі збілі Петрусёву задзірлівасць. Ён глуха, але выразна, адчуў нястойкасць і няправату сваіх вывадаў і, не знайшоўшыся, якім чынам лепш усяго прызнаць сваё паражэнне, вінавата, няёмка вышаў з хаты. Яго правялі да дзвярэй чатыры пары вачэй.

— Напэўна прышоў ад цесця,—падумаў Лявон.—Вось гэта ўсё давядзецца пераламаць,—пагразіўся ён, гледзячы на Яніну.

— Мне здаецца, што гэта не так трудна...

За акном загутарылі цеслі. Пятрусь праводзіў іх дваром да вешніц.

Гасцінцам прайшла чарада кароў. Старыя Перагуды абое вышлі з хаты.

Яніна пакінула месца на лаве і адступілася на хату. Украдліва пацягнуўшыся, яна многазначна праказала да Паўла:

— Гэткія яны, справы.

— Выправяцца...

— Пастарайся...

Яна накіравалася да дзвярэй.

— Можа правядзеш?—лагодна запытала з парога.

Павал цёплаю ўсмешкаю даў згоду, адчыніўшы дзверы і прапусціўшы Яніну наперад.

## XXXII.

Калі яны вышлі на вуліцу, Пятрусь сядзеў на прызбе, задумліва пазіраючы ў бок вёскі. Ён не адвярнуўся нават на брата з Янінаю, быццам-бы не заўважаючы іх. Толькі пачакаўшы, пакуль яны адышліся на значную адлегласць у бок пастаўнікоў, ён паглядзеў на іх, падняўся і вярнуўся ў хату.

Тупаючы ўзад і ўперад, Пятрусь натужліва передумваў нядаўнюю гутарку. Прыкры асадак ад яе даваў адчуваць невыразным гнятлівым настроем.

„Навошта было падымаць гэта пытанне? Толькі раздражніў Паўла дарэмна. І гэтай дзяўчыне зрабіў непрыемнасць. Добрая дзяўчына.

Неасцярожна. Неабдумана. Яно сапраўды—хто можа за цесця паручыцца?... Павал праў, калі...“

Ён углядзеўся туды, дзе павінны былі ісці Павал з Янінаю. Іх было не відаць. Але ён у думках вызначаў сабе той шлях, — вузкую, роўную сценку—па якой, безумоўна, яны накіраваліся да Войны. Па дарозе, западозрыў Пятрусь, Яніна зацята распісвае Паўлу яго бацькоў і яго брата. Напэўна, яна не шкадуе цёмных фарбаў для яго, Петруся. А Павал пад яе намовамі складае яшчэ больш адмоўныя погляды на брата...

Гэтыя дапусканні, ускладняючыся, цягнулі за сабою Петрусёву пераацэнку адносін да Каніцы. Ён ужо дакараў самога сябе, чаму надало яму як раз перад зваротам дамоў наведваць цесця? Не было-б гэтага, усё-б ішло па іншаму. А то...

Для Паўла з Янінай не асталося пасля іх гутаркі з Петрусём нічога гэткага, што-б было няясным. На Петруся трэба націскаць больш напорыста і ўмела. І гэта належала ўзяць на сябе Паўлу, пакуль ён дома. Абое быццам умовіліся на гэтым вывадзе, адначасна азірнуўшыся з-пад паплавоў на хату Перагудаў.

Спусціліся за горку ўжо з іншымі думкамі і пачуццямі. Ціхі цёплы адвячорак надаў ім вясёлага настрою, навёў на інтымныя перажыванні. Яны з асалодай сузіралі летняе хараство. Маладою рутай глядзела атава. Доўгаю гнуткаю палосаю цягнуліся пастаўнікі між пераплётаў сядзібнай агарожы. Канец іх хаваўся дзесці за шэрымі гумнамі. У зялёнай густойградзе алешнікаў ды вербалоза блішчэлі адточанай сталлю большыя ды меншыя лункі вады спакойнае ў гэтых мясцох Войны. Парнае, пахкае паветра выточвала салодкую ўтому. Война вабіла да сябе свежаю празрыстаю вадою. Запозненыя шчыглы, пархаючы па верхавінах старых алешын, звонка шчабяталі. У малочна-блакітным небе ружавелі залатыя каснікі апошніх сонечных праменняў.

Некі час ніводнае з іх, ні Павал, ні Яніна, не разнялі вуснаў. Маўклівасць больш выразна выяўляла адчуванне ўзаемнай блізкасці, шчырага яднання, непадкупнай прызнальнасці. Слоў, здавалася, было не патрэбна—яны-б перашкаджалі, астуджвалі-бы цеплыню ўзвышаных перажыванняў,

І як-раз у момант, калі думка абаіх кранула гэтае пытанне, у Яніны нечакана вырвалася з вуснаў:

— Мяне прыцягвае да сябе Война.

Кінутым на Паўла ўзрокам запытала яго думкі. І яны ўдваіх абвялі поглядам навакольныя прасторы.

— Купайся, я павартую.

Гэтай парады было досыць, каб Яніна тут-жа павярнулася ад Паўла і ўбежкі накіравала к месцу, дзе з-за зялёнага абрамлення выступала шырокае акно бліскучай вады.

Павал мераў кароткімі крокамі невялічкі адрэзак сценкі ад каржастае алешынкі на абочыне да абросшага мохам каменя на загіне. Вёска пасылала к яму гучную гамму рознастайных гукаў, якія, зліваючыся з песнямі начных птушак, поўнілі паветра радаснай музыкай. Але мелодыяй гэтай музыкі не заглушыць было звонкіх усплёскаў.

— Як лёгка і прыемна! — пачуў ён яе голас, празвінеўшы куды больш ласкавай нотай, чымсь звычайна.—Дай пераменімся ролямі.

— Будзе позна.

— А куды табе спяшыць?

Павал завагаўся.

— Ну, ну, рашай смялей! — ветліва піхнула яна таварыша ад сябе.

Павал адступіўся двума крокамі далей, чымсь вымагаў Яніны штуршок. І яшчэ міг Яніна сузірала б яго на месцы, але раптоўная гутарка, выбухнуўшая з недалёкай адлегласці, адцягнула на сябе іхнюю ўвагу. Яны ўслухаліся, павярнуўшыся да вёскі і вывелі з многагалосай пераходзіўшай у сварку размовы, што яе крыніцаю не з'яўляецца добрасуседская сустрэча вясельных гасцей.

Дапусканне іх не падманула.

Наблізіўшыся на паўгоняй да месца гутаркі, Павал першы пазнаў Люцін голас. Яніне з кожным крокам наперад усё яснейшым выдаваўся хрыпкі тэнар Каніцы.

— Знаёмыя!—пагіранізаваў Павал.

Яніна засмяялася.

— Часта нас з імі выпадак зводзіць.

Яны праводзілі кожны сказ вясёлым, жартлівым смехам.

— Шш-ш, Павал,—спахапілася Яніна:—брыдка так:... Пачуюць...

Сапраўды, быццам іх рогат быў таму прычынаю — недалёкая крыклівая гутарка знянацку абарвалася і, Павал з Янінаю угледзілі як мужчыны з жанчынаю сарваліся з месца і паўзплоццю шмыгнулі да гумна; трэці-ж з гутарыўшых крута завярнуў пад простым кутом, накіроўваючы на іх. Яны замарудзілі хаду, а пасля спыніліся. Хутка абое пазналі ў ім старшыню калгаса. Апошні, напэўна, таксама пазнаў іх, бо ішоў з адкрытаю усмешкаю, вось-вось збіраючыся разняць вусны і штосці паведаміць, або запытаць. На адгоне каля двух сажняў, выходзячы на сцежку з канюшыннае атавы, ён голасна праказаў:

— Чулі вы?.. Добры вечар!

— Вечар добры!.. Што, гутарку?

— Добрая гутарка,—сварка сапраўдная,—азірнуўся старшыня калгаса на бліжэйшае гумно, за рогам якога мігнулі дзве постаці.

— Думаеце хто? Ён, ён... Твой... ну,як ён табе прыходзіцца... Каніца... з дачкой... вось дык тып! І чаму бок, мы з ім дагэтуль за панібрата?—раптам пераключыў старшыня калгаса гутарку на дакор, неасцярожліва звернуты да Яніны.

Дзяўчына зрабіла суровую міну.

— Тут не адна яна,—уступіўся Павал за таварышку.

— Я гэта разумею і сам. На ячэйцы, бачыце, колькі разоў ужо ў нас паднімалася аб гэтым пытанне, а вынікаў—во-а... Як бачыце, ніхто не адважыцца адразу...

— У чым справа, кажы?—падагнала Яніна.

— Скандаліць, бачыце...

— Прычына?

— Незначная зусім. Я рашыў кампенсаваць твайго бацьку вунь тым кавалкам пастаўніка.

Старшыня калгаса, гледзячы на поле, паказаў рукою у бок канца агарожы.

— А Каніца ўпіраецца... усё яшчэ спадзяецца, што мы пастаўнік поле і... пакінем яму... Наіўны чалавек!

— Нахабны,—дадала Яніна.

Павал зацікавіўся.

— А цяпер хто ім карыстаўся?

— Калгас, зразумела.

На Паўлавым твары лягло неўразуменне. Ён крыху памаўчаў, потым рашуча праказаў:

— Па-мойму, гэтай блытаніны не варта рабіць.

Старшыня калгаса не чакаў падобнага заключэння: ён адразу пачуў сябе ніякавата. Толькі праз хвіліны дзве недаўменна запытаў:

— Чаму не варта?

— Ды вельмі проста. Гэта ўсёроўна, што звесці іх за чубкі.

— Няхай толькі ён паспрабуе падняць руку...

Старшыня калгаса азірнуўся, ці не слухае іх хто небудзь, і дадаў:

— Трэба скончыць з ім гуляць у цацкі.

Ён не стрымаўся, каб ізноў не паглядзець на Яніну. Яніна матнула галінкаю алешыны перад старшынёвым тварам.

— Што ты сапраўды, чалавек, накінуўся на мяне. Быццам я апякаюся над Каніцам... Чуў-жа, мо', колькі мне давялося дамагацца, каб яму даць цвёрдае заданне... А гэтыя дадатковыя сто пудоў. Я, нарэшце, сама не вазьму ў толк, адкуль яно бярэцца...

Яна абярнулася да Паўла.

— Ты чуў гэта?

І падняла абодвы плячукі. Праз хвіліну паскардзілася:

— Самі паставілі Каніцу ў гэткія ўмовы. Я не разумею, чаму, яму не знайшлося месца там дзе, яго браты па класу... Чым ён лепшы ад іншых кулакоў? Таму, што хітрэйшы, і сумеў абыйсці некаторых нашых таварышоў... страціўшых класавую пільнасць?

Старшыня быў захоплены неспадзеўкі, ён не ведаў што далей гаварыць на гэту тэму. Нервова патупваў на месцы, чакаючы слушнага моманту, каб сарвацца і пайсці.

Яніна спакойна заўважыла.

— Ну, добра аб гэтым пасля; згаварвайцеся, вось, з Паўлам як лепш зрабіць з гэтым куском зямлі, што ты намерыўся аддаць Паўлаваму бацьку.

— Цяпер ужо я і сам не ведаю, што рабіць. Магчыма — трэба пачакаць,—завагаўся старшыня калгаса: — Раз таварыш Перагуд не згодзен...

— А Каніца, кажаш, упіраецца?—пагіранізавала Яніна.

— Яшчэ з якім козырам! Столькі намахаў кулакамі, што ані рады Я думаў, чаго добрага, і заедзе.

— Кі-нь, таварыш! Спалохаўся... Вось у гэтым і бяда...

На днях пойдзеш сыскваць кантрольнае. Пабачым, што ён тады запяе. Няхай адно рызыкне замахнуць кулаком.

— А вы што-ж марудзіце?..—упікнуў Павал.

На дварэ ўжо добра звечарэла, і цёмнае кола змроку ўсё бліжэй падступалася да іх. На вёсцы, за гумнамі ды гародамі, заскрыпелі вочапы і вешніцы, пад цёмнымі каронамі дзярэў чуліся галасы ружанаўцаў якія гукалі адзін другога ехаць на начлег. У вокнах мігнуліся на некалькі хвілін сумныя агенчыкі і паступова, адзін за другім, пачалі гаснуць.

— Ды пакінуць так, а пашукаць у інщым месцы, — павярнуўся старшыня калгаса да Паўла.—А то мне трэба ісці... пакуль цемнатою дабяруся...

— Пашукайце дзе-небудзь.

— Не варта ўступаць. Хоць, я веру, хутка і сваю аддасць у калгас. . Праўда, Павал?

Яніна уважліва паглядзела Паўлу ў вочы.

— Што? Сур'ёзна?!—зацікавіўся старшыня калгаса, намерыўшыся пакідаць іх.

— Чаму-ж не сур'ёзна... Жыццё не стаіць на адным месцы... А Паўлаў бацька не глухі да яго заклiку...

— А пара ўжо,—згадзіўся ён, працягваючы Яніне руку.

Яны разыйшліся, і ўжо густая цемра лягла між імі тоўстаю сцяною як нечакана Паўла з Янінай нагнаў зацішаны вокліч:

— Таварыш Крэмень!.. Перагуд!. На хвілінку!.. Успомніў дарэчы...

Старшыня нагнаў іх пры самай агарожы, паўз якую недаўна прайшлі Каніцы.

— Ты мяне, Яніна, сваімі дакорамі толькі з глузду збіла. Ажно я забыў вам перадаць цікавую навіну...

Яны насцяragліся.

— Што? Можа?...

— Чулі?—апусціў на тон ніжэй старшыня калгаса.

— Ну, ну, давай!

— Мінулай ноччу хтосці замахваўся на Сніпіча.

— Замахваўся на Сніпіча?! — з прыціскам у голасе паўтарыла Яніна, уздрыгануўшыся ад абурэння ўсёй сваёй постаццю.

— Так... гадзіне а першай, бадай... Ён толькі што вярнуўся з абходу; раздзеўся і прылёг—у бакоўцы пры калгаснай канцылярыі... „Толькі пачаў драмаць", кажа́, „як раптам падняўся брэх пад самым акном. „Ен усхапіўся, аж хтосці, хутка залапатаўшы ў гарбузенніку, выбег з гародчыка, што перад вакном, і драпануў ўсцяж агароджы—толькі яго бачылі. Пакуль Юстын апрануўся ды выскачыў на двор—куды-ж дагоніш! Сабакі пабегалі вакол вакон будынкаў і годзе... Сёння раніцою каля вакна знайшлі нож...

— Так! Кулаччо не ўціхае, бачыце, — заўважыла многазначна Яніна.—Гэта значыць, што трэба быць больш насцярожаным... таварышы... Але цікава, адкуль гэта ідуць канцы?—задумалася яна.

— Юстын мае падазрэнне на аднаго... І гэта недалёкі ад нас чалавек...

— Хто менавіта?—не дала адумацца старшыні Яніна.

Той аднак не ведаў, ці зручна пры Паўлу ўспамінаць прозвішча яго швагра. Хоць яму некалькі і былі знаёмы адносіны апошняга да Перагудаў наогул. і да Паўла, у прыватнасці адносіны далёка не блізкай радняцкай цяплыні—усё-ж падцьвердзіць пры Паўлу Сніпічавы дапусканні ён не адважваўся.

— Можа Лагода?—падказаў Павал, які адразу прыпомніў Васіля і ўсю гісторыю між ім ды Сніпічам.

Старшыня калгаса быў выведзены з няёмкасці і смела сцвердзіў:

— Так, падазрае Лагоду... Гэта добра-а-я штучка!

— Трэба за гэту справу ўзяцца мацней... Так яе пакінуць нельга,— сказала Яніна.

— Ясна!..—згадзіўся старшыня.

Абмяркоўваючы вострую і карэзлівую навіну, Павал правёў Яніну да яе кватэры і на развітанні, цёпла пацісну́ўшы яе дробную, кволую руку, ён палажыў на цёплай шчацэ мяккі пацалунак і пакінуў адну.

## XXXIII

Познай раніцою, гадзіне а дванаццатай, сям'я Перагудаў, апрача Паўла, увіхалася на прыгуменні каля новае хаты. Сена было звезена, а жніво яшчэ не наспела, і яны рашылі прывесці да ладу раскіданае каменне, рэшткі дрэва ад пабудовы, трэскі. Лявон з Петрусём скочвалі к падрубе каменні, Домна з Люцяй збіралі трэскі. Пара крыўцоў толькі што разаслалі з левага боку апошні рад саломы і ўвязвалі пры шчытку доўгія арэхавыя пруткі.

Жанкі не міналі глянуць на страху кожны раз ідучы па трэскі, ці па бярвенні. Хата, якая збіралася прыняць іх у сваё новае, светлае, прасторнае памяшканне, нават растапляла даволі непадатнае на ўцеху Люціна сэрца. Домну ахапіла салодкае ўміленне. Яна знаходзіла вышэй-

шае здавaленне падчышчаць каля хаты прыгумень, наводзіць, бадай што, апошні раз лад. Яе падбівала на вясёлую, жартлівую гутарку, з якою Домна звярталася то да нявесткі, то да мужчын. Яна не зважала на тое, што Люця або адмоўчвалася, або выціскала з вуснаў сухія, часта ўразлівыя, жорсткія словы. Домніны вочы, запаўшыя глыбока ў вачніцы, поўніліся радаснымі слязамі. Яна часта іх выцірала рукавом зрэбнай сарочкі.

— Ну, вось, глядзіце мужчыны, ужо адзін бок і накрыты... Хоць-бы зажынкі справіць у новай хаце, сказала Домна, прыкмеціўшы момант, калі крыўцы перакладалі на другі бок пачатыя кулі.

— Якая ты шпаркая ў мяне,—пераняў Лявон.

А тут якраз і крыўцы загаварылі:

— Трэба кулёў падбавіць, гаспадару.

Гэта было нечакана ні для Лявона, ні для Петруся.

Яны збянтэжана пераглянуліся паміж сабою.

— Наўрад, ці цяпер у каго знойдзецца пазычыць. Дзе-ж там,— новае жніво на носе,—заключыў Лявон.

Пятрусь паглядзеў на Люцю, якая, збіраючы трэскі, уважліва прыслухоўвалася да мужчын. Лявон разгадаў яго намёк.

— А што-ж ты думаеш, — шапнуў ён сыну на вуха, адначасна назіраючы за нявесткаю:—у Каніцы гатовы астацца ад леташняга.

— Люця!—гукнуў ён нечакана для Петруся.

Тая падышла.

— Збегай, дачушка, да бацькі, запытай... а мо, часамі... паўкапы я думаю, хопіць? — яго вочы перш уперліся ўзрокамі ў сынаў твар, а ў наступны момант перакінулі пагляд на страху. Крыўцы чакалі адказу, штосьці раздумваючы.

— Паўкапы хопіць?—гукнуў да іх Лявон.

— Можа кулёў сорак, каб не скупіцца, — адказаў чорнабароды крывец: Мы-ж хочам, каб было не на тандэт, даём тоўсты насціл.

— Ну, пэўна-ж. Глядзіце, дзядзькі, каб адмыслова,—падаў Пятрусь.

А гэтым часам Лявон паўтарыў Люці просьбу да бацькі. Люця без вагання і затрымкі, ні-бы чакала гэтага, пакінула прыгумень. Домна здзіўлена паглядзела ей услед, пасля на мужа, таемна ўсміхнулася, але нічога не сказала. Яе думкі выявіў у сваей заўвазе сыну Лявон:

— Можа і ёсць у Адама, ды ці захоча ён даць пасля здарэння з Паўлам.

Пятрусь, нервова ўздрыгануўся плячыма і нездаволена, з укорам да брата, вымавіў:

— Павал заўсёды наробіць...

Рэзкім махам рукі Лявон не даў Петрусю дасказаць.

— Навошта Паўла ў гэта ўмешваць? Тут Адам вінаваты, цалкам.

— Адам усё-ткі? — не ўзлюбіў Пятрусь, хутка адышоўшыся да прыстаўленай к сцяне лесвіцы.

— Няма ў бацькі. Надоечы апошнія пусціў на падсціл карове,— сказала Люця вярнуўшыся.

Стары, аж ахнуў: бязвольна развёў рукамі і паглядзеў у бок Петруся, які таксама адразу пасмутнеў, неакрэслена пазіраючы на бацьку.

— Блага,—паскардзіўся ён крыўцам:—І вам працу сарвалі, і хата без накрыцця мусіць заставацца. Калі яшчэ будуць новыя кулі!

— Нам то нічога, мы знойдам сабе работу, а з хатаю—пэўна нядобра,—падаў сваю думку чорнабароды.

— Можа вам, дзядзькі, вядома, дзе можна, хоць частку дастаць?.. А ў іншым месцы рэштку. Што там значыць—трыццаць кулёў...—ведаючы, што з гэтага мала толку,—пытаўся Пятрусь.

Лявон ехідліва пасмейваўся з сынавай наіўнасці.

— Дзе ты ў голага шэрсці пазычыш,—прашаптаў ён разуверана самому сабе, не знаходзячы выйсця, і панёс скаргу Паўлу.

Павал як-раз знаходзіўся ў хаце, ён толькі што вярнуўся з поля, куды хадзіў з намерам угледзець Сніпіча. Але абагнуў весь калгасніцкі жытні палетак, прайшоўся ажно да самага гайка і нідзе на Юстына не наткнуўся. У калгас яму не захацелася наведвацца, каб сваім прыходам не адрываць людзей ад працы.

Калгаснікі ўжо рыхтаваліся да жніва і прыбіралі ў гумнах, падчышчалі прыгуменні, тачылі ды зубілі сярпы. Старшыня паехаў у горад па азадачаную яшчэ з вясны снапавязалку. А Юстын, думаў Павал, магчыма, выконваў яго абавязкі. Зрабіўшы гэткае заключэнне, Павал вярнуўся дамоў і сеў пісаць ліст дырэктару завода.

Бадай важнейшае, аб чым яму трэба было дапомніць, ужо мелася ў тэксце і аставалася папярэдзіць аб дні свайго прыезда ў Менск. Павал як-раз і задумаўся над тым, калі-б ён мог выехаць. Перабіраючы ў думках бліжэйшыя дні, ён адхіліўся ад стала і знянацку паглядзеў на дзверы. Цераз парог пераступаў бацька. Невясёлы выгляд старога звярнуў па сябе Паўлаву ўвагу. Павал пільна ўглядзеўся ў нездаволенага бацьку.

— Што ў вас, тата? Нешта вы занадта хмурны?

— Ат,—Лявон безнадзейна адмахнуўся рукою.

Потым, узяўшы люльку ў зубы, праказаў:

— Не шанцуе, сыне. Так хацелася пры табе ўвайсці ў новую хату, а тут, як знарок—перашкода...

— Трэба-ж было ўзімку, наліха мне, зрэзаць на сечку каля паўкапы кулёў. Усё праз мяне, старога недарэкі... Пятрусь нават папярэджваў—можа патрэбны будуць, а я... Ну, што ты парадзіш... Каб яна здохла, усё гэтай Падласай. А яна табе і не папалявала нават. Тфу, ты... А цяпер, вось, трэба канчаць хату, а саломы нізвання. І дастаць не ў кага... Вось бяда. Новае жніво на носе,—хто можа ўхаваць дагэтуль... Чуў ты, нябожа?

— Што-ж, давядзецца пачакаць новых...

— Так то яно так, сынку, але, бачыш, ужо застолілі, а пройдуць дажджы—яно ўсё засырэе, заплесняе... Адным словам—нядобра.

— То мо'б гонтаў дзе апытаць?—недарэчы запытаў Павал.

Лявон не ўтрымаўся ад смеху.

— Гм... ха-х...—дзе-ж ты, нябог, бачыў. Ужо-ж адзін бок накрылі саломаю. Ды, нават, каб і на гэта пайсці, то ў нас тут блізка гонтаў не знойдзеш. А да гонтаў, ведаеш, яшчэ цвікі... Не-э, дзівача... Салома трэба...

— Каб яно раней...—Павал быццам нешта ўспомніў і заварушыўся на месцы:—Я-б памог дастаць бляхі ў Менску... А цяпер цяжэй.

— Ды дзе ты захацеў—бляхаю... Вось калі!.. Гэта дарага... Клопату па вушы дастаўляць... Дзе-ж бачыў...

— Жыта прыдзецца раней жаць,—памаўчаўшы сказаў стары, пільна гледзячы на Паўла, нібы пытаючы, ці варта на гэта ісці.

— Чаму-ж, калі гэта не адаб'ецца на самым жыце...

— Ну, а якая-ж іншая рада?—разняў ён рукі, паварачваючыся да дзвярэй.

Павал спагадліва, адчуваючы сваю бездапаможнасць, глядзеў у сагнутую бацькаву спіну. Яму захацелася ўцешыць старога яшчэ раз і ён ужо намерыўся гаварыць, як раптам пачуў:

„Нно-а! Ан-ну-і-ж, малы!“ І следам пачулася гучнае тарахценне калёс.

Перагуды кінуліся да акна. Ад нечаканасці абодва ажно адхіснуліся назад і вытрашчылі здзіўлена вочы: з вуліцы заварочваў у двор высачэзны воз з кулямі. Каніца, асцерагаючыся, каб не зачапіць калёсамі шула ад вешніц, адхіляў канёву мызу крыху ўправа. На завароце бакавіца разложыстага воза моцна драпанула па струхлелай саломе капяжа, сыпнуўшы на землю шэраю пацярухаю. На момант у хаце зрабілася змрочліва—воз затуліў вокны, але хутка лінула яскравае святло, быццам яго вылучыла гэта правезеная маса саломы.

Лявона кранула жывое: ён затупаў каля акна, зашавяліў губамі, памкнуўся штосці сказаць сыну, але ў горле схлупіла духі ад невыразнага пачуцця ні то радасці, ні то здзіўлення, змешанага з трапяткім сполахам.

Каніца яшчэ не ўз'ехаў на прыгумень, як Лявон рухава сарваўся з месца і выбег з хаты. У сенешніх дзвярах пачуў зычны, урачыстуючы голас свата.

Лявон пусціўся ў подбежкі. Калі ён апынуўся пры возе, Каніца ўпэўнена адпускаў вяроўку пад білам, а Люця з свякроўю ўмільна глядзелі на нечаканы гасцінец. Крыўцы, памерыўшыся ісці дамоў, роўна выстраіліся, як для аддання гонару саломе, вывяраючы вачмі спецаў яе годнасць.

— Ай-да дзякуй-жа, сваце, дзякуй!.. Якая-ж нам знаходка!—зазіраючы ў твар прыгнутага к возу Каніцы дзякаваў Лявон. Ён рваўся, каб хоць якім знакам ці гэстам выказаць сваю ўдзячнасць Адаму. І ў захапленні непрыкмеціў, як адвязаная Каніцам вяроўка вужакай мерсканула па роўнай бакавіцы воза, а канец гладкага рубля, уціскаўшага кулі, строма шмыгнуў угару. Салома нібы жывая, заварушылася на возе, раздалася і Лявон толькі паспеў адступіцца, як крайні тоўсты куль грузна бахнуў на зямлю. Забыўшы пра ўсё, стары Перагуд быццам чакаў гэтага: разняў рукі і ўпаў на куль, абняўшы яго, як госця. Потым, пасіліўшыся падняць, закрактаў, але куль не даваўся.

— Пятрусь, памажы,—гукнуў стары здаўленым голасам.

Як-раз на прыгумень, узыходзіў Павал.

— Кінь, бацька, куль,—нечакана для ўсіх павярнуўся ён да Лявона.—Вам не патрэбен Каніцаў падарунак,—можа забіраць назад. Знойдзецца навошта купіць кулёў.

З усіх бакоў атакавалі Паўла здзіўлена-падазроныя ўзрокі.

— Гэта яшчэ што?—нема гукнуў Пятрусь, адмераўшы тут-жа ў бок Паўла некалькі размашыстых крокаў.

Лявон інстынктыўна раскінуў рукі, каб перагарадзіць яму дарогу, але той порстка нагнуўся над кучкай каменняў і ў наступны момант ёмка ўскінуў над Паўлавай галавою круглы тоўсты пяшчанік.

— Пя-атру-усь, с-сынок, апамятайся-а,—у адзін голас закрычалі старыя Перагуды.

З неўласцівай абаім рухавасцю, яны хутка з двух канцоў забеглі ў вузкую прагаліну між сынамі і разгарадзілі іх жывою сцяною.

— Пабойся-а бога-а... шалёны!..—кінула Петрусю ў твар Домна.

Лявон зніштажаючым паглядам пранізаў разгарачанага сына. Яго ўзрок да таго быў вострым і ўладарным, да таго колка дакорлівым, што Пятрусь адразу падаўся назад, апусціў руку; камень бахнуў на пару крокаў убок, заляскацеў па другіх. Ён адвярнуўся. Павал гіранічна ўсміхнуўся, паглядзеў момант на брата і адышоўся да вешніц.

Каніца, тым часам, апамятаўся ад замяшанасці, паглыбленай, і сумятліва, падаючы Люці кіўкамі галавы і рукамі розныя сыгналы, спяшаўся ўціскаць рубель. Раздражненая Люця паслухмяна, вярцелася вакол воза. Хутка пачулася з яе вуснаў:

— Едзем—хутчэй, тата, пакідайце гэта паганае кодла...

Пятрусь, як перацягнуты пугай, вёртка сарваўся з месца, дзіка выгукнуў:

— Люц-ця-а! Што-а т-ты роб-біш! Люцця-а!

І затросся ўсёй постаццю са скамечанымі кулакамі, быццам трасучы дзерава.

Але бачачы, што гэта на жонку не ўздзейнічае—яна завярнула ў вешніцы—кінуўся даганяць.

Напалоханыя яго выбрыкамі, старыя Перагуду паспяшылі за ім. Павал спакойна стаяў на месцы, перакідаючыся словамі з цеслямі. Ён хутка пачуў:

— Дык ты за бацькам? Ад мужа?

На вачах бацькоў Пятрусь з разгону схапіў аберуч Люцю за плечы і рыўком павярнуў яе да сябе.

— Пакінь мяне, п-пад...—крыкнула тая, затрапятаўшыся, як сініца ў сіле.

І не паспелі старыя падбегчы, а Пятрусь сказаць чарговае слова, як звонкі ўдар, лёгшы на яго шчацэ прагучэў да самага прыгумення.

Павал аж страсянуўся ад кальнуўшага яго абурэння на Люцю.

Пятрусь, хістаючыся, накіраваўся да агарожы і абвіс рукамі на плоце.

Да яго падбеглі старыя і сталі ўгаварваць ісці ў хату. Ужо аднялі былі ад плоту, як нечакана ён адпіхнуў абаіх і, павярнуўшыся к Паўлу, злосна прагукаў:

— Што ты нарабіў, Павал!..

Ён заківаў апушчанай галавою, шукаючы чагосці на зямлі. З пагрозаю пачаў шукаць вачыма, каб што ўхапіць у рукі. Лявон схапіў яго за руку, калі яна апускалася на тоўсты кол на прызбе.

— Пятрусь, супакоішся ты, нарэшце?

Да іх падышоў Павал.

— Ты што гэта, браце?

— Я не хачу з таб-бою...

Пятрусь закалаціўся, як утрапёны, і ад злосці заплакаў.

Лявона кранула. З яго дрыжачых вуснаў выпала:

— Праз цябе, Павалка, усё гэта...

Павал як стаяў, сочачы за братам, так ураз-жа павярнуўся і стрымана, але з крыўдаю, праказаў:

— Ах, значыць так!

Старыя не агледзеліся, як ён вышаў з двара. Лявон момант прастаяў, як непрытомны, пасля трапятліва гайдануўся к выйсцю з двара, кінуўся бегчы.

———

## XXXIV

На вуліцы, за вуглом хаты, Павал спыніўся. У двары чуўся бацькаў тупат. Ён абярнуўся, чакаючы ўгледзець выткнутую на вуліцу галаву старога. Вось ён клікне—чакаў Павал—змененым, ліслівым тонам. Сэрца не камень— у грудзях расплылася ціхая падатлівасць. Але бацька затрымаўся ў двары—у чым справа? Павал не адказаў на запытанне і накіраваўся па заплоццю. Вышаў на сцежку, якая вяла праз яравыя палі на калгасную сценку. Бадай, на тым самым месцы, дзе напаткаў стычку Васіля з Юстынам—хадзіла некалькі калгасных цялят. „Ці зноў толькі не з імі швагер?“—мігнула думка. Адчуў вострае нежаданне сустракацца. Бацькаў дакор цісnуў, як цяжкая ноша. Ізноў выпірала агідлівая постаць цапкай уласнасці. Калі-ж у іх адплюшчацца настолькі вочы, каб разгледзець хітрыя махінацыі гэткіх Каніцаў? Падлюга, якім манерам надумаў ён абыйсці! Аднак, памыліўся! І хапіла-ж нахабнасці пасля таго, як ужо быў выкінуты з хаты...

Павал ад душы засмяяўся, ажно пацягнула выпрастацца і ўдыхнуць на ўсе лёгкія свежага пахкага паветра. Ён узняў галаву—ззаду пачулася вясёлае: „г-га-а-га-га!

Азірнуўся—стаў.

— Ты куды гэта сабраўся?

Пытала Яніна—яна ішла з Юстынам Сніпічам.

— Цябе можна жыўцом украсці сярод белага дня.

Яніна была ў гуморы. Падышла і павісла ў Паўла на шыі.

Строга, спакойна ўхмыляўся Юстын. Яму трэба было хутчэй паспець у калгас: Павал быў праў, што ён астаўся за старшыню. Ён падпіхнуў ісці абаіх—сам пазадзе.

Яніна з Сніпічам уважліва праслухалі гісторыю з кулямі. Павал не хацеў разводзіць надоўга, але ўсё-ж хапіла мо' на двое гоняў; трэці прайшлі ў абгаворах расказанага.

— Вво-а, добра зрабіў!—шлёпаў па плячы Паўла Сніпіч.

Яніна згаджалася з Юстынам, дадаючы:

— Бач, дагадваешся, таварыш Сніпіч, к чаму ўсё гэта?

— Каб хістануць Паўла, зразумела... Хітрая кулацкая тактыка... Ну, але ад дзядзькі Лявона не чакаў таго...

Яніна прыняла сур'ёзны выгляд,

— Калі калгас пачынае жаць?

— Заўтра.

— Ад першага ўмалоту даць Перагудам кулёў.

— Што ты Яніна! Будуць казаць...

Павал адмоўна кіўнуў галавою.—Не трэ'...

— Няхай кажуць,—перарвала на слове Яніна...

Следам дадала:

— Хто і што будзе казаць? Гэта-ж не гасцінец...

— Тады добра!—Я перадам старшыні калгаса,—прыняў заданне Юстын.

Каб падвесяліць Паўлаў настрой, Яніна абняла яго стан і ўсмешліва вымавіла:

— А ты менш прымай да сэрца... Бацькоў тваіх я ведаю. Яшчэ ты не вернешся, як яны будуць чакаць, каб падзякаваць табе за правільны ўчынак.

— Го-а! Ты вельмі ўжо!

Павал нявыразна засмяяўся,

Яны далей абгаварылі нахаду некаторыя бакі невысветленага замаху на Сніпіча, пажартавалі, часткаю недарэчы, над Юстынам,— як аб'ектам кулацкай помсты, і спыніліся для развітання.

— Зачыняй добра вокны!—кінула Сніпічу Яніна.

— Трасцу, галаву сам наперад зломіць чымсць...

Ён паспешна пашоў у бок палеткаў. Хутка апынуўся недалёка ад калгасных будынкаў.

Павал з Янінаю завярнулі назад.

— Залаты чалавек для „На варце". Нездарма кулаччо выбрала яго сваей ахвярай... Па-мойму, цалкам можа замяніць старшыню. Вёрткі, спрытны, кемлівы. Паглядзеў-бы, як у яго людзі варушацца!

Яніна праверыла ўзрокам, якое ўражанне на Паўла зробіць яе атэстацыя Сніпіча. Павал якраз вярнуўся ў думках да Лагоды ў звязку з паўторным Сніпічам падазрэннем.

— Хоць мой швагер іншае думкі аб ім!—заключыў ён вострай ironiяй.

— Вось лепш не ўспамінаць яго,—папярэдзіла Яніна,—у калгасе ім вялікае нездавальненне. Кожны дзень усё больш гутаркі аб яго выключэнні. Калгаснікі сур'ёзна падазраюць яго ў замаху на Сніпіча... Цікава, чуеш, што адна калгасніца сцвярджае, нібы знойдзены пад вакном калгаснае канцэлярыі нож—яна аднойчы бачыла ў Лагодаў... У кожным разе гэты выпадак... Сніпіч сароміўся пры табе выказваць усё...

Яніна гутарыла, разглядаючы па абочынах сцежкі і зрываючы нахаду малінавыя званочкі куколя, рэдкія цюльпаны, ды трапятлівую мятліцу. Скончыўшы сказ, паглядзела на Паўла і абарвала гутарку, зразумеўшы, што Паўлу прыкра слухаць аб гэткім швагры, як Лагода.

Сцежка ўперлася ў поплаў, ад якога пачынаўся Перагудаў гарод. Абое разам прыпыніліся. Павал задумліва паглядзеў у бок бацькаўскіх будынкаў. „Трэба правесці да хаты Яніну"—рашыў ён, пaглядзеўшы на стройную талію таварышкі...

— Не думай, дружэ, а давай праводзіць мяне,—быццам вычытаўшы ў яго маўчанні прамільгнуўшае жаданне, запрапанавала Яніна.

Абое разам павярнулі ісці. Павал паскардзіўся:

— Мне шкада Волькі, Яніна. Сястра—нядрэнны чалавек. Навошта ёй расплачвацца за гэткую нікчэмнасць, як яе гаспадар?

— Так, сястра не благі чалавек. І добрая, стаpанная калгасніца... Усе гэтае думкі. Нават многія дзівяцца—да чаго лёпка яна забыла свой фальварак... Недарэчнасць вышла з яе замужам, Павал. Што цікавага ёсць у Лагодзе?

— Фальварак!

Павал не паверыў гучнасці свайго голаса.

— Мера ішла па гэтай лініі, ведаем. Старыя людзі...

— Будзь яна маёю сястрою, я-б усімі сродкамі старалася перашкодзіць...

— Каб я быў дома!

— А то без цябе?

Яніна ўзяла Паўла пад руку, ласкава палажыла на плячо букет сваіх пышных валасоў. І ціха нараспеў:

— Ты-б або не сумеў, або не хацеў-бы мяшацца-а-а...

— Ты мяне, Яніна не добра ведаеш!—пасупярэчыў Павал.

— Мне так здаецца... Хацела-б памыліцца...—Хі-хі-хі! Ты толькі, Паўлючок не злуй на мяне.

Яе пахнучая палявымі кветкамі рука дакранулася да разгарачанай шчакі. Яму было прыемна адчуць свежы халадок.

— Яхідная ты, Яніна,—упікнуў...

Яна не кідала смяяцца.

— Нельга-ж без жартаў, дружэ... А ты ўсё купляеш на сур'ёз?

Праз некалькі крокаў іншым голасам:

— Вольку-ж трэба аднак, берагчы.

— Я не дам яе ў крыўду, Яніна.

Падыйшлі да Янінінай кватэры.

— Зазірні, Павал, ты-ж яшчэ, бадай, не быў у мяне,—затрымала Яніна яго руку, працягнутую для развітання.

Павал завагаўся: змерыў поглядам вёску, абярнуўшыся ў бок бацькавай хаты, але не паспеў нічога адмовіць, як Яніна тузанула яго за рукаў, намерыўшыся ісці ў двор. Магчыма, ён гэтага чакаў, бо не спрачаючыся першым прайшоў у вешніцы.

— Вось паглядзі—мая святліца!—пажартавала яна, прапусціўшы Паўла ў дзверы свае бакоўкі.

Павал абег узрокам па сценках, па столі, па бакавіцы чыста выбеленай ляжанкі; на міг затрымаўся ўзрокам на вузкай, з высокімі бакамі, рудым, драўляным ложку, ахайна прыбраным Янінінай рукою, на маленькім століку, спрэс закладзеным кніжкамі, газетамі, завяўшымі кветкамі з гаспадаровага палісадніка. Пры стале стаяў тае-ж, што ложак, фарбы старэнькі, нізенькі зэдлік.

— Утульна, чаго-ж!—была яго думка, выклікаўшая ў Яніны недавер'е ў яе шчырасці.

— Для аднае досыць!.. Сядай...—паказала яна на зэдлік.

Павал сеў. Яніна тут-жа пакінула яго аднаго, падаўшы аб сабе весткі лапатлівай гутаркай за тонкаю пераборкаю. Яна клапацілася аб пачостцы госцю, які намерыўся пратэставаць супроць лішняй, непатрэбнай, у даным выпадку, далікатнасці.

— Зараз, гаспадыня...—паведаміла Яніна, і, вярнуўшыся да сябе.

Павал адмахнуўся абедзьвума рукамі:

— Ты што гэта? Не трэба! Кінь, Яніна!

Ён адвёў вочы ад разгорнутай кніжкі.

— Ці-ж варта! Мяне чакае вячэра дома.

— Хха-ах! Вось яно, чулі!

Выхапіла з яго рук кніжку і адлажыла на рог стала.

— Давай лепш пагутарым.

Яніна рыўком, ускочыла на ложак і апёрлася на локаць рукі. Заспакоеныя вочы глядзелі на Паўла.

— Пачынай... Ці мо' не маеш чаго?—засмяялася Яніна, кінуўшы ў яго скамечаную ў камячок сінюю стужачку.

— Часам бывае і гэткае становішча... Здаецца горы ўсяго нагаварыў бы, а намерышся—ні слова...

— Так і зараз—хочаш сказаць?

— Але, бывае, маўчанка шмат красамоўней за збітыя, шаблонныя словы бясчулай гутаркі.

— Гэта да нас, я думаю, не адносіцца. Як па твойму, Павал?

— Наконт гутаркі—так, ну, а што да маўчанкі...

Яніна засмяялася.

— Сумую па горадзе...

— Ужо?—здзіўлена закінуў Павал, аднак пачуўшы ў сваім нутры недавер'е.

— Яно не тое, зразумела, каб ужо так востра, але...—паправілася яна:—Усё-ж, не буду хваліцца, я за гэты час правяла значную працу. І гэта праца, ведаеш, мяне зацягвае.—Вось гэта пэўней!

— Я веру, Яніна, і бачу. У гэтай працы ўвесь сэнс. Цяпер вёска займае ў нашым соцыялістычным будаўніцтве пачэснае значэнне.

— Прызнацца, а мне рабілася боязна... спярша...

Яна паглядзела на няшчыльна зачыненыя дзверы бакоўкі.

Павал прычыніў шчыльней.

— Падсунься бліжэй... Мая гаспадыня даволі языкастая—не варта, каб чула, што трэба, што не... Падумае сапраўды, што я бязмоцная зусім...

Павал паслушна выканаў гасцінную прапазыцыю гаспадыні пакою. Яго калені ўперліся ў сценку ложка, а рука лягла побач з яе рукою.

— Не-э, Павал, я дарма табе сказала, што сумую... Гэта наноснае, хвіліннае. Я гэткі чалавек, дружа, што на паўдарозе не кідаю. ЦК усклаў на мяне пэўныя заданні я ў кусочкі разаб'юся, а выканаю. Воля партыі, Павал, мне даражэй за ўсё... Тут я не хвалюся, таварыш... Я не здатна на гэта, не ўмею пускаць туман у вочы. Як табе здаецца Павал? Ты-ж павінен мяне троха ведаць. А мо' яшчэ ты мяне толькі вывучаеш?

Яна палажыла сваю стройную руку яму на плячо.

Агністыя ўзрокі дзяўчыны пыталі адказу на запытанне.

— І ведаю, і вывучаю,—ухіліўся Павал ад простага адказу зусім не з якою-кольвечы знарачыстаю думкаю.

— Значыць табе патрэбен доўгі час, каб пазнаць чалавека.. нават гэткага, як я... Тугі, я бачу, ты ў гэтым пытанні...

Засмяялася.

— Чым-жа дрэнна, калі так? Больш павывучаю—лепш пазнаю

І адказаў на ўсмешку ўсмешкай.

Ён нясмела надарыў яе пацалункам у лоб. Яніна кіўнула галавою.

Яны некалькі памаўчалі.

— Я ўсё-ж буду глядзець на цябе, як на Паўла, якогамне-б хацелася бачыць... А таму—слухай...

Павал адчуў лёгкі націск яе рукі і чуць-чуць прыгнуў галаў.

— Слухаю са здавальненнем...

— Калі ехала ў Ружаны, ведаеш, прызнаюся—не ўпэўнена была неяк. Незнаёмая галіна працы, усялякія гутаркі, свая малавопытнасць. „Што я там здолею зрабіць" вярцелася баязлівая думка. Пасля прыехала... Новыя людзі, сельсовет, сяляне, якіх я бачыла ўсяго на рынках, а гутарыць з імі—не памятаю, ці прабавала. І вось яны перадамною... Перш гаварыла неўпапад. Адны паціскалі плячыма, другія ў бораду пасмейваліся; трэція зняважліва паглядалі, выказваючы здзіўленне, што да іх з'явілася гэткая несамавітая большэвічка... Падобныя Каніцы злараднічалі: „Ёй трэба яшчэ было-б свіней пасвіць"...

Уяві сабе мой настрой, Павал. Я яго не хавала і адразу падзялілася з Юстынам—ён на той час выконваў часова абавязкі сакратара ячэйкі. Бывала зайду і цэлы вечар пойдзе на абгавор майго становішча... Але паціху, памаленьку... Так здавалася, а сапраўды—даволі нават скора—я ўжо трапіла ў належную каляіну: асвойталася і цяпер я зрэдку пасмейваюся з таго майго маладушша, якое зусім не ўласціва большэвіку і якое прышлося разганяць Юстыну Сніпічу, нашаму старшыні калгаса, ды яшчэ іншым таварышам. І, здаецца, тое было даўно і не са мною зусім... Цяпер Ружаны, як на далоні, нібы нара-

дзілася ў іх... За параўнаўча невялікі тэрмін я ўнесла шмат стаup працы на справу калектывізацыі... Ох, ты, я бачу, ізноў насцярогся... Так. Павал, сёе-тое зрабіла... За час майго прабывання тут, калгас „На варце“ вырас на дваццаць гаспадарак... Мы—не адна, а ўсёю ячэйкаю... Летась да мяне наш сельсовет падкачаў быў з хлебанарыхтоўкаю—цяпер мы гэта выпраўляем... І думаю, што сатром пляміну... Спадзяюся, што ў гэтым годзе не адстанем... Ведаеш, я жыву гэтым. Калі мне хоць адзін дзень без прыкметнай падзеі—мне нудна і балюча: шкада! Я дакараю тады сябе за бяздзейнасць і няздатнасць... Бо ад кожнага, Павал, з нас партыя чакае плённае работы, самаадданай чыннасці... Кожны з нас нясе адказнасць за вялікую справу пабудовы соцыялізма...

— Можна падаць?—знянацку пачулася за дзвярыма бакоўкі.

Яніна ўскочыла, як белка, з ложка, агладзіла рукамі чуць прымятую спадніцу, устрасла валасы.

Шмыгнула к дзвярам. Павал з тэю-ж паспешнасцю перакінуў ногі на другі бок зэдліка, павярнуўшыся плячыма да ложка.

У дзвярах, як месяц, бліснуў шырокі, празмеру акруглы, яшчэ гладкі і малажавы твар Янінінай гаспадыні. Яе абедзве здаравенныя, як высечаныя з дуба кароткія рукі былі нагружаны: правая міскаю з абіранымі картоплямі, левая з уемістым гладышом. Ноша, здавалася, намнога больш акругляла і без таго прысадзістую, нібы без таліі, гладкую постаць гаспадыні. Агарсаваная кашуля ў дадатак была не зашпілена на верхні гузік і каўнер выдаваў пухлае загарэлае цела ў надгруддзі. Гаспадыня на міг затрымалася ў парозе пэўна назнарок.

Упартым узрокам змерыла Паўла, які падняўся і адышоў за услончык, сказала:

— Зараз падам кубкі.

Бульба з малаком чуць умясцілася на століку. Яніна распіхнула з сэрядзіны кніжкі, як дровы.

— Малако халодненькае—са склепа,—засмяялася гаспадыня, стукнуўшы кубкамі па гладышу.

Выходзячы яшчэ раз аглядзелася на Паўла. Ціха прычыніла дзверы.

— Прабуй, Павал,—запрапанавала Яніна, падстаўляючы к сталу зэдлік.

Яны ахвотна, з апетытам падраўнялі бульбу з берагамі міскі, апаражніўшы амаль не ўвесь гладыш малака. Скончыўшы, Яніна прыбрала пасуду—аднесла гаспадыні. Павал падзякаваў.

— Пасля гэтага дома ўжо не прыдзецца вячэраць...

— І бацькі падумаюць, што я назнарок...

— Можа пераживеш як-небудзь гэту бяду. Ужо-ж нядоўга, пэўна, гасцяваць? Ну, а за іншае, выбачай: чым хата багата...

Павал засмяяўся.

— А што-б яшчэ?—І праз хвіліну:—ды ўжо неўзабаве, ведаеш... Завод рупіць, галубка...

— Добра, што ты паехаў да бацькоў—ты іх, як ніяк, а ўсё-ж зрушыў значна з месца. Цяпер, я думаю, яны намнога наблізіліся да калгаса.

— Я-б не хацеў іх пакінуць у цяперашнім стане—табе давядзецца з імі мець справу. Гэта мне больш усяго цікава.

— Я ахвотна за гэта вазьмуся, і думаю, што не без вынікаў... Мы ўжо з імі пазналіся блізка... сядзь, Павал... Не пазірай у вакно—змрок, нічога не ўбачыш.

Яніна паказала на зэдлік.

— Няважна—пастаю... Зараз пайду... чакаюць старыя...

— Пачакаюць!

— Падумаюць .. у нас жа пасля канфлікта...

Яніна хацела ўжо запытаць, чаго ён такі задуменны, як Павал сам пашоў ёй насустрач.

— Ты, пэўна, дагадваешся, аб чым я думаю... Мне...

Яніна адступіла ад стала, уражліва паглядзеўшы на Паўла.

— ...Мне хацелася-б, каб і ты ехала са мною.

І баючыся пакінуць ад гэтага сказу ўражанне наіўна-сантыментальнай шаблоннасці, няправільнага зразумення таксама, ён гіранічна дадаў:

— Аднак, па-твойму, мне патрэбен доўгі тэрмін, каб пазнаць чалавека, а вось за дарогу паспрабую нагнаць сваю адсталасць...

Павал правёў гэта лёгкай ухмылкай.

Яніна не сумелася. Пачакаўшы крыху, прызналася:

— Мяне самую займала гэта тэма.

Павал адчуў унутры казытнае хваляванне: міла паглядзеў ёй у вочы... Яніна ўтомна апусціла галаву на яго грудзі, якія высока ўздымала разгойданае сэрца.

Гэта быў момант, які раскрываў хараство свае тайны і бляск нутранога святла; ён звёў іх вусны для працяжнага пацалунка, так недарэчы абарванага раптоўным стукам у дзверы.

— Таварышка Крэмень, да вас!—прагучэла холадна і буднічна з гаспадарскае палавіны.

Яніна адчыніла дзверы і ўпусціла сакратара ячэйкі.

Той уважліва паглядзеў на Паўла, працягнуў яму руку.

— А я-ж заходзіў у сельсовет, думаў ты там,—праказаў да Яніны.

— Ну, ты вельмі!.. Нашоў у які час шукаць мяне ў сельсовеце.

— Чаму-ж! Не было-б дзіва, каб ты там і пасядзела.

— Здаецца і гэткага дня, як цяпер, досыць хапае... Ды я рэдка калі не сяджу і гэтым часам...

Яніна выбегла з пакою і хутка вярнулася с запаленаю лямпаю Цмянае святло разлілося ў маленькай каморцы.

— Я па справе, — праказаў сакратар ячэйкі, адгарнуўшы вокладку верхняе кніжкі і безцікаўна тут жа яе закрыўшы.

— Кажы!

— Трэба яшчэ раз праверыць з табою спіскі па хлебанарыхтоўцы... Там, па мойму, ёсць некаторыя недакладнасці...

Ён паглядзеў на Паўла, які памкнуўся да дзвярэй, працягваючы першай Яніне руку для развітання.

— Ужо думаеш ісці? запытала яна.

Пара... Бацькі прачакаюцца...

— Мо' я перашкодзіў? — запытаў сакратар.

— Не, не было чаму, таварыш.

Павал падаў яму руку, сказаў:

— Бывайце! — і вышаў.

Яніна прайшла за ім да вешніц і праказала:

— Яшчэ да ад'езда ўбачымся.

*(Канец у наступным нумары).*

М. Сяднёў

## Набяру я з крыніцы халоднай вады.

Набяру я з крыніцы халоднай вады
Ї цябе, як малое дзіця, напаю,—
Можа вочы паднімеш тады
Ї зірнеш на скруху маю.
Толькі-ж болей табе не патрэбна вада
Ї вачэй тваіх погляду мне не вярнуць:
З асцярогай цябе, як вялікі дар,
Палажыла смерць у труну.
Між табой і жыццём яна стала сцяной,
Не ўзарве аніякі яе дынаміт...
Над сасновай смалістай труной
Па табе я заплакаў наўзрыд.
Ї калі, перад сонцам вясёлага дня,
Узлажыў я вянок табе з кветак вясны,
Мне здалося—за шыю абняць
Ты хацела падняцца з труны.
Апускаюць цябе... Зашумела трава,
Нібы чуць яна можа і смутак і боль...
Між травы ў бары я цябе пахаваў,
Не схаваў толькі нашу любоў.
Бо я з ёю дружыў на шырокіх палях
Ї я з ёю дзень кожны араў і касіў;
Яе сокам сваім напаіла зямля,
Ї ёй песень напелі жытоў каласы.

1935 г.

## Добры дзень, мой зялёны бор!

Са спакоем адвечных палян,
Добры дзень, мой зялёны бор!
Я прышоў на твой мяккі дыван,
На густы і пахучы чабор.
Захавай ты ад спёкі мяне,
Дай напіцца з крыніцы вады,—
Мая стома тады праміне,
Харашэй стане сэрцу тады.
Я хачу, каб спакуслівы сон
Не пасмеў дакрануцца вачэй,
Я хачу, каб у лузе з касой
Размахнуцца пад сонцам шырэй.
Пасцілайся-ж, зялёны дыван,
Напаі сваім пахам, чабор.
Са спакоем адвечных палян
Добры дзѐнь, мой зялёны бор!

1935 г.

Андрэй Оршын

# ЛЮДЗІ

...Я не зусім даweраю сапраўднасці... Я сяджу на мяккай канапцы і пазіраю на свае ногі... На маіх нагах не апоркі, а новыя вырастковыя боты, з халявамі. Я адчуваю пах чыстага дзёгцю. Пах новай скуры яшчэ не выпарыўся. Маё цела ласкава аблягае міткалёвая рубашка. Мая галава пастрыжана і валасы мякка слізгаюцца пад пальцамі і я прыгладжваю іх, спускаю руку да шыі—і шыя мяккая, эластычная, няма на ёй зудлівай кары поту і бруду. Устаю, гляджу ў невялікае люстэрка на сцяне і бачу бледнага, чыста вымытага, хлапчука, апранутага ў чорны пінжак... у сапраўдны суконны пінжак і такія-ж штаны.

Я абмацваю сябе, шчыплюся—і баюся. Баюся, што сплю. І вакол мяне ўсё так незвычайна: я ў пакоі. Адзін. Магу замкнуць яго і пайсці. А ў пакою шмат рэчаў. Вось дзве пасцелі, пакрытыя новымі шэрсцянымі коўдрамі. Каля акон стаіць пружынавая канапка, на якой я сплю. Над канапкай вісяць малюнкі і бісерны мяшочак, а ў мяшочку цікае срэбраны гадзіннік. Я вымаю гадзіннік. Тоўсты срэбраны ланцужок віецца між маіх пальцаў і плыве па далоні. Прыціскаю гадзіннік да вуха, слухаю, потым адкрываю крышку—пазіраю: дванаццаць, і зноў кладу ў мяшочак... А мог-бы ўзяць яго сабе... ды што—гадзіннік. У куце стаіць гардэроб. У гардэробе адзежа. Святочныя гарнітуры і два зімніх футровых пальты. Я адчыняю гардэроб, здымаю гарнітуры, пазіраю на іх, гладжу рукою і зноў вешаю. Прабую апрануць паліто. Яно ліжа крысамі падлогу і абдае мяне пахам нафталіну. Я хаджу ў ім па пакою і смяюся. Я, дзіця—яшчэ смяюся над дарослымі прастафілямі, падумайце толькі: пакінуць усё сваё дабро незнаёмаму абарванцу-шпане! Я-ж магу ўсё гэта забраць і занесці ў Кобазеўку, да „дзядзюшкі“, атрымаць рублёў пяцьдзесят і паехаць дахаты, у вёску. Смяюся і адначасова дзесці па засвядомасцю адчуваю недарэчнасць майго смеху і маіх думак.

За дзьвярыма шлёпае пантофлямі кватэрная гаспадыня—Марта Адамаўна. Я скідаю паліто, вешаю і замыкаю гардэроб.

На стале ляжаць дзве грыўні.—Гэта мне на абед пакінута. Я падыхожу да мяшочка з гадзіннікам, паглядзець колькі часу. На гадзінніку чвэртка першае—час абедаць. Бяру са стала грошы, замыкаю пакой і выходжу на вуліцу. З Броніцкай іду на Малацарскасельскі праспект, у сталоўку.

Вось, каб хто з Кобазеўкі ўбачыў мяне цяпер! Лара, напрыклад... Штосці цягне мяне туды... Паварачваюся да Абводнага, іду міма Міронія, да чыгуначнага пераезда. За пераездам—Сямёнаўскі пляц. Каля паркану, якім адгароджаны бягі, сядзелі і выпівалі знаёмыя стралкі—

і я спалохаўся. Мне зрабілася ніякавата: а што калі яны ўбачаць мяне ў новым гарнітуры, пасадзяць з сабою, а пасля... здымуць пінжак, боты... у кішэні штаноў ключы ад пакою... ад гардэроба...

Я вярнуўся назад.

Вось ужо другі тыдзень жыву тут, на Броніцкай, у „фабрычных", як пагардліва называюць на нашым дварэ двох маіх гаспадароў,— маіх ратавальнікаў: Ефрэма Ульянавіча Шатава, які працуе токарам у дэпо балтыйскай чыгункі, і Паула Паўлавіча Сернікава, токара Пуцілаўскага завода. Гэта яны выцягнулі мяне з Новай канавы...

Ефрэм Ульянавіч расказваў, што яны выпадкова ішлі блізка, калі я зваліўся ў ваду. Павал Паўлавіч, не распранаючыся, нырнуў за мною і выцягнуў мяне з-пад баркі. Сабралася публіка. З'явіўся гарадавы—і мяне і маіх ратавальнікаў павезлі на Баравую вуліцу, у трэці ўчастак Александранеўскай часці. У прыёмным пакоі нікога не было. Фельчар прыходзіў у дзве гадзіны, і мяне мокрага, у непрытомнасці, паклалі проста на падлогу, дзе я і ачуняў.

Я ляжаў на бруднай падлозе, мяне трэсла ад холаду: мае ратавальнікі былі тут-жа, чакалі допыту. Шатаў стаяў, прыхіліўшыся плячом да сцяны, а мокры Сернікаў бегаў па пакою і лаяўся:

—Саміх вас, брыдоту, трэба пакупаць у канаве! Бач, не думаюць нават пасляшыць, фараоны!

Но, но, но... цішэй!—басіў прыстаў, падыходзячы да мяне і торкаючы ў мяне канцом шашкі. За прыставам з лакейскай паслужнасцю ішоў акалодачны.

— Не пашкодзіла-б пасляшыць, пане прыстаў, бо пакутуюць жывыя людзі...

— Але ён, здаецца... — прыстаў зноў пачаў калупаць мяне канцом шашкі.

Я застагнаў. Матнуў галавою і, натужыўшыся, адкінуў канец шашкі у бок.

— Ён жывы! У чым справа?—захроп прыстаў.—Хто мяне клікаў? Ты?—груба крыкнуў ён на Сернікава.

— Я яго выцягнуў з вады... і бачыце?.. На мне-ж ніткі сухой няма? Навошта вы мяне трымаеце?!—таксама груба і горача крычаў Сернікаў.

— Хто-ж цябе трымае?!—зарагатаў прыстаў.—Хто, кажу, цябе, дурня такога, трымае?! Ха-ха-ха!—троссяён ад смеху.—Убірайся!

— А хто-ж з хворым хлапчуком будзе?—спытаў у прыстава Шатаў, які да гэтага часу маўчаў.

— А табе што за справа?

—Дазвольце! Я выцягнуў яго з вады зусім не для таго, каб ён загінуў тут, у вас, у... у гэтай каталажцы для п'яных,—насядаў на прыстава Сернікаў, хлопаючы мокрымі крысамі паліто.

—Пра-ашу не вумнічаць! Тут дзяржаўная ўстанова! Галган!

—Ладна!—махнуў рукой Сернікаў.—Мы возьмем яго да сябе?— звярнуўся ён да Шатава.—Дома пэдлечым, а?

—Ну, што-ж...

—Э-э! Ён хіба ваш сваяк?—здзівіўся прыстаў.—Не супярэчу! Выдаць!—махнуў ён рукой акалодачнаму. І, падтрымаючы шашку вышаў.

І мяне прывезлі сюды.

II

Шатаў, Ефрэм Ульянавіч, прыходзіць з работы акуратна а палове сёмай. Скідае рабочую блузу, змяняе штаны і пачынае мыцца. Высокі, дужы, быццам бронзавы, фыркае ён пад умывальнікам, у кухні і неспакойна матае сваёй цыганскай галавой. Выціраецца ён таксама неяк асабліва, як артыст: не трэ рушніком цела, а прыціскае. Потым—гаворыць крыху гартанным барытонам.

—Хутка Павал прыдзе... А як наконт самавара? Лёнька-тапелец, а?—і смяецца.

—Самавар наліты, вугалле насыпана, толькі запаліць,—кажу я і бягу распальваць самавар.

А сёмай прыходзіць Сернікаў, Павел Паўлавіч. Шырокаплечы, з вялікімі рукамі, якія падобны на вузлаватыя хвойныя карані. Сернікаў на галаву ніжэй за Шатава і ўдвая шырэй плячыма. Канапаты твар увесь аброс рыжымі валасамі. Ад гэтага ён здаецца старэйшым на дзесяць год. Сернікаў у процілегласць сваёй бруднай фігуры рухавы. Увесь у руху. Ён заўсёды спяшаецца. За што яго заўсёды стрымлівае Шатаў. Асабліва дастаецца яму ад Шатава за неахайнасць; Сернікаў мыецца і чысціцца толькі тады, калі яго да гэтага прымусяць. Сёння субота. У нядзелю меркавалі схадзіць на выстаўку-перасоўку: былі выстаўлены новыя працы Рэпіна, Ге і Сурыкава. Сернікаў любіў жывапісь і разбіраўся ў ёй. Адчуваючы нязведанае яшчэ мною задаваленне мастацтвам, я трэпетна чакаў гэтага часу. Але... Сернікаў прышоў сёння хмурны, без уласцівай яму дапытлівай усмешкі. Не памыўшы нават рук, ён сеў да стала.

—Падзакусім ды ў Екацерынгофскі. Там сёння нашы хлопцы будуць—ён наліў сабе шклянку чаю і накалоў цукру.—Пойдзеш і ты, Ленька,—ківае ён мне галавою.—Мін Міхайлавіч будзе. Можа і ўсватаем цябе да яго на завод. У іх праходзіць набор. На патронным...

Сернікаў піў і еў таксама сумятліва, быццам яго хтосці падганяў. Ад правенджаных пальцаў на булцы лажыліся чорныя плямы. Але ён не заўважваў гэтага. Бруднымі пальцамі браў і кілбасу. Ён еў і гаварыў і з яго роту ляцелі крошкі. Шатаў-жа ўсё рабіў не спяшаючыся. Ён уважліва прачытваў за вячэрнім чаем купленую раніцой газету.

—Дык вось якія справы... Заікін хадзіў па цэхах і ўсім сваім наказваў, каб сёння вечарам сыйсціся ў Екацерынгофскім, а адтуль на Валынкіна, да Фадзея, у яго свая хацінка...—спяшаўся Сернікаў.

—А не спытаў наконт чаго?

—Ды ледзьве не правароніў. Тут Вячэслаў якраз літаратуру для цябе перадаў... а Заікін пабег яшчэ на Васільеўскі Остраў на трубачны.—Сернікаў ускочыў, як хлопчык, выцягнуў з грудной кішэні ў сваім паліце скрутак.

—Вось „Искры" за 85 год,—разгортваў ён патрапаныя нумары часопіса.—Вось чытаюць—да дзірак.

—Ды калі яшчэ брацца за кнігу такімі ручкамі, як твае, напрыклад... дык і новай не прачытаеш. Калі я цябе, Пашка, навучу быць культурным чалавекам?

—Забываюся ўсё... Ну яе к чорту!.. Не ў галаве!.. Зараз вымаю. Усё думаю: трэба-ж хутчэй шпарыць у Екацерынгофскі... Ты разумееш, якая справа?—Осіноўскі памёр... у больніцы, у Крэстах. Хаваць трэба. Трэба яго адтуль узяць—раз! Другое—у бабы пара дзя-

цей на руках, а „в кармане вош на аркане“: Сабраць трэба! Шкада Грышкі.

— Осіноўскі памёр?!—Шатаў устаў, прайшоўся па пакоі і зноў сеў. Чорныя бліскучыя вочы яго як быццам патухлі.—Ну то хадземжа!—глуха праказаў Шатаў. Было відаць, што гэтая навіна зрабіла на яго моцнае ўражанне.

— Я гатовы. Лёнька пойдзе з намі?

— Чаго? Няма чаго яму там рабіць.

— Так... каб не забыцца: Вячэслаў казаў, што Гегеля і Фур'е ён сам днямі прынясе.

Шатаў кіўнуў галавой і скамячыў кулакі.

— Дабілі хлопца, каты!—і пайшоў апранацца.

— Ну Лёнька, мы ідзём,—Сернікаў узяў мяне за бараду.—Ты адзін начаваць не баішся, я ведаю: ты на гарачым полі адзін начаваў... Ну, дык вось... Заўтра мы таксама да самай начы не прыдзем. Вось табе поўрубля на капусту з кашай... Раніцай чай піць ідзі ў чайную... Мала, мусіць, поўрубля?—меркаваў ён і, падумаўшы, далажыў яшчэ дзве грыўні.

— Гуляй, Лёнька, на ўвесь капітал,—усміхнуўся Шатаў, праходзячы каля нас за шапкай, якая ляжала на падаконніку.—Гуляй, брат пакуль...

— А мне, Ефрэм Ульянавіч, можна заўтра да земляка схадзіць?

— А чаму не можна? Толькі добра замкні пакой: ды скажы гаспадыні, што ідзеш... Ды не пазніся... Ну пашлі,—звярнуўся ён да Сернікава.

Я астаўся адзін. Авалодваў сум. Сернікаў увесь тыдзень гаворыць аб патронным заводзе, куды ён хоча прыстроіць мяне на работу... Эх, каб толькі хутчэй!.. Паслаў бы дахаты грошы... Маці ўзрадавалася-б...

...Нехта памёр... Мусіць на пахаванне пайшлі... Я нічога не зразумеў з іх гаворкі... І нічога не разумеў у іх абыходжанні са мною. У мяне ў руках сем грывень. Гэта, на мой погляд, не мізерная сума. За што яны даюць мне грошы? Хутка два тыдні будзе, як я жыву ў іх. Нічога не раблю. А яны кожны дзень пакідаюць мне на абед дваццаць, а то і трыццаць капеек!.. Адзелі, абулі мяне—самае малае я ім абышоўся рублёў у трыццаць! За што? Я ім зусім чужы! Што гэта за людзі? Я параўноўваю іх з Арсеньевым, са сваім траюрадным братам—Дзімітрыем Андрэевічам, з Меламонам Казловым, са Скапцом. Успомніў, што Скапец не дадаў мне двох рублёў...

Як я ацэньваў тады і чуласць і чалавечнасць?—як дзеці: Па-першае, думаў я, яны атрымліваюць добрую пенсію, па два з паловай рублі ў дзень--значыць, можна шыкаваць, па-другое, ім не трэба было пасылаць грошы ў вёску бацьку-матцы на хлеб. А можа яны такія добрыя ад прастаты, ад дурасці?..

Насоўваўся змрок. Запаліў лямпу. Пачаў слаць сабе пасцель. На канапцы ляжала газета і валяўся аловак. Шатаў чытаў і газеты і кнігі заўсёды з алоўкам.

У кнігах, якія ён чытае, тырчаць сотні спісаных кавалачкаў паперы, у газетах ён піша проста збоку і на тэксце. Я люблю чытаць у газеце аддзел „дзеннік здарэнняў“. Цікава. Вось сёння, напрыклад, конь разбіў п'янага возчыка. Згарэлі тры дамы на Бальшой Охце. На Калашнікаўскай прыстані адарвалася барка і насупроць вадаправоднае вежы наскочыла на плыт і перавярнулася. У Александра-неў-

скай часці памёр падобраны на Палтаўскай вуліцы невядомы п'яны. Побач, уздоўж аднаго артыкула напісана алоўкам: „аўтар дурань. І рэдактар дурань! чорт ведае, пра што пішуць“.—Артыкул называўся „Гумавыя шыны“, у ім аўтар іранізуе з пераймальнасці купцоў, „Яны, напэўна, думаюць, што гумовыя шыны іх экіпажаў зраўняюць іх з арыстакратамі“.

На першай старонцы дзве першыя калонкі былі заняты „афіцыйнымі паведамленнямі“. Першым ішло паведамленне „о высочайшем приеме“... „Ее императорское величество, государыня императрица Мария Феодоровна изволили принять председательницу комитета помощи семьям павших воинов, графиню фон-Мекк... Ея императорскому величеству был представлен известный благотворитель Игнатий Апполинариевич Кобозев... і г. д. „З боку заўвага Шатава: „Агідная гульня ў добрачыннасць. Ад сытасці шалеюць, чэрці, паразіты! А пра Кобазева кацельшчык з яго лазняў—Чарапахін-казаў: што яго гэты вертэп семдзесят тысяч чысцюткіх яму штогод дае... Як відаць гэты гусь умее з гною золата рабіць...“

III

Раніцою мяне разбудзіў гаспадар кватэры Олаф Кейнін, альбо як празываў яго дворнік—„Алап Кейнік“.

— Мальшчык Льёнка, дафай устаць!—стукаў у дзверы Олаф.

— Ну, ну, ошэнь жыва! Ёсць господа афьіцэр, которы імеет іскаць в комнат,—трывожна і ледзь падбіраючы рускія словы крычаў Олаф.

Дзверы не былі замкнёны, ён падышоў да мяне, трос мяне за грудзі, за плячо. Я ўскочыў, нічога не разумеў, але адчуваў, што гаспадар нечым асабліва ўстрывожан. Яго трывожнасць перадалася і мне.

— Зараз, дзядзька Олах, я хутка,—не трапляючы зубам на зуб, гаварыў я і апранаўся.

— Ошэнь карош! Ойно говя! Он ест іскаць в мой комнат.

У дзверах ухмыляўся жандармскі ротмістр. Незвычайна высокі з адменнай таліяй, грудзі калясом. Ён стаяў проста, як верацяно... такі выпеставаны, напарфумаваны, з вусамі „а ля Нікалай першы“.

— Ну-с, здаецца, гатовы?—знадворна ветліва спытаў ён, пагля-даючы на нас насмешлівымі і нахабнымі вачыма.—Пра-ашу, пане акалодачны! Ты, дворнік, таксама...

Я стаяў, як слуп, баючыся варухнуцца. А Олаф, перакручваючы рускія словы, гаварыў аб тым, што ён фінскі грамадзянін, што яго не маюць права абыскваць.

У пакой, апрача афіцэра, акалодачнага і дворніка, увайшлі гарадавыя і гаспадыня—Марта.

Афіцэр хутка падышоў да мяне і рэзка і жорстка запытаў:

— Ты хто такі?—і, сагнуўшыся ў таліі, чакаў адказу.

Я... Я Лёнька... Алексей Ефімаў.—А каб больш пераканаць, дадаў:—мой траюрадны брат—Дзмітрый Андрэевіч, у Арсеньева ў тракціры буфетчыкам служыць.

— Што-о? Буфетчыкам? Якім буфетчыкам?—засмяяўся жандарм.— Тут у гэтым пакоі жывуць не буфетчыкі, а рабочыя: Ефрэм Шатаў і Павел Сернікаў, так?

— Так. Яны ёсць тут—адказаў за мяне Олаф.

Жандарм абышоў увесь пакой, падышоў да канапкі і, залажыўшы рукі за спіну, разглядваў на сцяне карткі.

— Там, у мешочку, гадзіннік,—устрывожыўся я.

Жандарм азірнуўся і, ёмка крутнуўшыся ў мой бок, супакоіў:

— Гадзіннік? Ніхто не возьме твой гадзіннік, супакойся. А ты так і не сказаў, хто ты такі. Ну?

— Я Алексей...

— Не, не, не тое,—спыніў ён мяне, махнуўшы рукою.—Ты мне скажы: сваяк ты ім ці не?

— Не. Яны мяне з Новай Канавы выцяглі.

— Як ты сказаў? Цябе выцяглі з Новай Канавы?—жандарм падняў бровы і падрыхтаваўся смяяцца.—Я чуў: буслы хлопчыкаў прыносяць, але каб з вады іх выцягвалі—не ведаю...—скаламбурыў ён.

— Гэта двісцьвіцельна, ваша высокаблагароддзе... — высунуўся дворнік.—Я асабіста бачыў, як яны яго, значыць, прывезлі на фурманцы... вось гэтага самага хлапчука,—паказаў ён на мяне.—У непрытомнасці ён тады быў... Мокры ўвесь, проста цякло ўсё з яго. І Сернікаў мокры. Ну, абсушылі, абагрэлі... доктара запрашалі. Ачуняў хлапец, нічога...

— Значыць, не сваяк ім?

Узяліся за обыск.

Жандарм пачаў праглядаць кнігі, якія ляжалі на этажэрцы. Праглядаў не спяшаючыся, уважліва лістаў. Паказалася многа заўваг на асобных шматках паперы. Чытаў заўвагі, параўноўваў з тэкстам. Разбіраючы кнігі наткнуўся на нядаўна прынесеныя Сернікавым два нумары часопіса „Искры“.

Акалодачны падняў з падлогі газету, на якой Шатаў зрабіў заўвагі. Заўвагі былі з'едлівага характару. Проста былі з пункту погляду ротмістра „недапушчальна смелыя“.

— Шалёны сабака... кусае... Ну, а сабаку шалёнага па зубах,—ухмыляўся ён, кладучы ў свой партфэль часопіс „Искры“.

У кнігах нічога не знайшлі. Пачалі ператрасаць гардэроб. Кошык з бялізнай. У Сернікавым футры знайшлі адзін рубель дваццаць сем капеек—перадалі Олафу. Перавярнулі і перарылі абедзве пасцелі, канапу. Гарадавыя, умазаныя пылам, потныя стаялі і чакалі новых загадаў.

Обыск заканчваўся, а вынікі нікчэмныя: апрача часопісаў і газеты—нічога не знайшлі. Штучнай стрыманасці ротмістра ледзь хапіла на дзве гадзіны. Ён ужо нерваваўся. Крычаў на гарадавых і на акалодачнага. Абзываў усіх абразлівымі словамі. Усчунены акалодачны кідаўся па пакою, як ашалелы, адшукваючы неіснуючыя сакрэты. Ён то прапанаваў узадраць падазроную дошку падлогі, то абадраць са сцяны шпалеры, за якімі магла быць сакрэтная шафа. Ён тыкаў пальцам у шпалеры, якія адсталі ад сцяны, і прабіваў дзіркі.

— Я не позволяет так!—адпіхнуў акалодачнага Олаф.—Так ест кечно.

— Пашоў к чорту, чухонская морда!—ускіпеў жандарм.—А то я табе на мордзе дзірак нараблю!

— Што вы сказал господзін оф'іцэр?!—брыты твар Олафа набрак крывёю. Пухлыя рукі дрыжэлі. Уся яго мяккая ўтульная фігура ашчацінілася. Але каб стрымаць сябе, ён сумятліва выхапіў з кішэні люльку з плеценым цыбуком і пачаў напіхаць яе махоркай.

— Зашэм я морда? Я ест фінскі грамадзянін. Я бракёр на лес на мебельны фабрык, я не морда... Я буду сказаць граданачальнік Грэслер,—дрыжучы ад крыўды, гаварыў Олаф.

Пачынаюць пісаць пратакол. Зноў допыты. Асабліва націскаюць на кватэрную гаспадыню—Марту Адамаўну. У яе выпытваюць пра паводзіны жыхароў, пра іхнія звычкі, пра тое, хто да іх прыходзіць у госці, і ці часта яны не начуюць дома.

Тут я даведаўся, што барадаты Сернікаў на шэсць год маладзейшы за пругкага Шатава. Шатаву трыццаць чатыры гады, а Сернікаву толькі дваццаць восем.

---

Шатаў і Сернікаў у нядзелю дахаты не прышлі. Не прышлі яны і ў панядзелак. Олаф быў упэўнены, што іх арыштавалі. І хто ведае, калі іх выпусцяць... Хто мяне цяпер прыстроіць на патронны завод? Не шэнціць мне. Сам лёс заганяе мяне. А я прызвычаіўся ўжо да думкі, што не сёння, дык заўтра буду на рабоце... буду есці свой зароблены хлеб!..

Ад семідзесяці капеек нічога не засталося... а я за два гэтых тыдні прывык есці кожны дзень, ды яшчэ і не па аднаму разу.

Парашыў схадзіць на Варонежскую вуліцу, да Скапца, патрабаваць свае два рублі. Я думаў, што цяпер, убачыўшы мяне прыстойна апранутым, пабаіцца і аддасць.

У варотах спыніў дворнік.

— Няма яшчэ тваіх?—спытаў ён.

— Няма.

— Значыць, закрэставалі. Соцалісты абодва яны, нейначай. Фабрычныя... бунтаўшчыкі, яны супроць цара ідуць. Бонбы робяць... І ў бога яны не вераць... не гавеюць... Адчаянныя!—растлумачыў ён мне сутнасць соцыяліста.

На Баравой, каля Казловага анучнага прадпрыемства, я сустрэў рыжага Сёмку. У яго абедзве нагі, амаль да кален, былі адняты. Забінтаваныя ў ватныя абшытыя паклінгі калтушкі кален былі ўстаўлены ў дзеравяныя палазкі. Здалёк я меркаваў, што гэта бязногі Лара.

— Лёнька!—узрадаваўся Рыжы.—Ого, які ты!—зайздросна агляддаў мяне.—А я вось які...—ён пахлопаў рукою па палазку:—на пары ежджу цяперака.

У больніцы ён вымыўся і пасвятлеў. Здаваўся худым і слабым.

— Чаму-ж гэта зачынена?!—здзівіўся ён.

Я расказаў яму ўсё, што ведаў. І мы рушылі на Варонежскую к Пратасаву пустыру, расказваючы адзін аднаму аб сваіх справах.

На Сёмку быў самаробны, з шэрага сукна пінжак пскоўскага пакрою, такія-ж штаны і шэрая суконная шапачка. Ад непрызвычаенасці хадзіць на палазках, ён хутка таміўся і часта спыняўся адпачываць, як стары.

На Пратасавым пустыры мы сустрэлі і Скапца і самога Меламона Казла. Убачыўшы пакалечанага Сёмку Рыжага, яны былі крыху збянтэжаны.

— Ну, што-ж, хлапец, паправіўся?—прапеў Скапец.

— Выпусцілі з больніцы...—міргаў вачыма Рыжы Сёмка.

— Та-ак!.. Разлічыцца, стала быць, прышоў?

— Я цяперака прапашчы... Куды я цяперака бязногі?..

— Ну-у-у!.. Жыве бог, жывая душа...—падлізваўся Скапец.—Адасляць у вёску яго трэба,—не пазіраючы на нас прабурчэў Казёл.—Разлічыся там за ўсё, за дарогу не вылічвай.

— А як за час хваробы?—спытаў Скапец.

— Што-ж... грэх папалам. Ты колькі ў больніцы ляжаў?—запытаў Казёл у Сёмкі.

— Амаль чатыры месяцы.

— Дык вось... мы табе па божаму: ты ляжаў, не працаваў, а мы табе за два месяцы дарма плацім, зразумеў? І дарога не ўлічана. А ты чаго?—спытаў ён у мяне.

— Мне не дададзена два рублі. Дземян Ісаіч не дадаў.

Меламон махнуў рукой і нічога не сказаў.

— Што ты там хлусіш, паскуднік? Вось я гарадавога гукну!—заверашчэў Скапец, насядаючы на мяне.

— Гукні!

— Не шумі, не шумі,—падышоў Казёл і сунуў мне ў руку дзве грыўні.

— Я падам у суд!—закрычаў я, шпурляючы яму грошы пад ногі.—Задушыцеся!

Ад крыўды я заплакаў.

— Адкасніся ты ад яго, аддай!—зморшчыўся Казёл.

— Ды не памятаю я... Хлусіць-жа... На, вось рубель і выбірайся.

## IV

Шатаў з Сернікавым з'явіліся ў сераду. Пакой зараз-жа пасля обыска я зноў упарадкаваў, быццам нічога і не здарылася. Шатаў быў спакойны, а Сернікаў, як і раней, быў сумятлівы, жартаваў.

Іх выпусцілі раніцай, а таму, а гадзіне першай мы ўсе ўтрох ішлі на Забалканскі праспект, у тракцір „Расію“ абедаць. Сернікаў трос мяне за плечы і смяяўся.

— Напалохалі цябе царскія апрычнікі? а? Прывыкай, браце. З маленства прызвычаішся, пад старасць не так страшна будзе.

— А чаго гэта яны ў вас шукалі?—запытаў я.

— Учарашняга дня... А ён мінуўся,—жартаваў Сернікаў.

— А вось годзік-другі пажывеш, дык і даведаешся... А цяпер табе гэтага не зразумець,—дадаў павучальна Шатаў.

— Правільна! Жыццё само лоўка вучыць.

— Дворнік кажа, што вы соцылісты, бонбы робіце і ў бога не верыце.

— „Соцыялісты?“ Бязбожнікі?—зарагатаў Павел Паўлавіч.—Ах ён дурань прыснаблажэнны!

Па набяражнай Абводнага канала, перасякаючы Бронніцкую, шлёпаў палазкамі па бруку Сёмка Рыжы, прыцiснуты ёмістым клункам. Ён пазнаў мяне.

— Лё-о-онька!—крычаў ён, выціраючы рукавом твар.

Мы спыніліся. Пачакалі пакуль ён успоўз на тратуар. Убачыўшы мяне сярод салідных людзей, ён разгубіўся. Змоўк.

— Куды ты паўзеш, Сёмка?

— На вакзал. Дахаты еду. Разлік атрымаў.—Ён паклаў клумак на панель і яшчэ раз выцерся.—Дванаццаць рублёў аддалі і тры на дарогу, асобна,—і радасна і сумна лепятаў ён, паглядаючы то на Сернікава, то на Шатава.

— А дзе-ж ногі твае, хлапец?—спытаў Шатаў.

— Адрэзалі.

— І даўно?—занерваваўся Сернікаў.

— Сёлета, зімою. Адмарозіў... А гаспадар не пускаў лячыцца— ганяў на работу...

Сёмка адчуваў сябе няёмка. Заікаўся. Выціскаў слова за словам. Гаварыў пра такія жудасныя факты, што і Сернікаў і Шатаў забыліся пра абед.

— Ты на рабоце адмарозіў ногі?.. І цябе гаспадар нават лячыцца не пускаў?!

— Дзіця на рабоце страціла абедзве нагі!!—задыхаючыся крычаў збялелы Сернікаў.—Ефрэм, ты чуеш гэта?

Шатаў паціснуў плячыма.

— Кашмар...

— Кашмар...—як рэха паўтарыў Сернікаў.—А далей што?

— Я, дзядзячка, у вёсцы жабраваць буду... Калека няшчасны.

— Ты не думаеш, Ефрэм, што трэба нешта зрабіць?—утаропіў Сернікаў на Шатава ашалелы позірк.

— А што можна зрабіць у даным выпадку? З Лёнькам, напрыклад, справа зразумелая: выцяглі з вады, прывялі ў прыстойны выгляд—і не сёння, дык заўтра хлапец працаваць пойдзе. А што тут можна зрабіць? Не ведаю.

— Можа, што прыдумаеш?

— Думай. Толькі пакуль ты будзеш думаць, нязручна яму на панелі стаяць.

— Не разводзь, Ефрэм, анцімоніі — не люблю. Ты, хлопчык можаш да заўтра пабыць у нас, мы папрабуем дапамагчы табе?

— Магу,—згадзіўся Сёмка.

— Ну, вось і добра. А цяпер хадзем абедаць.

Абедалі ў чыстай палавіне. Апрача нас у зале, за вялікім сталом сядзела шумная кампанія прасолаў. Яны выпівалі: для іх арган іграў марш „под двухглавым орлом“, а яны стараліся перакрычаць трааскучую машыну.

Мы сядзелі ў хаце, каля акна. Шатаў гаварыў:

— Ну, мы можам на прадпрыемствах сабраць яму рублёў пяцьдзесят... Ну, скажам, нават сотню... але хіба гэта вырашыць справу? Тут патрэбна не добрачыннасць, а штосці іншае. Трэба цвёрда паставіць хлапца на ногі. А вось гэта зрабіць мы і не зможам.

— Ты, Ефрэм, усё філасофствуеш. Зразумела, мы адрэзаных ног яму не прыставім, але паспрабаваць забяспечыць калеку пражыткам— павінны. Для таго мы свядомыя людзі.—Сернікаў думаў напружана— бо ў падрадчыка гэтага... як яго...

— У Казла,—падказаў я.

— У Казла ў гэтага нябось капітал ёсць не маленькі.

— Ну?

— Вось я і прыдумаў.

— Напрыклад?

— Напрыклад, пазнаёміць з гэтай справай Нікалая Ільіча Лабачэўскага. Разумееш?.. адвакат малады... ліберальны з ахвотай за рабочых выступае. Ён ухопіцца за гэту справу.

— Можа быць,—згадзіўся Шатаў.—А гэтым, ведаеш, апрача ўсяго астатняга, будзе ўзварушаны грамадскі спакой... будуць прадэманстраваны недапушчальныя адносіны да рабочых...

— Я зараз-жа пайду да яго, пазандзірую...—усхапіўся Сернікаў, узгрэты падтрымкай Шатава.

V.

— Прасіў прывесці... і Сернікаў, быццам выйграў сорак тысяч усміхаўся, паціраў рукі, цмокаў языком і падміргваў.—Заўтра а сёмай гадзіне вечара. Зацікавіўся... Ну, Сёмка, галаву даю ў заклад, што твая справа выгарыць. Выгарыць: уваходзячае сонца, гэты Нікалай Ільіч...

На другі дзень з Сёмкам да Лабачэўскага пайшоў не Сернікаў, а Шатаў.

— Латыха ты вялікі... намелеш непатрэбнае,—казаў Шатаў,— я сам схажу. Гэты выпадак трэба скарыстаць і для нашай справы.

— Не супярэчу, не супярэчу! — згадзіўся Сернікаў. — Ты сама сістэма, сам метад і вытрыманасць у цябе, як у джэнтэльмена. Зычу поўнай удачы,—жартаваў ён.

Калі Шатаў і Сёмка вышлі за дзверы, да нас у пакой увайшоў Олаф. Сёмка заставаўся начаваць без прыпіскі на другую ноч. Шатаў і Сернікаў, якія яго прытулілі, знаходзяцца пад наглядам жандармскага ўпраўлення. І яму, Олафу, можа наляцець...

— Трус ты, Олаф... Не фін ты, а проста чухна, чубук,—жартаваў Сернікаў.

— Карош шухна... чувя шунха... а ві рус—кацапус!

— Не „рус-кацапус“, а разанец крывапузы я, гэта верна, — і абодва яны смяяліся.

— Карашо смяяцца.

— Лепш смяяцца чым плакаць. А пра штраф ты, Олафушка, не думай. Дворнік не ведае пакуль-што, а заўтра ўсё высветліцца. Пацярпі толькі да заўтра.

Калі быў дома Шатаў, я заўсёды адчуваў сябе няёмка. Ад яго каменнага спакою і абыякавасці дыхала ледзяным холадам. З Сернікавым было лёгка. Ён не сароміўся мяне, ён адкрыта калі-небудзь лаяў мяне і адкрыта шкадаваў. Жартаваў, і сам першы смяяўся ад свайго жарту. У Сернікава можна было пытацца аб усім, ён ніколі не скажа: „табе гэтага не зразумець“, наадварот: адказвае заўсёды з ахвотай і нават сам пачынае гаварыць са мною аб справах мала зразумелых, у маім узросце.

Напрыклад, памятаючы наказ бацькі і маткі, я раніцою і вечарам маліўся богу і прачытваў устаноўленыя малітвы. „Отчэ наш“, „верую“ і „благодарю тебя создателю“. Шатаў не заўважаў гэтага майго правіла, а Сернікаў заўсёды пасмейваўся:

— „На неба просішся?“ Альбо: „бог не дасць, калі сам не заробіш“.

Сёння ён зусім сур'ёзна спытаў у мяне:

— Ты што, Лёнька, калі молішся богу, дык мусіць сур'ёзна думаеш, што бог бачыць і чуе цябе?

Пытанне было для мяне нечаканым. Я ніколі не думаў аб гэтым.

— Паспрабуй, не маліся. Вось я і Шатаў не молімся.

— Баюся,—адкрыта сказаў я.

— Божанька пакарае?

Было жудасна ад ягоных слоў.

— Ну, а калі ты галадаў, тады напэўна не маліўся?

— Маліўся і тады.

— І „благодарил создателя“ за тое, што ён цябе голадам марыў?.. Вось як цябе закавалі твае бацькі!.. Страшны твой бог. Не бог, а жывадзёр, як Казлоў. Нябось яшчэ на шыі яго носіш? А ну пакажы: ёсць у цябе на шыі крыжык, ці не.

— А як-жа без крыжыка?—здзівіўся я і мімаволі расшпіліў каўнер. Сернікаў зачапіў пальцам за матузок і, пацягнуўшы парваў яго.

— Гм. Нейкая бляшка на бруднай вяровачцы...—Сернікаў, насупіўшыся, агідліва пазіраў на мой крыжык. Потым рэзка шпурнуў яго пад ногі і наступіў ботам.—Як можна трымаць такую брыдасць на шыі. Пятля нейкая!..

У ваччу ў мяне цямнела. Містычны жах сціскаў грудзі. Я ледзь трымаўся на нагах. Сернікаў спалохаўся.

— Дурны, не ты-ж гэта зрабіў, а я... чаго ты так усхваляваўся? Ну, я табе новы срэбраны куплю, на ланцужку куплю. Супакойся. Не палохайся, гром нябесны нас не заб‘е. Нічога не здарылася.

— Бласлауленне маткі...—прашаптаў я ўсё яшчэ халадзеючы ад жаху.

У нейкім новым святле ўбачыў я барадача, сумятлівага Сернікава. З аднаго боку я адчуваў нейкі незразумелы страх перад ім, з другога боку—вострую цікавасць. Здавалася ў гэтай каржакаватай фігуры захаваны дзесці нябачаныя апальваючыя сакрэты.

## VI

Шатаў вярнуўся адзін.

Лабачэўскі надзвычайна зацікавіўся справай Сёмкі Рыжага і пакінуў Сёмку ў сябе. Прасіў Шатава, каб мяне прыслаў гадзіны на дзве, пагутарыць пра казлоўскія парадкі.

Раніцою ў адзінаццаць гадзін я быў у адваката.

Вялікі і высокі, з вылепленай столлю, пакой, падобны на царкву... Нейкая дзіўная, быццам напухлая, надзьмутая паветрам, мэбля, мэбля без адзінага кавалка дзерава, а ўся скураная, цёмна-карычневага колеру—канапы, крэслы, пуфы: каля сцен, у кутках, пасярод пакою. На адным такім крэсле мы сядзім з Сёмкам удвох і нам не цесна. Дзе няма канап—там стаяць вялізныя шафы з кнігамі, кнігамі закіданы этажэркі, падвешаныя палічкі і столікі. Ніколі я не бачыў гэтулькі кніг!.. За ўсё жыццё не перачытаеш!

Каля акон стаіць пісьмовы стол—таксама завалены кнігамі і газетамі.

У крэсле, каля стала, сядзіць госць—строгі стары з выпеставанай срабрыстай барадою на ўсе грудзі. Ён сядзіць, падняўшы высокія калені амаль да барады і трымае на іх свой капялюш.

А гаспадар ходзіць па пакою, па засланай дыванам паркетнай падлозе. Між гаспадаром і пакоем адчуваецца нешта адзінае, аднастыльнае. Перш за ўсё кідалася ў вочы ўсеабдымная закругласць і мяккая ласкавасць. Усюды не яркія, але прыемныя гарманічныя таны. І разам з гэтым усё агулам было салідна, нават грандыёзна.

У павольных рухах гаспадаровай фігуры хавалася магчымасць нечаканага, раптоўнага, пругкага наскоку і мёртвай хваткі. Ён хадзіў мякка, цвёрда ступаючы па падлозе. Дародная велікалобая галава з магутнай грывай валасоў нагадвала адначасова і льва і губернскага протодыякана. Ён гаварыў:

— Ваша ўвага для мяне—вельмі каштоўна. Я шмат чым вам абавязаны, вы гэта ведаеце... Вы надта патрапілі заехаць да мяне сёння... Вось гэтыя два маладыя хлопцы,—паказаў ён на нас,—унеслі

ў мой габінет, я-б сказаў, надзвычайныя магчымасці. Але... і нешта падобнае на рызыку. Не, хутчэй на неакрэсленасць... Мне патрэбна ваша дапамога. Перш чым узяцца за гэтую справу я павінен, Максім Максімавіч, заручыцца вашым падтрыманнем.—Лабачэўскі спыніўся супроць госця.—Гэта і для вашага часопіса плюс, а магчыма і лішняя тысяча падпісчыкаў,—праказаў ён з усмешкай, у якой адчувалася просьба.

Госць узняў на адваката позірк.

— Дарагі мой златауст, Нікалай Ільіч, вы ведаеце, я заўсёды гатовы вас падтрымаць, калі...—госць узняў левае брыво.—Калі гэта не выкліча тлумачэння ў трэцім аддзяленні.

— Не, Максім Максімавіч! Бытавыя факты, уведзеныя ў ступень соцыяльных... Лабачэўскі, зглецзеўшы намер госця супярэчыць, перапыніў яго,—Дазвольце, дазвольце: і за гэтае ўзвядзенне ў соцыяльную ступень мы і будзем яго абвінавачваць і з яго патрабаваць. Толькі так будзем ставіць, Максім Максімавіч, пытанне.

— Факты такія,—Лабачэўскі тыльным бокам правай рукі пахлопаў па левай.—Ёсць тут, у Піцеры, нехта ікс. Займаецца гэты ікс анучным промыслам, які дае яму досыць салідныя прыбыткі. У гэтага анучнага прамыслоўца скажам адкрыта, Меламона Казла, працуе з сотню вось такіх малайцоў,—паказаў ён на нас. Ад 12 да 15 год, не старэй. Вярбуе Меламон дзяцей на вёсцы, проста з бацькоўскіх рук бярэ: дасць ім задатак—і хлапчук куплен, працуе для яго... Тут, фармальна, нічога няма супроцьзаконнага, толькі не пераходзь межаў. А хіба чумазы ліхвяр ведае меру? Вось гэты бязногі хлопчык—ахвяра нястрыманай прагнасці чумазага ліхвяра! Абедзьве нагі ён страціў выключна па віне гаспадара! Вы, магчыма, бачылі такіх хлапцоў, якія корпаліся ў памыйках разам з бездомнымі кошкамі? На іх брудныя лахманы. Яны ледзь апрануты. Зімою хлапец адмарозіў нагу— гэта злачынства гаспадара. Хлапчука трэба было лячыць, дык не,— гаспадар боем выганяе яго на работу... Ганяе да таго часу, пакуль абедзве нагі не распухлі! Пакуль яны не засмярдзеліся! Хлапчуку адрэзалі абедзве нагі. Хлопчык калека на ўсё жыццё... А гаспадар даў яму за гэтае шэсць рублёў!... Ён бачыце „ахвяроўвае“, дабрадзей, за два месяцы з чатырох, якія хлопчык пралежаў у бальніцы!... „Грэ напал“... а?..

— Які жах!..

— Я спачатку не даў веры—да таго агідна ўсё гэта... Але вось другі хлопчык там працаваў і ўсё гэта адбывалася на яго вачах. Апрача гэтага, сёлета зімою, з васьмідзесяці пяці чалавек—сорак захварэлі на тыфус. Хворыя валяліся разам са здаровымі, і таксама хадзілі збіраць анучы да таго часу, пакуль ногі трымалі. Паліцыя і гарадскія санітары ведалі аб гэтым, але нічога не зрабілі, пакуль сусед Алексей Міхайлавіч Жукаў не запратэставаў... Памерла каля 30 чалавек. Факты, Максім Максімавіч, як бачыце на дзіва. На гэтых фактах, Максім Максімавіч, можна вялікую справу зладзіць!..

— Так...

Але неабходна харошая прэса, як кажуць амерыканцы.

— Так, так...

— Фактычна я буду ініцыятарам працэса, а хто гэта ведае? Прэса. Гэтыя выскачкі з мужыкоў асабліва бессардэчны. І грамадскасць устане на дыбкі. У гэтым залог поспеху. Затым—парушаны

самыя элементарныя праўныя нормы законнасці. І—дзяржава на нашым баку.

— Так, так, так! Мой часопіс заўсёды на спагатове, па сіле магчымасці, пайсці вам насустрач... кажу: па сіле магчымасці, бо ў наш час... Ну, а як матэрыяльны бок? Бо вялікі працэс патрабуе і вялікіх сродкаў?—усміхнуўся Максім Максімавіч.

— Я надта шмат чакаю ад гэтага працэса, каб думаць пра гэтае. А на выдаткі? За калецтва мы вырвем дзесятку тысяч. Я мяркую што бацькі пацярпеўшага згадзяцца на дзве, ну—на тры тысячы, гэтага ім хопіць: займуцца гандлем... а мне сямі тысяч, я думаю будзе досыць... Тут, Максім Максімавіч, не да заработкаў, гэта прыдзе пасля,—усміхнуўся адвакат.

Максім Максімавіч ухвальна ківаў галавою.

— Жадаю поспеху. Я вельмі рад за вас! Я з цікавасцю сачу за вашым ростам: бо вы, уласна кажучы мой выпястун. Ну-с...—устаў ён.—Спадзяюся ў мяне пагутарым больш адкрыта і больш дэтальна,—зірнуў ён у наш бок, як-бы паказваючы, што тут ёсць пабочныя асобы.—Ды, я прызнацца, дома неяк больш уважлівы чым дзе небудзь. Старэю мусіць.

— Абавязкова, абавязкова, Максім Максімавіч! Заўтра я думаю асабіста праведаць што небудзь пра Меламона Казла. Гэта аснова... А пасля,—працягнуў Лабачэўскі руку ў бок Сёмкі,—а пасля з Сямёнам мы паедзем да яго, у вёску, да яго маткі, па даручэнне. І... пойдзе справа...

13 мая мне далі ліст к Міну Міхайлавічу, а 14-га я сядзеў за металічным сталом у чацьвертай майстэрні гільзавага аддзела патроннага завода, трымаў на каленях скрынку, праз дзірку ў стальным кальцы 8 прапіхаў, як і мой сусед, з белага метала гільзы.

Мікола Хведаровіч.

# Надвячоркі Грузіі.

## На беразе мора

З мора цёплага
Вецер густы
Твар цалуе,
Хістае шырокія
Пальмаў далоні.
Тонкі брыз
Рассыпае алмазы
Па молу пустым,
Развітальнага сонца
Апошнія іскры
На скронях.
Мора гладкі,
Люстраны блакіт
Разламаўся,
Крануўся па хвалях,
І праменняў
Крывавыя пікі
Запалілі свае маякі.
Сонца ў нетры
Бяздоннага мора
Упала.

Ноч.
З мора цёплага
Вецер густы.
Сонна шэпчуцца хвалі
Па молу пустым.

## У Алазанскай даліне

Ляжыць залатая
Даліна,
Стомленая ад гарачыні.
Ад дрэваў,
Ад вялых галінаў—
Цені незвычайнай
Велічыні.
Сонца стаіць
Над Самгорам,
У прочкі
Сабраўся дзень.
Алені з высокіх
Гораў,
Крадуцца ціха
К вадзе.

Спуджаным
Сонным фазанам,
Сцелецца сіні
Змрок.
На золата хваль
Алазані,
На шызы
Гарачы пясок.
І толькі дзесь
Крык авечы,
Блудзіць
У сонных гарах,
Смуглы,
Суровы вечар
Спускаецца ціха
З Шырак.

**У гарах**

Бяздоннем,
Чорнай кошкай
Змрок паўзе.
І вось
Ён чапляецца вышай
Да скалаў,
Да перавалаў,
Як стрэляны тур
На адной назе,
Ён ледзь хістаецца
На рыск,
На прапалую.
Як спуджаны тур
Скрыпіць арба,
Арол на распластаных
Крыллях
Пранёс патухаючы
Дзень.
Да скал прыгарнуў
Баранту чабан,
Ноч нячутнай хадою
Падымаецца з нетраў,
Ідзе.
Незлічоным адценнем
Мільярдаў зор
Зіхацяць дыямэнтамі
У паднябессі халодным
Скалы.
Сонца разбілася
Аб ледзяныя
Плечы гор,
Ноч падбітай арліцай
Чорнакрыллем на горы
Упала.

Тіфліс, 5/VI—35 г.

М. Паслядовіч

# Снайпер

Дзед Арцём, калгасны інспектар якасці, сядзеў у двары на парозе сваёй хаты і габляваў бярозавы брусок для грабель. Дзед быў так захоплены сваёй работай, што не заўважыў, як падышла жонка Мар'я. Падняў галаву толькі тады, калі пачуў яе збянтэжаны голас.

— Дык у якія гэта ты ўпісаўся снапяры?.. І з кім? Там-жа адны сысункі. Каб яшчэ хто ткнуўся з сівізнаю, дык мо' і сораму менш было...

— Якія снапяры?—перапытаў, нічога не зразумеўшы, дзед Арцём.— Дзе ты чула?

— Не чула, а сама чытала,—ступаючы на ганак, адказала старая.—На паперы напісана, а папера да Фідрусевай хаты прыбіта. Усе сталейшыя чытаюць і насміхаюцца. Нават сам старшыня, казалі, ўхмыльнуўся... Які ты там дагавор падпісваў?

Устрывожаны такімі неспадзяванымі падзеямі, стары таропка згроб у кошык дубовыя зубы, паставіў да сцяны грабільны і хуценька падаўся на вуліцу.

„Ён, Федзька, падстроіў цацу,—думаў стары, азіраючыся на вуліцы.—Ах, каб на цябе вады нагрэлі. А тое... яшчэ невядома, на чыё выйдзе.

Вячэрнія цені ўжо выпаўзалі з-пад стрэх, і змрок насоўваўся з-за лесу. Укормленыя каровы ляніва жавалі жвачку каля сілоснай вежы, цярпліва чакаючы пастуховай каманды, каб стаць на сваё месца ў хляве. На загуменні прагрымела сеялка, якую цягнулі пад навес. Пачуўшы грукат, дзед зморшчыў твар.

З-за гэтых сеялак паспрачаўся ён са старшынёю Міколам Вяртаем і Федзькам Рабцом, комсамольцам—брыгадзірам другой брыгады. З-за гэтых-жа спрэчак набыў Федзька Рабец сабе права бясконца ганьбіць сівую галаву дзеда Арцёма.

Пачалося гэта яшчэ на прадвесні, калі рабілі спробны выезд у поле. Дзед Арцём замяняў тады брыгадзіра першай брыгады, які ездзіў на курсы. У той дзень ён устаў яшчэ досвіткам, запаліў „лятучую мыш" і пайшоў аглядаць інвентар.

Выстраеная пад навесам шарэнга плугоў чакальна мігцела начышчанымі лемяхамі і нарогамі. „Зіг-загі" паблісквалі зялёнай свежай фарбай. Каб не здарылася чаго неспадзяванага, дзед Арцём яшчэ раз старанна агледзеў кожную шрубку, кожны палазок, перамацаў усе крукі на паліцах, потым, ужо на канюшні, яшчэ раз нацухліў дзёгцем гужы, абмераў пастронкі, каб не выдаўся які даўжэйшы за другога.

Задаволены такім аглядам дзед Арцём вярнуўся ў хату, паснедаў, а калі праздвінеў сігнал на работу, усе члены брыгады ўжо варушыліся каля коняй і плугоў. З сявенькаю за спіною стары кідаўся ад аднаго калгасніка да другога і ўсё ўзахвочваў упраўляцца як найхутчэй. Калі яны спаборнічаюць з другой брыгадай, дык марудзіць няма чаго. І сорам ім, першабрыгаднікам, будзе, калі адстануць ад моладзі. Першабрыгаднікі—бацькі і дзяды—упэўнена пасміхваліся і супакойвалі ўзрушанага свайго брыгадзіра, што сораму не будзе. Тыя, малакасосы, ніяк іх, старэйшых, не выперадзяць.

А ў полі, як спыніліся на раўніне крохкага сакавіцкага снегу здарыўся канфуз, непрадугледжаны дзедавымі меркаваннямі і планамі. Нават коні з першай брыгады зафыркалі здзіўлена, калі пачуўся задзірысты голас брыгадзіра другой брыгады:

— Гэй, бацькі, дзе-ж вашы сеялкі?

„Бацькі" з першай брыгады разгублена азірнуліся: сапраўды як яно вышла, што забыліся на такую рэч? Але дзед і вокам не міргнуў.

— Во дзе яна, сеялка,—кінуў ён, паказваючы на лубовую сявеньку, маладзейшым.—За плячыма наша сеялка. А калі ты крычаў, каб усё машыновымі радамі сеяць, дык і сей...

Некаторыя хлапцы зарагаталі. Толькі Федзька быў хмурны і, здзіўлены, ні то недарэчным смехам, ні то дзедавым адказам, моўчкі варухнуў шырокім плячом.

— Няма чаго выскаляцца ў такі дзень!—узлаваўся дзед.—Няхай коні рагочуць, а не вы. Разумныя вельмі...

Ён ступіў крокаў з дзесяць, па снягу, ад брыгады. Змарожаны крупчасты снег звінеў пад яго ботамі. Іскрылася безліччу белых зор сонца на заснежаным полі. Слабы яшчэ паўднёвы вецер варушыў сівую дзедаву бараду. Варушыліся думкі ў галаве:

...пад нагамі тлустая, напоеная веснавымі сокамі зямля. Песцяцца на сонечнай цяплыні доўгія і шырокія скібы. Дзед ступае па іх і, здаецца яму, што скібы аж дышуць. Дышуць прагна, пасля зацяжнай лежні пад душнымі снегавымі дыванамі. Угрэтыя грудкі дымяцца ледзь улоўнай празрыстай парнасцю. Поле прагне насення, і дзед Арцём шчодрай рукою сыпле яго з сявенькі. Гуляе па расхрыстаных грудзях узрадаваны, дураслівы вецер.

— Кінь ты!—шэпча яму, як жывому дзед.—Не перашкаджай. Бачыш, нероўна насенне кладзецца. Хіба зганьбіць маю работу, рукі мае хочаш?

Найлепшым сейбітам быў Арцём Нізок! Далёка на ўсю ваколіцу, на ўвесь раён разыходзілася пра яго слава. Сорак вёсен адхадзіў ужо дзед з сявенькай!

— Вока ў цябе, дзед Арцём, вострае, рукі залатыя,—сказалі яму, разглядаючы яго заяву ў калгас.—Было ў цябе сваёй зямлі поўдзесяціны, а цяпер—такі прастор і разгарненне твайму спрыту. Шэсцьсот гектараў цяпер у цябе, дзед Арцём! Сей! Абедзьвумя рукамі сей! Бо ніхто так не ўмее, як ты!

Сеяў дзед адзін год на калгасным полі, сеяў другі. Вышаў ён цяпер агледзець прастору на трэці год. Стаіць, углядаецца ў далячынь, пранікае позіркам праз снег...

Міне яшчэ якіх тыдні са тры загудзе вадою снег, сплыве па разорах на балоты і паплавы. Гукне тады дзед Арцём, каб нагружалі

вазы адсартаваным буйным насеннем. Не на спробу гукне, як сёння, а ўжо на баявую работу...

— Дзед Арцём, — перарваў старога думкі старшынёў голас.— Сапраўды, чаму вы сеялак не захапілі?

Брыгадзір павольна падыйшоў да старшыні.

— Ці не думаў ты сёння сеяць? У снег?—праказаў, закідаючы левай рукою сявеньку за спіну.

— Я нічога не думаў такога. Але баюся, што калі сыйдзе снег, вы зноў забудзецеся на машыну. А ў нас-жа, ведаеце, план ёсць. Стопроцантны радковы пасеў.

— А як з сявенькай?—дзедавы вочы адразу пацямнелі.—У печ кінуць?

— Бадай што. Хіба лубін на ўгнаенне распырскаць.

— Ага!...

Дзед адчуў, як раптам угрэўся яго твар. Ага! Рукі былі залатыя толькі да часу! Ідзі ты цяпер, стары корч, у адстаўку, бо спрыт твой і слава лепшага сейбіта нікому цяпер не патрэбны. Тыя два гады ўсюды крычалі, што такога добрага сейбіта, як дзед Арцём Нізок з калгасу Варашылава нідзе не сустрэнеш. Заўсёды дзед Арцём перавыконвае нормы выпрацоўкі разы ў два. Якасць—лепшай не трэба. Дзед Арцём ударнік, яму і хату перасыпаць дапамаглі, і партрэт яго ў раённай газеце. І намеснікам брыгадзіра яго пасля гэтага выбіраюць, як знатнага чалавека. Шануюць дзеда за рукі залатыя, за вочы вострыя. А цяпер—во, на! Скідай сявеньку, а з ёю і славу ўдарніцтва. Бо дзе ўжо ўгнацца старому з плугам за маладымі і дужымі? Адыйшла маладосць, змарнавалася на маленькім пляцы. Не ўгонішся за маладымі і з касою. Маладзейшы, пакуль дзед Арцём павядзе касою адзін раз, справіцца тройчы. Дагоняць, будзе пасвістваць аброшаная сталь каля самых дзедавых пят. Альбо націскай на пупок, альбо перадавай пракос другому! І саступіць дзед Арцём... Застанецца ў цяньку, слабы, няпрыметны. А гэтыя падзяруць, пабэсцяць поле, як тады Васіль Каўтун...

— Мікола!—усхвалявана выгукнуў Арцём.—Мы будзем сявенькаю... сам ведаеш, хутчэй... і не дрэнна... няхай Федзькава брыгада сеялкаю...

— Што-о?—Вытарашчыў вочы старшыня.—Яны сеялкаю, а вы сявенькаю? У адным калгасе? Не можна так, дзед Арцём! Ужо які вялікі ў вас спрыт, а ўсё-ж машына зробіць раўней, ні адно зерне не загіне дарма. І вецер—сеялцы не перашкода.

— Яшчэ паглядзім!—абражаны ўжо глуха праказаў дзед Арцём.— Паглядзім...

І тут падскочыў гэты самы Федзька. Твар яго быў чырвоны ад напружання.

— Вядома!—крыкнуў ён, размахваючы рукамі.—Вядома! Кулацкая агітацыя супроць машыны. Мы некалькі і аб трактарах такое чулі. Можа Арцёмку не па нутры будзе і ўвесь калгас, кароўнік, работа калектыўная?

Дзедавы калені задрыжэлі ад крыўды.

— Сапляк ты!—раўнуў ён.—І ніякі я табе не Арцёмка. Выскачыў, раўня такая! Што я з табою па хвойках лазіў, варон спорваў? „Арцёмка"... Твой бацька і то мяне так не заве. Іш ты яго, Арцёмку знайшоў!

Абражаны стары ў той-жа вечар падаў старшыні заяву, каб яго, вызвалілі ад брыгадзірства, не чакаючы пакуль прыедзе той, з курсаў

і паставілі за вартаўніка. Ён яшчэ давядзе, які ён калгасны друг! Колькі старшыня не ўгаварваў старога, той і слухаць не хацеў.

На другі дзень, раніцою, калі стары снедаў, цераз парог ягонай хаты пераступіў Федзька Рабец.

— Арцём Мікалаевіч!—пачаў Федзька, сеўшы на лаве каля акна і гэтак-жа, як і на полі, задзірыста зірнуўшы дзеду ў твар.—Прабач мне, што я цябе так... на полі. Я можа пагарачыўся.

— Ну?—дыхнуў настарожана дзед Арцём.

— І можа глупства якое язык мой састроіў. Вядома, які табе таварыш па ўзросту, каб так празываць? Вядома...

Чулае сэрца дзеда Арцёма запела ў грудзях.

— Учора, пасля спробнага выезду ў поле, сабраліся на бюро ячэйкі. Вядома, папярэдняе запытанне мне: як я, юнак, адважыўся тыкацца з дзедам Арцёмам? Я сказаў, што паступіў няправільна. Сам асудзіў такі ўчынак... больш так не будзе!

Дзед Арцём аж уседзець не мог. Прыўзняўшыся над сталом, ён крыкнуў узрушаным голасам жонцы, якая корпалася ў сенцах:

— Матруна, прынясі тое, што ў шафе... на верхняй палічцы і сала сырога.

Федзька Рабец звузіў павекі.

— Ты слаўны хлопец,—сказаў яму дзед Арцём, папраўляючы абрус на стале.—Люблю за шчырасць! Кажаш, на бюро рубам паставілі?

— Рубам,—ціха праказаў Федзька.—Сам старшыня, кажа, калі чалавек наш і ён не разумее чаго, дык па культурнаму растлумач, а не бі абухом па галаве.

Старая прынесла талерку парэзанага на кавалкі сала і паставіла на стале.

— Што там яшчэ добрага гаварылі на бюры?—лагодна спытаў дзед, кроячы хлеб і кладучы лусты бліжэй да Федзькі.

— Гурток стралковы арганізуем. Каб кожны калгаснік добра навучыўся страляць. Страляць так, як нарком абароны Варашылаў. Мяне кіраўніком вызначылі. Трэба і Арцёму Мікалаевічу падумаць. Вінтоўка ёсць, патронаў дастанем.

Здаволены такім запрашэннем, стары паторгаў сівую, але густую яшчэ бараду.

— Дастойная справа! Кажаш, ёсць патроны? Я з ахвотай, але ведаеш... Мне братка, шэсцьдзесят год... Лепш скажы ты мне, Федзька, што там старшыня пра выезд спробны гаварыў? Ці намёку не было?

— Было,—варухнуў шырокім плячом Федзька Рабец, здзіўлена пазіраючы, як спрытна выскачыў корак з прынесенай бутэлькі.

— Будзем сеяць радковай сеялкай каля пушчы, на пагноях і ў шырках...

— Правільна. Няма ў вашай брыгадзе людзей, якія ахвоту і спрыт сявецкі маюць. У машыністы падаліся. Верна кажу.

Гарэлка зазвінела ў гранёнай багатай чарцы і раптам, не напоўніўшы яе, сціхла, калі Федзька закончыў:

— ... а таксама на ўсіх палёх першай брыгады.

— Матруна!—утрапёна выскакваючы з-за стала, гукнуў стары.— Якая халера цябе прасіла гарэлку падаваць? Зараз-жа ўсё прыбяры са стала!

— Звар'яцеў, ці што,—развінула рукамі жонка.—Вось ліха мне...

Федзька Рабец шырока ўсміхнуўся.

— Ты гэта дарэмна, Арцём Мікалаевіч. Ты, мусіць, баішся, што сеялка ў цябе хлеб адаб'е. Дык я табе, Арцём Мікалаевіч, скажу...

— Можаш і не казаць!—загрымеў заслонам дзед Арцём.—Ніхто цябе не просіць! Мала таго,—як па-паздзекваўся на полі, дык яшчэ і сюды пакпіць прыцёгся!...—Стары сурова зірнуў на жонку.—А яна яшчэ салам, ды гарэлкай выхваляецца. Зяця спаткала такога. Ён, можа прышоў падсажваць мяне на печ ножыкам...

— Сапраўды, здурнеў,— узлавалася жонка і, плюнуўшы ў качарэжнік, мятнулася ў сенцы.

Дзед Арцём чакаў, што Федзька неадкладна ўстане з лаўкі і пойдзе адкуль прышоў. Але той упарта сядзеў на месцы, бы яму цікавей і даражэй за ўсё было наглядаць, як шалее і лютуе стары.

— Зноў сеялкі... даволі таго, што ў трыццатым і трыццаць першым Васіль Каўтун імі насеяў, каб яму чорт рагаты гарачым вугалём пуза абсеяў! Насення і таго не вярнулі. Дык і сёлета тое будзе. Памянеш маё слова...

Федзька сядзеў на лаўцы, падпёршы левым плячом сцяну, як-бы падтрымліваючы, каб яна не абвалілася ад дзедавай злосці. Калі стары выдыхся і зморана сеў на палок у запеку, комсамолец спакойна загаварыў:

— Вядома, хто такі быў Васіль Каўтун. Ці трэба расказваць Арцёму Мікалаевічу? Васіль Каўтун браў на поле па дзесяць мяшкоў, а высяваў толькі пяць. А рэшту ў кусты. Ён раней крычаў супроць, калі мы трактар запрасілі. І супроць сеялкі крычаў. А як убачыў, што сеялку купілі і ўпарта будзем ёю сеяць—ні з таго ні з сяго кіраваць ёю захацеў. Дык як ён сеяў? Пятае цераз дзесятае! То поверху сашнікі пусціць, то ў зямлю на два, на тры вяршкі гоніць. І так сеяў гэты кулак, пакуль яго за каўнер не ўзялі... дык я ўчора на полі падумаў і сказаў, што дзед Арцём бы той Каўтуноў падгалосак... як-жа іначай? А машына—лепшы калгасны друг. Праўда, калі яна ў чужыя рукі трапіць, дык і напаскудзіць можа, нядобры след можа пакінуць. Ці-ж няпраўда, Арцём Мікалаевіч?

Арцём Мікалаевіч маўчаў, усёроўна як і не было яго ў хаце. Але Федзька быў не такі, каб адступаць. І ўжо можна было здагадацца, што не за адным перапрашаннем прышоў ён сюды, калі стала ў яго цярплівасці дакладна ўсё растлумачваць старому.

Дзед Арцём добра ведаў, што Каўтун аказаўся шкоднікам, што па яго віне зганьбаваны сеялкі. І на тэрміновым сходзе стары сейбіт крыкнуў тады: „Гэтакіх Каўтуноў усіх трэба на-смерць пабіць асінавымі каламі, калі яны прашыліся ў калгас, каб красці і ўчыняць зло народу. Мала Каўтуну дзесяць год высылкі“. Але дзед Арцём быў упэўнены і ў іншым: рукамі сеяць хутчэй, асабліва калі сее сам ён, Арцём. І галаву сваю сівую мог даць ён на заклад, што пасее рукамі лепш за машыну!

Як-бы ўгадаўшы мітуслівыя думкі старога сейбіта Федзька пачаў наступленне з другога боку:

— Скажам, Арцём Мікалаевіч, пра такую справу. Заўсёды ляталі вы на самалёце. І не толькі ў нашым калгасе, але і ва ўсім раёне. За якасць ляталі, за хуткасць работы. А чаму ляталі на самалёце? Бо не было такога параграфа, які-б вас абганяў. А цяпер, калі навечна за сеялку ўзяліся, сядзеце са сваёй прафесіяй на чарапаху. І, каб не быць на чарапасе, давядзецца перакваліфікавацца. Мы ўжо аб гэтым гава-

рылі: найлепшага інспектара якасці, як Арцёма Мікалаевіча, нам не знайсці ва ўсім раёне...

Дзед Арцём зірнуў тлумнымі вачыма на Федзьку.

— Сказаў ты мне, братка. Скажу-ж і я табе: тады я сяду на чарапаху ў насценгазеце, як рукі памлеюць і вочы аслепнуць! Чуў? Дык вось, калі на тое пашло... давай спаборніцтва з сеялкамі...

— Сядзеце на чарапаху,—адвярнуўся ад дзеда, каб схаваць усмешку, Федзька Рабец.

— Сяду, кажаш? Дачакаешся... груш на вярбе!

— А што, калі сядзеце?—устаў Федзька-Рабец, як бы больш ужо не мог усядзець ад радасці.—Што тады?

Дзед Арцём супыніўся толькі на момант. Потым узняўся з палка і таропка пачаў шукаць шапку.

— Што тады?—паўтарыў Федзька.

— Тады запісвай у свой стралковы гурток! У надругу над сівымі валасамі буду тады маршыраваць з вамі, малакасосамі? У трусіках, калі захочаш, па вуліцы прабягу. Такую ганьбу магу прыняць... Але, ліха тваёй матары, не дачакаеш гэтага, што мне рукі схібяць! Не дачакаеш! Да старшыні, братка, хадзем...

Дзед Арцём на хвіліну затрымаўся каля парога.

— І так яшчэ дагаворымся: маўчаць пра ўсё гэта, пакуль не парасце. Чуеш? А тады—хоць на ўвесь саюз пра факт крычы.

Засяваў дзед Арцём вызначаны для спробы кавалак раніцай, калі яшчэ нікога не было на полі. Федзька яшчэ досвіта зацягнуў на сваіх плячах мех аўса і паставіў яго блізка засеенага машынамі ўчастка. Дзед Арцём недаверліва скасіўся на роўныя, як стрэлы, радкі і дрыглівымі пальцамі пачаў насыпаць у лубянку адсартаванае, буйнае насенне...

І з таго часу не было дзеду Арцёму спакою. Штодня, пасля агляду якасці работы брыгад стараўся ён завярнуць на гэты ўчастак. Стары падоўгу стаяў на дарозе і ўглядаўся ў распушанае баронамі поле. Зямля перад ім ляжала маладая і задаволеная, маўкліва грэючы на сваіх прасторных грудзях пругкія храсткі.

— Чаму вы так сеялі?—пыталіся пры сустрэчы з дзедам суседнія калгаснікі?—Вакол сеялкаю, а ў сярэдзіне—саматугам? Ці не аднаасобнік які сюды ўбіўся. Аж глядзець брыдка!

— Праяжджай, праяжджай,—агрызаўся стары,—можа тут мерыканскі кукуруз, можа тут пшаніца французская?

— Ды ўжо-ж, паглядзім. Недалёка. Суседзі. Можна сказаць, цікава нават, што і як тут вырасце.

Мінуў месяц, другі. Дні, сонечныя і спакойныя, караселі ўсё больш і больш. Жнівеньскія ночы ападалі на спелую зямлю буйнай цёплай расой. Пачынаў жоўкнуць на бярозах важкі ліст.

Кожнай раніцы яшчэ за доўга да сігнала, адпраўляўся дзед Арцём на поле. Вялікае і ўрачыстае сонца ўздымалася над лесам. Стары прыплюшчваў вочы ад ягоных вострых праменняў і павольна ішоў па сцежцы між густых аўсоў. Кашлатае, цяжкое вецце збажыны сцябала па дзедавых каленях. Стары, апасаючыся збіць хоць адно зерне, яшчэ больш сцішваў хаду. Авёс быў дзеду ў пояс.

— Іш ты, як табе дагадзіла!—шаптаў стары, асцярожна адхіляючы ад ног упартае вецце.—Зацягнеш па сто пудоў з гектара? Дасі і сто дзесяць, калі не больш! Асарамаціў ты, братка, сівыя мае валасы.

Рукі мае асарамаціў... Федзькі паслухаўся. Здаровы, братка, твой корань! А тое, што рукамі—здрабнела...

Авёс, як жывы, варушыўся каля дзедавых ног, здавалася, разумеў гаворку старога і згодна ківаў залатою галавой. Свежым ранішнім ветрам дыхаў даспелены ўраджай.

— Заўтра можна пушчаць жнеяркі... У малатарню табе, братка, пара...

І раптам Арцём Нізок як не падскочыў ад нечаканага голасу:

— З кім гэта ты, дзед Арцём, гаворыш?

Стары зірнуў на голас і, згледзеўшы Міколу Вяртая, змоўк. Мікола Вяртай стаяў каля дзедавага рашаючага засева і нетаропка скручваў папяросу.

— З душою сваёю гавару!.. — ганарыста бліснуў вачыма дзед Арцём.—А табе няма чаго падслухоўваць, нешта ты рана ўскруціўся? Нешта ты часта ходзіш па маім следу? Лепш загадай, каб жняяркі сюды рушылі заўтра...

Мікола Вяртай прапусціў міма вушэй дзедава незадавальненне ад такой сустрэчы. Запаліўшы папяросу, ён хітра міргануў у бок шырокай лавы аўса. Дзед Арцём ужо нарыхтаваўся вылаяцца, калі старшыня загаворыць пра тое, як здорава падвяла сявенька. Але Мікола Вяртай маўчаў. Усё яшчэ моўчкі, ён выцяг з кішэні нейкую паперу, павольна разгарнуў яе і падаў дзеду Арцёму. Гэта была раённая газета.

— Навошта?—нічога не зразумеў дзед Арцём.

— Зірні. На першай старонцы.

Стары ўтаропіўся ў газету. Мікола Вяртай пільна сачыў за выразам дзедавага твару. Стары, мусіць, адчуў яго позірк, бо неяк няёмка крутнуўся спіною да старшыні. У газеце быў змешчан той фотаздымак, калі дзед Арцём насіў яшчэ славу найлепшага сейбіта. Толькі подпіс цяпер быў другі: „Найлепшы інспектар якасці, ударнік Арцём Мікалаевіч...“

— Гэта зноў Федзька падстроіў,—ускіпеў стары.—Знайшоў героя! Пачакай-жа братка...

Увечары, калі жонка пайшла на ферму даіць кароў, дзед Арцём падаўся да старшыні. Хвілін праз дзесяць ён ужо хаваў у каморы нешта даўгое, закручанае ў белую посцілку.

——

І вось цяпер бязлітасны Федзька Рабец напомніў дзеду Арцёму пра даўні дагавор. Стары ўжо ведаў чаго ўхмыльнуўся, як сказала жонка, старшыня.

Каля Фідрусявай хаты поўна было людзей. Некаторыя чыталі прыбітую да сцяны аб'яву, другія сядзелі на прызьбе, стаялі пасярод вуліцы групамі. У большасці гэта была моладзь, дужая і смуглая ад сонца і палявых вятроў. Трактарыст Яўхім Жыгар справіўся скінуць пасля работы зашмальцованую мазутай спецоўку і пераапрануцца ў чысцейшае. Ён, як вецер, лятаў на веласіпедзе з аднаго канца вёскі ў другі, дражнячы званком сабак і падзуджваючы дасціпных дзяцей.

Дзед Арцём расштырхаў чытачоў і ўтаропіў вочы ў скрамсаны чарнілам кавалак шпалераў.

Гэта была аб'ява кіраўніка вайсковага гуртка Федзькі Рабца. Федзька паведамляў, што чарговыя заняткі (стральба) адбудуцца сёння пасля работы. Ніхто не павінен спазняцца. Кожны калгаснік павінен

быць снайперам. У канцы дзед Арцём прачытаў, што ён запрашаецца на заняткі ў „абавязковым парадку, як было дагаворана з вясны“. Збоку большага ліста быў меншы, а на ім—вынікі мінулай стральбы. І супроць дзедавага прозвішча стаяў нуль!

— Што там у вас за дагавор быў?—пачуліся зацікаўленыя галасы.— Якое ён мае права пісаць так пра цябе, дзед Арцём?

Узгневаны нулём і назойлівым распытваннем, стары павярнуўся. У гэты час і пачуўся Федзькаў камандзірскі голас:

— Яўхім, даволі прагульвацца! Цягні вінтоўку.

— Яе ў мяне няма,—саскакваючы з веласіпеда, азваўся Жыгар.— Старшыня два тыдні таму назад забраў яе. І патронаў сотню і мішэнь.

— Зараз-жа прынясі! Папаў моду!..

Жыгар зноў скочыў на веласіпед і паімчаўся да старшынёвай хаты. Хутка ён вярнуўся назад, але вінтоўкі ў яго не было.

— Ну, што?—нецярпліва крыкнуў Федзька Рабец.—Хочаце заняткі сарваць?

Жыгар паставіў веласіпед каля сцяны і міргануў Федзьку: „хадзі сюды“.

Усе, хто быў на вуліцы, павярнуліся да Федзькі і Яўхіма. А тыя адышлі ў бок і пачалі шаптацца, азіраючыся нечага на дзеда Арцёма. Стары раптам занепакоіўся і шмыгануў за людскія спіны.

— Арцём Мікалаевіч,—гукнуў яго Федзька ўзрадаваным голасам.— Гэта ў цябе забыўся старшыня вінтоўку?

— Ну што, калі ў мяне?—буркнуў дзед.

— Дык хадзем, возьмем, і на стральбу.

Ніхто нічога не разумеў, пакуль дзед Арцём і Федзька не вярнуліся. У адной руцэ Федзькі была вінтоўка, а ў другой—мішэнь. Федзька весела размахваў паперай і крычаў:

— Тры кулі ў дзевятку, пяць—у васьмёрку! Ну і хітры-ж дзед Арцём. А казаў—страляць не ўмею. Паціху ўсё рабіў. Каб нас дагнаць. Сцірай, Яўхім, нуль супроць дзедавага прозвішча!..

І ўсё-б добра было-б, каб не пільнае вока вартаўніка Мацея Сенькі. Ён першы падаў голас з натоўпу:

— Глядзі ты! Пакажы мішэнь!

Федзька працягнуў Мацею прастрэленую паперу. Частка калгаснікаў акружыла Мацея, астатнія абступілі дзеда Арцёма. Моладзь паціскала старыя маршчыністыя рукі, якія высыпалі не адну тысячу пудоў насення, старэйшыя хлопалі па плячах, якія разносілі гэтыя тысячы пудоў па загонах.

— А мы думалі—хто гэта шпокае раніцою за гумном. Дык-жа гэта дзед Арцём—чуліся галасы.

— Я страляў,—ганарліва сказаў дзед.—Казаў, што вострае яшчэ вока... На двесце крокаў садзіў... А ён—нуль прыпісаў... На чорта ён мне!.. Не, братка, не так лёгка мяне пасадзіць на чарапаху...

І раптам змарнеў дзедаў гонар, калі Мацей крыкнуў:

— Гэта-ж Яўхімава мішэнь! З мінулай стральбы. І прозвішча яго падпісана і дзіркі алоўкам закрэслены... І ніводнай новай кулі!..

Дзед Арцём ураз адчуў слабасць у нагах і падаўся да прызбы.

Раз'ятраны Федзька падскочыў да вартаўніка, таўхануў локцем у бок і зашыпеў на вуха:

— Здурнеў ты, ці што? Ты разумееш, чорт, як яму, старому цяпер? Усё маё шэфства комсамольскае псуеш!.. Хіба так да старых звяртаюцца?

І Мацей Сенька, пазіраючы на тую-ж самую мішэнь, выгукнуў новае:

— Во, гэта мішэнь дзеда Арцёма!.. Тры кулі ў дзесятку, пяць—у васьмёрку... Гэта дзеда... А ён мне старую паперу ткнуў.

— Федзька!..—бадзёра крыкнуў дзед Арцём.—Сатры, браток, ганьбу маю, нуль паганы сатры...

---

**Іоган Вольфганг Гётэ**

# З „Фауста“

## Перад брамай

**Гуляючыя розных станаў (выходзяць)**

**Група чаляднікаў**

Куды вы рушыце гуртом?

**Другая група**

Мы йдзем уніз, у паляўнічы дом.

**Першая група**

Мы думаем прайсці да млыну.

**Першы чаляднік**

Я-б раіў глянуць на пруды.

**Другі**

Дарога кепская туды.

**Другая група**

Як ты мяркуеш?

**Трэці чаляднік**

Я пайду з усімі.

**Чацверты чаляднік**

Ў Бургдорф сюдой ісці; вы пабывайце там:
Дзяўчаты ладныя, а піва—любата;
Скандалы першага гатунку.

**Пяты чаляднік**

Ты, бачу, хлопец гаманкі,
Але наб'юць яшчэ табе бакі!
Не хочу я туды, лепш застануся тут я.

**Пакаёўка**

Не, я назад вярнуся ў горад, не.

**Другая пакаёўка**

Яго мы пэўна там, каля таполяў знойдзем.

**Першая пакаёўка**

А што з таго за радасць мне:
Ён пры тваім баку ўсё ходзіць.
Танцуе толькі ўсё з табой
Дык што мне з радасці тваёй!

**Другая**

Ён сёння прыдзе не адзін
Казаў, што й кучаравы будзе з ім.

Першы вучань

Чорт! Бачыш, што за дзеўкі там сыйшліся.
Хадзем, браток! Трэ‘ каля іх прайсціся.
Хмяльное піва, ды тытунь круты,
Ды пакаёвачка—што лепей знойдзеш ты.

Дзяўчына гаражанка

Нядрэнныя нібыта мальцы!
А маюць сапсаваны густ:
Маглі-б з найлепшым таварыствам знацца,
А за служанкамі бягуць!

Другі вучань (да першага)

Ды не спяшайся! Там ідуць ‘шчэ дзве,
Зусім не дрэнныя дзяўчаты,
Адна каля мяне жыве
І падабаецца мне надта.
Яны павольна так ідуць якраз
І пэўна маюць на увазе нас.

Першы вучань

Кінь, браце! ‘Шчэ турботы не было!
Хутчэй, а то дзічыну нашу згубім.
Хто па суботах водзіць памялом,
Ў нядзелю слаўна можа прыгалубіць.

Бюргер

Не, новы наш бургамістр дужа дрэнны!
Усё больш нахабным робіцца з дня ў дзень ён.
А чым ён горад задаволіў?
Нам дзень ад дня ўсё горш і горш.
Мы мусім кланяцца ўсё болей
Плаціць таксама мусім больш.

Жабрак (пяе)

Пачцівыя панове, пані,
Зрабіце ласку мне сваю:
Адзеты, сыты вы, дык гляньце—
На нэндзу горкую маю.
Не дайце мне дарэмна грацъ тут!
Шчаслівы той, хто можа даць.
Дык дзень, калі ўсім людзям свята,
Дазвольце сыта мне спаткаць.

Другі бюргер

Найбольшая у дзень святочны асалода
Пра бойкі розныя, пра войны гаманіць
Што дзесь ў Турэччыне ў далячыні
Адзін з адным вядуць народы.
Стаіш сабе са шклянкай пад акном,
Глядзіш як караблі праходзяць чарадою,
Тады вяртаешся да дому вечарком
Благаслаўляючы час міру і спакою.

Трэці бюргер

Так, так суседзе! Думак я такіх—
Няхай сабе хаця галовы зломяць,

Няхай усе ідуць на ўсіх;
Абы ў нас вялося па старому.

**Бабулька** (да дзяўчат-гаражанак)

Як паўбіраліся! Якая прыгажосць!
На вас не заглядзецца хто пасмее?
Без злосці толькі! Я кажу што ёсць
І памагла-б ва ўсім вам, як умею.

**Дзяўчына-гаражанка**

Агата, прэч! Пры ўсім народзе нам
З такою ведзьмай знацца не прыстала:
А мне ў Андрэеўскую ноч яна
Якога кавалера паказала.

**Другая дзяўчына**

А мне ў люстэрку так-жааднаго,
Вайсковы і адважны, незвычайна
Цяпер шукаю ўсюды я яго,
Але нідзе яго не спатыкаю.

**Салдаты**

Вежы з зубчатай
Моцнай сцяною,
Кветкі дзяўчаты
З гордай душою
Будзеце ўзяты!
Цяжка змагацца,
Радасны плён!
Склікаы ўсе мы
Гучнай трубою
Як да вяселля
Так і для бою.
Буры, напевы—
Гэта жыццё ўсё!
Сцены і дзевы
Усе вы здасцёся.
Цяжка змагацца.
Радасны плён!
Глянь і салдата
Як не было.

## Фауст і Вагнер

**Фауст**

Крыніцы і стромы лёд прабілі,
Збудзіў іх вясны жывучы пагляд:
У далінах краса-зеляніна ўзыйшла:
Бабулька-зіма, згубіўшы сілы
Да змрочных гор папаўзла назад.
І не спыняе, уцякаючы, ліцъ
Познія стромы зярністага лёду
На зеленеючыя палі;
Толькі бель не настрашыць прыроду:
Сонца ўсходзіць над рухам вясновым
Будзіць усё зіхаценнем барвовым;

І калі кветак няма нідзе
Многа ёсць прыбраных людзей.
Вочы ад высі ты адвядзі
І на горад назад паглядзі.
З брамы прасторнай і крутой
Рушыць сюды барвовы натоўп.
Кожны пагрэўся ля сонечных кос
Святочны дзень у іх—бог уваскрос;
Ды яны і самі нібы ўваскрослі
З цёмных куткоў, з халупак чахлых,
З путаў заняткаў сваіх і рамёслаў,
Ды з мешаніны муроў і дахаў,
З вуліц, ушчымленых цеснатою
З-за пацямнелых муроў царквы,
Да зеляніны, святла, ракі.
Бачыш, як рушаць яны грамадою.
Ўздоўжкі, ушыркі праз поле, праз сад
Прабіваюцца буйнай ракою
І чаўноў мітусіцца там шмат;
Вось адыйшоў апошні човен,
Ён перагружан да канца.
І нават там, на схілах горных
Адзенні барвамі зіхацяць.
Вунь загудзела і вёска паводдаль,
Вось дзе сапраўднае свята народу,
Малы, вялікі радасцю кіпіць:
Тут чалавек я, тут магуім быць.

**Вагнер**

Пан доктар, з вамі прагуляцца
Карысць і гонар хоць каму;
Адзін я пабаяўся-б тут застацца,
Я вораг грубаму ўсяму.
Тут скрыпкі, кеглі, гвалт нязносны,
Праціўна гэта, проста жуць:
Як апантаныя яны галосяць
І гэта радасцю яшчэ завуць.

## Сяляне пад ліпамі

**Танцы і спевы**

Надзеў да танцу пастушок
Жакетку, стужкі і вянок:
Прыгожа ён прыбраны,
Пад ліпамі народу шмат
І ўсе танцуюць лад у лад.
Ай-люлі, ай-люлі!
Гэй ды люлі! Гэй! Гэй!
І скрыпка гучна грае,
Убіўся ў саму гушчыню,
Дзяўчыну там ён штурхануў
Знянацку сваім локцем
Ён штурхануў яе ледзь-ледзь,
Дзяўчына кажа: „кінь дурэць“

Ай-люлі, ай-люлі!
Гэй ды люлі! Гэй! Гэй!
Не будзь незграбным, хлопча!
Танцораў спрытна ходзіць круг
Направа рух, налева рух,
Сукенкі веюць роем,
Спякота, гвалт і сумятня
На локці ён яе падняў.
Ай-люлі, ай-люлі!
Гэй ды люлі! Гэй! Гэй!
Змарыліся абое.
„Табе не веру я ніяк,
Сваім нявестам кожны так
Клянецца і прысягае".
Яе ён моцна прытуліў
І зноў да ліп яны пайшлі.
Ай-люлі, ай-люлі!
Гэй, ды люлі! Гэй! Гэй!
І скрыпка гучна грае.

**Стары селянін**

Як добра, пане доктар, вы
Зрабілі, што прышлі сюды;
Разумнай гэткай галавы
Гасцінам рады мы заўжды.
У найлепшы келіх мы наллём
Для вас салодкага піва
І пажадаем, каб яно
Найболей асвяжала-б вас.
І колькі кропель мае ён
Пражыць вам зычым столькі дзён.

**Фауст**

Я з асалодай п'ю яго
І вам жадаю ўсім таго
(Людзі збіраюцца кругам)

**Стары селянін**

Дапраўды! Добра, што зайшлі
Да нас сюды вы ў добры час.
У дні нядобрыя калісь
Бывалі такжа вы ў нас.
Не мала тут стаіць жывых,
Што бацька ваш уратаваў:
Ён вырваў іх у трасцы злой
І пошасці канец паклаў.
Тады хадзілі юнаком
У кожны дом да хворых вы.
Насілі мерцвякоў адтуль,
Вы-ж заставаліся жывым,
Жылі ў пагрозе надзвычайнай,
Нябесны збаўца даў вам падтрыманне.

**Усе**

Няхай жыве наш добрадзей
На паратунак для людзей!

**Фауст**

Таго спачатку ўшануем,
Хто дае рады і ратуе.

(Ідзе з Вагнерам далей)

**Вагнер**

О слаўны чалавек, што адчуваць
Вам трэба пры ўдзячнасці падобнай!
Шчаслівы той, хто гэтак добра
Дастатак свой умее скарыстаць!
Цябе паказывае сыну бацька,
І кожны хоча глянуць і спытаць,
Стаў танец, скрыпка перастала граць,
Ты йдзеш, змаўкаюць песні, смех,
Ўсе шапкі ўгору—прывітанне.
Хвіліна—на калені ўсе
Нібы перад прычасцем стануць.

**Фауст**

Падыйдзем мы сюды, дзе камень гэны—
Тут будзем ад хады адпачываць.
Калісь я тут сябе ў сваім імкненні
Пастамі і малітвай мардаваў.
Я меў шмат ведаў, шмат надзей
Ў слязах і у пакуце строгай
Канца чумы, канца бядзе
Хацеў я вымаліць у бога.
Людзей удзячнасць мне гучыць як кпін,
Каб у душы маёй чытаў ты.
Ты-б знаў, як мала бацька й сын
Былі падобнай славы варты!
Мой бацька быў цікавы чалавек,
Ён сіл прыроды разгадаць таемнасць
Бяссільна прагнуў на свой лад сумленна,
І змарнаваў на гэтым увесь век:
Шукаў ён у кругу адэптаў
У чорнай кухні дні й начы
Як супярэчныя рацэпты
У элексір жыцця злучыць.
Там быў Чырвоны Леў [1])—жаніх адважны
Лілею ў ванне меў за жонку браць,
А потым на агні іх грэлі разам,
Разжэньвалі, жанілі зноў не раз.
Тады з'яўлялася ў крышталі
Царыца Юная, гатоў
Бальзам, і хворыя ўсе паміралі
Не вылячыўся з іх ніхто
Мы тут з сваёю медыцынай
У гэтых горах і далінах
Былі шкадлівей, чым чума.
І сам я тысячам даваў атруту

[1]) Чырвоны Леў, Лілея, Юная Царыца—умоўныя тэрміны сярэдне-вяковай алхіміі.

Памерла шмат, а я—забойца—тут вось,
Яшчэ й падзяку атрымаў.

**Вагнер**

Але чаго-ж вам турбавацца!
Для чалавека ужо досць
Каб ён даваў, што ў яго ёсць
І ўмеў сумленна гэтым карыстацца.
Калі ты бацьку юнаком ушанаваў
Яго ты задаволіў гэтым.
Калі, дарослы, ведаў больш прыдбаў,
Дык сын твой пойдзе да далейшай мэты.

**Фауст**

Шчаслівы у каго надзеі шмат
Пераплысці памылак акіяны!
Што знаем мы—патрэбы ў тым няма,
А што патрэбна нам—ад нас схавана.
Размову гэту смутную, аднак,
На гэты час давайце кінем!
Зірнем, як вогнішча канаючага дня
Агортвае садочкі і хацінкі.
Сыходзіць сонца пераж‌ыўшы дзень
І недзе там жыццю другому свеціць.
О калі-б мог я крыллі ўздзець
І ўзняцца ў высь у парыванні вечным,
Тады-б у вечным бляску я
Увесь свет убачыў пад нагамі—
І золата ракі і срэбра ручая
Спакой далін і гор зіянне.
І мне не загародзяць шлях
Крутыя схілы гор высокіх:
Агорне мора цёплыя затокі
Мой зачараваны пагляд.
Аднак паспела сонца ўжо спусціцца
Ува мне імкненне паўстае ізноў
Хутчэй за ім, святла яго напіцца
Каб ноч за мной была, а дзень перада мной,
Каб хвалі пада мной, а неба ўверсе.
Прыгожы сон. Але няма ўжо дня.
Даступна духу толькі вышыня
А на цялесных крыллях не ўзаўешся.
Аднак-жа кожнаму ўласціва
Імкнуцца вечна да далячыні
Калі з глыбінь прастораў сініх
Спеў жаўранкавы зазвініць,
Калі арол лунае горда
Па-над вяршынай снегавой
І над далінамі, над морам
Клін журавоў ляціць дамоў.

**Вагнер**

Гадзін дзівацкіх меў і я немала
Але падобнай прагі не бывала.

Дакуку лес і поле прынясуць.
Я да птушыных крылляў не зайздросны
Духоўная нас радасць пераносіць
Ад кнігі к кнізе, ад лістка к лістку!
Спакойна ночы зімнія цякуць
І адчуваецца, што ўсё як трэба
Калі-ж пергамент мудры разгарнуць
Тады зусім здаецца, што ты ў небе.

**Фауст**

Адно імкненне здолеў ты адчуць,
Дык не старайся іншага нажыцца!
Ах, дзве душы ў маіх грудзях жывуць
Адна з другою хоча разлучыцца:
Адна заве суцешыцца і жыць
Тым, што на свеце ёсць, але як сокал
Другая з пылу прагна рвецца ўвысь,
На светлыя палі высокіх продкаў.
Вам, духі, у прасторы тым
Вядомы неба і зямлі дарогі,
Спусціцеся з сузор'яў залатых
Мне дайце паспытаць жыцця другога!
Каб я чароўнай мантыяй уладаў
Што ў край мяне занесла-б нятутэйшы,
Я-б не аддаў яе за скарб найлепшы
За царскую парфіру-б не аддаў.

**Вагнер**

Не заклікай злавесны рой
Што ўвесь простор наўкол свідруе
І пастку небяспекі злой
З усіх бакоў для нас рыхтуе.
Ад поўначы кіруюць востры зуб
І пагражаюць языком змяіным;
Лятуць з усходу, высахшы як труп
І лёгкімі гадуюцца тваімі;
Калі нам поўдзень іх з пустыні мчыць
Яны пякуць распаленым вуголлем
А захад—ён спачатку асвяжыць
Пасля табе затопіць луг і поле.
У іх ёмкі слух, да шкоды добры спрыт,
Рахманыя, ашукваюць нас спраўна,
Нябесным тварам любяць абдурыць
І галаскамі ангельскімі маняць.
Аднак хадзем! наўкола цьма,
Паветра стыглае, туман!
І дом мілей пад вечар нам.
Ды што-ж ты выглядаеш там?
Што ў цемры там, шго ты такі трывожны.

**Фауст**

Глядзі, вунь чорны пёс там бегае па пожні.

**Вагнер**

Даўно заўважыў, пёс не навіна!



**Фауст**

Прыгледзься лепей! Што за зверына?

**Вагнер**

Здаецца мне ён пудэлем звычайным:
Гаспадара вынюхвае сляды.

**Фауст**

Заўваж, як ён павольнымі кругамі
Усё набліжаецца да нас сюды.
Калі я не мыляюся, па полі
За ім струменіць агнявы паток.

**Вагнер**

Там чорны пудэль і нічога болей
Напэўна вас абманывае зрок.

**Фауст**

Здаецца мне, што ён паціху значыць
Магічную пятлю наўкола нашых ног.

**Вагнер**

Я бачу, як ля нас няўпэўнена ён скача:
Замест гаспадара знайшоў чужых аж двох.

**Фауст**

Вузее круг і блізка ўжо, глядзі!

**Вагнер**

Няма там здані, толькі пёс адзін
Бурчыць, вагаецца, цяпер прысеў.
Хвастом віляе, як сабакі ўсе.

**Фауст**

Хадзі сюды. Хадзі да нас!

**Вагнер**

Забаўнейшая звярына.
Ты ціха стаў, ён вухам не вядзе;
Загаварыў, ён да цябе ідзе;
Згубі што, зараз-жа валочыць.
Па твой кіёк у ваду скочыць.

**Фауст**

Ты маеш рацыю: і следу не знайшоў
У ім духаў я: вучоны пёс і ўсё.

**Вагнер**

Да выцвічанага сабакі
Мудрэц прывыкнуць можа ўсякі.
Так ласкі ён тваёй бясспрэчна варт
Студэнтаў найруплівейшы шкаляр.

*З нямецкай мовы пераклаў АЛ. ДУДАР.*

Ал. Міронаў

## Багі пераможаныя

Кароткія зімовыя дні мільгалі амаль непрыметна: толькі гадзіну назад скрозь абледзянелыя акенцы палярнай станцыі прабівалася нясмелае дзённае святло, а цяпер іх зноў абляпіла густая цемра халоднай чукоцкай ночы.

Шэрае дзённае святло толькі падкрэслівала начную бязконцасць. Здавалася, ноч, не вытрымліваючы велізарнага націску штормавага ветру, з цяжкасцю падымала свае прымарожаныя сіне-чорныя павекі і цмяным туманым пазіркам акідала пакатыя спіны берагавых сопак, аснежную тундру і мора закованае шматгадовым таросістым лёдам. Гэты туманны, халодны позірк тут называецца днём...

Пурга бушавала некалькі сутак засаб. Яна намяла велізарныя гурбы навокал палярнай станцыі, снежнымі барыкадамі заваліла дзверы і вокны невялікай хацінкі рацыі, не выпускаючы адтуль зімоўшчыкаў. Пурга спыніла ўсю работу, перарвала сувязь зімоўшчыкаў з бліжэйшымі чукоцкімі паселішчамі. Людзі не маглі дачакацца канца вакханаліі ветру і снегу, стаміліся чытаць дзесяткі разоў прачытаныя кнігі і злуючы на вымушаную бяздзейнасць, пачалі заўважаць адзін у аднаго дробныя недахопы, абрыдлыя ў пурговыя дні.

Гэта пагражала вялікай сваркай, разладам.

Асабліва даставалася начальніку зімоўкі Паніну: на ім была велізарная адказнасць чалавека, якому партыя і краіна даручылі быць кіраўніком зімоўшчыкаў. Высокі і кастлявы, з хударлявым абветраным тварам Панін быў неўтомным і энергічным чалавекам з жалезнай воляй.

Чацвёра зімоўшчыкаў—метэоролаг, матарыст, радыст і повар—дужа любілі начальніка. Вясёлым жартам, загадным позіркам Панін заўсёды ўмеў падтрымаць слабейшага таварыша, падбадзёрыць нервовага, разагнаць сум.Ураўнаважаны і спакойны з надворнага боку, ён быў для таварышоў не проста начальнікам, а асабістым, інтымным другам, ідэалам комуніста і чалавека.

І яшчэ людзі любілі радыста Сіму Смірнова. Дзесяткамі тысяч міль адрэзаныя ад жыцця краіны, яны з нецярплівасцю чакалі кожнай кропкі, злоўленай у эфіры, а кропкі, сплятаючыся з другімі кропкамі і працяжнікамі ператвараліся ў словы і сказы пра жыццё, што кіпела там, далёка. Калі Смірноў чытаў урыўкі атрыманых інфармацый, зімоўшчыкі забываліся на адарванасць, аднастайнасць і сум пурговых дзён. Здавалася, што на двары сціхалі посвісты ветру, даўганогі матарыст Маркаў не так агідна шоргаў падэшвамі разношаных

шлёпанцаў, а повар Казлоў спыняў надакучлівае сапенне перабітым калісьці носам.

Людзі збіраліся ў пракуранай сталоўцы, дзеравяныя сцены якой былі знаёмымі да малюсенькіх сучкоў. Моўчкі слухалі яны радыста, баючыся прапусціць прыгожыя словы, атрыманыя здалёку. А Сіма—круглы і тоўсты—расказваў пра заканчэнне пабудовы новай домны ў Магнітагорску, пра падрыхтоўку да вясенняй сяўбы на Украіне, пра вялікі поспех за мяжою совецкага фільма „Чапаеў“.

Прасвятлелі панурыя твары людзей. Метэоролаг Філін, пасвістваючы, ішоў у метэо-будку да сваіх інструмантаў. Шахматная партыя з крываносым Казловым набывала для Маркава даўно забытую навізну.

Яны былі добрымі хлопцамі—чацвёра зімоўшчыкаў Эмелінскай станцыі, і пяты—начальнік зімоўкі Панін, нездарма ганарыўся кожным з гэтых трывалых комсамольцаў.

2

У маленькай, запоўненай прыладамі радыё-рубцы было чыста і ўтульна, нібы тут гаспадарыла акуратная, ахайная жанчына. Радыст штодзённа праціраў мяккай анучкай усю апаратуру. І, папырскаўшы вадою падлогу, чысценька падмятаў яе: гэта ўвайшло ў звычку, стала неабходнасцю ў строгім, размяжованым Сімавым жыцці. Потым уключаў акумулятар і рубка напаўнялася сухім патрэскваннем кропак і працяжнікаў.

Смірноў гадзінамі праседжваў каля апарата, ловячы размовы далёкіх і блізкіх станцый. У думках ён залятаў ў далёкія гарады дзе бурна кіпела жыццё. На блізкіх палярных станцыях у яго былі сябры, з якімі так прыемна праводзіць нескончоныя вечары ў маласлоўных, але цёплых гутарках...

... так было і сёння.

— Сумуеш?—спытаў Уэллен.

— Пурга,—стукаў Сіма,—калі яна скончыцца?

— Чорт яе ведае. Калі небудзь прыдзе канец. З „Якута“ нічога новага няма?

— Нічога. А ў цябе?

„Якут“ цікавіў абодвых: гэты невялікі парусна-маторны карабель ранняю вясною прышоў у небяспечныя воды Чукоткі, далёка за палярны круг, даставіўшы арктычным станцыям прыпасы і абсталяванне. Назад „Якут“ адплысці не мог: з поўначы нордавыя вятры прыгналі велізарныя палі-крыгі шматгадовага лёду і ланцугом сціснулі невялікі караблік. „Якут“ застаўся адрэзаны ад сухазем‘я трыццацю мілямі таросістага бездарожжа.

Надышла цяжкая палярная зімоўка. Каманда карабля—дваццаць пяць смельчакоў—часта паведамляла берагу пра сваё жыццё, пра гатоўнасць да самага горшага—пагібель карабля:

„Ільды у руху навакол карабля,—радыравалі маракі.—Вырастаюць велізарныя таросы, барты „Якута“ трашчаць, ледзве вытрымліваючы сцісканне, працякаюць“.

Гэта трывожыла: караблю пагражала пагібель, людзям—смерць. Берагавыя станцыі ўважліва сачылі за пазыўнымі „Якута“. Людзі берага былі гатовы ў любую хвіліну выйсці ў пургу, у хаос таросаў, у снягі, і ў ільды,—на дапамогу людзям з „Якута“.

Калі мінутная і гадзінная стрэлкі, сышліся разам, застыўшы на сіняй лічбе дванаццаць, Смірнов шчыльней прыціснуў да вушэй кружочкі навушнікаў, і нахіліўшыся да ключа, пасылаў у эфір кароткія пазыўныя сігналы:

— Якут... Якут... Якут...

Радыст напружваў слух. Між брывямі яго ўтварылася глыбокая зморшчына, твар пабялеў ад напружанасці. Ён дзесяткі разоў паўтараў пазыўныя і з усё большаю трывогай сачыў за нястрымным бегам мінутнай стрэлкі ў адрэзку часу, які даецца для перамоваў з зімуючым караблём.

„Якут" не адказваў. На ілбе радыста выступілі, нібы вадзяністая высыпка, кропелькі поту. Ён слухаў цішыню перасохшымі ад хвалявання губамі. Здавалася там, у ледзяным хаосе зімовага мора, адбывалася нешта страшнае, чаго нельга ўнікнуць, да чаго даўно ўжо былі гатовы, але пра што баяліся не толькі гаварыць, але нават думаць.

І калі нервова, ледзь чутна задрыжала мембрана, Смірноў не паверыў сваім вушам.

— Якут,—зноў прастукаў ён,—Якут...

— Чую,—ціханька затокала ў вуха. Радыст з палёгкаю адкінуўся на спінку крэсла, сухія пальцы яго сціснулі рукаятку ключа, і дрыжачая ад хвалявання рука пасыпала калючы постук сігналаў:

— Гаворыць Эмелін... гаворыць... Эмелін... паведаміце ваша... становішча.

Сіма замёр, баючыся нават дыхаць. Слухаў так напружана, што аж забалела ў вушах. У навушніках зноў пачуўся кволы голас перадатчыка з карабля.

— Пакуль нічога... Недалёка ад карабля прышлі... рух ільды... Людзі гатовы... Просім... і стала да жудасці ціха.

— Якут...—зноў нервова застукаў радыст,—Якут, чуеш?

Адказу не было. Недарма Смірноў запытваў суседнія рацыі, ці чуюць яны перадатчык карабля. „Якут маўчаў". За сценамі рубкі з новай сілай завыў вецер. У маленькім памяшканні стала душна і жахліва. Страшэнна стомлены, з пачырванелымі вачыма, сядзеў радыст каля апарата, забыўшыся на час, прастору, баючыся зварухнуцца— і не пачуць. У галаве блыталіся хаотычныя думкі.

Позна ўночы Сіма са здзіўленнем заўважыў гару акуркаў на стале. У рубцы шчыльна згусціўся табачны дым. Ён уядаўся ў вочы, і вочы багата слязіліся. У дыме знікалі абрысы фігуры радыста, канты апаратаў, стала і здавалася, спыніўся непатрэбны бег часу.

Колькі прайшло: хвіліны? гадзіны? суткі?—Смірноў не ведаў. Ён страшэнна стаміўся, атупеў. І раптам зусім спакойна, не радуючыся і не здзіўляючыся, пачуў:

— Якут расціснут... затануў... на лёд выгружана... харчаванне... палаткі... ставім антэны... раніцою адновім... сувязь...

... зняў навушнікі, недбайна кінуў іх на кучу акуркаў і, узяўшы, радыёграму, вышаў з рубкі—у цмяны золак.

---

Вестка пра загінуўшы карабель хутка разляцелася па ўзбярэжжу. Жыхары бліжэйшых паселішчаў —чукчы абкружылі палярную станцыю стараючыся даведацца пра лёс маракоў.

Вецер, нібы задаволены пагібеллю карабля, хутка пашоў на змяншэнне і пад паўдня перастаў зусім. Разам з ветрам сціхла пурга. Ад

дзённага святла тундра і абледзянелае мора выглядалі шэрымі і спакойнымі. Неба таксама было сухотна-шэрым.

Зімоўшчыкі ведалі пэўныя каардынаты лагера маракоў. Раніцою Смірнову ўдалося наладзіць двухбаковую сувязь і пад паўдня Панін дагаварыўся з начальнікам лагера аб правядзенні ратавальных аперацый.

— Не кратайцеся з месца,—загадаў ён маракам,—мы выходзім на дапамогу.

Ісці ў ільды мора хацелі ўсе пяць. У хлапцоў было поўна энергіі і яны імкнуліся пайсці ад аднастойнага жыцця на станцыі ў цяжкі паход, але з пяцёх Панін выбраў аднаго матарыста Маркава.

— Нельга станцыю пакідаць адну, — растлумачыў ён, — работы нельга змяншаць. Сіма павінен трымаць сувязь з лагерам, Філін будзе „рабіць пагоду". А мы з Маркавым пойдзем. Мы-ж абодва на лыжах добра топаем, праўда?

— Канешна дойдзем,—ганаручыся выбарам начальніка, незвычайна моцным голасам адказаў матарыст.—Абы разводдзяў менш было.

— Разводдзяў мала будзе,—перапыніў метэоролаг. Ён, як відаць было па ўсім, зайздросціў Маркаву, не захоўваў сваёй зайздрасці і, хвалюючыся больш звычайнага, чаканіў словы.—Вецер цяпер суцішыўся надоўга. Дзён на дзесяць. І ільдзін ад берагу не будзе адганяць.

— От і добра,—Панін быў задаволен,—Сіма на час маей адсутнасці будзе начальнікам. Мы падбяром надзейных спадарожнікаў з чукчаў і хутка вернемся назад...

Рэшту дня начальнік аддаў на перамовы з чукчамі. Чукчы мяліся, ківалі галовамі, і не адважваліся ісці на страшны марскі лёд. Панін выклікаў да сябе старшыню нацыянальнага совета бліжэйшага паселішча— прысадзістага, шыракаплечага Атыка, і ва ўпор спытаў яго:

—Людзі гінуць, ратаваць трэба, пойдзеш?

Атык адказаў не адразу. Ён чакаў, жадаючы дазнацца думкі рускага, і марудзячы з адказам, прытварыўся, што нічога не ведае:

— Які людзі?—спытаў ён, наіўна пазіраючы ў халодныя шэрыя вочы рускага.

— Там, у моры, ткнуў Панін рукою ў дзеравяную сцяну пакою.

Атык адвярнуўся ў другі бок, не вытрымаўшы настойлівага позірку рускага. Ён доўга маўчаў. Паніну ўдавалася захаваць спакойны выраз твару. Ён ведаў: ад Атыка залежыць удзел чукчаў у ратавальнай экспедыцыі, а Атык яшчэ несвядомы, верыць у забабоны. Самая маленькая неўпэўненасць, хваляванне Паніна могуць спалохаць чукчу, і тады якуцянам смерць.

— Трэба гаварыць з ім проста, як з дзіцём,—вырашыў начальнік.

Панін дастаў з кішэні пачак „Блюмінга". Закурыў. Пачаставаў чукчу. Той асцярожна пакруціў папяросу ў пальцах і, нахіляючыся да запалкі, хітра глянуў на рускага:

— А ты, пойдзеш? усміхаючыся, спытаў ён.

— Пайду,—недбайна паціснуў плячыма начальнік,—і яшчэ адзін рускі пойдзе.

— З табою я таксама пайду,—проста сказаў чукча, плюючы на падлогу,—ты смелы, з табой не страшна, я вазьму шмат людзей і сабак. Добра?

### 3.

Ноч панавала над тундрай. Сваёй чарнатою яна сціскала неба, якое іскрылася зорамі. У цемры мільгаў агоньчык акенца станцыі.

Хлопалі паскрыпваючы на завесах, дзверы. Прыглушана гучэлі чалавечыя галасы.

Ветру не было. Быў мароз.

І было шмат сабак.

Запрэжаныя сабакі нецярпліва вішчэлі, зрываючы нарты з кійкоў, глыбока забітых ва ўтоптаны снег. Час ад часу яны агрызаліся, гырчэлі і гатовы былі ўчапіцца адзін у другога. Тады марозную цішыню ночы парушыў рэзкі прарэзлівы крык каюраў:

— Ге!..

Сабакі змоўклі, доўга кружыліся на адным месцы. Потым, скруціўшыся ў клубок, клаліся ў снег, прыкрываючы пушыстымі хвастамі насы.

Шмат было запрэжаных сабак: цэлы караван. Дваццаць смельчакоў рыхтаваліся выйсці ў дарогу.

Панін вышаў з хацінкі, калі на ўсходзе паружавела неба і крывавая зарніца пагасіла дрыглівы бляск зор. У зграбным футравым адзенні начальнік здаваўся менш кастлявым і нескладным.

— Гатовы?—крыкнуў ён у шэры змрок досвітку.

— Гі, тагам хіль-хіль [1],—адказаў здалёк гартаны голас Атыка.

— Пашлі! Панін збег з ганку...

... караван крануўся, яго праводзілі радыст, метэоролаг, повар і некалькі чукчаў, захутаных у скуры. Наперадзе, паказваючы дарогу, на лыжах ступаў лепшы хадок, за ім двое другіх снегаступамі ўтоптвалі сцежку, а далей, расцягнуўшыся суцэльнай чорнай істужкай, ішлі запрэжаныя сабакі.

Караван павярнуў з берага на некрануты снег, што глыбокім пластом ахутаў ледзяныя палі мора. Хутка за ім расталі абрысы станцыі і сінія берагавыя сопкі. У гары відаць было мутнае неба. Унізе, пад нагамі і далёка навокал быў хаос ледзяных таросаў.

Панін вёў караван па компасу. Ведаючы каардынаты лагера, ён пралажыў да яго курс, і цяпер у галаве начальніка білася трывожная думка:

„Каб не збочыць, каб не заблудзіцца. Праз два дні якуцяне запаляць сігнальны касцёр, тады мы ўбачым дым і агонь. А гэтыя два дні трэба дакладна ісці па прамой“.

Першыя гадзіны лёдавага пераходу сабакі лёгка цягнулі нарты. Захоўваючы сілу, людзі больш сядзелі на санях: усе ведалі аб цяжкасцях, якія былі наперадзе. Толькі важак каравана, ды тыя, што ўтоптвалі сцежку, хутка таміліся часта зменьваючы адзін аднаго. Снегаступы глыбока правальваліся ў мяккі снег, і людзі ледзве выцягвалі з яго здранцьвелыя ногі.

... з кожнай гадзінай усё больш і больш выраста́лі па велічыні пачварныя награмаджэнні. Шлях праз таросы станавіўся цяжэйшым і цяжэйшым. Здавалася, тут нядаўна гаспадарылі волаты і пасля іх застаўся хаос ледзяных аграмадзін, пастаўленых на кант, перавернутых дагары асновай, або акуратна складзеных у піраміды.

Дзень прайшоў хутка. Да вечара футравыя кухлянкі змоклі ад поту і на варсінках вопраткі белым інеем асела парнасць! Сабакі больш не рваліся наперад: яны ішлі стомленыя, высалапіўшы жаўтаватыя языкі; іх морды нібы сівізной пакрыліся інеем.

---

[1]) Так так, ідзем на лёд (па чукоцку).

Выбраўшы зручнае месца, караван спыніўся на нач. Як толькі спыніліся, дык стомленасць адчулася асабліва моцна. Кожны спяшаўся скончыць работу, легчы і заснуць. Каюры раздалі сабакам скамянелае ад марозу мяса. Сабакі з прагнасцю накінуліся на яго. Людзі запалілі прымусы і сталі грэць на іх кансервы, грэць настуджаныя рукі.

— Міль дзесяць зрабілі за дзень,—парушыў маўчанне Панін. Ён гаварыў спакойна, нібы знаходзіўся ў любым драўляным пакоі станцыі, і ніхто не заўважыў, якой напружанасці каштаваў яму спакойны голас.

— Зрабілі,—пераймаючы начальніка, адказаў Маркаў,—Заўтра яшчэ столькі і...

— І вечарам убачым сігнальны агонь якуцян,—падхапіў Панін, моцна хлопнуўшы па спіне Атыку, які сядзеў побач з ім.—Убачым, як думаеш?

— Убачым,—пераканаўча махнуў галавой апошні.—Толка нады вада не быць. Разыводыя,—растлумачваў ён, паказваючы на лёд.

— Не будзе разводдзяў,—упэўнена сказаў Панін,—лёд моцна прыціснуты да берагу, ветру няма і адыход ільдзін бадай ці пачнецца раней, як праз дзён пяць.

...спалі проста ў снягу—людзі і сабакі. Людзі па дваіх забраліся ў футравыя кукулі і, туляючыся адзін да аднаго стараліся сагрэцца. Да людзей, шукаючы цяпла, прыціскаліся сабакі.

Хутка над біавуакам павісла цішыня моцнага сну. Чукчы, прызвычаеныя да холаду і начлегаў у тундры, спалі спакойна. Стомленыя сабакі нават забыліся бурчэць праз сон.

Панін і Маркаў улезлі ў адзін кукуль. Матарыст, як толькі адагрэліся ногі захроп над самым вухам начальніка.

Панін заснуць не мог. У яго стомленай галаве, нібы сціснутай гарачым жалезным абручом, мітусіліся трывожныя думкі.

Ён, Панін, павёў на лёд гэтых людзей. Ён—начальнік—загадаў якуцянам не кратацца з лагера, а з цярплівасцю чакаць дапамогі. Ён гэта зрабіў і не шкадуе аб зробленым. Іншага выхаду не было: пешыя якуцяне не змаглі-б адолець трыццаці міль бездарожжа, дзе снег месцамі займае да пояса. Самім якуцянам не дайсці; патрэбны нарты, спрактыкаваныя каюры, патрэбна даставіць на бераг усіх якуцян і забраць з лагера ўсё самае каштоўнае. Панін—комуніст і начальнік—іначай зрабіць не мог...

...стомленасць узяла сваё: начальнік глыбока ўздыхнуў, моцна абняў Маркава за шыю і заснуў.

---

Раніцай сабакі з вялікай цяжкасцю крануліся далей. Каюры крычалі на іх, падганяючы наперад. Пасвіствалі бізуны і ад іх пякучых удараў жаласліва вішчэлі сабакі.

Першая гадзіна дарогі здавалася надзвычайна пакутнай. Зубы людзей, якія не сагрэліся і за ноч, ляскалі ад холаду. Павекі вачэй зліпаліся ад стомленасці. Ногі страшэнна нылі. Хацелася сесці на снег, ні пра што не думаць і тупа смяяцца, гледзячы, як міма пойдзе караван. А потым легчы, захутацца ў пушысты і мяккі, як поўсць пясца, снег, і спаць, сцаць, спаць...

...смерць стукала ў скроні стомленых людзей, смерць вітала над караванам.

Цяпер ніхто не садзіўся на нарты. Сабакі з велізарным напружаннем цягнулі нагружаныя сані. Людзям часта прыходзілася падхопліваць нарты за перад і дапамагаць сабакам. Сабакі аслабелі і даводзілі да злосці людзей сваім безнадзейным выглядам.

— А-а!—часта крычалі каюры,—ге, ге-е!..

Наперадзе каравана трошкі ссутуліўшыся, і ўцягнуўшы галаву ў вострыя плечы, ішоў Панін. Ён цвёрда станавіўся на лыжы ўціскаючы імі снег і па начальнікавай лыжні лягчэй было ісці. Начальнік нікому не дазваляў замяніць сябе на цяжкім участку важака каравана. Ён ішоў так увесь дзень, не зважаючы ні нашто, спакойны і ўдумлівы. Ніхто не мог забегчы наперад, паглядзець у яго цмяныя шэрыя вочы, а Панін баяўся спыніцца, баяўся глядзець на людзей у вачах яго адлюстроўвалася ўся пакута зморанасці, яны былі затуманенымі і нерухомымі, як у мярцвяка—страшныя, амярцвелыя вочы аўтамата.

— Наперад,—гэта думка моцна засела ў яго галаве. Ён спрабаваў думаць пра што небудзь іншае, спрабаваў забыцца на боль у кожным суставе цела, але ў стомленым мазгу не затрымліваліся думкі. Наперад, толькі наперад: крок—два—тры—чатыры. Левай нагой, цяпер правай, зноў левай, правай-левай-правай. Вось і праход паміж рапакамі. Цяпер перасекчы ледзяную пляцоўку да той гары таросаў, і трошачкі лявей—па стрэлцы компаса—наперад, наперад, наперад...

Людзі глядзелі на мерны крок начальніка з захапленнем і любоўю. Панін здаваўся неўтомным. Ён ішоў так лёгка, упэўнена і спакойна наперадзе каравана, нібы за спіною яго не ляжалі кілометры самага цяжкага шляху. І яму, чый прыклад клікаў наперад, было сорамна прызнацца ў сваёй знясіленасці, ад страху перад далейшым.

Людзі ішлі, і за людзьмі ішлі сабакі.

Хада паступова сагрэла цела, дыхаць пачалі адрывіста і часцей. Не так пакутна ныла цела. Таросы навокал ператварыліся ў маўклівых бяздушных ворагаў, якія гатовы ў хвіліну знясіленасці няшчадна і спакойна забіць. На ўсходзе, далёка пазадзе каравана, туманны далягляд расцвіў аранжавым зарывам і там, нібы назіраючы за цяжкім паходам людзей, выплыў, дрыжучы і мяняючы абрысы, вогненны дыск далёкага адсвечанага рэфракцыей сонца. Далей неба было шызае, яно бязмежна адыходзіла на захад і поўнач, краямі ўпіраючыся ў ледзяныя палі.

На захадзе, высока над ільдом, вісеў фісташкавы месяц, вытвараючы зневажлівыя грымасы людзям і лёду, не сапраўднаму сонцу і тым, наперадзе, што чакалі ішоўшай да іх дапамогі.

———

Зноў надышла ноч, спыніўся караван. У маленькім лагеры спадарожнікаў як зоркі гарэлі прымусы. Навокал іх групаваліся людзі і сабакі, нюхаючы казытлівыя пахі кансерваў, якія разаграваліся на агні. Скупыя на словы, людзі амаль не гаварылі пра дарогу, сабак, таросы і якуцян. Цяпер стомленасць прытупілася і не здавалася больш такой вострай.

— Заўтра лагера сыпытку [1]) будым,—ні то спытаў, ні то канстатаваў Атык.

[1]) Сыпытку—спаць (па чукоцку)

— Так, яшчэ дзень ісці і ўсё,—расцягваючы словы адказаў Панін.

Нібы пацвярджаючы адказ начальніка, на бліжэйшым таросе замялася зорка. Яна хутка расла, рассейваючы змрок, і раптам увесь тарос загарэўся блакітным полымем раскідаючы навокал яркае золата агню.

— Касцёр,—зразумеў Маркаў,—якуцяне запалілі сігнальны касцёр.

Высокі тарос засланяў ад каравана полымя кастра, лёд прапушчаў святло скрозь сябе і ствaралася ўражанне, што блакітным агнём гарыць сам тарос. Людзі, забыўшыся на стомленасць і яду кінуліся да бліжэйшых рапакоў, ускарабкаліся на верх іх і прагна пазіралі туды, дзе з хаоса ільдоў у чорнае неба ўздымаўся фантан агню. Людзі моцным крыкам выказвалі сваю радасць, гледзячы на гульню святла ў вострых кантах рапакоў на мірыяды смарагдаў, раскіданых навокал. Устрывожаныя ажыўленнем сабакі ўсхапіліся з снегу, парушаючы начную цішыню адрывістым, хрыплым брэхам.

Панін дастаў з свае нарты ракету, акуратна прывязаў яе да астоля і падпаліў кнот. Падняўшы астоль высока над сабою, ён чакаў, калі агонь дойдзе да зарада. Ракета гулка хлопнула выбухам і з шыпеннем паімчалася ў чорную вышыню, да зораў, дзе небачаная рука раптам разарвала яе на сотню вогненных кавалкаў, пасыпаючы лёд рознакалёрнымі агоньчыкамі.

Панін чакаў; углядаючыся ў бок лагера якуцян. Нарэшце там, адказваючы на сігнал, узняўся ўгару жоўты шар ракеты, і таксама лопнуўшы пасыпаўся ў рапакі сотнямі белых, зялёных і чырвоных зорак.

— Ну вось,—з палёгкаю уздыхнуў начальнік,—цяпер яны ведаюць, што мы блізка. Зараз спаць, а заўтра будзем у лагеры.

Людзі вярнуліся да забытых прымусаў. Агонь за рапаком зменшаў і хутка згас. Лагер заснуў.

---

Раніцаю чатыры сабакі не ўсталі з снегу: яны загінулі ад цяжкасцей лёдавага пераходу. Трупы іх напалову занесеныя снегам, нерухома ляжалі сярод жывых сабак і людзей.

Атык падняў усе трупы, атрос з іх снег і кінуў на сваю нарту.

— Вечарам рэзаць буду, сабака каміта[1]) дам, растлумачыў ён, бачачы маўклівае запытанне ў вачах Паніна.

Караван крануўся ў дарогу, падзяліўшыся на дзве партыі. Першая пад кіраўніцтвам Маркава, складалася з найбольш дужэйшых сабак. Яна ішла, пракладваючы дарогу для слабейшай часткі каравана. Адыходзячы наперад, Маркаў атрымаў ад Паніна цвёрды наказ:

— Пастарайся хутчэй дасягнуць лагера, там зваліш увесь цяжар з нартаў, падбярэш чатыры самыя дужыя сабакі і варочайся да нас на дапамогу.

Партыя Маркава першая пакінула месца начлегу і хутка знікла ў таросах. Доўга яшчэ чуліся чалавечыя галасы, посвіст бізуноў, віск сабак ды рыпенне снегу пад палазамі нарт. Потым і гэтыя гукі расталі ў вечнай маўклівасці Краіны Блакітных Прастораў. Неўзабаве рушыла другая частка каравана.

---

[1]) Камітва—харчы (па чукоцку)

Павольна ішлі сабакі. Іх зяпы былі шырока разяўлены і з бурых языкоў капала ружовая пена. За караванам, на снезе, адзначыліся крывавыя сляды: сабакі паранілі лапы аб вострыя ільдзінкі, з лап сачылася кроў. Людзі амаль не падганялі сабак, людзі бачылі іх стомленасць і ведалі, што тут не дапамогуць ні крыкі, ні бізун.

Ішлі гадзіны тры: моўчкі, удумлівыя і суровыя, увесь час пазіраючы на слуп дыму, які ўзнімаўся, здавалася, за бліжэйшымі таросамі. Але адны таросы зменьваліся, другімі, а дымавы сігнал быў усё-ж далёка. Дым расцілаючыся, ішоў направа і налева ад асноўнага слупа.

— От чорт, якая зменлівая тут адлегласць,—лаяўся Панін, ідучы каля першай нарты.

Пад поўдзень дым стаў значна бліжэй. Адчуўшы блізкую мэту спадарожнікі крочылі бадзёра і з твараў іх зніклі напружаныя маскі затоенага адчаю. Чукчы зноў пакрыквалі на сабак, падганяючы іх бізунамі:

— Тарарая, яра, яра-ра-ра!

— Блізка яранга, яра-яра!..

Ажыўленне перадавалася жывёле: сабакі нервова нюхалі паветра і натапырвалі апушчаныя вушы і хвасты...

... а потым наперадзе паказалася чорная кропка. Яна расла, набываючы контуры чалавека, які бег на лыжах. Неўзабаве Панін спазнаў Маркава.

— Чаму ён вяртаецца?—трывожна падумаў начальнік,—што яшчэ магло здарыцца?

Караван прыбавіў ходу, спяшаючы насустрач лыжніку, і неўзабаве яны сышліся. Маркаў быў бледны, ён цяжка дыхаў, і перш, чым загаварыць, доўга ішоў моўчкі побач з Паніным. На твары яго торгаліся сківіцы. Чукчы трывожна глядзелі на абодвых.

— У чым справа?—шапнуў Панін,—Дзе караван?

— Прыбаў крок,—адказаў Маркаў, паскараючы сваю хаду.

Калі яны адышліся ад каравана настолькі, што словы іх не даляталі да чукчаў, Маркаў паціху загаварыў:

— Там разводдзе, метраў пяцьдзесят ушыркі. Мы спрабавалі ісці па беразе лёду, але ўсюды шырока. Разводдзе ідзе ў абодва бакі, як вокам акінуць, і пераправіцца нельга. Да якуцян, напэўна недалёка, але яны не бачаць нас і я не ведаю што рабіць. Чукчы зусім асалавелі.

— А разводдзе не пашыраецца?—перапыніў Панін.

— Не, так і стаіць, нібы шэрая рэчка. Нават дыміцца на марозе. А чукчы сабраліся ў адным месцы і сядзяць.—Кажуць—гэта дух карае нас за парушэнне закону, які забараняе ратаваць тых, што гінуць у моры. І ведаеш, нават...

— Што?

— Нават гавораць, што назад ісці трэба, да берагу.—Маркаў змоўк, цяжка дыхаючы.

— От чорт,—буркнуў той.—Амаль да мэты дабраліся і раптам назад...

... да разводдзя падышлі хутка. На самым беразе ў чорны груд збіліся сабакі, нарты і людзі. Чукчы моўчкі глядзелі на прышоўшых. Збоку, на перакуленых нартах, сядзеў Атык.

Ад чукчавай непрыязнасці па спіне Паніна прабеглі мурашкі: чукчы і сам Атык злосна паглядалі.



— Замерзлі?—спытаў начальнік, падыходзячы да чукчаў,—нічога, зараз у лагеры будзем, у палатках адагрэецеся.

— Як будем—панура спытаў Атык, устаючы з нарты.

— Пераправімся, і ў лагер,—спакойна адказаў Панін. Да вечара скончым пераправу.

Атык злосна ўсміхнуўся.

— Ты кладыся, я пайду. Галаву на той бок палажы, ногі тут, будзе мост. Не пойдзем мы!—шалёна закрычаў ён раптам,—назад трэба, бераг тагам.

— Чаму на бераг? прытворна здзівіўся начальнік,—да лагера недалёка: вось ён, за тымі рапакамі, бачыш? Толькі яны не ведаюць што мы тут, а даведаюцца адразу дапамогуць пераправіцца. А ну, бярыце стрэльбы!

Начальнік першы зняў з пляча вінчэсцер, за ім Маркаў, а потым адзін за другім паднялі стрэльбы чукчы. Выстраіўшы іх у адну шарэнгу, Панін рэзка махнуў рукою і дружны залп дваццаці вінчэсцераў разарваў безмяцежную цішыню. Пасля яшчэ і яшчэ залп. Панін кінуў вінчэсцер на нарту і пачаў пільна глядзець праз бінокль у бок лагера якуцян. У гэту хвіліну вырашаўся поспех экспедыцыі, вырашалася жыццё якуцян і можа, нават саміх ратавальнікаў.

Здавалася—людзі перасталі дыхаць, такая наступіла цішыня. Чукчы не горш, як праз бінокль, бачылі дым і рапакі навокал яго. Яны так напружана пазіралі, што ў многіх на вачах з'явіліся слёзы. Секунды цягнуліся надзвычайна павольна. У Паніна ў грудзях нарадзіўся калматы і слізкі камяк, які гатоў быў вырвацца з горла звярыным выццём адчаю, і раптам...

— Чалавек!—дзіка крыкнуў Маркаў,—Чалавек на таросе.

— Дзе—злосна павярнуўся да яго Панін.

Вунь, трошкі правей за дым. Бачыш?

— Бачу,—лягчэй уздыхнуў начальнік.—Нас заўважылі.

Панін ад стомленасці сеў на снег. Выпусціў з рук бінокль. Чорную кропку заўважылі чукчы і, паказваючы на яе адзін аднаму, загаварылі радасна і ажыўлена.

Перамогшы хваляванне, Панін устаў. Ён выразна бачыў чалавека, што стаяў на вяршыні рапака з паднятымі да твару рукамі.

— „У бінокль глядзіць"—здагадаўся начальнік.

Чалавек доўга стаяў нерухома, потым раптам падскочыў угару, размахваючы рукамі і ў момант знік за рапаком. Праз хвіліну на яго месцы вырасла некалькі фігур, якія таксама дзіка махалі рукамі, кідаючыся адзін да аднаго.

— Б'юцца яны—кінуў пытанне Атык.

—Не, дзівак, абдымаюцца,—быў адказ.

І раптам людзі зніклі. Іх не было хвіліну, дзве, пяць, а пасля з-за тароса паказаўся цэлы натоўп, які цягнуў нешта доўгае.

Ну, павярнуўся Панін да Атыка,—навошта мне мостам класціся?

Нэ трэба,—буркнуў той,—байдару цягнуць.

Якуцяне хутка дайшлі да палонкі, з размаху штурханулі ў яе шлюпку і селі самі. Яны крычалі штосьці радаснае і неразборлівае, налягаючы, што было сілы, на вёслы. Шлюпка хутка імчалася да берагу, на якім знаходзілася ратавальная партыя.

Шлюпка ткнулася носам у лёд. З яе першым саскочыў адзеты ў ватоўку чорнабароды чалавек і хутчэй кінуўся да Паніна.

Прышлі?—Толькі змог сказаць ён. Моцна абняў начальніка за шыю, і цалуючы ў шурпатыя, абветраныя губы... заплакаў.

4.

— Дойдуць,—прамовіў Смірноў, звяртаючыся да самога сябе,— Павінны дайсці да лагера, павінны. І назад на бераг прыдуць.

Радыст адганяў змрочныя думкі, але яны праслізгвалі ўпарта, нібы змейкі, і, сплятаючыся адна з другой, вырасталі ў чорны вірлівы клубок слізкіх і агідных меркаванняў, ад якіх, як ад лёду павявала смерць.

— „Ці дойдуць? Ці дабяруцца да берагу? Гэта-ж...“,—але пра „гэта-ж“ радыст не хацеў думаць, ён усхопліваўся з крэсла, размашыста хадзіў па невялічкай рубцы і злаваўся на сябе, на папяросу, што абтухала, на рубку, дзе можна зрабіць толькі два крокі.

Потым садзіўся да апарата і гадзінамі слухаў цішыню, чакаючы вестак з лёдавага лагера.

— „Эмелін,—стукаў апарат,—сёння ў лагеры без перамен: ветру няма, пачынаецца адыход лёду ад берага. Усе здаровыя. Чакаем дапамогі. Вечарам з боку берага бачылі ракету. Відаць, ратавальная партыя блізка.“

— Блізка! — дзіка крыкнуў Смірноў, — нашы падыходзяць да лагера...

... трывожна жылі зімоўшчыкі. Яны з стараннасцю ўзяліся за перапыненую пургой работу, наганяючы прапушчаны час. Але ў думках кожнага неадступна стаялі якуцяне і ўдзельнікі ратавальнай экспедыцыі.

Вечарамі, пасля работы, усё насельніцтва станцыі збіралісся ў сталоўцы. Прыяжджалі чукчы, і накарміўшы сабак, ішлі ў сталоўку. Разам з рускімі яны пілі бясконца чай, напаўняючы пакой даўкім пахам поту, звярыных скур. Потым напіхалі махоркай жалезныя люлькі і пакой тануў у шызых воблаках дыму.

Людзі ўважліва слухалі радыста. Той падрабязна чытаў атрыманыя з лагера радыёграмы, растлумачваючы іх. Пасля ўсе гаварылі пра цяжкі шлях, пра торосы і разводдзі, пра смеласць рускіх і чукчаў, якія пашлі на лёд.

———

Аднойчы да станцыі пад'ехала нарта. З нарты злез стары і апіраючыся на плячо хлопчыка-каюра, накіраваўся да ганку.

— Чаго прыехаў?—сустрэў яго Смірноў.

— Справа есць.

— Кажы,—Смірноў увёў гасцей у сталовую, прынёс чай.

Стары сеў на лаўку, памацаў з асцярогаю шклянку і нерухомым поглядам утаропіўся на голую сцяну пакоя. Твар яго быў жоўты і маршчакаваты, а амярцвелыя, цмяныя вочы хаваліся ў чырвоных, успаленых павеках.

— Ты сляпы?—здагадаўся радыст.

— Так,—стары кіўнуў сівою, коратка падстрыжанай галавою,— ведаеш чаго прыехаў?

— Ну, кажы.

— Я чуў, карабель загінуў у моры. Ці праўда гэта?—пачаў чукча.—Людзі ў вялікай бядзе: гэта злы дух узяў карабель і людзі павінны памерці. Чукчы і тангі-тані пайшлі ратаваць людзей, якіх

узяў дух. Шаман кажа, што дух пакарае гэтых людзей. Вашы людзі прыехалі ў тундру к чаучу[1]), просяць прадаць аленяў. Шаман кажа нельга прадаваць: дух злавацца будзе, алені паздыхаюць. Багатыя чаучу не даюць рускім аленяў. Я чаучу бедны: маю толькі сто аленяў, шмат даць не магу. Шаман кажа нельга даваць, а я думаю гэтак: людзі трапілі ў бяду, як выйдуць на бераг, ім есці трэба, вось і трэба дапамагчы. Можа дух не будзе злаваць?

Стары змоўк чакаючы адказу. Смірноў таксама маўчаў: чукчава запытанне застала яго зненацку, ён не ведаў, што адказаць старому.

— Колькі аленяў даць?—спытаў стары.—Тры дам.

— Дай тры,—згадзіўся радыст.

— Можа тры мала, пяць дам?—павярнуўся чукча да Смірнова.

— Давай пяць,—кіўнуў той,—пяць лепей.

— Я сем дам,—вырашыў стары.—Прыяжджай у маю ярангу, я каля каменя стаю. А як шаман злых духаў напусціць, я прыеду сюды, дапаможаце?

— Дапаможам, канешна, дапаможам,—усхапіўся з лаўкі Смірноў.—Ты не бойся шамана і злога духа не бойся. Зваць цябе як?

— Этэргын зваць. Каля каменя яранга.

Этэргын паехаў вечарам дамоў. Разам з ім паехаў Казлоў, каб раніцай вярнуцца з купленымі аленямі. А трошкі пазней Смірноў убег у сталоўку, і як шалёны, размахваючы рукамі, закрычаў:

— Дайшлі! Усе добра дайшлі, але страшэнна стаміліся.

— Хто? куды дайшлі?

— Нашы дасягнулі лагера якуцян...

---

Шлях да берагу быў лягчэйшы: пратоптаную сабакамі, нартамі і пешаходамі сцежку добра ўмарозіла, снег не правальваўся больш пад лыжамі і нават якуцяне—без лыж—ішлі лёгка.

З лагера, перад адыходам, была паслана апошняя радыёграма:

„Пасля двухдзённага адпачынку,— паведамляў Панін, — сабакі і людзі зноў могуць ісці наперад. Праз поўгадзіны дойдзем да берагу, разам з усімі якуцянамі. Калі пагода не зменіцца, праз тры дні дасягнем станцыі".

Гэтыя тры дні былі для зімоўшчыкаў страшэннай пакутай. Голас лагера змоўк, людзі блукалі ў хаосе снегу і ільду і тысячы бядот Арктыкі пільнавалі іх на кожным кроку...

... Лёгкі паўночны вецер і вялікі мароз зрабілі шлях бяспечны: ледзяныя палі моцна трымаліся каля берагоў, вялікіх разводзяў не было, а шчыліны караван пераходзіў лёгка. І калі ў смузе шэрага дня, далёка наперадзе, усплылі туманныя абрысы сопак, людзі ўздыхнулі вальней.

Апошняя ноч на лёдзе праходзіла спакойна: моцна спалі спадарожнікі, стомленыя дзённым пераходам. Брахалі з прасонку сабакі.

Раніцою, ледзь золак, караван зноў выправіўся змейкай у дарогу сярод таросаў.

... У поўдзень дасягнулі станцыі.

## 5.

Да вечара радасць сустрэчы трошкі ўлеглася. Якуцяне, апетытна паглынаючы свежае аленевае мяса, апавядалі зімоўшчыкам пра гібель

---

[1]) Чаўчу—чукчы—аленеводы

карабля, пра жыццё ў лагеры, пра паход. Позна ўвечары ў сталоўку ўвайшоў Эгыргын і, прысеўшы да стала, разам з усімі слухаў апавяданні маракоў.

Потым прамовіў, міргаючы павекамі сляпых вачэй:

— Я прывёз двух аленяў. Яны там, каля ярангі; гэта ахвяра пераможцам духа.

— Пераможцам духа?—здзівіўся Панін.—Чаму?

— Вы перамаглі таго духа, што трыццаць гадоў назад узяў майго бацьку.

— Пра якога духа ты кажаш, стары?— людзі шчыльна абкружылі сляпога.

— Я раскажу,—чукча дастаў жалезную люльку, напхаў яе крышаным тытунём і закурыў.—Доўга гаварыць не буду.

— Нічога, кажы.

— Добра... Гэта было даўно, можа сорак зім назад. Я быў жвавым хлопчыкам, вочы мае бачылі сонца і белы снег, шэрых аленяў і яркія кветкі вясенняй тундры. Яранга майго бацькі стаяла каля мора, у паселішчы Пнопельхен. Бацька не меў аленяў і жыў як берагавы.

„Вясною лёд адыходзіць на поўнач. Каля берагу плешча чорназялёная вада. Там нашы людзі білі маржоў, запасаючы мяса на доўгую зіму.

„Разам з усімі білі маржоў мой бацька і брат яго Уманкай. Яны былі спрытнымі паляўнічымі, здабывалі шмат звяроў. Наша сям'я заўсёды жыла ў дастатку. Мы запасалі мяса на зіму для сябе і сабак, пасля бацька аддаваў здабычу бедным жыхарам паселішча. За гэта людзі любілі бацьку.

„Адзін толькі чалавек не любіў бацьку—шаман Рэтыргын. Злы быў шаман. Ён вымагаў частку здабычы. Бацька не любіў багатага шамана і не даваў яму мяса. І Рэтыргын задумаў супроць бацькі злую справу.

— Усё роўна,—казаў шаман,— я наклічу багоў і багі пакараюць цябе і Уманкая.

Бацька быў дужы, ён не баяўся шамана, але шаман загубіў яго. Аднойчы бацька і Уманкай пайшлі далёка па лёдзе, да адкрытага мора. Пашлі і не вярнуліся назад. Яны засталіся нанач каля палонкі, багатай маржамі. Уночы з берагу дзьмуў моцны вецер і вецер пагнаў ільдзіну з імі ў мора.

Раніцаю шаман хадзіў па паселішчы і гаварыў:

— Духі пакаралі гарэзных і непаслушных, чорныя злыя духі—Келі—узялі іх да сябе.

Мы ведалі пра дужасць бацькі і яго брата: яны былі магутныя, як рырк, і неутомныя, як умка. Але паляўнічыя зайшлі далёка на лёд без байдары і не маглі вярнуцца назад.

— Яны ўжо мерцвякі,—казаў шаман,—іх узяў дух, і цяпер ніхто не можа дапамагчы ім, не выклікаўшы гневу злога Келі.

Слухалі людзі страшнага шамана. Усе бачылі, як збылося яго прароцтва і баяліся шаманавага гневу. А дні ішлі. Колькі дзён прайшло тады, хто ведае?

Аднойчы бацька і Уманкай вярнуліся ў паселішча іх крыгу прыгнала да берагу. Яны паўзлі па снягу да ярангаў, просячы дапамогі. Іх рукі былі чорныя і нерухомыя, як плаўнік. На пачарнелых

тварах вісела мёрзлая скура. Мы хацелі дапамагчы паляўнічым. Тады з сваёй яранґі вышаў Рэтыргын і грозна крыкнуў на нас:

— Хто дазволіў вам гнявіць духаў? Хто дазволіў адбіраць у іх ахвяры? На вашы галовы спадзе гнеў Келі, і ваша цела праглыне чорная хвароба. Ідзіце ў яранґі, пакіньце непаслушных тут: ім нельга дапамагаць, яны ўзяты духам.

Мы ад жаху ўцяклі ў ярангу. Бацька і Уманкай засталіся на снягу.

Стары змоўк, стомлена апусціўшы на рукі сівую галаву. У пакоі наступіла незручная цішыня.

— І што?—несмела спытаў хтосці,—што далей?

— Бацька і Уманкай да раніцы памерлі: іх узялі багі. Шаман казаў, гэта стары закон: „людзям, якіх застане бяда ў моры, нельга дапамагаць". А вы дапамаглі, вывезлі рускіх з далёкіх ільдоў мора. Багі нічога не маглі з вамі зрабіць: вы перамаглі багоў. Я бачу сваімі сляпымі вачыма: няпраўду казаў шаман Рэтыргын, і надарма памерлі добрыя паляўнічыя...

Стары памаўчаў з хвіліну, пасля дадаў:

— Я прывёз вам не ахвяру, прывёз падарунак пераможцам. Я не баюся духаў, нават злога Келі. Я з вамі, а багі пераможаныя страцілі сілу супроць новых людзей.

Красавік, 1934 г.

---

Уладзімір Кандраценя

## Крык гневу

Ён гэты апошні дзень хадзіў сам не свой, разгублены і маркотны, нібы пахаваў блізкага чалавека. Высокая хударлявая яго постаць яшчэ больш згорбілася, нібы палажыў яму хтосці на спіну важкі небачны цяжар; скулы вытыркнулі, пад вачыма выступілі сiняватыя плямы, а ў калматых чорных валасах засерабрыліся ніткі сівізны. Не сказаць—каб ён хворы быў—у яго нічога не балела, хоць востра адчувалася агульная слабасць цела. На поле не хадзіў, корпаўся каля дому; і тут сякая-такая работа знаходзілася. От платы адны пакуль папрaвіць, ды стрэхі прадзіраўленыя на будынках падлатаць... Але работа не ішла да рук. „Мазалі от націрай, рабі на чорта лысага,—думалася яму,— а сам з голаду пухні. От-бо праўда якая на свеце"... І ў той дзень ён ні за што не ўзяўся, як-бы ведаючы, што скора не трэба будзе яму нічога. Ён крыху патупаў па хаце ў раздуме і, прысланіўшы твар да халоднае шыбіны, доўга ўсё ўзіраўся ў адзін канец вуліцы. Шырокі лоб рассякалі глыбокія маршчыны. Пад некаторыя хаты са шчэбетам залятaлі белагрудыя ластаўкі. На рані ішлі каровы.

Потым ён сеў на лаве і, успёршыся локцямі на рог стала, моцна сціснуў шурпатымі далонямі гарачыя скроні. Паплылі хмарныя думы. Жахлівая чорная роспач ахапляла істоту і не ўцячы было ад яе, не вырвацца...

— Але як-жа жыць? Што рабіць?..

І ніжэй хілілася калматая галава з сярэбранымі ніткамі сівізны...

У хату ўбегла хлапчанё; на доўгай зрэбнай кашулі густым пластом ляжаў вулічны пыл. Хлапчанё стала сярод хаты ў задуме і з-пад ілба сачыла за бацькам. У дзіцяці былі такія журлівыя вочы, як і ў бацькі.

— Татка, чаго ты плачаш?

— Я не плачу, сынок...

— А чаму ў цябе слёзы?..

— Гэта здаецца табе. Ты от пабегай лепш, пагуляй, ідзі...

— Я есці хачу... Дзе мамка?

— На поле яны пашлі з Адамам. Пагуляй з хлопцамі, пакуль прыдуць яны на абед.

— Ты ўсякі раз гаворыш, каб я гуляў галодны...—і не стрымалася хлапчанё, бліскаўкамі срэбнымі загарэліся на сонцы слёзы.

— Э-э... Ты і ў слёзы адразу... а комсамольцам хочаш быць. Скажу Адаму, які ты румза...

— А чаму Яська абаранкі есць, а я галодны?..

— Часы такія, сынок...

— Мо' такія часы, як у старасты на сцяне вісяць?

— Ды бяжы ты, Паўлік... Унь на вуліцы хлапчукі ў салдатаў гуляюць, вунь ваююць кіямі...

Хлопчык неахвотна выйшаў з апушчанай галоўкай.

У хаце стаяла цішыня, яе свідравалі тонкім дзынканнем мухі. І чалавек сядзеў за сталом нерухома, нібы баючыся абудзіць напятыя струны цішыні. Раптам з вуліцы данёсся глухі тупат конскіх капытоў. Тады мільганула крыклівая здагадка: „Едуць!..“ і ён рвануўся да акна, што ад вуліцы. Супроць хаты спынілася чорная, на рэсорах, брычка і з яе саскочылі ступаючы на жалезную падножку два паліцэйскія.

— У-у... ірады!..—сарвалася ў чалавека. На сківіцах уздрыгнулі жалвакі, нядобрыя агеньчыкі засвяціліся ў пацямнеўшых вачах.

З усёй вастрынёю вырасла прагнае жаданне, каб хутчэй пачалася сутычка, каб скончылася ўсё; тады сцягнулася-б заслона стамляючага нервознага чакання, чакання чагосці страшнага і абрывістага, як сухі трэск нагана...

Захрыпелі пачарнелыя ад сырасці дзверы. Цераз парог пераступіў паліцэйскі, а другі прывязваў на вуліцы к плоту лейцамі каня.

— Тут жыве Андрэй Кедрын?

— Тут... Я сам і буду... А што?

---

...Бралася пад поўнач. Дзе-ні-дзе ў праломах між густа напластаваных хмар ледзьве тлелі адзінокія зоркі. Гэтай парою Андрэй Кедрын вышаў за агароды і, ямчэй паправіўшы заткнутую ззаду за папружку вострую сякеру, накіраваўся цераз палеткі да панскага лесу. Трэба было паправіць ад вуліцы частакол, бо за некалькі год старое віццё пасохла і паабламвалася, калкі раз'ехаліся, а некаторыя і зусім павывальваліся, так што свінні лазілі ў гарод і нямала рабілі там шкоды. Жонка ўжо ці раз казала яму, каб загарадзіў плот нанава нават кляла, але як толькі Андрэй пачынаў у яе дапытвацца, чым-жа гэты плот гарадзіць, дык яна змаўкала́, як у рот вады набраўшы. Цвікоў купіць—не купіш: пры душы граша беднага няма. От і аставалася адно: ісці ўкрадкі дубцоў лазовых насекчы. І ён пайшоў, насцярожана ўслухоўваючыся ў нямую цемрынь веснавой ночы, прыгінаючыся і азіраючыся па баках, нібы злодзей. Далёка сінявым поясам чарнеў панскі лес, у тым лесе была вялікая імшарына, густа зарослая кустамі лазняку. Гэтую імшарыну і меў на ўвазе Андрэй, асцярожна прабіраючыся полем да лесу. У сярэдзіне гняздзіўся вострынепакой. Пры аднэй думцы аб тым, што тут можна напаткаць лясніка Саўку Вярыгу, па яго целу прабягаў халадок. Ляснік Саўка, акрамя таго, што быў чэсным панскім прыслужнікам, здаўна не ў ладу жыў з Андрэем і ўсё шукаў якое прычэпкі, каб паказаць сваю ўладу над галадранцам, які асмеліўся аднойчы, нават перад людзьмі, абразіць яго начальніцкі гонар. Чым бліжэй падыходзіў Андрэй к лесу, тым больш узрастала пякучая трывога... Дыханне станавілася частым і няроўным. Учашчана білася сэрца. А нервы—нібы туга нацягнутыя струны... Пад нагамі шалясцела росная дзікая трава ўзмежку. У далёка пакінутай ззаду вёсцы пракрычалі першыя пеўні. Андрэй спыніўся і прыслухаўся. Кругом было ціха. Дзьмуў вецер. Калматыя хмары шчыльна завалаклі неба. Чарнела начная цемень. Ступіў яшчэ крокаў трыццаць і выразна пачаў таямнічы лясны шум. Гойдаліся і шумелі стромкія сосны... Скрозь густую цемень ледзь пачыналі вы-

рысоўвацца роўныя ствалы сосен. „Можа спіць дзе-не-будзь. Ці такі яго чэрці тут насіць будуць"...

Выйшаў на дарогу, што бегла між полем і лесам. Аднекуль выскачыў і кінуўся з гыркатам пад ногі чорны калматы клубок. Андрэй аж прысеў, а рука інстынктыўна схапілася за сякеру. „Яго сабака... І сам павінен быць паблізу..." У сярэдзіне ёкнула і як-бы штосці абарвалася... Сабака адскакваў у бакі і зноў кідаўся к Андрэю пад ногі з ашчэранымі зубамі. Нідзе больш нікога не было. Толькі лес шумеў і ноч здавалася чарнейшаю...

Андрэй памкнуўся ўлагодзіць лясніковага сабаку.

— Цюцік... цюцік.. На-цю-на,—шэптам загаварыў ён, заткнуўшы за пояс сякеру і манячы да сябе рукою буркатлівага сабаку.

Пачуўшы голас чалавека, сабака некалькі раз яшчэ мацней брахануў. Брэх той нажом разануў па сэрцы Андрэя. Халодныя мурашкі папаўзлі па спіне пад скурай. На брэх адгукнулася лясное рэха...

— Цюцік... цюцік... Пашоў вон...

Сабака нібы пасмялеў, падскакваў да самых ног, прысядаючы на пярэднія лапы. Андрэй асцярожна выцягнуў сякеру і, паднаравіўшы зручны момант, з усяе сілы ўдарыў па галаве сабаку. Сабака віскнуў і перакуліўся на спіну. „Уцякаць... уцякаць... Закапае, калі ўгледзіць"...

На дарозе пачуліся крокі. Нехта ішоў сюды... Андрэй шарахнуўся ў лес, прытуліўся за хвояй. З-за павароту дарогі вышаў чалавек са стрэльбай за плячыма. Заўважыўшы сярод дарогі штосці цёмнае, ён адразу суняўся і зняў стрэльбу.

— Бобік, Бобік!

Чалавек свіснуў. Адказу не было. Маўчала ноч.

Андрэй шчыльна прыціскаўся грудзьмі да шурпатае кары хвоі. У гэтую жудкую часіну яму хацелася быць маленькім—маленькім або ўсім целам, як стаіць, урасці ў гэтую тоўстую шумлівую хваіну. Ліхаманкава палаючыя вочы яго былі прыкаваны да расплатанага сабакі А што як сабака не забіты на смерць? Тады няма ратунку...

Ляснік Саўка нагнуўся над цёмным клубком, моцна вылаяўся Прабег кругом вачыма. Сціснуў стрэльбу, памкнуўся даганяць кагосці, але, але зрабіўшы крокаў з пяць, адумаўся мусіць, што дарэмна бегчы ў невядомасць... Вярнуўся назад. Сеў на карачкі, прыставіўшы стрэльбу к плячу і прытрымліваючы яе леваю рукою. Забулькала ў пляшцы вада.

Андрэй стаяў ні жывы, ні мёртвы. Страх перахватваў дыханне. Ногі млелі. Ён баяўся паваліцца і мацней абхапліваў рукамі хвою. Цёмны клубок на шэрым фоне дарогі заварушыўся, пачуўся працяжны і слабы віскат.

Ляснік выпрастаўся.

— Кусі яго, Бобік! Ку-сі! — гнеўна закрычаў ён хрыплым голасам.

Сабака папоўз на жываце, нема віскаючы.

Саўка кінуўся наперад, трымаючы наперавес стрэльбу. І спыніўся, як укопаны...

— Хто?!.—захрыпеў ён, ускінуўшы к плячу стрэльбу.

— Я...

Больш нічога не мог прагаварыць Андрэй. У горле перасохла. На ілбу застылі сцюдзёныя каплі...

— Што ты зрабіў?!.. Я цябе згнаю!..

— Даруй мне... Даруй, Саўка...

— Э, чалавеча, прышоў час расплаты за старыя грахі! Цяпер я скуру з цябе злужу!..

Хістаючыся Андрэй вышаў на дарогу. Яны стаялі адзін супроць аднаго.

Шумеў лес... З лясных нетраў плыло працяжнае і нуднае завыванне адзінокага воўка.

— Чаго ты тут ходзіш?

— Я хацеў высекчы колькі лазовых дубцоў...

— А навошта ты забіў майго сабаку?

— Ён перагарадзіў мне дарогу...

Саўка сіпла зарагатаў прастуджаным горлам.

— Ха-ха... Перагарадзіў дарогу... Я табе пакажу дарогу! Будзеш ты помніць маю дабрату!

---

На шырокіх пухлых шчоках паліцэйскага ляжалі кружочкі акуляраў. Ён развязаў таўстую папку з рознымі справамі і ўткнуўся ў ворах акуратна складзеных папер. Перабіраў лісткі з гербавымі знакамі і завітушкамі подпісаў начальніка і сакратара паліцэйскага ўчастка.

— ...„Андрэю Кедрыну... штрафу ў суме дзвесце злотых... за самавольную рубку лесу ў сервітуце пана Гжэцкага...“

— Я-ж лесу не сек. Гэта той сабака, Саўка, наманіў...

— Усё зроблена па закону. Не турбуйцеся... Плаціце штраф. Іначай...

Паліцэйскі, скасавурыўшыся праз шкелкі акуляраў, акінуў позіркам хату: голыя, паедзеныя шашалем сцены і страціўшая колер з зашмальцаваным аколышам шапка на кручку, а на покуце з-пад вышытага чырвонымі ніткамі ручніка пакутна пазірала велікамучаніца... Няма чаго і апісаць, каб для продажу.

—Няма чым плаціць і не буду. Гэта-ж здзекі над жывым чалавекам...

— Карова ёсць?

— Апошнюю карову забраць?.. Не. Не аддам. На месцы забіце самога, а не аддам...

— Маўчаць!

— Маўчаць?..—хрыпла вырываецца з Андрэевых грудзей.—Маўчаць тады, як усё мацней заціскаецца на шыі пятля?.. Аддаць карову?.. Дзяцей замарыць голадам?

— Мы самі возьмем,—спакойна кажа паліцэйскі і прывычным рухам папраўляе шаблю пры баку. Ён завязвае шнуркі папкі, затыкае яе пад паху і, выходзячы, паўтарае:

— Возьмем самі. Не турбуйцеся.

Андрэй апёк ярасным поглядам паліцэйскага і заціснуў шурпатымі далонямі палаючыя ў агні скроні. Пацямнеўшыя вочы востра ўглядаліся ў зацягнутую змрокам далячынь.. „За што? Мо‘ за рукі гэтыя шурпатыя, што спачыну ніколі не знаюць, варочаюць сваю і чужую зямлю, выцягваюць з хлявоў непадаткія пласты гною?... Чаму? Мо‘ таму, што зрэб‘е—грубое, каструбаватае—пакрывае цела і з ног не сыходзяць лапці—атопкі, падвязаныя канаплянымі аборамі? Ды мо‘ таму яшчэ, што куска хлеба ніколі няма на стале?“

У вушах падымаўся звон... Задуменны, як хмурае восенскае неба, і маўклівы, як глыбокая ноч, сядзеў гэты чалавек. Гарачай хва-

ляй набухала рашучасць. Апалі, асунуліся бровы на пацямнеўшыя вочы. Ён рынуўся ў сенцы, дрыжачымі рукамі схапіў пад лаўкаю сякеру, вострую і цяжкую. Не памятаючы сябе, выляцеў на двор і кінуўся к адчыненаму хляву. Узмахнуў сякерай. Паліцэйскі войкнуў, бразнуўся патыліцай аб сцяну і асеў на дол.

Малодшы паліцэйскі застыў, спапялеў. Шырока адкрытымі вачыма глядзеў ён на вар'ята: стаяў той са сцятымі сківіцамі і вочы яго былі не вочы—вострыя іголкі. Бледныя вусны вар'ята, раптам скрывіліся конвульсіўнай ухмылкай, ён ступіў крок наперад, захлынуўся дзікім гістэрычным рогатам.

— Ха... ха... Другога сабаку!.. Забіў другога сабаку! А ты... ты чаго глядзіш?... Даядай мяне... Ну... грызі...—уздоўж цела бязвольна віселі доўгія вузлаватыя рукі, бледныя вусны дрыжэлі ад нутранога рогату...

Здрыгаууся паліцэйскі. Не спускаючы вачэй з вар'ята, палажыў дрыготкую руку на эфес шаблі. Бліснула крывое лязо. Узмахнуўшы вузлаватымі рукамі, нібы шукаючы апоры, Андрэй грузна апусціўся на зямлю.

...У зялёнай вышыні гарэла сонца, шчодра льючы на зямлю вадаспад цёплых праменняў.

Каля адчыненага хлява ў лужыне густой крыві ляжаў распластаны чалавечы труп, а побач валялася ссечаная калматая галава з разяўленым ротам і адкрытымі ашклянелымі вачыма. Сонца заглядала проста ў вочы, але яны не заплюшчваліся, а пазіралі абыякава ў зеленаватае надхмар'е, нібы канчалі вялікую думу, смелую думу аб помсце.

Непадалёк курчылася ў сударгах тое журлівае хлапчанё. Яно немым голасам крычала, білася русай галоўкай аб глухую зямлю. Зямля толькі скрадала дзіцячыя слёзы—пякучыя, нястрымныя, што градам сыпаліся з вачанят... Хто ведае дакуль ляжаў бы на зямлі хлапчук, каб не прыбег з поля старэйшы брат. Ён узяў малога на рукі і занёс у хату, палажыў на пасцель і лагодна ўпрошваў, каб не плакаў.

Старэйшы брат доўга стаяў над скалечаным трупам бацькі, нахіліўшы кучаравую галаву. Нястрымным болем поўнілася яго нутро. Смагныя вусны дакорліва прашапталі:

— Паспяшыў ты, бацька... Не паслухаў сына. Хіба адзін у полі воін?... Эх, бацька... А ты хацеў ваяваць адзін... І от... яшчэ не час быў... Але той час настане... Чуеш, бацька?..

...Настане часіна расплаты!

Л. Бэндэ

## Творчы шлях Янкі Купалы

IV [1])

Чацвёрты перыяд творчасці Купалы ахапляе эпоху грамадзянскай вайны і акупацыі (1918-1920 гг.). 1917 год з яго вялікімі падзеямі як-бы выпадае з творчага шляху паэта; у зборы твораў яго мы не знаходзім ніводнага твору, у якім бы паэт непасрэдна адгукнуўся на тыя ці іншыя моманты соцыяльнага жыцця. Кастрычніцкая рэволюцыя, якая распачала сабою сусветна-гістарычнага значэння эпоху ў жыцці чалавецтва, таксама не знайшла свайго непасрэднага адлюстравання ў яго творах. Мы не ведаем ніводнага твору Купалы, які (твор) быў-бы датаваны 1917 г. або першай паловай 1918 года. Праўда, такія вершы як „Для бацькаўшчыны" і „Крыўда" датаваны проста 1918 годам без указання месяца і дня іх напісання; магчыма, што яны напісаны альбо ў пачатку, альбо ў першай палове 1918 года.

Ліра паэта, ці праўдзівей яго Жалейка, зноў пачала „несмела" і „з трывогай нейкай" іграць толькі ў другой палавіне 1918 года. Вершы „Спадчына", „Свайму народу", „Час", „На сход", „У вырай", „У дарозе", „У досведкі", „Паяжджане" „На прызбе", „Пчолы", „Наша гаспадарка", „Песня", „Рунь", „Буслы", „Забытая карчма", „Першы снег" і некалькі іншых датаваны вераснем—снежнем 1918 года. У чым прычына маўчання Купалы ў часы, калі рушыўся самадзяржаўны лад, лад зверскага соцыяльнага і нацыянальнага ўціску, калі паўстаўшыя рабочыя адбіралі ўладу ў памешчыкаў і капіталістаў—гэтых носьбітаў соцыяльнага і нацыянальнага ўціску? Нам здаецца, што вершы 1918 года, а таксама і рад вершаў пазнейшых часоў даюць досыць выразны адказ на гэтае пытанне. Успрынящце паэтам кастрычніцкай рэволюцыі, яго пазіцыі ў той час, як сведчаць названыя вышэй вершы, бадай што нічым не адрозніваюцца ад агульнай пазіцыі беларускіх нацыянал-адраджэнцаў, беларускай нацыяналістычнай інтэлігенцыі.

Як сведчаць факты, лютаўская рэволюцыя не выклікала асабліва творчага ўздыму і энтузіязма ў беларускіх паэтаў і пісьменнікаў „адраджэнцаў".

Купала, як гаварылася ўжо, наогул маўчаў у перыяд паміж лютаўскай і кастрычніцкай рэволюцыямі. Той факт, што лютаўская рэволюцыя непасрэдна не выклікала асаблівага творчага ўздыму ў беларускіх пісьменнікаў, нам думаецца, мае сваёй прычынай тое,

[1]) Канец. Пачатак глядзі ў „П. Р", № 9.

што „знішчэнне царызма і з'яўленне ва ўладзе буржуазіі не павяло, аднак, да знішчэння нацыянальнага ўціску. Старая, грубая форма нацыянальнага ўціску змянілася новай, больш тонкай, але за тое, больш небяспечнай формай уціску" (І. Сталін „Марксізм и нацыянальна-каланіяльнае пытанне", стар. 52).

Урад Львова—Мілюкова—Керэнскага не толькі не парваў з царскай палітыкай нацыянальнага ўціску і грабежа, але яшчэ больш жорстка душыў Фінляндыю, Украіну, Беларусь і г. д. працягваў імперыялістычную вайну за заваяванне „новых зямель, новых калоній і нацыянальнасцей" (Сталін). Перад беларускай буржуазіяй і яе інтэлігенцыяй руская буржуазія не раскрывала асаблівых пэрспектыў наконт нацыянальнай вольнасці. Не гледзячы на акалачванне беларускіх нацыяналістаў у прыёмных міністраў часовага ўраду, Беларусь і пасля лютаўскай рэволюцыі заставалася калоніяй, аб'ектам рабунку і арэнай крывавай імперыялістычнай бойні.

Падтрымкі ж з боку беларускіх працоўных мас беларуская буржуазія не мела, а паколькі яна імкнулася да ўстанаўлення сваёй улады, гэта, наадварот, павялічвала прорву паміж ёю і рабочымі і сялянамі. „Натуральна, — піша тав. Сталін, — што паколькі „агульна-нацыянальныя" інстытуты на ўскраінах праяўлялі тэндэнцыю да дзяржаўнай самастойнасці, яны сустракалі непераможнае супроцьдзеянне з боку імперыялістычнага ўраду Расіі. Паколькі-ж яны, зацверджаючы ўладу нацыянальнай буржуазіі, заставаліся глухімі да карэных інтарэсаў „сваіх" рабочых і сялян, яны выклікалі сярод апошніх нараканне і нездавальненне. Так называемыя „нацыянальныя палкі" толькі падлівалі масла ў агонь: супроць небяспекі зверху яны былі бяссільны, небяспеку ж знізу яны толькі ўзмацнялі і паглыблялі. „Агульна-нацыянальныя інстытуты заставаліся безабароннымі супроць удараў знешніх таксама, як і супроць узрыву з сярэдзіны. Буржуазна-нацыяналістычныя дзяржавы, якія зарадзіліся, не паспеўшы расцвісці, пачыналі адцвітаць.

Такім чынам, старое буржуазна-дэмакратычнае тлумачэнне прынцыпа самавызначэнняператваралася ў фікцыю, губляла свой рэволюцыйны сэнс. Зразумела, што аб знішчэнні нацыянальнага прыгнёту і самастойнасці дробных і нацыянальных дзяржаў пры такіх умовах не магло быць і гутаркі. Рабілася відавочным, што вызваленне працоўных мас прыгнечаных нацыянальнасцей і знішчэнне нацыянальнага ўціску немагчымы без разрыва з імперыялізмам, звяржэнне „сваёй" нацыянальнай буржуазіі і ўзяцця ўлады самімі працоўнымі масамі". (Сталін, там-жа, стар. 52).

Руская імперыялістычная буржуазія не давала асаблівай надзеі на „адраджэнне" Беларусі „маці-бацькаўшчыны", з народнымі працоўнымі масамі пісьменнікі-„адражэнцы" даўно парвалі сувязі, перасталі выяўляць прагрэсіўныя імкненні мас, інтарэсы іх разышліся. Менавіта гэтым тлумачыцца пасіўнасць у перыяд паміж лютым і кастрычнікам, якая характарызуе творчасць большасці пісьменнікаў „нашаніўцаў".

Толькі кастрычніцкая социялістычная рэволюцыя пролетарыята вырашыла „карэнныя пытанні рэволюцыі". Соцыялістычная рэволюцыя, перадаўшы ўладу ў рукі пролетарыята, карвала з імперыялізмам і пакончыла з імперыялістычнай вайной, адабрала фабрыкі і заводы ў капіталістаў і перадала іх у рукі рабочых, знішчыла памешчыцкае землеўладаане і перадала зямлю ў рукі працоўнага сялянства і г. д. Рабочы клас пад кіраўніцтвам партыі Леніна аб'яднаў вакол сябе

шматмільённыя масы працоўнага сялянства і гарадской дробнай буржуазіі, ізаляваўшы гэтым самым буржуазію і паралізаваўшы ўплыў яе на працоўныя масы, забяспечыўшы за сабой перамогу ў рашучай барацьбе з сусветным імперыялізмам.

Да кастрычніка беларуская буржуазія і беларускія дробна-буржуазныя здрадніцкія партыі фактычна былі ізаляваны ад працоўных мас. Працоўныя масы Беларусі, як і ўсёй Расіі, аб'ядналіся вакол пролетарыята, пайшлі за большэвіцкай партыяй, за рабочым класам, разам з рускімі рабочымі і сялянскай беднатой. Кастрычніцкая рэволюцыя на Беларусі была адным са звенняў агульна-расійскай рэволюцыі, яна адбывалася пад кіраўніцтвам толькі нашай большэвіцкай ленінскай партыі.

Беларуская буржуазія і беларускія дробна-буржуазныя партыі, якія да кастрычніка былі ў саюзе з рускай і сусветнай буржуазіяй і шукалі ў яе падтрымкі супроць „сваіх" рабочых і сялян, пасля кастрычніка адкрыта выступілі супроць соцыялістычнай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята, выступілі як заядлыя ворагі рабочых і працоўнага сялянства, як лёкаі сусветнага імперыялізма.

Буржуазная і дробна-буржуазная беларуская нацыяналістычная літаратура сустрэла кастрычніцкую рэволюцыю ў штыхі. Амаль усе былыя „нашаніўцы" пісьменнікі, разам са сваёй буржуазіяй, у агульна расійскім памешчыцка-буржуазным хоры варожа выступілі супроць соцыялістычнай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята.

Мы ўжо гаварылі, што падзеі 1917 г. і пачатку 1918 г. не знайшлі свайго непасрэднага адлюстравання ў творах Купалы. Яго „Жалейка", як сам паэт кажа, „заснула была". Толькі ў 1918 г. паэт бярэ „Жалейку" і несмела, „з трывогай нейкай", спрабуе яе галасы.

„Я зноў заснуўшую было жалейку
Бяру і пробую ў ёй галасоў:
Ці хопіць светлых, звонкіх думак—слоў,
Ці гладка пойдзе песня—дабрадзейка?

І пачынаю йграць з трывогай нейкай,
Хоць песня, як і з даўных б'е часоў,—
Звініць, як вецер паміж верасоў,
І ў перагонкі рвецца з салавейкай.

А ўсё-ж, як тамка сваякі—суседзі
Яе паймуць, хацелася-бы знаць,—
Ці блаславляць, ці ўтопчуць гідка ў гаць?

Адно, снуючы з сумам па праследдзі,
Я голасна йграць буду ў тайным брэдзе.
Для бацькаўшчыны-маці буду йграць!".

Паэт у радзе вершаў апявае „спадчыну"—старую Беларусь з яе старым абымшэлым плотам і яе буслам, з жахамі і забойствамі „забытай карчмы". Паэт зноў выклікае знаёмыя нам вобразы ідэалізаванай ім мінуўшчыны, „уваскрашае мінуўшчыну", каб „выказаць цяперашчыну". Вецер, які дзіка свішча „па сценах астатках" старых замчышч, выклікае ў паэта напевы аб „слаўным" мінулым.

„Пяе аб тым, як гэтыя байніцы
Край сцераглі на захад і на ўсход.
Як с поўначы разбойны чужаніца
Не мог замчыскавых скрышыць варот.
Ты жыў, ты панаваў у краі родным,
Сцярог ад чужака й законы укладаў;
Звон вечавы сход склікваў народны,
І сход аб шчасці бацькаўшчыны дбаў."

Паэт параўноўвае „прыгожае“ мінулае з сучасным, дзе „сягодня ўсё спіць і зарастае зеллем“, а людзі „у ярме сагнулі плечы ў крук“. У яго сёння, так, што ён не бачыць „ні сцен, ні рук“ каб сцерагчы свой край ад „чужакоў“.

„Чужак—дзікун, крывёю ўпіўшысь свежай,
Запрог цябе ў няволю, ў батракі,
І тваю маці-бацькаўшчыну рэжа
Жывую рве на часці, на кускі“.

Матыў „парэзанай бацькаўшчыны“ паўтараецца і ў вершах „На сход“ і ў некаторых іншых.

„Кастрычніцкі пераварот, пакончыўшы са старым, буржуазна-вызваленчым нацыянальным рухам, адкрыў эру новага, социялістычнага руху рабочых і сялян прыгнечаных нацыянальнасцей, накіраванага супроць усякага,—значыць, і нацыянальнага, —уціску, супроць улады буржуазіі, „сваёй“ і чужой, супроць імперыялізма наогул“. (Сталін, Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне, стар. 55).

Застаючыся са старым буржуазным разуменнем бацькаўшчыны паэт не хацеў зразумець таго бясспрэчнага факта, што „вызваленне працоўных мас прыгнечаных нацыянальнасцей і знішчэнне нацыянальнага ўціску немагчыма без разрыву з імперыялізмам, без звяржэння „сваёй“ нацыянальнай буржуазіі і ўзяцця ўлады самімі працоўнымі масамі“ (Сталін), Й не пайшоў з працоўнымі масамі, а пайшоў за буржуазіяй, у сваіх песнях ён не выражаў ужо жаданне працоўных мас і не адлюстроўваў іх барацьбы, а наадварот, яго песні былі накіраваны не на карысць гэтых мас. Яго заклік:

„На сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход
Ідзі аграблены, закованы народ“,

не носіць рэвалюцыйнага характару. Гэта заклік не на аснове пралетарскай дыктатуры „заводзіць лад“, а на аснове буржуазнай дэмакратыі, якая зжыла ўжо сябе, гэта заклік ісці за беларускую буржуазную рэспубліку—„маці-бацькаўшчыну Беларусь“.

З пазіцый буржуазнай дэмакратыі паэт выступае ў сваіх вершах і супроць класавай барацьбы, супроць тых беларусаў, якія адмовіліся ад буржуазнай нацыяналістычнай рэспублікі, а змагаюцца ў адных радах з рабочымі і сялянамі ўсёй Расіі, за пролетарскую дыктатуру, за совецкую рэспубліку, якая пасапраўднаму вызваліла прыгнечаныя народы ад нацыянальнага ўціску.

Паэт і на гэтым этапе, як і ў сваіх старых вершах, выступае супроць „чужынцаў“ наогул, не аддзяляючы ворагаў працоўных мас Беларусі ад іх саюзнікаў. „Чужынцы суседзі“ наогул, без дыферэнцыяцыі—вось хто, па ўяўленню паэта, вораг беларускага народа, яны забіраюць мёд з яго вулляў, яны „запрэглі“ яго ў няволю.

Паэт упарта не хоча прызнаць, што царская Масква ў выніку Кастрычніцкай рэволюцыі адыйшла ў мінулае, што пролетарская совецкая Масква нічога агульнага не мае з царскай Масквой. Ён, як і другія беларускія нацыяналісты, у сваіх вершах імкнецца паказаць, што ў Расіі і ў выніку социялістычнай рэволюцыі нічога не змянілася, што засталася царская Масква—прыгнятальнік і душыцель нацыянальнасцей.

„Чужы і свой хлеб становіцца жорсткім комам
І душыць кліч: ці доўга будзе нам заломам
Варшава панская і царская Масква“.

Пролетарскую дыктатуру паэт уяўляе сабе і паказвае ў гэтым вершы як перайма́льніка царскай, памешчыцка-буржуазнай палітыкі ўціску нацыянальнасцей, беларусаў у прыватнасці. „Раскаваныя рабы“— пролетарыят, па ўяўленню паэта, таксама крывавяць „цела маці Беларусі“. Устанаўленне пролетарскай дыктатуры, паводле ўяўлення паэта, не пазбавіла народы былой царскай Расіі ад адвечнай „крыўды“, якая цягалася па свеце, „ад хаты да хаты блудзіла“, якая

Узвялічвала троны, кароны;
Нявольнікам путы кавала.
Пладзіла сусветныя стогны“,

якая пазбаўляла прыгнечаныя народы ўсякіх перспектыў. Паказальным у гэтых адносінах з'яўляецца верш „Крыўда“.

„Здавалася, ноч не пяройдзе,
Іржа не згрызе вечных путаў,—
Аж бліснуў пажар на усходзе,
І дрогнулі рабскія скруты.
І дрогнула крыўда ўсяўлада,
Разлегся скрозь кліч пяруновы;
Апалі кароны, пасады,
З нявольнікаў спалі аковы.
І мілай пацехай заз'яла,
І доля і слава людская,
дый толькі знаць слава і хвала
Нядоўгавечнай бывае.
Раскованы раб сябе выдаў—
Не ўзнёсся ўвысь дух чалавечы,—
Нявольнік пабратаўся з крыўдай
і ў помач ёй даў свае плечы“.

Лютаўская рэволюцыя і дадзеная ёю свабода, як бачым, успрыймаюцца паэтам, як і іншымі пісьменнікамі нашаніўцамі, як сапраўдная воля з „мілай пацехай“. Кастрычніцкая рэволюцыя і дыктатура пролетарыята ўяўляецца яму, як адмена, як знішчэнне волі наогул, як перамога „крыўды адвечнай“ над праўдай.

Пролетарыят, зрабіўшы соцыялістычную рэволюцыю, згодна ўяўлення паэта, знішчыў волю, зноў „пабратаўся з крыўдай“, а крыўда працягвае тую-ж самую палітыку, што і царызм праводзіў, разам з чужынцамі з захаду рэжа на часці цела „маці-Беларусі“.

У вершах Купалы таксама, як і ў вершах другіх паэтаў—яго сучаснікаў, гучыць заклік да нацыянальнага адзінства ўсіх беларусоў незалежна ад іх класавай прыналежнасці і палітычнай арыентацыі.

Ён выступае супроць „ворагаў беларушчыны“, але не хоча бачыць таго, што беларускія працоўныя масы вядуць барацьбу не толькі супроць сваіх ворагаў з „чужынцаў“, але і супроць „сваіх“ беларускіх памешчыкаў, буржуазіі, кулакоў і іх прыхвасняў.

Нельга сказаць, што творчасць Купалы за 1918 г. разгортвае якія-небудзь перспектывы для яго бацькаўшчыны. Настроі паэта цяжкія і бадай што бесперспектыўныя. Верш „Званы,“ „У досвітак“, „Паяжджане“, „Рунь“ і рад іншых напоўнены песімізмам.

Нямецкія акупанты, якіх беларускія нацыяналісты ўпрашвалі „ратаваць Беларусь ад большэвікоў“, пад ботам якіх яны бачылі „сапраўдны росквіт культуры“, не раскрывалі перад паэтам асаблівых перспектыў, не давалі рэальных надзей на „волю бацькаўшчыне“, хаця паэт неясна ўсведамляў, што яны прышлі не з воляй, а з імперыялістычным ярмом для працоўных Беларусі. Яму, як і „папра-

лусе“ з вершу „У досвітак“, штосці сніцца, але што—ён і сам не згадае. На яго дарозе „Цёмна, сумна“ і „як скрозь сіта імжыць „імжака“.

„Скрыгатаюць грудзі боллю,
Сэрца ссе нуда-вужака,
Звод скрабе ў душы агнісце,—
Будзіць буднія ўспаміны.
Пхнуся ўдвойчы з жудкім жахам,
Злыдні зіркаюць у вочы...
Ах хаця-б не дацца ліху!
Но, мой косю!... Стой!... Канава!“

Другі перыяд існавання совецкай улады на Беларусі (ад 12 снежня 1918 г. да сярэдзіны жніўня 1919 г.) зноў не пакідае сьлядоў у творах Купалы. Апрача сумнага элегічнага вершу „Паяжджане“ (27/XII-1918 г.)

„Едуць, едуць, а ні следу,
Ні праслуху, ні прагляду,
Ні прасвету, ні надзеі,—
Усё ў зацьмішчы, ўсё ў завеі“,

другіх вершаў, датаваных перыядам існавання совецкай улады, мы не сустракаем у збору твораў паэта. Верш „Паяжджане“ не выходзіць сваімі ідэямі з кола раней ужо ахарактарызаваных намі вершаў.

За часы белапольскай акупацыі паэт напісаў значную колькасць вершаў. Гэтыя вершы таксама не дыхаюць бадзёрасцю.

Гістарычная Польшча, межы XVIII века, аб устанаўленні якіх марылі польскія паны, таксама, як і панаванне нямецкіх акупантаў, не раскрылі ружовых перспектыў для беларускага патрыёта. Устанаўленне „гістарычнай Польшчы“ з яе межамі XVIII века азначала-б паглыненне Беларусі польскім імперыялізмам, ператварэнне яе ў калонію польскіх паноў і фабрыкантаў, ператварэнне рабочых і працоўных сялян Беларусі ў панскіх рабоў, а беларускіх прастораў—у запаведнае месца палявання на іх. Паэт на вопыце мінулай гісторыі часамі адчуваў, што польскія паны не нясуць „волю вольнай грамадзе“, волю яго бацькаўшчыне, а новы ўціск, новае прыгнечанне. Вось чаму прыход белапольскіх акупантаў не развеяў смутку і журбы, якой быў ахоплен паэт і ў часы нямецкай акупацыі. Вось чаму

„З павяўшай славай быўшых дзён
З магільных прадзедавых крас,
Пад стогн няволі, путаў звон“

Паэт збіраецца складаць песню сказ.

Але не толькі аб „павяўшай славе“ паэт складае сказ і песні Белапольскія акупанты са сваім прыходам прынеслі з сабой не толькі мары аб „вялікай Польшчы“, але варварскія і дзікія звярыныя здзекі над працоўнымі Беларусі, катаванні, шыбеніцы, растрэлы. Агнём, мячом і вяроўкай яны хацелі замацаваць за польскім імперыялізмам, захопленую тэрыторыю Беларусі. „Цывілізаваныя“ гуны і вандалы XX века, іезуіты і інквізітары, узброеныя зброяй заходня-еўрапейскіх імперыялістаў,— няшчадна нішчылі на сваім крывавым і брудным шляху вёскі, мястэчкі і гарады, сялянскія нівы і чыгуначныя масты, па драпежніцку знішчалі і жывымі закапвалі ў зямлю лепшых сыноў рабочых і сялян Беларусі, гвалцілі іх дачок і г. д. Усё гэта было лігаральна штодзённай і звычайнай для акупантаў з'явай. Купала не мог не бачыць гэтых катаванняў і здзекаў, не мог не чуць стогнаў беларускіх працоўных. І ён аплаквае лёс катаванай Беларусі, аплак-

вае долю „беларускіх сыноў“, якіх акупанты паставілі ў свае прыслужнікі, прымусілі „чужы сцяг над беларускай беднай хатай“ трымаць.

„У нашым краю
Пануе чужак,—
Ніхто не парае,
Пазбыцціся як“.

Ад рабочых і сялян, якія сваёй рэвалюцыйнай барацьбой супроць белапольскіх акупантаў пазбаўляліся ад „панавання чужака“, паэт сябе ізаляваў, паколькі не парваў з беларускімі нацыяналістамі.

Адсюль у паэта пошукі „Прарока на вогненым кані“, які-б вывеў Беларусь, праўдзівей паэта, з тупіка.

Ненавідзячы польскіх паноў, якія душылі беларускую нацыянальнасць ў гістарычным мінулым і ў сучасным, паэт, тым не менш, ва ўгоду нацыяналістычнай ідэі бацькаўшчыны радам сваіх вершаў аб'ектыўна ліў ваду на млын акупантаў. Гэта асабліва відаць у вершах, надрукаваных пасля падпісання ў Варшаве дэкрэта „аб фарміраванні беларускага войска“ (23 кастрычніка 1919 г.), войска, у якое пасля, зрабіўшыся „беларусам“, уліўся Булак Балаховіч са сваімі бандамі. Наіўна верачы ў ідэю Бенееро́ўскай „незалежнасці“, паэт усё-ж не бачыў яе на справе. Ад гэтага на яго часамі находзіць жаль і смутак. Вось ён піша верш „Гадаўшчына-памінкі“, адзначаючы другую гадавіну абвяшчэння „БНР“.

„І ў гэту нашу гадаўшчыну
Звініць ланцуг, як і звінеў,
І там, і тутка без упыну
Шалее катні здзек і гнеў.
Не „незалежнасць“ праз час гэты
Сваё радзіла святло,
А падняволле без прасветы,
А рабства Беларусь гняло.
Народ спраўляць памінкі будзе—
Не свята светлае вясны,—
За стол жалобны сядуць людзі
Там, дзе крыжы, дзе курганы!“

Становішча працоўных мас Беларусі на совецкіх землях ён паказвае такім-жа, як і на землях акупаваных белапалякамі. І яго жалабная канстатацыя факта, што замест „незалежнасці“—„падняволле“, не вядзе паэта да разрыву з прадажнымі халуямі польскага імперыялізма — беларускімі нацыяналістамі, да вызвалення ад фальшывай, хімернай ідэі Бенееро́ўскай „незалежнасці“.

## V

Пяты перыяд творчасці Купалы прыпадае на гады аднаўленчага перыяда соцыялістычнага будаўніцтва. Гэты перыяд з 1921 па 1927 г. Совецкая ўлада на Беларусі зноў была ўстаноўлена пасля нашых перамог над белапольскімі акупантамі ў ліпені 1920 г. І характэрна тое, што тут мы зноў на працягу досыць значнага часу пасля ўстанаўлення совецкай улады сустракаемся з фактам маўчання Купалы (1920 г. і часткова 1921 г.). Нашы перамогі над белапольскімі акупантамі, вызваленне Беларусі—не выклікаюць энтузіязму і творчага ўздыму ў Купалы, як і ў раду іншых пісьменнікаў—былых нашаніўцаў; нават больш таго, заключэнне рыскага міра выклікае ў гэтых пісьменнікаў гаркоту і абурэнне. Але ўстанаўленне совецкай улады на Бела-

русі затое выклікае магутную хвалю ўздыму новай маладой совецкай літаратуры, найбольш яркімі фігурамі якой з'яўляецца М. Чарот, П. Трус і рад іншых.

Гордымі і агністымі словамі загаварыла новая маладая совецкая літаратура. Поўная радасці, сілы і ўпэўненасці ў перамогу справы працоўных, маладая совецкая літаратура заклікае заваёўваць „вялікай будучыні дзень", няспынна ісці да новых перамог.

Іначай сустрэлі ўстанаўленне і замацаванне пролетарскай дыктатуры старыя карыфеі беларускай літаратуры. Не парваўшы з буржуазіяй, буржуазным нацыяналізмам і нацыяналістычным разуменнем бацькаўшчыны, яны па-ранейшаму глядзяць на пролетарскую дыктатуру, як на новую форму ўціску.

Пасля сканчэння грамадзянскай вайны перад пролетарыятам совецкай краіны паўсталі новыя задачы. Пасля сканчэння грамадзянскай вайны класавая барацьба не спынілася, а набыла новыя, больш складаныя і цяжкія формы. У 1921 г. пастановай X з'езда комуністычнай партыі ўводзіцца новая эканамічная палітыка (НЭП). Ваенны саюз рабочага класа і сялянства пераходзіць у новую форму, у форму эканамічнага саюза. З мэтай развіцця вытворчых сіл краіны і замацавання эканамічнага саюза рабочага класа з сялянствам харчовая развёрстка замяняецца натуральным налогам. Селянін атрымаў магчымасць карыстацца лішкамі сваёй працы. З мэтай разгортвання тавараз вароту паміж горадам і вёскай дапушчан вольны гандаль, прыватны капітал, як у гандлі, так і часткова ў прамысловасці. Пролетарыят, трымаючы ў сваіх руках уладу і камандныя вышыні народнай гаспадаркі, рэгулюе гандаль, абмяжоўвае рост капіталістычных элементаў, вядзе ўсю палітыку так, каб соцыялістычныя элементы атрымалі перамогу над капіталістычнымі. Гэта вядзе да новай формы класавай барацьбы паміж соцыялістычнымі і капіталістычнымі элементамі.

> „НЭП ёсць асобая палітыка пролетарскай дзяржавы, разлічаная на дапушчэнне капіталізма пры наяўнасці камандных вышынь у руках пролетарскай дзяржавы, разлічана на барацьбу элементаў капіталістычных і соцыялістычных, разлічана на ўзрастанне ролі соцыялістычных элементаў ва ўшчэрб элементам капіталістычным, разлічана на перамогу соцыялістычных элементаў над капіталістычнымі элементамі, разлічана на знішчэнне класаў, на пабудову фундамента соцыялістычнай эканомікі". (Сталін)

На аснове гэтай палітыкі пролетарская дзяржава замацавала саюз рабочага класа і сялянства, замацавала кіруючую ролю рабочага класа ў гэтым саюзе, узняла вытворчыя сілы краіны, умацавала соцыялістычныя элементы нашай эканомікі, аднавіла прамысловасць і стварыла ўмовы для шырокага разгортвання індустрыялізацыі, падрыхтавала вялікі пераход многамільённых мас сялянства на шлях калектывізацыі. У вялікай барацьбе соцыялістычных элементаў з капіталістычнымі выйгралі соцыялістычныя элементы, яны перамаглі, капіталістычныя элементы пайшлі на дно.

З пераходам да НЭП'а класавая барацьба з капіталізмам стала яшчэ больш жорсткай і небяспечнай. „Прамога націску на нас няма, нас не хапаюць за горла. Што будзе заўтра, гэта мы яшчэ паглядзім, але сёння на нас не наступаюць са зброяй у руках, і, тым не менш,

барацьба з капіталістычным грамадствам стала ў сто разоў больш жорсткай і небяспечнай, таму што мы незаўсёды ясна бачым, дзе супроць нас вораг, і хто наш прыяцель..."—гаварыў Владзімір Ільіч на XI з'ездзе партыі (Ленін, том XXVII, 243—244).

Буржуазныя элементы ўспрынялі НЭП не як тактыку нашай партыі, а як „эвалюцыю большэвізма", як „перараджэнне большэвізма". Ажыўленне капіталістычных элементаў у эканоміцы ўзнавіла буржуазныя надзеі і імкненні на зварот капіталізма. В. І. Ленін на XI з'ездзе партыі, выступаючы па пытанні аб сканчэнні адступлення, задачах і ўмовах нашых далейшых перамог на аснове новай эканамічнай палітыкі, гаварыў:

„Я хацеў-бы, у сувязі з гэтым, закрануць пытанне аб тым, што такое новая эканамічная палітыка большэвікоў—эвалюцыя ці тактыка? Так паставілі пытанне зменавехаўцы, якія, як вы ведаеце, прадстаўляюць плынь, якая прывілася ў эмігрантскай Расіі, плынь грамадска-палітычную, на чале якой стаяць былыя кадэцкія дзеячы, некаторыя міністры былога калчакоўскага ўраду—людзі, якія прышлі да пераканання, што совецкая ўлада будуе рускую дзяржаву, і трэба таму ісці за ёй. „Але гэтая совецкая ўлада будуе якую дзяржаву? Комуністы гавораць, што комуністычную, запэўніваючы, што гэта—тактыка: большэвікі абойдуць у трудны момант прыватных капіталістаў, а потым, маўляў, возьмуць сваё. Большэвікі могуць гаварыць, што ім падабаецца, а на самой справе не тактыка, а эвалюцыя, унутранае перараджэнне, яны прыдуць к звычайнай буржуазнай дзяржаве, і мы павінны іх падтрымліваць. Гісторыя ідзе рознымі шляхамі",—так разважаюць зменавехаўцы.

Некаторыя з іх прыкідваюцца комуністамі, але ёсць людзі больш простыя, у тым ліку Устралаў. Здаецца, ён быў міністрам пры Калчаку. Ён не згаджаецца са сваімі таварышамі і гаворыць: „Вы там наконт комунізма, як хочаце, а я сцвярджаю, што ў іх не тактыка, а эвалюцыя". Устралаў гэтай сваёй адкрытай заявай прыносіць нам вялікую карысць. Нам вельмі многа даводзіцца чуць, мне асабліва па пасадзе, салодзенькай комуністычнай хлусні, „комхлусні" кожны дзень і ташнеханька ад гэтага бывае часамі ўбійственна. І вось, замест гэтай „комхлусні" прыходзіць нумар „Смены Вех" і гаворыць напрамкі: „У вас гэта зусім не так, гэта вы толькі ўяўляеце (воображаете), а на самой справе вы скачваецеся ў звычайнае буржуазнае балота, і там будуць комуністычныя сцяжкі целяпацца з усякімі славечкамі". Гэта вельмі карысна, таму што ў гэтым мы бачым ужо не просты перапеў таго, што мы пастаянна наўкола сябе чуем, а проста класавую праўду класавага ворага... Гэта сапраўды ёсць класавая праўда, груба, адкрыта выказаная класавым ворагам. „Я за падтрымку совецкай улады ў Расіі,—гаворыць Устралаў, хаця ён быў кадэт, буржуа, падтрымліваў інтэрвенцыю,—я за падтрымку совецкай улады, таму што яна стала на дарогу, па якой коціцца к звычайнай буржуазнай уладзе". (Ленін, т. XXVII, стар. 242-243).

В. І. Ленін, заклікаючы комуністаў прыслухоўвацца да „класавай праўды класавага ворага", папярэджваў, што такія рэчы, аб якіх гаворыць Устралаў, магчымы, трэба сказаць проста", класавы вораг „гаворыць класавую праўду, указваючы на тую

небяспеку, якая перад намі стаіць. Вораг імкнецца к таму, каб гэта стала няўхільным. Зменавехаўцы выражаюць настроі тысяч і дзесяткаў тысяч усякіх буржуяў або совецкіх служачых, удзельнікаў нашай новай эканамічнай палітыкі. Гэта—асноўная і сапраўдная небяспека". (Ленін, там-жа старонка 243)

Мы прывялі гэтую вялікую вытрымку таму, што яна ярка ўказвае на тую небяспеку, якая была перад совецкай уладай, ярка выкрывае настроі, тактыку і імкненні класавага ворага, які пацярпеў паражэнне ў адкрытым баю на франтах грамадзянскай вайны, яго надзеі, якія ён ускладаў на ажыўленне капіталістычных элементаў. Гэтая вытрымка дапамагае нам зразумець многія і многія літаратурныя факты аднаўленчага перыяду.

Беларускія нацыяналісты, як эмігранты, так і тыя, што засталіся на совецкай зямлі, таксама ўспрынялі НЭП так, як і Устралаў. Будаўніцтва беларускай совецкай соцыялістычнай рэспублікі ў першы перыяд НЭП'а беларускія нацыяналісты ўспрынялі, як будаўніцтва беларускай буржуазнай дзяржаўнасці, як „адраджэнне таго, што калісці было", на ачышчанай ад рэштак сярэднявякоўя глебе.

Разбітыя ў адкрытым баю на франтах грамадзянскай вайны, беларускія нацыяналісты з увядзеннем нэпа акрыялі надзеямі на перараджэнне большэвізма, пераходзяць к захаваным формам барацьбы. Завуаляваўшы свой контррэволюцыйны твар маскай „лаяльнасці", а некаторыя з іх партбілетамі, яны на розных участках сваёй дзейнасці (НКА, Інбелкульт, выдавецтва, літаратура, НКЗ і інш.) прагнуць накіраваць гаспадарчае і культурнае будаўніцтва БССР па капіталістычнаму шляху, умацаваць капіталістычныя элементы, сабраць свае сілы і падрыхтаваць свае кадры.

„Калі нельга правесці сваю праграму „ударам у лоб", то трэба праводзіць яе старанай. Важна, каб правільны быў прынцып. Калі прынцып справядлівы, дык рэшта становіцца толькі пытаннем часу, дысцыпліны, тактыкі і натугі змагання"—так сфармуляваў тактыку нацдэмаў А. Цвікевіч у часопісу „Полымя". Бокам, а часамі і ўдарам у лоб нацыянал-дэмакраты шырока прапагандуюць праз друк, мастацкую літаратуру, тэатр, школу і г. д. свае ідэі і тактыку, падрыхтоўваюць свае кадры, а праз сваю агентуру ў НКЗ праводзяць палітыку хутарызацыі, палітыку ўзмацнення кулацка-капіталістычных элементаў (прышчэпаўшчына).

Прапаганда ідэй і тактыкі нацыянал-дэмакратызма ідзе разам з іх шпіёнскай, правакацыйнай работай, з падрыхтоўкай дапамогі інтэрвентам, заходня-еўрапейскім імперыялістам.

„Створаная імі яшчэ ў 1921 г. контррэволюцыйная арганізацыя пад назвай „Саюз адраджэння Беларусі", рэарганізаваная ў далейшым у „Саюз вызвалення Беларусі" (СВБ), асноўную стаўку рабіла на інтэрвенцыю, разглядаючы сваю работу ў БССР, як расчышчаючую шлях інтэрвенцыі і яе падрыхтоўваючую" („Вынікі бліжэйшых задач правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі ў БССР. Пастанова аб'яднанага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б).

Ідэі нацыяналізма шырока культывіраваліся і ў мастацкай літаратуры аднаўленчага перыяду. Асноўнымі носьбітамі іх у мастацкай літаратуры з'яўляліся кадры нацыяналістычных пісьменнікаў былых нашаніўцаў, а таксама і маладыя парасткі буржуазна-кулацкай літара-

туры, якая ўзнікла на глебе ўзросшых пры НЭП'е кулацка-капіталістычных элементаў (Дубоўка, Пушча, Бабарэка і рад іншых).

Ідэі зменавехаўства знайшлі сваё яркае адлюстраванне ў вершах „Беларусь" (1922 г.) і інш. З. Бядулі, „Пазвалі вас" (1922 г.) і „Безназоўнае" (1924 г.), Купалы і раду твораў іншых пісьменнікаў.

У перыяд НЭП'а мы нагляд̣аем новае ажыўленне ў творчасці Купалы. Але ў першыя гады НЭП'а паэт яшчэ не хоча мірыцца з фактам існавання пролетарскай дыктатуры, не хоча зразумець, што беларускія працоўныя масы Совецкай Беларусі знайшлі сваю бацькаўшчыну, пазбавіліся ад прыгнетальнікаў і эксплаататараў капіталістаў і памешчыкаў, „трутняў", якія жэрлі чужы мёд. Ён жыве яшчэ старымі ідэямі і думкамі. Яго яшчэ захапляе рамантыка мінуўшчыны ў супроцьлегласць сучаснасці. Паэт не хоча прызнаць, што Совецкая Беларусь сапраўды існуе на волі і ён іранізіруе вуснамі „сына" з верша „Сын і маці":

„Мамка, мамка, нам сягоння
Гаманілі ў школе
Аб якойсці Беларусі:"
Што жыве на волі".

Сын маткі „ніяк не можа ўцяміць, што ўсё гэта знача". Матка таксама не можа „уцяміць", што палова Беларусі сапраўды вольная. Яна жыве старымі ўспамінамі аб былой феадальнай Беларусі, аб былой „вялікай нашай славе".

„Аб вялікай нашай славе
Сведчаць на свет цэлы.—
Як жылі мы, панавалі
У родным краі смела".

Для маткі, як і для паэта, Беларусь—усё, без таго, да якога-ж класа ён належыць. Зязюлька паэта кукуе яшчэ на стары, нацыяналістычны лад. Ён не хоча прызнаць, што „свабодны вецер" ужо дзьме „над беднай Беларуссю, нават і ў лепшым сваім вершы 19 1 г. „На смерць Сцяпана Булата". Пролетарская дыктатура для яго нешта падобнае на той мароз, што „шэпча казкі аб шчасці".

У 1922 г. паэт выступае з вершам „Пазвалі вас", да якога дае эпіграф: „Еўрапейскія дзяржавы пастанавілі запрасіць на міжнародную нараду ў Геную тав. Леніна (з газет 1921 г.). У гэтым вершы паэт ярка выяўляе сваё па сутнасці зменавехаўскае разуменне пролетарскай дыктатуры і свае адносіны да яе. Зварочваючыся да пролетарыята, да большэвіцкай партыі, ён гаворыць:

„Пазвалі вас на пір піроў,
Пазвалі вас за волю стаць
І далі ўладу путы рваць,
І далі ўладу біць цароў,—
Зрабілі з вас гаспадароў".

Але як-жа пролетарыят, паводле ўялення паэта, выкарыстаў гэтае запрашэнне, гэтую ўладу? А вось як:

І вы з рабоў пашлі ў цары...
—О, каб не ў краты толькі з крат?
Паклон адбіў вам азіят,
За ім Еўропы жыхары
Шлі к вам праз морскія віры..."

З чым жа яны ішлі паводле ўялення паэта?

„Але не ваш вітаць шлі сцяг".

З чым імперыялісты—інтэрвенты, „Еўропы жыхары“ 14 капіталістычных дзяржаў ішлі на нас—мы ведаем. Яны ішлі не вітаць наш шлях, гэта праўда, а для таго, каб задушыць пролетарскую рэволюцыю, каб надзець ярмо імперыялізма на шыю працоўных мас былой царскай Расіі. Аднак паэт інакш разумее паход імперыялістаў:

„З сваёю воляй шлі на вас...
І не дашлі—зышлі на час
Праз белы й чорны моркі шлях“.

І паэт як бы з жалем канстатуе праўду, гаворачы, што нам не страх.

„Вам не страх, а вам не страх“.

З такім-жа настроем ён гаворыць, што

„Чатыры годы ў крок
Тварыць вы шлі і кроў лілі
Сваю, чужую па зямлі...
Раслі магілы... Зваў прарок...
Рос вашай моцы блеск і мрок“.

За гэтыя чатыры гады:

„І ўсё вы ўзялі, ўсё як ёсць:
Фабрычны дым, сяўбы загон
І панскі двор, і царскі трон...
Ды стала ўсё вам гэта ў злосць“.

Усё гэта, паводле ўяўлення паэта, стала нам у злосць таму, што нам не хапіла сіл для таго, каб узняцца з руін, каб адбудаваць разбураную вайной гаспадарку.

„Сабою самі стаць з руін
Вам не хапіла смогі, сіл“.

Тым што мы ўвялі НЭП, паводле ўяўлення паэта, мы адракліся, адмовіліся ад сваіх соцыялістычных задач і ідэалаў, а спусціліся над звон фраз аб комунізме да капіталізма.

І вось к вам вылез цень з магіл:
Крывавы грош і „гаспадзін“,
А іх закон адзін, адзін.
З-пад ног, з утоптанай нары
Паўзе ўжо збэшчаны паук.
І ў сто, ў сто кагцістых рук
Хапае вас рабы-цары, —
Як бы вы ўжо не ўладары...“

Праўда, гаворыць паэт, вы яшчэ ўладары думкі аб комунізме, але толькі думкі, не больш:

„Вы ўладары... Яшчэ жар цвет
Бунтарскіх дум у вас не згас“.

Але ўжо толькі думкі асталіся у вас. Таму:

“Еўропа кліча у госці вас:
Пад рогат Пірравых пабед
Советы кліча на „совет“.

Гэты верш надзвычай характэрны. У ім выказаны думкі, разуменні і настроі не толькі аднаго паэта, а і настроі цэлай групы буржуазнай інтэлігенцыі. Настроі і думкі, выяўленыя ў вершы „Пазвалі вас“, цалкам і поўнасцю супадаюць з тымі думкамі, якія выказаў Устралаў, якія абнадзейвалі капіталістычныя элементы.

Нельга сказаць, што паэта радавала або асабліва непакоіла небяспека перараджэння совецкай улады. Не яе лёс непакоіў яго, а тое, што „рабы“ могуць перарадзіцца ў цара і тады яны будуць нацыянальна прыгнятаць Беларусь, як прыгнятаў яе цар, што зноў будзе панаваць „крыўда“ адвечная“. Пад гэтым кутом гледжання паэт ацэньвае ўсе з‘явы ў совецкай рэчаіснасці ў першыя гады НЭП‘а.

Факт існавання Совецкай улады, будаўніцтва соцыялістычнай гаспадаркі і культуры, а таксама некаторы рост на глебе НЭП‘а капіталістычных элементаў ацэньваюцца паэтам, як і іншымі беларускімі інтэлігентамі з нацыяналістычнымі настроямі, як „адраджэнне“ Беларусі ў духу тых мар, якімі ён і нацыяналістычная інтэлігенцыя былі захоплены. У 1924 г. ён піша вялікі твор „Безназоўнае“, у якім не без радасці канстатуе, што для Беларусі:

„Масты старыя спалены—
Старыя ланцугі;
Паложаны падваліны
Пад новыя сцягі.
Узводзіцца будыніна
На іншы склад і лад...“

Але тут паэт разумее не соцыялістычную будыніну, а іменна будыніну „адраджэння вольнай мужыцкай Беларусі у тым нацыяналістычным разуменні паэта, Беларусь якая заняла „свой пачэсны пасад між славянамі“. Гэта не Беларусь рабочых і сялян, а Беларусь усіх назбіраных у свой родны вулей беларусоў з абсалютным унутраным класавым адзінствам:

„Нібы пчолы ў соты з мёдам
Да свайго вулля,
Мы збіраемся да дому,
Як адна сям‘я.

Гэтую Беларусь ён малюе ў вобразе абсалютна не адэкватным, а супроцьлеглым рэальнай совецкай соцыялістычнай Беларусі. Ён малюе Беларусь у вобразе жанчыны, якая сядзіць у сваёй хаце ў куце з „чаркай мёду ў руцэ“, сама сабе гаспадыня, прыбралася ў беларускую „самабытную“ вопратку:

„На галоўцы вянок
З сініх васілёчкаў,
А чырвоны паясок
Стан абвіў дзявочы“.

Яна, гэтая яго Беларусь, збіраецца быць усім беларусам роднай маткай, нікога не крыўдзіць, а

„Усім дагадзіць
І соллю і хлебам“.

Зразумела, што гэты вобраз Беларусі далёкі ад сапраўднай сутнасці той Беларусі, якую адбудоўвалі рабочыя і сяляне.

„Безназоўнае“ ярка сведчыць, што паэт не зразумеў соцыялістычнага характара пролетарскай рэволюцыі, што ён успрыняў пролетарскую дыктатуру ў духу зменавехаўцаў, а з гэтага вынікаюць і яго спробы прымірыць непрымірымае, прымірыць буржуазна-нацыяналістычныя ідэі „адраджанізма“ з пролетарскай дыктатурай, ці ва ўсякім разе прыстасаваць совецкую форму да буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі.

Глыбокае сваё неразуменне сутнасці пролетарскай рэволюцыі паэт выяўляе і ў наступным вершы (1924 год):

„О, так! Я—пролетар!..
Яшчэ учора раб пакутны—
Сягоння я зямлі ўладар
І над царамі цар магутны!

Мне бацькаўшчынай цэлы свет,
Ад родных ніў я адвярнуўся...
Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сняцца сны аб Беларусі!"

Гэта па меншай меры карыкатура на пролетарскі інтэрнацыяналізм. Паэт не можа зразумець суадносін паміж нацыянальным і інтэрнацыянальным і ён іранізуе па поваду пролетарскага інтэрнацыяналізма.

Неразуменне пролетарскай дыктатуры, правільней—нацыяналістычна-інтэлігенцкае разуменне яе чырвонай ніткай праходзіць амаль праз большасць твораў Купалы 1921—28 г.

Выступаючы ў радзе сваіх вершаў супроць расійскага вялікадзяржаўнага шавінізма паэт у той-жа час не хоча адрозніваць расійскага чорнасоценца-вялікадзяржаўніка ад расійскага пролетарыя, ад працоўнага. Разам з вялікадзяржаўнікам ён ганьбіць і праклінае ўсё рускае, кідае цені і на совецкую ўладу за тое, што яна заключыла рыжскі мір з белапалякамі.

Нацыяналістычныя элементы ў творчасці Купалы нацдэмаўская крытыка ўсімі сіламі падтрымлівала. Калі дарэволюцыйныя нацыянал-дэмакратычныя крытыкі ўсякімі спосабамі замоўчвалі рэволюцыйна-дэмакратычныя элементы ў творчасці Купалы, накіроўвалі яе на апяванне „душы" беларуса, на апяванне яго навакольнай прыроды і шэрай феадальнай мінуўшчыны, у той-жа час перасцярагаючы ад крайніх рэволюцыйных матываў, то паслякастрычніцкая нацдэмаўская крытыка мяняе сваю тактыку. Нацдэмаўскія крытыкі, усе гэтыя Ігнатоўскія, Бабарэкі, Чаржынскія, Піотуховічы, Жылуновічы прагнулі выдаць усю творчасць Купалы за цалкам рэволюцыйную, а паслякастрычніцкую—цалкам за совецкую пролетарскую. Пры гэтым, як правіла, яны сыходзілі не з сапраўды рэволюцыйных элементаў творчасці паэта, а з нацыяналістычных. І гэта зразумела чаму так. Нацыянал-дэмакратам патрэбна боло рабіць сваю контррэволюцыйную справу, працягваць сваю нацыяналістычную ідэалагічную кантрабанду, атручваць нацыяналізмам свядомасць мас, а для ўсяго гэтага патрэбна было прытупіць рэволюцыйную пільнасць рабочага класа. І яны выкарыстоўвалі ў сваіх мэтах папулярнае імя і папулярную творчасць Купалы. Ім трэба было выдаць нацыяналістычныя ідэі за сапраўды рэволюцыйныя і яны карысталіся повадам, формай літаратурнай крытыкі. З другога боку ім патрэбна было дэзарыентыраваць самога паэта, трымаць яго ў іх палоне, выхоўваць свае маладыя літаратурныя кадры.

Што-ж падкрэслівала, як галоўнае, як вядучае нацдэмаўская паслякастрычніцкая крытыка ва ўсёй творчасці Купалы? „Ідэалогія адраджэння ёсць галоўнай прыметай не толькі лірыкі, але і ўсяе паэзіі песняра"—адказвае М. Гарэцкі. Гэтая ідэалогія адраджэння згодна „вучэння" другога нацдэмаўскага крытыка Жылуновіча не супроцьстаўлена ідэалогіі пролетарыята, пролетарская ідэалогія не адмаўляе яе, а наадварот, пролетарыят падводзіць пад яе цвёрды грунт.

Ідэі адраджанізма, беларускі нацыянальны рух на ўсіх яго этапах Жылуновіч без усякіх агаворак залічвае ў разрад рэволюцыйных ідэй і рэволюцыйнага руху. „Увесь беларускі рух,—гаварыў ён

на акадэмічнай канферэнцыі, укладаўся выключна ў рамкі рэвалюцыйнасці".

Калі ідэі адраджанізма рэвалюцыйныя, калі буржуазны нацыянальны рух рэвалюцыйны на ўсіх этапах, то зусім зразумела, што і творчасць Купалы, у якой адлюстроўваецца гэты рух і яго адраджэнцкая буржуазна-нацыяналістычная ідэалогія, цалкам рэвалюцыйная. Такой яе і лічыць Жылуновіч.

Жылуновіч, як і яго калегі, для доказу свайго тэзіса не спыняецца і перад грубай фальсіфікацыяй фактаў. Намагаючы ўсе свае сілы, ён пнецца давесці, што нават у часы белапольскай акупацыі ўся беларуская літаратура была па сутнасці антыпольскай, ледзь не рэвалюцыйнай і пролетарскай. „Страшэнны ўціск акупацыйнае няволі,—піша ён—яскрава выглядае ў смутных напевах ад гэтага часу і Янкі Купалы, і Дзмітрака Бядулі і А. Гаруна і іншых". Белагвардзеец Гарун і ён—рэвалюцыянер.

Таму не з'яўляецца дзіўным дзікае сцвярджэнне Жылуновіча, што „гэткім чынам, ужо ў пачатку 1922 г. беларуская літаратура становіцца ў цалку сугучнай эпосе, літаратурай совецкай". Для Жылуновіча, як і для другіх нацдэмаў, не існавала і не існуе беларуская буржуазная літаратура (бо адкуль-жа ёй узяцца раз няма беларускай буржуазіі?), а ўся беларуская літаратура—цалкам совецкая, рэвалюцыйная. З зменавехаўскага вершу Купалы „Пазвалі вас" для Жылуновіча „пыхае полымем уся многахварбоўнасць перамог Кастрычніка".

Творы Купалы напісаныя ім у аднаўленчы перыяд, асабліва творы нцыяналістычнага зместу, творы ў якіх адлюстроўваецца зменавехаўская ідэалогія, нацыяналістычная крытыка абвясціла цалкам і безагаворачна совецкімі, рэвалюцыйнымі і нават пролетарскімі. Асабліва шырока прапагандуе нацдэмаўская крытыка твор „Безназоўнае" у якім Купала адлюстроўвае надзеі зменавехаўцаў і прабуе прымірыць нацыянал адраджэністскую ідэалогію з пролетарскай дыктатурай, прыстасаваць совецкую форму для адраджэння „незалежнай" буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі.

У „Безназоўным" — піша правакатар і шпіон Ігнатоўскі „наш народны паэт Янка Купала... адбіў сучасны настрой рабоча-сялянскіх гушчаў Беларусі". Піотуховіч спяшаецца яшчэ больш „паглыбіць" і „пашырыць" думкі Ігнатоўскага. У „Безназоўным" ён бачыць, што „тут ужо выразна выступаюць матывы пролетарскай паэзіі, Янка Купала выяўляецца ў новай постаці песняра Кастрычніцкай рэвалюцыі. Мастацкі пэндзаль яго з захапленнем рысуе шырокі размах пролетарскай рэвалюцыі..."

Так сваімі панегірыкамі нацыяналістычным элементам купалавай творчасці нацдэмаўская крытыка імкнулася і далейшую яго творчасць накіраваць на апяванне нацыяналістычнай ідэі, на апраўданне і ўсхваленне нацыяналістычнай контррэвалюцыі. „Нацдэмы штучна адрывалі літаратуру, навуку, друк, мастацтва ад актуальных праблем соцыялістычнага будаўніцтва, імкнучыся накіраваць іх на шлях ідэалізацыі беларускага мінулага, на шлях падрыхтоўкі і апраўданыя інтэрвенцыі", (з пастановы аб'яднанага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б „Вынікі і задачы правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі ў БССР").

Усхваляючы нацыяналістычныя элементы ў творчасці Купалы, нацыяналістычная крытыка старанна замоўчвала сапраўды рэвалюцыйныя, прагрэсіўна-дэмакратычныя элементы ў яго дарэвалюцыйнай

творчасці, ў паслякастрычніцкай творчасці, тыя вершы, у якіх праяўлялася тэндэнцыя паэта правільна зразумець совецкую рэчаіснасць, апець яе, наблізіцца да пазіцыі сапраўднай совецкай літаратуры.

Творчасць Купалы за аднаўленчы перыяд не вычэрпваецца толькі творамі варожымі і шкоднымі, творамі нацыяналістычнымі.

Тэндэнцыя набліжэння Купалы да пазіцый совецкай літаратуры нарадзілася не ў апошнія часы аднаўленчага перыяда, а яшчэ ў яго пачатку. Першым праяўленнем яе трэба лічыць пераклад з французскай мовы на беларускую „Міжнароднага гімна“—Інтэрнацыянала (1921 г.). Нягледзячы на рад істотных недахопаў пераклада, ён усё-ж найбольш удалы і пісьменны за ўсе іншыя да гэтага часу пераклады Інтэрнацыянала на беларускую мову. Мы не можам не аднесці к заслугам паэта факт пераклада Інтэрнацыянала на беларускую мову. У 1921 г. з'яўляецца верш паэта „На смерць Сцяпана Булата“—адзін з лепшых яго совецкіх вершаў аднаўленчага перыяда. Нягледзячы на нацыянальную абмежаванасць уяўлення паэта аб мэтах барацьбы пролетарыята, з верша дыхае заклік прадаўжаць барацьбу пад сцягам комуны. У 1923 г. паэт піша прывітанне IV Усебеларускаму З'езду Советаў „Ад Менскіх дзяцей“, у якім паэт хаця асабліва падкрэслівае і вылучае ў дэлегатаў і ў дзяцей тое, што

„Беларусы вы без плямаў,
Беларусы мы таксама“·

але тут ужо „беларусы без плямаў“ гэта не наогул беларусы, а „работнікі, сяляне“—„з беларускіх ніў і хат“. Яны кіруюць „нашым краем“. Паэт ад імя дзяцей заклікае іх забяспечыць вольнасць Беларусі

„Каб нашай Беларусі
Жылося не ў прымусе“,

заклікае пракладаць шлях да шчасця, „аж да сонца“.

Аднак самым выдатным і самым моцным творам Купалы не толькі 1923 г., але ўсяго аднаўленчага перыяду, з'яўляецца верш „Арлянятам“. Гэты верш напісаны паэтам як прывітанне маладой совецкай руні, якая ў выніку рэалізацыі заваёў Кастрычніцкай рэволюцыі, высыпала на паверхню і выявілася ў разгортванні масавага літаратурнага руху, у масавым паходзе рабоча сялянскай моладзі ў навучальныя ўстановы, як прывітанне маладым парасткам совецкай культуры. Гэтая маладая рунь, ачышчаная ад кулацка-нацыяналістычнага смецця з цягам часу паспела і дала соцыялістычнаму будаўніцтву буйныя каласы паэтаў і пісьменнікаў, спецыялістаў і вучоных.

З палкім тэмпераментам, з вялікім нацыянальным уздымам паэт заклікае совецкую моладзь:

„Гэй, узвейце сваім крыллем,
Арляняты, буйна, бурна,
На мінулых дзён магіле,
Над санлівасцю хаўтурнай!..

У маланках пяруновых,
З гулкім гоманам грымотаў
Для вякоў дыктуйце новых
Нечувалыя ясноты“.

Паэт, не ў прыклад быту сваіх пазнейшых вершаў бачыць непасрэдную і простую сувязь гэтага ўзлёту маладых совецкіх арлянят

з той рэволюцыйнай барацьбой рабочых і сялян, якая адбывалася на палях Беларусі і дзякуючы якой стаў магчымы іх бурны ўзлёт.

„Вам сярпы і косы ў рукі
Ды мячы, каваны з сталі,
Далі буры завірухі,
Што тут вылі, бушавалі“.

Паэт таксама праўдзіва гаворыць, што дзякуючы барацьбе і перамогам совецкай улады „выбіла часіна“ беларускаму народу выйсці на вялікую дарогу, што „без акоў на прыволлі ўжо віхрыцца наша доля“. Ён заклікае моладзь расправіць свае крыллі і

„Цень мінуўшчыны праклятай
Дзе бізун гуляў з нагайкай,
Змяціцё вы, арляняты,
Сваёй новай сілай, байкай“.

Паэт заклікае шанаваць здабытую свабоду і скарыстаць яе для будаўніцтва новага шчаслівага і вольнага жыцця ў свабоднай Беларусі. Рэволюцыйны энтузіязм, якім ахоплена рабоча-сялянская моладзь, знаходзіць у гэтым вершы яркае сваё адлюстраванне і ў закліку да моладзі будзіць і клікае на волю „людзей яшчэ скаваных“ уціскам белапольскіх акупантаў, не праспаць у пасцелі „волі агняцветнай“, калі зноў надыйдзе цяжкая прыгода ўстаць грознай хваляй у абарону здабытай свабоды. Талант Купалы ў гэтым вершы зноў блішчыць ва ўсёй сваёй красе.

Верш „Арляняты“ цалкам сугучны настроям шырокіх працоўных мас Беларусі, ён у сапраўды мастацкіх вобразах адлюстроўвае іх пачуцці і імкненні.

У 1924 г. паэт піша верш „Дзве сястры“. Гэты верш цалкам уваходзіць у жалезны фонд совецкай літаратуры як і папярэдні („Арлянятам“). Паэт у праўдіва рэалістычных вобразах малюе мінулае жыццё работніцы і сялянкі, якія жылі „як забытыя ў лесе каліны“ паказвае, што для іх не было „жыватворчых крыніц“, што „яны сохлі і вялі націнай“. Адна з іх—сялянка ад ранняй вясны і да позняй восені „у чыстым полі адна“ губляла свае сілы, а зімой,

„У хаціне курнай
Кужэль прала, снавала і ткала“

Другая—фабрычная работніца:

„Сярод гора і мук
З працы гнулася ў крук“.

Ёй

„З году ў год
Выядаў як той крот
Дым фабрычны дзявочыя вочы,
А дзявоччу красу,
Нібы тую расу,
Піў цагляны падвал цёмнай ночы“.

Совецкі лад адкрыў шырокія перспектывы перад жанчынай забяспечыў ёй сапраўднае вызваленне. Для работніцы і сялянкі

„Ой, настаў ужо час
Пашукаць іншых крас,
Як дагэтуль вы мелі, сястрыцы!
Голас ваш малады,
Адчураўшысь нуды,
Забурліць хай бунтарскай крыніцай!“

Паэт заклікае работніцу і сялянку кінуць марнець, а ладзіць новую гаспадарку, кінуць сумныя песні, а кідаць у свет новыя казкі і „дум палаючых цвет".

„Годзе кіснуць, марнець.
Песні смутныя пець,—
Ладзіць новую час гаспадарку!
Казкі новыя ў свет,
Дум палаючых цвет
Кінь, сялянка, з сястрой пролетаркай!"

Паэт бачыць, што няма ўжо памешчыкаў, няма ўжо прыгнятальнікаў сялянства. Там, дзе стаяў панскі двор—там цяпер селянін пануе на совецкай зямлі.

„Дзе стаяў на полі
З бічом прыганяты
І ганяў прынукай
Змучаных аратых,—
Там цяпер без страху
З выглядам малойца
Новы вольны сейбіт
Братаецца з сонцам". (1926 г.)

Ад канстатацыі гэтых фактаў паэт пераходзіць і да апявання рэволюцыі, рэволюцыйнай барацьбы і перамог рабочых і сялян. Вершы „З угодкавых настрояў" (1927 г.) і „Летапісанне" (1928 г.) прысвечаны апяванню рэволюцыі і рэволюцыйных перамог.

У вершы „Летапісанне" паэт паказвае, што толькі Кастрычніцкая рэволюцыя, толькі совецкая ўлада па сапраўднаму вызвалілі нацыянальна-прыгнечаныя народы былой царскай Расіі, што толькі совецкі лад узняў Беларусь з руінаў, вывеў яе на шырокі шлях поўнага росквіту гаспадаркі і культуры працоўных мас, забяспечыў поўнае выяўленне ўсіх творчых патэнцый працоўных мас Беларусі ў адпаведных нацыянальных формах. А гэта знімае з „душы" паэта жах за будучыню, натхняе яго на апяванне рэволюцыі і совецкага ладу.

„Беларусь, маё сэрца,
Залатая краіна,
Як нявольнік з няволі
Паўстаеш ты з руінаў".

Совецкі лад раскрывае перад поэтам радасныя перспектывы і ўпэўненасць за будучыню Беларусі—совецкай залатой краіны.

„Ты прывабіш сабою,
Сваім ладам зарнічным.
Беларусь з-пад прыгону,
З-за слупоў пагранічных".

Паэт верыць, што будучыня Беларусі будзе яшчэ больш прыгажэйшай, што ніхто ўжо не зможа налажыць путы на беларускі народ. Беларускія палеткі зарунеюць

„Руняю буйнай, сачыстай,
Людзі працу ўшануюць
Без прыгона урачыста".

Разам з гэтым назаўсёды знікае агідная спадчына эксплаататарскага ладу—нацыянальная варожасць, „нацыянальная сварка" і паміж людзямі ўстанаўліваюцца сапраўды брацкія ўзаемаадносіны.

„Нацыянальная сварка
Ужо ў нас месца не знойдзе,—
Чалавек чалавеку
Будзе братам папраўдзе".

Знікне адвечная супярэчнасць паміж горадам і вёскай, а яе месца займе адназгоднасць.

„А гудкі і жалейкі
Тваіх местаў і сёлаў
Запяюць адназгодна,
Пераможна, вясёла“

У такім выглядзе малюецца паэту будучыня Беларусі, „залатой краіны“, мілай і дарагой сэрцу паэта. Пачуццё нацыянальнасці характэрная для ўсяго шляху паэта, яно не пакідае яго і ў гэты перыяд, але яно паступова зліваецца ў паэта з пачуццём радасці і гордасці за рэспубліку советаў, з пачуццём совецкай рэспублікі, совецкай бацькаўшчыны. Нацыянальнасць і бацькаўшчына набываюць ужо іншы змест, іншы сэнс у разуменнях паэта. Ён паступова вызваляецца ад нацыяналістычнага разумення бацькаўшчыны і засвайвае нашае совецкае яе разуменне.

„На магілах ваякаў,
Што ляглі за советы,
Ты, Рэспубліка, устала
І ўсяму свеціш свету.“

Ідучы па гэтаму шляху, паэт у наступных сваіх вершах спрабуе паглыбіць свае ўспрыняцце совецкай рэчаіснасці, апяваць дыктатуру працы, апяваць социялістычную рэканструкцыю вёскі.

Совецкія вершы Купалы, напісаныя ім у аднаўленчы перыяд і ў часы пераходу да рэканструкцыйнага перыяду: „На смерць Сцяпана Булата“, „Ад Менскіх дзяцей“. „Арлянятам“, „Дзве сястры“, „Дзе стаяў панскі двор“, „З угодкавых настрояў“, „Летапісанне“ і рад іншых відавочна выяўляюць той жыватворчы ўплыў на паэта практыкі социялістычнага будаўніцтва, уплыў нашай партыі на лепшую частку беларускай інтэлігенцыі. Гэтыя вершы ярка выяўляюць тэндэнцыю да павароту паэта на пазіцыі падтрымкі плацформы совецкай улады, які адбыўся ў перыяд социялістычнай рэканструкцыі. Тэндэнцыя гэтая ідзе як мы бачылі праз канстатацыю перамог рабочых і сялян Беларусі, праз асваенне совецкай тэматыкі, праз паступовае вызваленне ад нацыяналістычнага рузумення бацькаўшчыны і засваенне совецкага разумення. Гэтая тэндэнцыя ідзе праз апяванне рэволюцыі і яе перамог, праз спробы заглянуць у будучыню Беларусі, якую ён бачыць ужо не ў абстракцыі, а ў канкрэтных вобразах,—ён бачыць Беларусь социялістычную, без уціску, без нацыянальнай сваркі, без супярэчнасцей паміж горадам і вёскай і г. д.

Праўда, трэба адзначыць, што ва ўсіх пералічаных вышэй творах паэт яшчэ выяўляе неглыбокае сваё разуменне сутнасці совецкага ладу, социялістычнага зместу нашага будаўніцтва; ён яшчэ не прасякнут думкамі і пачуццямі будаўнікоў социялізма, яшчэ не перамог раду сваіх старых, што ішлі ад нацыяналізма, ідэй і разуменняў. У многіх гэтых вершах талант паэта праяўляе сябе няпоўнасцю, абмежавана, а часамі і бледна. Нацыяналістычны цяжар, ад якога яшчэ паэт не вызваліўся—як гэта мы бачылі на радзе вершаў 1921—1926 г.,—яшчэ душыць талант паэта, ідэі нацыяналізма скоўваюць яго, не даюць яму магчымасці разгарнуцца ва ўсёй сваёй веліччы, сіле і красе.

## VI

У эпоху социялістычнай рэканструкцыі творчасць Купалы можна ўмоўна падзяліць на два перыяды. Першы—афармленне і завяршэнне той тэндэнцыі, якая выяўлялася ў творах аднаўленчага перыяду і пры-

вяла да рашучага паварота на пазіцыю падтрымання платформы совецкай улады і другі—гэта творчасць на аснове платформы совецкай улады.

Перыяд соцыялістычнай рэканструкцыі азнаменаваўся нябачанымі ў гісторыі перамогамі соцыялізма на ўсіх участках. Разгорнутае ажыццяўленне нашай партыяй палітыкі індустрыялізацыі краіны забяспечыла „уздым цяжкай індустрыі, разгортванне вытворчасці сродкаў вытворчасці“, стварэнне ўласнай базы для завяршэння рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі. У сельскай гаспадарцы „адбыўся карэнны пералом, які выразіўся ў канчатковым павароце к соцыялізму бядняцка-серадняцкіх мас вёскі“. Ужо за часы першай пяцігодкі „пануючае становішча ў сельскай гаспадарцы занялі соцыялістычныя формы (калгасы і соўгасы). Совецкі саюз з краіны дробнага і драбнейшага земляробства ператварыўся ў краіну самага буйнага ў свеце земляробства на аснове калектывізацыі, разгортвання соўгасаў і шырокага прымянення машыннай тэхнікі. Гэта перамога соцыялізма, рашаючая самую важную і самую трудную задачу пролетарскай рэволюцыі, мае сусветна-гістарычнае значэнне“ (гл. рэзалюцыі XVII партканферэнцыі). На аснове суцэльнай калектывізацыі „ад палітыкі абмежавання эксплаататарскіх тэндэнцый кулацтва мы перайшлі да палітыкі ліквідацыі кулацтва, як класа“ (Сталін).

Перамогі соцыялізма за часы першай пяцігодкі канчаткова падарвалі карэнні капіталізма ў вёсцы, „прадрашылі поўную ліквідацыю капіталістычных элементаў і поўнае знішчэнне класаў“. Фундамант соцыялістычнай экономікі пабудаваны, пытанне „хто каго?“ канчаткова і беспаваротна вырашана супроць капіталізма на карысць соцыялізма і ў горадзе і ў вёсцы.

Усе гэтыя перамогі з'яўляюцца „рэзультатам вялізнага росту актыўнасці шырачэзных мас рабочага класа і працоўных сялян, рэзультатам аграмаднага ўздыму соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, ўрэшце рэзультатам ленінскай палітыкі нашай партыі, паслядоўна праводзіўшай разгорнутае па ўсяму фронту наступленне на капіталістычныя элементы“ (з рэзалюцыі XVII партканферэнцыі).

Гэтыя перамогі забяспечаны дзякуючы непрымірымай барацьбе нашай партыі з контррэволюцыйным трацкізмам і яго буржуазнымі паражэнцкімі „тэорыямі“, у барацьбе супроць правага апартунізма, „левых“ загібаў, нацыяналапартунізма і ўсіх і ўсякіх ухіленняў ад генеральнай лініі партыі.

Як пераход рэканструкцыйнага перыяду, так і ўсе перамогі рабочага класа і працоўных сялян адбываліся ва ўмовах жорсткай і абвостранай класавай барацьбы. Капіталістычныя элементы, якія раней спадзяваліся на перараджэнне совецкай улады на аснове НЭП'а, цяпер, разбітыя па ўсяму фронту, шалёна супраціўляюцца пераможнаму ходу соцыялістычнага будаўніцтва, у розных формах і рознымі метадамі вядуць барацьбу супроць рабочага класа і яго партыі, спадзяюцца на інтэрвенцыю, вядуць падрыўную работу ўнутры краіны.

У барацьбе супроць капіталістычных элементаў, супроць перадавога атрада буржуазнай контррэволюцыі—трацкізма, супроць правых апартуністаў—агентуры кулацтва, супроць нацыянал-апартуністаў і г. д. наша партыя, партыя Леніна-Сталіна забяспечыла пераможнае ўступленне краіны Советаў у перыяд соцыялізма, у разгорнутае соцыялістычнае будаўніцтва. Яна забяспечыла на аснове ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі магутны рост нацыянальных рэспуб-

лік, у прыватнасці і БССР. Беларусь—у мінулым калонія царскай імперыі, краіна эканамічна і культурна адсталая —ператвараецца ў індустрыяльна-калгасную, соцыялістычную рэспубліку, з буйным росквітам беларускай совецкай культуры на ўсіх участках. Вырасла і ўмацавалася ў барацьбе з нацыянал-дэмакратызмам пролетарская літаратура БССР, сярод сумленнай часткі літаратурнай беларускай інтэлігенцыі, як і сярод інтэлігенцыі другіх прафесій яўна вызначыліся адзнакі пералому. Пад кіраўніцтвам нашай партыі гэтая частка літаратурнай інтэлігенцыі пачала смялей і больш упэўнена асвайваць совецкую тэматыку, пазбаўляцца ад дробна-буржуазнага цяжару. Гэтаму яшчэ больш спрыяў разгром совецкай уладай контррэволюцыйных нацыяналістычных арганізацый, якія асабліва шкодную і атрутную работу праводзілі ў асяроддзі літаратурнай інтэлігенцыі.

У абстаноўцы рэканструкцыйнага перыяду ў творчасці раду старых былых нашаніўцаў (Бядуля, Купала, Колас) яўна вызначаюцца адзнакі пераломa, адзнакі адыходу ад сваіх старых палітычных і творчых пазіцый.

Янка Купала, як ужо гаварылася, замацоўвае выяўленую ў радзе яго твораў, напісаных у аднаўленчы перыяд, тэндэнцыю набліжэння да пазіцый совецкай літаратуры новымі творамі „Дыктатура працы", „Зыходзіш вёска з яснай явы", "А ў Вісле плавае тапелец" і радам іншых.

Паэт сваім вершам „Дыктатура працы" (1929 г.) спявае гімн працы, якая зруйнуе „культуру хамства і далара", ва ўсім свеце, якая

„Свет рабаўласнікаў і турмаў,
Свет богахвальства, спекуляцый."
„Насельнікаў зямлі вячыстай,
Што звыкліся ў крыві купацца",—

падпаліць і знішчыць „маланкай дызеляў віхурнай", „сярпом і молатам агністым". Паэт спявае гімн дыктатуры працы за тое, што яна рукой жалезнай, нетворчай напіша:

„Закон і права ў долі роўнай.
Для ўсіх народаў, для ўсіх нацый",
І збудуе:
Жыццё без цемры і цярпення,
А ў ясным сонцы, як ў байцы,
Для ўсіх вякоў і пакаленняў"

Вялікі паварот мільёнаў бядняцка-серадняцкіх мас вёскі на шлях калектыўнай гаспадаркі ўздзейнічае на паэта, знаходзячы ў яго творчасці свой водгук. Вершам „Зыходзіш вёска з яснай явы" (1929 г.) паэт вызначыў свае адносіны да соцыялістычнай рэканструкцыі вёскі да новых шляхоў працоўнага сялянства, прыгнёт і барацьбу якога паэт апяваў і аплакваў у лепшых сваіх дарэволюцыйных дэмократычных творах.

Калі ў ранейшай творчасці паэта вёска з яе дробнай уласнасцю, з яе лясунамі і русалкамі, з яе гаротнымі спевамі жалейкі і забабонамі, яе палі з межамі і сівымі курганамі апяваліся ў цёплых лірычных песнях, то ў новым вершу паэт інакш глядзіць на вёску, інакш ставіцца да цэлага раду з'яў.

У вершы „Зыходзіш, вёска, з яснай явы" паэт ужо інакш імкнецца глядзець на мінулае вёскі. Яно яму здаецца ўжо „маркотным, нежа-

даным" сном. У інакшых вобразах і з другім адцэннем фарбаў паэт гаворыць аб курганах, лясунах і русалках, аб звычаях вясковай прастаты і іншых атрыбутах яе адсталасці і дзікасці.

Народ, скінуўшы кайданы, імкнецца к новаму жыццю, к жыццю соцыялістычнаму, „Да новай долі, новай славы". Людзі ўжо выйдуць ў поле з іншымі думкамі і з іншымі прыладамі. Трактар, электрыка, аўто, жалезная прасніца, радыё,—вось што ідзе на змену сахі, лучыны і смаляка, на змену „трухлявых калёс", дзявочай прасніцы, вясковых забабон і дзікасці.

„А сейбіт твой, дасюль самотны,
Абцёршы сонцам воблік потны,
Пад крыж не пойдзе енчыць квола".

Не будзе больш эксплаататараў, „смактаць не будзе вызыск грудзі", не будзе жабрацтва.

„З жабрацкай торбай твой патомак
Не пойдзе па сібірным шляху
Шукаць прытулку, як бяздомак
Жудкі гісторыі абломак
Пад сказ дзён бурных згібне прахам"

Людзі будуць ладзіць новы лад, новы звычай, яны ўжо ідуць:

„Скінуўшы кайданы,
Да лепшай долі, лепшай славы".

Так паэт успрыняў паварот мільёнаў бядняцка-серадняцкіх мас на шлях калектыўнай гаспадаркі.

Рашучы і, трэба лічыць, канчатковы паварот Купалы на пазіцыю падтрымкі платформы совецкай улады, на пазіцыі совецкай літаратуры выявіўся ў пазнейшых яго творах, такіх творах як „А ў Вісле плавае тапелец" і асабліва ў паэме „Над ракою Арэсай", і замацаваны радам такіх твораў, як „Барысаў", „Трэба нам песен", „На смерць тав. Кірава" і іншыя.

„Мы ведаем Янку Купалу і Коласа, як людзей, якія мелі ў мінулым сур'ёзныя нацдэмаўскія памылкі. З пункту гледжання мастацтва ў Беларусі—гэта буйныя імёны, якія палітычна хісталіся ў мінулым. Цяпер становішча змянілася. Пад уплывам перамог соцыялістычнага будаўніцтва, дасягнутых рабочым класам і працоўнымі Совецкай Беларусі, пры вялізнай дапамозе Совецкага Саюза, хістаўшаяся частка пісьменнікаў Беларусі, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, шчыра і моцна ўключылася ў агульную справу соцыялістычнага будаўніцтва" (Н. Ф. Гікала).

Як вядома, гэты паварот Купалы, уключэнне, яго „у агульную справу соцыялістычнага будаўніцтва не па духу прышліся нацыянал-дэмакратычнаму атрэп'ю тыпу Сідарэнкі і інш. У сваіх рэваншысцкіх нацыянал-дэмакратычных вылазках у 1932 г. гэтае атрэп'е яшчэ раз спрабавала збіць Купалу з тых правільных совецкіх пазіцый, на якія ён станавіўся і зараз замацаваўся.

Аднак усе гэтыя намаганні нацыянал-дэмакратычных элементаў і іх падпявал засталіся без поспеху. Яны былі нашчэнт разбіты нашай партыяй а літаратурны фронт быў ачышчаны ад нацыяналістычных элементаў. Купала пасля пастановы ЦК ВКП(б) аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый больш цвёрда і ўпэўнена замацаваўся на пазіцыях совецкага пісьменніка. „Для ўсіх вас цяпер ясна, што без карэннай перабудовы нашых літаратурных арганізацый, на аснове рашэнняў ЦК ВКП(б), без ачысткі літаратурнага фронта ад нацыяналі-

стычных элементаў, якія прыкрывалі сваё ідэйнае і творчае ўбоства, сваю контррэволюцыйную работу фальшыва-нацыянальным сцягам, — літаратура совецкай Беларусі не мела б тых поспехаў, з якімі яна прышла на ўсесаюзны з'езд совецкіх пісьменнікаў" (Гікала). На ўсесаюзны з'езд совецкая літаратура Беларусі прыйшла з новымі творамі Купалы.

Паэма „Над ракою Арэсай" у поўным сэнсе гэтага слова, з'яўляецца этапным і ў той-жа час лепшым (побач з вершам „Арлянятам") творам за ўвесь паслякастрычніцкі час творчасці Купалы. У гэтай паэме, як і ў пазнейшых вершах, відавочна сапраўдная і глыбокая ідэйна-творчая перабудова паэта, перабудова не толькі тэматычная (што нельга недаацэльваць) але і па сутнасці, па лініі светапогляда, па лініі творчага метада, па лініі вобразнай сістэмы, па лініі лексікі, эмоцый і г. д.

Аб недахопах паэмы „Над ракою Арэсай" у нашай крытычнай літаратуры ўжо досыць пісалася. Пісалася аб тым, што Купале яшчэ не стае ўсебаковага і глыбокага падыходу да з'яў соцыялістычнай рэчаіснасці, што недастаткова адлюстраваны размах соцыялістычнага будаўніцтва, гаварылася пра адсутнасць паказу арганічнай сувязі ўчастка яго паказу з усёй сістэмай соцыялістычнага будаўніцтва і на рад іншых недахопаў і хібаў паэмы. *)

І ўсё-ж не гледзячы на гэтыя хібы і недахопы паэма з'яўляецца буйнейшым здабыткам нашай совецкай літаратуры.

Асабліва важным у паэме з'яўляецца тое, што паэт рашуча парывае са старымі ідэямі сваёй ранейшай творчасці, з пэўнай сістэмай вобразаў, уласцівых для яго ранейшай творчасці. Абстрактная ідэя бацькаўшчыны ўступіла сваё месца рэальным і канкрэтным ідэям соцыялістычнай бацькаўшчыны, гэтыя ідэі ў сваю чаргу ўцелясніліся ў канкрэтныя вобразы новых людзей, будаўнікоў соцыялізма, у вобразы іх спраў і перспектыў. Канкрэтнасць вобразаў абумовіла і канкрэтнасць палітычнай мовы.

Паэт не толькі парывае са старымі ідэямі і многімі вобразамі сваёй ранейшай творчасці, але і развенчвае нацыяналістычную рамантыку Палесся, зводзіць яе з п'едэсталу велічча і славы. У рэалістычных вобразах паказвае паэт жыццёвую праўду мінулага. Не было ў сапраўднасці такога Палесся, якім яно выглядае з твораў нацыяналістычных пісьменнікаў. Было Палессе дзікасці і багны, людскіх пакут і енкаў, цемры і забабонаў, кулацкай і сярэднявяковай эксплаатацыі. Такім яго і паказвае Купала ў сваёй паэме. Трапнымі і выразнымі вобразамі паэт стварае жудасны малюнак мінулага, жабрацкага жыцця палешукоў сярод балот—багнішчаў, малюнак знешніх абставін гэтага жыцця.

„Ідзе чалавек там—
Засмокча смугою,
Са стогнам і крэктам
Загіне з душою·
„Жывуць людзі ў хатах,
Плятуць сабе лапці
Каб з торбай у латах
Пайтці жабраваці".

*) Гл. Д. Ю. Конік—„Беларуская совецкая літаратура на ўздыме", Менск, 1934 г.

Не гэтае мінулае вабіць да сябе паэта, не яму ён пяе сваю песню, а яго вабіць новае социялістычнае Палессе, яго вабіць героіка перамогі, новыя людзі—героі перамог.

„Шмат зложылі казак
І легенд, і песен
Людзі пра балота,
Пра сваё Палессе
А не чуў я песні
Пра жыццё комуны,
Слаўных комунараў
З сваёй справы думных“.

Слаўныя комунары і комунаркі, што аддана

„У глухое далі
Для ўсяго Саюзу
Славы прыбаўлялі“,

іх гераічная барацьба за соцыялістычную рэканструкцыю Палесся, за „скарбы балотнай пустыні“, вынікі гэтай барацьбы,—вось аб'ект песні нашага паэта.

Героі перамог у барацьбе „за скарбы балотных пустынь“—гэта дэмабілізаваныя чырвонаармейцы беларусы і ўкраінцы. Яны са слаўных нашых дывізій: Самарскай, Фрунзеўскай, Чангарскай. Гэта „партыйныя і непартыйныя большэвікі“‘ „ахвочыя і маладыя“, верныя сыны соцыялістычнай бацькаўшчыны.

„Не страшны смелым ім былі
Спякота халады,
Асенняя слата, імжа,
Снягі, марозы, льды“.

Смеласць і рашучасць, гераізм на фронце працы, уменне даводзіць да канца распачатую справу паэт падкрэслівае ў сваіх героях, знаходзіць моцныя і цёплыя словы для яе адлюстравання.

„Балота, забалаць балот,
Як там не называй,
Але ступіў тут большэвік
Ён зменіць гэты край“.

Вобразам большэвікоў паэт супроцьстаўляе вобразы дэзертыраў з працоўнага фронта, вобразы „пяцерох чангарцаў“, якія не захацелі капаць зыбкі торф, асушваць багны палескіх балот. Іншымі словамі паэт іх характарызуе чымся адданых і смелых комунараў барацьбітоў і пераможцаў, ганебнымі словамі, эпітэтамі і параўнаннямі.

„З васьмі чангарцаў пяцярох
Няўдалых выйшла змагароў:
Яшчэ нявольніцкіх старых
Не пазбыліся ланцугоў.
Комуна ім была не ўцям
Трымаліся, як дзікуны;
Палатку й то асобна там
Сабе паставілі яны“.

Гэтыя людзі, якія не пазбавіліся яшчэ старых, нявольніцкіх поглядаў на працу, якія ставілі свае эгаістычныя інтарэсы вышэй інтарэсаў соцыялістычнага будаўніцтва—выклікаюць да сябе ў сапраўдных барацьбітоў, у тых, хто

„Рыюць людзі топкі торф
У вадзе па пахі,
А у жылах бурліць кроў.
Багна ім не ў страх!“

пагарду, як да здраднікаў, як да трусоў. Паэт яўна становіцца на бок комунараў, якія ачышчаюцца ад гэтага шлаку, ад наноснага і шкоднага пылу.

„Няхай пустуе лепей клець,
Чымсь заводзіць у ёй пыл".

Такімі словамі сялянскай мудрасці паэт адлюстроўвае настроі комунараў у адносіне да дэзертыраў.

Мужнасць і геразм людзей, якія раскавалі балоты з пут, апяваюцца паэтам у арганічнай сувязі з апяваннем пафаса свабоднай калектыўнай працы. Свабодная і „без трудоў прыгонных" калектыўная праца свабодных людзей захапляе і натхняе паэта нотамі высокай патэтыкі.

„Раскаваў балота з пут
З дрыгвы непраходнай
Гераічны вольны люд
Працаю свабоднай".
„Кіпіць работа, як нідзе,
Гарыць ажно яна ў руках,
Што знача праца ў грамадзе
Які палёт, які размах!"

Гэты палёт і размах калектыўнай працы, вынікі яе,—паэт са шчырасцю і з задушэўным лірызмам апявае і славіць у сваёй паэме.

Мужнасцю і бадзёрасцю вее не толькі ад апісання палётаў і размаху калектыўнай працы, але і ад сцэны пахавання комунара Барысёнка. Апісанне нечаканай смерці бальшэвіка на баявым пасту і яго пахавання падана паэтам у надзвычай цёплых жыццясцвярджаючых танах. Шчырай любоўю да героя социялістычнай рэканструкцыі Палесся дыхае з гэтых радкоў паэмы.

У калектыўнай працы і геразме совецкіх людзей паэт убачыў многа новага, што дагэтуль не заўважаў. Але-ж ён не ўбачыў прыганятых, не ўбачыў начальства, што прынукае да працы, не ўбачыў ён там людзей смутных

„І не чуў у комуне
Скрытых уздыханняў,
Лаянак і сварак
Горкіх нараканняў",

не ўбачыў і не чуў там таго, што, плявузгаючы на социялістычнае будаўніцтва, імкнуліся „бачыць" і „чуць" кулацкія, нацыянал-дэмакратычныя прахвосты. Затое паэт убачыў

„Наогул там ценей меней,
Болей кветак, сонца".

Ён убачыў радасць і шчаслівыя перспектывы, якіх пазбаўлены былі аб'екты яго дарэволюцыйных песен.

„Колькі радасці той
Трэба толькі ведаць!"

Гэтай сваёй паэмай Янка Купала моцна звязвае сябе з калгаснай зямлёй, з героямі социялістычнага будаўніцтва, не толькі розумам, але і эмацыянальна, арганічна; эмоцыі паэта арганічна зліваюцца з імкненнямі і пачуццямі будаўнікоў социялізма. І гэтае зліянне знаходзіць свае выяўленне не толькі ва ўсведамленні велічы і значэння социялістычнага будаўніцтва, але і ў любоўнай абмалёўцы вобраза Модзіна і вобразаў новых людзей, у цёплым лірычным апісанні сцэны

смерці і пахавання комунара Барысёнка, у ганебнай характарыстыцы дэзертыраў і г. д.

Лексіка, сістэма тропаў ярка падкрэсліваюць новы склад і напрамак думак і эмоцый паэта.

„А па рэчцы па Арэсе
Бегае „маторка“:
Стары човен, як карыта,
Пазірае горка
Дажывае свайго веку
На яве ўжо новай,
Бо ўжо човен у Палессе
Урэзаўся сталёвы.
Новы човен сілы повен,
Гордасцю лялее...
Паланеецца Арэса
Чырвонай ліленй“.

Такія радкі, такая лірычная цяплыня і ўзвышаная гордасць у паказе новага, трапныя параўнанні і эпітэты, якія падкрэсліваюць беднасць і асуджанасць старога, веліч і мужнасць новага—з'яўляюцца не выключэннем, а характэрнай рысай паэмы. Няма ў паэме жалю паэта да старога, старое, асуджанае на пагібель, не выклікае ў паэта больш засмучання і элегічнай мінорнасці тону.

У паэме „Над ракою Арэсай“ талент паэта зноў выявіўся ва ўсёй сваёй велічы і мужнасці, зрабіў новы і значны крок у сваім развіцці. Адной з самых прыметных рыс паэмы з'яўляецца адсутнасць рытарычнай балбатні аб соцыялістычным будаўніцтве, уласцівай не адзінкавым з'явам вершаванай публіцыстыкі. Праўду соцыялістычнай рэчаіснасці паэт здолеў паказаць у высока мастацкіх вобразах. Здолеў знайсці новыя мастацкія сродкі для адлюстравання палёту і размаху, радасці і гераізма калектыўнай працы, некаторых новых якасцей совецкіх людзей.

Рэалізм, праўдзівасць, свежасць і жывасць паказу практыкі соцыялістычнага будаўніцтва, канкрэтнага яго ўчастку,—вось што асабліва выгадна адрознівае паэму Купалы ад некаторых „актуальных“ вершаў і паэм. Ідэйная насычанасць і арыгінальнасць вобразаў—характэрны для паэмы. Усяго гэтага паэт дасягае таленавітым спалучэннем розных (яго творчасці ўласцівых) паэтычных ведаў і прыёмаў. Яго паэму нельга аднесці цалкам ні да аднаго з паэтычных відаў, калі кіравацца канонамі старой і мэтафізічнай паэтыкі.

Гераічная патэтыка, эпічны сказ, бадзёрая песня, лірыка і мяккая іронія ў паэме змяняюць адна другую, перакрыжоўваюцца паміж сабою, дапаўняюць адно другое. Эпіка і лірыка ў паэме Купалы не супроцьстаўлены адна другой, а арганічна прасякаюць адна другую, адна пераходзіць у другую. Яго эпіка лірычная, а лірыка эпічная. Размерная і рытмічная featuresнастайнасць, дасканаласць інструментарыя верша ўсё гэта як нельга лепш выяўляе і адцяняе featuresнастайнасць і багацце практыкі соцыялістычнага будаўніцтва, шматкаляровасць шчаслівага і раднага жыцця яго герояў. Жывасць, прастата і ў той-жа час маляўнічасць мовы, уменне арганічна спалучаць сваю высакакультурную літаратурную мову з жывой мовай сваіх герояў яшчэ больш прыдаюць багацця і бляску паэтычнай форме паэмы.

1933 год у творчасці Купалы адзначыўся творам „Над ракою Арэсай“, якая сведчыць аб сапраўднай ідэйна-творчай яго перабудове. Замацаванне гэтай перабудовы адбываецца і ў вершах наступных 1934-35 г. Замацаванне Купалы на пазіцыях совецкай літаратуры

адбываецца разам з падвышэннем якасці яго творчасці, з пашырэннем яе тэматычнага дыапазона, з паглыбленнем і бытнай насычанасцю адлюстравання рэчаіснасці социялістычнай бацькаўшчыны.

Социялістычная бацькаўшчына, перамогі яе народа, гераізм бесстрашных і слаўных яе сыноў і дачок—вось аб'ект яго новых песен. Поўным і магутным голасам, як і належыць паэту социялістычнага народа, гучаць яго творы аб справах і людзях нашай радзімы. „Трэба нам песен" гаворыць паэт у сваім звароце да першага з'езда союза совецкіх пісьменнікаў. Але трэба нам песен не на стары лад і напеў, што некалі „спявала нам царская доля", тады, калі працоўныя масы знаходзіліся пад уціскам і прыгнётам царызма, памешчыкаў, капіталістаў, чыноўнікаў, папоў, кулакоў, калі па іх спінах свісталі жандармскія нагайкі. Не песен смутку і жалю, плачу і скаргі.

„А песен ясных, як сонца, як воля
Усёй неабсяжнай краіны Советаў,
Песні што птушкай ляцелі-б над полем
І шчасце тварылі ад летаў да летаў.
„Трэба нам песен, як гром пяруновы,
Бурных, як тыя паводкі ў прадвесні,
Што, скінуўшы зімняга лёду аковы,
Бягуць пераможна. Такой трэба песні,
Каб рэхі нясліся па свету-абшарах,
І слава грымела прастораў бязмежных
І распаляла паўстанняў пажары
У нашых скаваных братоў зарубежных".
...„Скласці эпапею павінны такую,
Якую чэлюскінцы далі для свету
І одамі ўславіць нязўнасць жывую
Бяссмертных герояў Саюзу Советаў".

Нам трэба песен, якія-б па якасці сваёй адпавядалі велічы социялістычных гігантаў, якія-б былі вартыя тым тонам

„Што песням дае кампазітар,
Сталін магутны і наша партыя".

Такіх

„Трэба нам песен, каб сэрцы і думы
Магнітагорскай пылалі-б веліччу
І Днепрабудаўскім лашчылі шумам,
Каналам Беламорскім плылі ў бесканечча".

Вось такі погляд паэта на песні социялістычнай радзімы, такія яго патрабаванні. І гэтыя патрабаванні—гэта голас усёй краіны, голас народа, які будуе шчаслівае і радаснае социялістычнае жыццё.

Вялікі верш „Барысаў" (1934 г.) гаворыць аб новым кроку паэта ў справе асваення і адлюстравання социялістычнага будаўніцтва. Новым для гэтага верша ў першую чаргу з'яўляецца пашырэнне тэматычнага кола яго паэзіі, асваенне новай для яго творчасці гарадской рэчаіснасці, індустрыяльнай тэматыкі. Ранейшае ўяўленне паэта аб бацькаўшчыне, як суцэльна-вясковай сялянскай--рушыцца, адыходзіць у мінулае, уступае месца правільнаму совецкаму яе разуменню.

Калі ў вершы „Летапіснае" (1928 г.) паэт славіў бацькаўшчыну рэспубліку Советаў, якая ўстае з руінаў, усё яшчэ ў недастаткова канкрэтных вобразах, то ўжо ў яго творах апошніх год социялістычная бацькаўшчына набывае зусім канкрэтны характар. Бацькаўшчына, уцелясненая ў канкрэтныя вобразы калгасаў, комун, соўгасаў, фабрык і заводаў, вобразы ўдарнікаў „народу рабочага", комунараў, чырвонаармейцаў, герояў Саюза і г. д.

„Рукой большэвіцкай
Паўстае гігантам".

Фабрык і заводаў, калгасаў і соўгасаў—уся соцыялістычная Беларусь.

„Паўстае з руінаў
Кветкаю ружовай,
Фабрыкі, заводы,
Заводзіць на нова.
Коміны пад неба
Задымелі дымам,
Гудкі загудзелі
Над усёй радзімай".

Калгасны лад вёскі, індустрыяльныя гіганты напаўняюць паэта гордасцю за сваю бацькаўшчыну—за яе рабочы народ, ударнікаў, адданых сыноў радзімы.

Паэт бачыць у „рабочым народзе" краіны Советаў новыя якасці, не ўласцівыя рабочаму народу капіталістычных краін.

„Народ рабочы
Гэткі маладзецкі!
Такі знойдзеш толькі
У Саюзе совецкім".

Калі ў паэме „Над ракою Арэсай" паэт адлюстраваў характэрную рысу новых совецкіх людзей: бесстрашнасць, гераізм і напорлівасць, то ў новым творы „Барысаў" паэт бачыць і адлюстроўвае і іншыя ўласцівыя толькі совецкім людзям якасці. Адданасць краіне Советаў, гордасць сваёй сілай і ўладай, упэўненасць у будучыне,—вось новыя рысы ў новых людзях, якія ўбачыў і адлюстраваў у сваім творы паэт, рысы, якія неўласцівы людзям гніючага капіталізма.

„Горды сваёй сілай
Уладай сваёй горды,
Пры станку стаіць ён
Непахісна, цвёрда.

Гэтая гордасць і большэвіцкая цвёрдасць караняцца ў тым, што кожны чэсны і адданы сын совецкай краіны

„Сёння багацце
Для краіны множыць".

Будуе радаснае і шчаслівае жыццё яе людзям, ліквідуе рэшткі спадчыны праклятага мінулага, вырашае задачы сусветна гістарычнага значэння.

Ненавісцю дыхаюць радкі верша, адрасованыя нямецкім акупантам „блізкім гітляравым продкам" і „найяснейшым панам" і генералам панскай Польшчы. Ненавісцю і грозным папярэджаннем „найвялікшым панам", катам і пагромшчыкам, „цывілізаваным" гунам і інквізітарам гучаць радкі

„Найяснейшы пане.
Ужо твой бот жандармскі
Болей тут не стане.
Ужо табе не бачыць
Вісельняў, пагромаў,
Што тварыў ты. пане,
Ад польскай кароны.
Моцная ўжо зброя
У вольных пролетараў,
І на тваю кару
Устануць грознай карай".

Пры разглядзе паэмы „Над ракою Арэсай“, нам даводзілася ўжо заўважаць, што асваенне паэтам совецкай соцыялістычнай тэматыкі, апяванне новых людзей і іх перамог ідзе разам з развенчваннем нацыяналістычнай рамантызацыі палескага пейзажа, і нацыяналістычнага ўяўлення аб Палессі. У вершы „Барысаў“ паэт не менш рашуча расправляецца і з рамантызацыяй мінулай гісторыі.

Мінуўшчына ўяўляецца паэту ўжо без рамантычных фарбаў нацыяналістычнай рамантыкі, а ў рэалістычных, гістарычна-праўдзівых вобразах.

Не „з павяўшай славы быўшых дзён“ паэт складае песні і гераічны сказ, а з гістарычных дзён барацьбы і будаўніцтва з расквітаючай славы сёнешніх і будучых дзён, не аб старых замчышчах і паходах князёў апавядае яго сказ і пяе песня, а аб індустрыяльных гігантах, гудках і калгасах соцыялістычнай радзімы, аб гераічных паходах Чырвонай арміі, адважных пераможцах Арктыкі, бесстрашных узлётах гордых сокалаў Совецкай краіны; не аб „загінутай долі“ яго песні, а аб набытай у крывавай барацьбе волі і долі, шчаслівым і радасным жыцці народа соцыялістычнай бацькаўшчыны.

Новую соцыялістычную радзіму, набытую рабочымі і сялянамі ў крывавай барацьбе, у пераможным будаўніцтве, паэт заклікае ахоўваць і абараняць, заклікае народ яе к пільнасці.

„Не паддайся снам спакойным
Пад шчаслівым небам:
Хітры вораг за мяжою
Набівае стрэльбы“.

Аднак не толькі за мяжою вораг „набівае стрэльбы“, яшчэ не знішчаны канчаткова рэшткі капіталістычных элементаў і ўнутры краіны. Згубіўшы ўсякія надзеі на сваю рэстаўрацыю, капіталістычныя элементы, рознае атрэп‘е эксплаататарскіх класаў, шпіёны і правакатары, трацкісцка-зіноўеўскія бандыты і вырадкі яшчэ не знішчаны канчаткова. Сваім зладзейскім забойствам тав. Кірава класавыя ворагі лішні раз напомнілі нам, што нельга ні на адну хвіліну прытупляць большэвіцкую пільнасць, „паддавацца снам спакойным“. Класавы вораг не спіць. Ён не грэбае самымі подлымі, самымі бруднымі метадамі і прыёмамі абы толькі нанесці шкоду соцыялістычнаму будаўніцтву, нашай вялікай партыі, нашаму вялікаму народу.

Здрадніцкім стрэлам белагвардзейцы-зіноўеўцы пазбавілі жыцця сапраўднага народнага героя, вернага і адданага сына і кіраўніка нашай ленінска-сталінскай партыі тав. Кірава. Жальба і гнеў усёй нашай вялікай краіны, пролетарыяў усяго света знайшлі ў нашага паэта свой шчыры і агністы водклік. Яго верш „На смерць тав. Кірава“ дыхае полымем класавай ненавісці да „падкалодных яшчарыц, гадзюк“, тройчы праклятых забойцаў, глыбокай і шчырай любоўю да нашай партыі, да яе правадыроў. Глыбокія пачуцці і вялікую сілу нашага народа паэт выказаў у сваім вершы.

„Іграйце гучна музыку геройскую, музыкі,
Каб слухаў і дрыжэў ад музыкі увесь свет!
Дзяўчына, кветкамі абсып курган высокі,
А песню вечную злажы, пясняр-паэт.
Гнеў пролетарскі мог і зможа сцерці
З зямлі ўсіх падкалодных яшчарыц, гадзюк,
І ворагам за смерць адплаціць грознай смерцю,
Вышэй падымем сцяг, упаўшы з слаўных рук“.

Верш „На смерць тав. Кірава“ з'яўляецца адным з самых яркіх, самых моцных і дасканалых вершаў усёй трыццаці гадовай творчасці нашага паэта.

Гэта не звычайны верш, а мужны заклік несці слаўны сцяг бальшэвіцкай партыі, „упаўшы з слаўных рук“ слаўнага яе сына тав. Кірава.

Гіганцкая мужнасць і сапраўды не падробленая лірычнасць, надзвычайнай сілы цяплыня і глыбокі жаль, непахісная ўпэўненасць у перамогу той справы, за якую загінуў тав. Кіраў, і гнеўная нянавісць да белагвардзейцаў трацкістаў-зіноўеўцаў полымем дыхае з гэтага верша.

Трыццаць год літаратурна-мастацкай дзейнасці не малы тэрмін. За трыццаць год Купала стварыў не мала выдатнейшых твораў, якія ў поўным сэнсе гэтага слова з'яўляюцца вялікім крокам у мастацкім развіцці беларускага народа. Наш нарыс не ахапіў усіх бакоў і якасцей складанага працэсу творчага развіцця паэта, у ім толькі агульна вызначаны некаторыя бакі і лініі. Нам думаецца, што далейшая праца нашай крытыкі паглыбіць і пашырыць даследванне багатай, рознастайнай і надзвычай цікавай творчасці Купалы.

Шлях Купалы, як мы бачылі, не просты, не прасталінейны, як гэта імкнуліся яго паказаць нацыяналістычныя і меншавіцкія крытыкі (Жылуновіч, Піотуховіч, Клейнбарт і інш.), а яго творчы шлях складаны, вельмі супярэчлівы.

Адыйшла ў мінулае эпоха рабства, памешчыцкай і капіталістычнай эксплаатацыі селяніна і рабочага, эпоха жорсткага ўціску нацыянальнасцей.

Кашмарная эпоха панавання эксплуататараў у нашай краіне— гістарычнае мінулае. Разам з рэальнасцю адышла ў гістарычна мінулае і галерэя вобразаў гэтай рэчаіснасці, якія так майстэрскі адлюстраваны ў творах Купалы, адыйшлі супярэчнасці і крайнасці ў творчасці нашага паэта; новая рэальнасць нарадзіла новыя вобразы, абагаціла яго творчасць новымі ідэямі. Не ўся яго дарэвалюцыйная творчасць адышла ў мінулае разам са сваёй эпохай. У яго дарэвалюцыйнай творчасці многа таго, што яшчэ і на сёнешні дзень не згубіла свайго пазнавальнага значэння. Крытычна-рэалістычныя элементы яго дарэвалюцыйнай творчасці соцыялістычны пралетарыят, кіруючыся ленінска-сталінскім вучэннем, шырока выкарыстоўвае ў працэсе будаўніцтва соцыялістычнай культуры. У канкрэтных, яркіх і высока-мастацкіх вобразах яго дарэвалюцыйнай творчасці наш народ, нашы рабочыя і калгаснікі бачаць многія бакі ўмоў свайго жыцця пад уціскам царызма, памешчыкаў, капіталістаў, кулакоў, чыноўнікаў, паліцэйскіх, бачаць цень свайго праклятага мінулага. Чытаючы яго дарэвалюцыйныя творы жыва і выразна бачыш кантраст, вялікую прорву паміж жыццём сялянства ў эпоху рабства, зверства, дзікасці і цемры і радасным, шчаслівым жыццём нашых калгаснікаў.

Крытычна-рэалістычныя дарэвалюцыйныя творы Янкі Купалы ўліваюць ў жылы свайму совецкаму чытачу распаленыя лавы ненавісці да старога эксплаататарскага ладу і яго рэштак, узмацняюць у яго сэрцы яшчэ большую палкасць любові да совецкай соцыялістычнай бацькаўшчыны. Совецкі лад не толькі знішчыў старыя ўмовы жыцця мільёнаў, але раскаваў свядомасць людзей ад эксплаататарскіх і ўласніцкіх ланцугоў, ачышчаючы псіхалогію людзей ад шлаку і бруду прыватна-уласніцкага эксплаататарскага ладу.

Купала—паэт сучаснік. Социялістычны пролетарыят адрадзіў і яго, уліў у яго магутны і палкі струмень сваёй маладосці, бадзёрасці і жыццярадаснасці. Купалы — дарэволюцыйнага песняра смутку і жалю, крыўды і плачу, песняра нацыяналістычнай ідэі і рамантыкі нацыянальнай мінуўшчыны—больш няма. Адрадзіўся на новай соцыялістычнай аснове паэт-рэволюцыянер, паэт-барацьбіт; нарадзіўся пясняр барацьбы і перамогі соцыялістычнага будаўніцтва, пясняр гераічнага народа нашай соцыялістычнай мацеры-радзімы, пясняр слаўнага сёння і яшчэ больш радаснага заўтра, пясняр славы і росквіту нашай бацькаўшчыны.

Няхай нашы рабочыя і калгаснікі, а асабліва наша моладзь чытаюць творы Купалы, прыгожае стварэнне мастацкай культуры; няхай успамінае і пазнае прыгонніцкае, цёмнае і змрочнае мінулае, няхай лепш бачыць сонечнае, вольнае і радаснае сёння і заўтра. Гэта яшчэ больш узмацніць класавую нянавісць да старога ладу, да яго рэштак, яшчэ больш узмацніць любоў да новага жыцця, энтузіязм для новых перамог і абароны нашай краіны.

М. Модэль

# ВЫСТАЎКА БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА Ў МАСКВЕ

У жніўні адбылася ў Маскве выстаўка беларускага выяўленчага мастацтва за пятнаццаць год, прысвечаная пятнаццатай гадавіне вызвалення БССР ад белапалякаў.

Нельга пераацаніць вялікага палітычнага значэння і велізарнай адказнасці першай творчай справаздачы беларускіх совецкіх жывапісцаў, скульптараў і графікаў перад мастацкай інтэлігенцыяй і пролетарскай грамадскасцю сталіцы Совецкага Саюза, якія абкружылі нашых мастакоў, прыехаўшых у Маскву, і іх работы вялікай увагай і таварыскай творчай атмасферай. Беларускае выяўленчае мастацтва і яго творчыя кадры прайшлі складаны шлях у сваім развіцці, у сваей барацьбе пад кіраўніцтвам КП(б)Б за авалоданне вышынямі соцыялістычнага рэалізма. Беларускае выяўленчае мастацтва, як і іншыя галіны беларускай культуры, неаднаразова з'яўлялася аб'ектам уплыву буржуазных нацыяналістаў розных колераў і адценняў, якія імкнуліся, і часамі не без поспеху, скарыстаць яго для сваіх класавварожых мэт. Культ „васільковага“ стылька, ідэалізацыі слуцкіх паясоў, дробна-буржуазных сялянскіх рэволюцыянераў, арыентацыя на феадальнае мінулае, нацыяналістычная і царкоўная стылізацыя—усё гэта пэўны час знаходзіла свой адбітак у работах Віцебскага мастацкага тэхнікума, у паасобных карцінах мастака Кругера, скульптара Грубе, графіка і жывапісца Мініна і іншых мастакоў.

Чужыя соцыялістычнаму рэалізму ўплывы пад выглядам пошукаў выключна яркай выяўленчай формы, пад выглядам авалодання ў жывапісі спадчынай вядомага французскага мастака Сезана, такія „левыя“ захапленні былі ў мінулым, у работах такога віднага мастака, як Ахрэмчык, у Даркевіча, Мініна і цэлага шэрагу жывапісцаў.

Асноўныя кадры мастакоў БССР, пад кіраўніцтвам партыі, перамаглі варожыя ўплывы ў мастацтве, рашуча сталі на шлях стварэння мастацкіх палоцен, вартых нашай вялікай эпохі. Выстаўка, на якой было прадстаўлена 155 жывапісных работ, графікі і 12 скульптур, падвяла творчыя вынікі беларускага выяўленчага мастацтва пераважна па работах, выкананых да 1935 года.

На выстаўцы прадстаўлены старыя майстры жывапісі і рысунка Пэн, Кругер, Волкаў, Віер, Кудрэвіч, Бразер, совецкае пакаленне—Ахрэмчык, Пашкевіч, Лейтман, Мінін, Даркевіч, Фохт, моладзь Беленіцкі, Сухаверка, Дзежыц, Шэўчэнка, Ціхановіч, Цвірко, Забораў, самавучка Дамінскі, скульптары Азгур, Бразер і Грубэ. Апошнія (Азгур, Бразер) прадстаўлены на выстаўцы скульптурнымі партрэтамі-бюстамі, а Грубэ 1 бюстам і 2-мя фігурамі.Ману-

ментальная скульптура, якая займае галоўнае месца ў скульптуры БССР (Дом урада, помнікі і г. д.) па тэхнічных прычынах не змагла быць паказана на выстаўцы. Маскоўская крытыка зусім правільна адзначыла наяўнасць у БССР моцнай групы майстроў выяўленчага мастацтва, як Пэн, Волкаў, Ахрэмчык, Лейтман, Пашкевіч, Азгур, Бразер, Грубэ і інш., якія здольны стварыць сапраўды высока-мастацкія творы. І разам з тым крытыка правільна канстатавала, што гэтыя магчымасці, мяркуючы па творах, паказаных на выстаўцы, яшчэ далёка не рэалізаваны.

Гаворачы пра асноўны жанр выстаўкі—жывапісь, мы павінны адзначыць, што партрэты, нацюрморты і пейзажы пераважаюць на выстаўцы. Няма вялікіх сюжэтных філасофска-насычаных кампазіцый, выключаючы асобныя спробы ў эскізах карціны Ахрэмчыка „Уваход Чырвонай арміі ў Менск“, эскіз Волкава—роспісі вакзала ў Негарэлым, старой работы Пашкевіча „Партызаны“ і Віера „Суботнік“. Гэтыя кампазіцыі з'яўляюцца альбо яшчэ толькі эскізамі (Ахрэмчык), альбо маюць значныя творчыя памылкі, як „Партызаны“, дзе моцныя імпрэсіяністскія ўплывы сказваюцца ў тым, што хаатычнае награмаджэнне фарбавых плям у аўтара падпарадкуюць сабе людзей і тым самым стушоўваюць ідэйны змест кампазіцыі. А эскіз роспісі Негарэльскага вакзала проста не дае поўнага ўяўлення пра гэту значную работу мастака. Гаворачы пра жывапісцаў, работы якіх знаходзяцца на выстаўцы, неабходна адзначыць масцітага мастака Пэна, прадстаўніка акадэмічнага кірунку ў жывапісі, які напісаў за сваё доўгалетняе жыццё каля 1000 палотнаў. Пэн таленавіты бытапісацель дарэвалюцыйнага мястэчка і партрэтыст, які майстэрскі валодае рысункам. Яго карціны пра мястэчка складаюць жывую гісторыю дарэвалюцыйнага мястэчка. З яго работ, прадстаўленых на выстаўцы, асабліва вылучаюцца „Развод“—сюжэтная кампазіцыя, якая выкрывае фальш равінаў і іх знешнюю рэлігійную напышчанасць і прыгнечанае бяспраўнае становішча жанчыны, якая павінна пакорна падпарадкавацца равінскаму закону. З партрэтаў вылучаюцца „Сват“, „Часаўшчык“, „Шкляр“, „Кравец“, „Старушка“ і інш.

Менш удалыя ў Пэна натуршчыцы, у выкананні якіх адчуваецца салонная саладкавасць. Не пазбаўлен мастак у радзе работ пасіўнанатуралістычнага атабражацельства перадвіжніцкага напрамку. Другі відны жывапісец-рэаліст і рысавальшчык, прадстаўлены на выстаўцы— В. В. Волкаў. Характэрнай асаблівасцю мастака з'яўляецца высокая жывапісная культура, дасканалае валоданне рысункам, што з'яўляецца асноўным сродкам адлюстравання рэчаіснасці ў жывапісі, увага да выяўлення псіхалагічнага малюнка чалавечага вобраза. З работ прадстаўленых на выстаўцы вылучаюцца партрэт В. І. Леніна, партрэты жанчыны, дзяўчынкі. Спрэчнай карцінай з фармальнага боку выклікаўшай дыскусію і супрацілеглую ацэнку з'яўляецца „Молатабоец“, якой нельга адмовіць у правільнасці ідэйнай накіраванасці і добрым веданні мастаком пластычнай анатоміі, чаго не хапае многім маладзейшым мастакам. У работах Волкава адчуваецца недастатковая цяплыня і эмацыянальная насычанасць, што адбіваецца на іх поўным успрынятці.

Сур'ёзнае жывапіснае майстэрства, эмацыянальная насычанасць і выразнасць, рытмічнасць, глыбокі лірызм ёсць у акварэлях Віцебскага мастака Лейтмана, напісаных на тэмы і на матэрыяле г. Віцебска. Такія яго работы, як „Восень“, „Дзвіна“, „Дзіцячая алімпіяда“

належаць да ліку лепшых экспанатаў выстаўкі. Для мастака характэрны і тэматычна-ідэйны рост ад захаплення лірыкай пейзажа, дзе чалавека амаль не відаць, да любоўнага жыццёрадаснага выяўлення чалавека ў апошніх работах. Партрэты, напісаныя маслам, мастаку не ўдаліся і знаходзяцца не ў яго плане.

Здольным, безупынна растучым, жывапісцам з'яўляецца Ахрэмчык, які імкнецца крытычна асвоіць лепшыя тэхналагічныя бакі жывапісі Сезана ў вялікіх сюжэтных філасофскі-насычаных кампазіцыях, як эскіз-карціны „Другі з'езд партыі" і „Уваход Чырвонай арміі ў Менск", таксама ў нацюрмортах, зробленых з вялікім мастацкім густам. Не ўдаваліся яму да апошняга часу партрэты з-за непераможаных лявацкіх уплываў. Уплывы імпрэсіянізма—Манэ, Рэнуара у яго першым выглядзе адчуваюцца ў шэрагу мастакоў.

Мы ўжо адзначылі імпрэсіянісцкую манеру пісьма ў кампазіцыі таленавітага мастака Пашкевіча „Партызаны", які гэтыя ўплывы паспяхова перамагае ў партрэтнай жывапісі, у прыватнасці ў партрэце жанчыны, напісаным ім нядаўна. Тут мастак ужо больш чотка выяўляе псіхалагічны малюнак чалавечага вобраза з пэўнай лірычнасцю, мяккай і цёплай танальнасцю.

Найбольш яркім прадстаўніком імпрэсіяністычнай манеры ў беларускай жывапісі з'яўляецца Кудрэвіч, аўтар шэрагу пейзажаў, прадстаўленых на выстаўцы.

У Кудрэвіча на палотнах няма людзей. Прыроду ён успрымае без людзей, замкнута індывідуалістычна з вялікім сумам і тугой і разам з тым салонна-саладкавата з пазіцый самадаўлеючага эстэтызма. Фарбы, якія знаходзяцца ў яго палітры, адпавядаюць светаўспрыняццю мастака—яны шэрыя і змрочныя. Туман—любімы яго каларыт. Кудрэвіч здольны мастак, які без грунтоўнай творчай перабудовы далей расці не зможа.

Тое, што фармалістычная небяспека з'яўляецца вельмі сур'ёзнай у беларускай жывапісі, паказваюць хоць-бы работы маладога мастака Красоўскага, пра якога вядомы маскоўскі крытык О. Бэскін трапна сказаў, што гэта мастак „совращенный Сезанам, помноженным на раннего Лентулова".

Характэрнай адзнакай буржуазна-фармалістычных уплываў у жывапісі Красоўскага з'яўляецца аморфнасць і хаотычнасць формы, што скажае ідэйны змест яго карцін. Красоўскі не валодае галоўным для жывапісца мастацтвам рысунка і падмяняе гэта награмаджэннем калярова-светлавых плям. Пластычная анатомія не цікавіць Красоўскага, ён яе, мабыць, добра і не ведае і таму часткі чалавечага цела рысуюцца без уліку усялякіх прапорцый, а пры пераводзе гэтага на мову метадалогіі, атрымліваецца ідэйна-мастацкае скажэнне аб'ектыўнай рэчаіснасці. Фармалізм—ёсць выраджэнне мастацтва ва ўсім яго комплексе, і маладога мастака трэба сур'ёзна перасцерагчы ад далейшых фармалістычных практыкаванняў.

Некрытычнае асваенне Сезана дае сябе знаць і на работах вучня Петрова-Водкіна Даркевіча, асабліва ў яго пейзажах. Разам з тым неабходна адзначыць цікавыя партрэты—фрэскі Янкі Купалы і Адрэя Александровіча, зробленыя ім са значным майстэрствам. Перамагаючы свае мінулыя нацыяналістычныя ўплывы, мастак Мінін часткова застаецца яшчэ пад імпрэсіяністычнымі ўплывамі, сканцэнтроўваючы сваю ўвагу ў пейзажах і нацюрмортах на калярова-светлавой ігры.

Асобнае месца займае на выстаўцы жывапісь прадстаўленая Дзежыцам і Шэўчэнка—вучнямі Маскоўскай мастацкай ВНУ. Для работ гэтых мастакоў характэрна манахромнасць, і шэрасць фарбавай палітры і неўменне будаваць кампазіцыю карціны, слабае валоданне рысункам і часты разрыў паміж жывапіснай перспектывай і аб'ёмам, што робіць актуальныя рэчы на тэмы чыгуначнага транспарта і торфараспрацовак мастацкі невыразнымі.

Вялікую цікавасць на выстаўцы выклікалі маладыя мастакі-комсамольцы Беленіцкі і Сухаверка, прадставіўшыя таленавітыя пейзажы і партрэты, у якіх адчуваецца мастацкі густ, жывапіснасць і работа над рысункам, імкненне да раскрыцця псіхалагічнага малюнка вобраза. Вельмі цікавыя рэчы „Млын“ і „Шахцёры“ прадставіў рабочы-самавучка Дамінскі. У аўтапартрэце мастака Гаўрыленкі адчуваецца імкненне яго да сур'ёзнага авалодання рысункам. Па няправільнаму шляху ідзе малады мастак Цвірко, ў аўтапартрэце якога адчуваецца снобісцка-эстэцкае самалюбаванне.

Мы ўжо ўказвалі, што зусім слаба прадстаўлена на выстаўцы скульптура, а яшчэ горш графіка. Партрэтная скульптура прадстаўлена партрэтамі: т. т. Галадзеда, Харыка, Кульбака, Міхоэльса,—работы Бразера, М. Рафальскага, В. Галубка, чэкіста, і эцюдам работы Азгура, Грубэ прадставіў фігуры „Фізкультурніца“ і „Раба“, бюст „Лірніка“—работы выкананыя па дрэве. Скульптар Грубэ, маючы такую манументальную рэалістычную скульптуру, як помнік Дзяржынскаму ў Дзяржынску, на выстаўцы прадстаўлен дрэннымі работамі. Фармалізм і беспрадметная сімволіка характэрны для яго фігуры, умоўна называемай „раб“, якую сам аўтар не ведае, як дакладна назваць, ці „Праца“, ці „Прымусовая праца“, ці ўрэшце „Раб“. Аўтар захапіўся фармальнай задачай паказаць моцную асобу з напружанымі да найвышэйшай ступені мускуламі, як кажуць „вне времени и пространства“ і таму апынуўся ў цяжкім становішчы пры спробе вызначыць ідэйны кірунак сваей работы. Па нашай думцы не вырашана Грубэ і тэма фізкультурніцы. Пластычны вобраз яго фізкультурніцы не дае ўяўлення гармоніі цела савецкага фізкультурніка і яго высокага інтэлектуальнага ўзроўня. Па сваёй тэме і „Лірнік“ не можа характарызаваць ідэйна-творчага кірунку савецкага скульптара.

Кваліфікаванаму і здольнаму скульптару Грубэ, патрэбна больш глыбока асэнсаваць нашу многагранную соцыялістычную рэчаіснасць і ў сваёй далейшай творчасці ісці да такога рэалістычнага манумента, якім з'яўляецца яго помнік Дзяржынскаму.

З работ, прадстаўленых Бразерам, лепшай па глыбіні псіхалагічнага малюнка па правільнасці вырашэння пластычнага вобраза з'яўляецца бюст Кульбака. Бразер тут перамог характэрнае для многіх яго работ захапленне біялагічнымі знешнімі рысамі чалавека, гіпербалізацыяй іх пры дапамозе чаго ён часта спрабуе раскрываць скульптурны вобраз.

Таленавітым і культурным скульптарам, прадстаўленым на выстаўцы, з'яўляецца Азгур, які ў галіне майстэрства ідзе ад класічнай скульптуры, упарта працуючы над крытычным авалоданнем лепшых ўзораў класікі. У яго партрэце „Чэкіст“ правільнасць пластычнага малюнка, дакладнасць прапорцый спалучаецца з выражэннем мужнасці і высокага інтэлектуальнага ўзроўню вобраза. Азгур—малады скульптар, які з'яўляецца мастаком-мысліцелем, упарта працуючым над дасканалым авалоданнем прафесійным майстэрствам.

З графікі варта адзначыць прадстаўленыя на выстаўцы афорты Малкіна да кнігі Янкі Купалы „Над ракою Арэсай“ і паасобныя гравюры Мініна.

Падводзім вынікі.

Выстаўка паказала наяўнасць культурных і здольных творчых кадраў у беларускім выяўленчым мастацтве і разам з тым яна паказала, што нашы мастакі, яшчэ не выявілі ўсіх сваіх патэнцыяльных магчымасцяй і не стварылі яшчэ манументальных мастацкіх палоцен пра соцыялістычнае будаўніцтва. Адсутнічаюць тэматычныя сюжэтныя карціны пра сучасную індустрыяльна-калгасную Беларусь і яе лепшых людзей ударнікаў і перадавікоў соцыялістычнай вытворчасці, не паказана і гісторыя барацьбы працоўных Беларусі пад кіраўніцтвам партыі за дыктатуру пролетарыята, барацьбы з ворагамі рабочага класа буржуазнымі нацыяналістамі, агентамі і пасобнікамі фашысцкай інтэрвенцыі, не паказана гераічная Чырвоная армія і яе камандзіры. Не створаны яшчэ партрэты нашых ордэнаносцаў—кіраўнікоў соцыялістычнай рэканструкцыі БССР. Гэтае адставанне выяўленчага мастацтва БССР ад агульнага ўзроўня культурнага фронта БССР упіраецца ў значнай меры ў яшчэ нездавальняючую работу творчага аб'яднання мастакоў—саюза мастакоў і яго аргкамітэта.

У рабоце аргкамітэта яшчэ пераважаюць арганізацыйна-гаспадарчыя пытанні, якія з поспехам можа і павінен вырашаць кааператыў мастакоў.

Аргкамітэт не ўвёў у сістэму арганізацыі індывідуальных і тэматычных выставак мастакоў. Не праводзяцца творчыя дэкаднікі, творчыя вечары асобных мастакоў. Абмеркаванне асобных карцін праводзіцца без шырокага ўдзелу пролетарскай грамадскасці, замкнута.

Адсутнічае крытыка ў галіне выяўленчага мастацтва. А мастакі, самыя культурныя ізокрытыкі, не прыцягваюцца для гэтай мэты. Трэба адзначыць, што дрэнна яшчэ займаецца выяўленчым мастацтвам і перыядычны друк, у першую чаргу газета „ЛіМ“.

Сістэма творчых камандыровак, якая сябе цалкам апраўдала ў саюзе пісьменнікаў, павінна быць уведзена і ў мастакоў. Уключэнне групы беларускіх мастакоў у падрыхтоўку да ўсесаюзнай выстаўкі „Індустрыя соцыялізма“ і кантрактацыя „Всекохудожника“ з'яўляецца сур'ёзным крокам у справе выхаду беларускіх мастакоў на ўсесаюзную арэну. Гэтая практыка выканання мастацкіх работ для саюзных арганізацый павінна стаць сістэмай работы саюза совецкіх мастакоў БССР.

Выстаўка ў Маскве і крытыка работ беларускіх мастакоў маскоўскімі таварышамі высоўвае перад саюзам совецкіх мастакоў і кожным мастаком паасобку вельмі адказныя задачы далейшай упартай палітычнай і творчай вучобы, умацнення свайго прафесійнага майстэрства для стварэння манументальных мастацкіх палоцен, вартых лепшых людзей эпохі вялікага Сталіна.

---

## Бібліяграфія

### Апавяданні пра мужнасць і геройства

Рэволюцыйная мастацкая літаратура ўзбагацілася новымі творамі, якія дастойны эпохі новага тура рэволюцый і войн, эпохі наспявання рашаючых баёў паміж пролетарыятам і буржуазіяй. Рэволюцыйныя мастакі малююць перад намі хвалюючыя карціны лютаўскіх баёў аўстрыйскага пролетарыята, мужнай і доблеснай кітайскай Чырвонай арміі, нечуваных катаванняў вязняў у германскіх канцлагерах і г. д.

Чатыры рэцэнзіруемыя намі кнігі—гэта апавяданні пра доблесць і геройства аўстрыйскага пролетарыята і слаўнай Чырвонай кітайскай арміі, пра іх самаахвярнасць, пра іх нязломную сілу і глыбокую ненавісць да сваіх класавых ворагаў, пра іх глыбокую веру ў справу рабочага класа, у справу пролетарскай рэволюцыі.

„Расказы о китайской Красной армии“ [1]) прысвечаны маршу, які прынёс перамогу гэтай Чырвонай арміі, яе развіццю, развіццю кітайскіх советаў, а таксама паказу таго, як Чырвоная армія прарывае кольца гоміндануаўскай контррэволюцыі ў жорсткіх бойках з лепш узброенымі сіламі ворага.

Агнеса Смэдлі спявае ўрачысты гімн Чырвонай арміі і кітайскім советам, апявае вялікую рэволюцыйную творчасць народных мас, іх палкасць і мудрасць.

Агнеса Смэдлі паказвае нам рабочага, шахцёра, які стаў правадыром чырвоных атрадаў, селяніна, які распрастаў згорбленую спіну, маладую дзяўчыну, што ідзе на смерць у небяспечную разведку, кітайскага комуніста ў руках катаў. Агнеса Смэдлі паказвае жанчыну, якая ўзлазіць на гару з чырвоным сцягам, каб навесці на зманны след гамінданаўскае войска, паказвае жанчыну, якая перадае вінтоўку чырвонаармейцу, каб ён дабіў ворага народа. Агнеса Смэдлі робіць вельмі вялікую рэволюцыйную справу.

У першым апавяданні „Паўстанне шахцёраў“ А. С. малюе перад намі праўдзівую карціну ўзнікнення шахцёрскага палка разам з яго камандзірам. Гэты полк адыграў вялікую ролю ў барацьбе за перамогу Советаў у Цзенсі і Хунані. Аўтар мастацкі апісвае жудасную эксплаатацыю кітайскіх кулі. Яна паказвае чатырнаццацігадовага хлапчука, які можа ўжо сказаць: „Так, я гарняк—вось ужо шэсць год, як я раблю нараўне з дарослымі“. Шахцёры ўвесь свой век дышуць ненавісцю да мясцовых і замежных эксплаататараў. Гэта ненавісць асабліва моцна праяўляецца ў баях.

---

[1]) Агнеса Смэдлі—„Рассказы... Гослитиздат“. 1935 г.

Кончылася нарада рабочых па падрыхтоўцы паўстання. Непрыметныя фігуры рабочых рассыпаюцца по горных сцежках. Яны хутка і асцярожна разыходзяцца па вызначаных месцах, па хацінках шахцёраў. Шырока адкрытымі вачыма шахцёры пазіраюць у чорную ноч, чакаючы сігналу аб пачатку паўстання. Гамінданаўцы баяліся пачынаць бой з шахцёрскім палком.

„Белыя афіцэры гаварылі сваім салдатам, што ім трэба разграміць якія-небудзь дзве, або тры сотні шахцёраў-паўстанцаў, але, калі пачаўся бой, дык іх, здавалася, былі тысячы; яны нібы выскаквалі з-пад зямлі і беглі на чацьвяронках, як лісы".

Агнеса Смэдлі паказвае ў прыгожых мастацкіх малюнках вялікую любоў працоўнага насельніцтва да Чырвонай арміі. Яна паказвае, як Чырвоная армія вырасла з народа, і што яна з'яўляецца непарыўнай часткай кітайскіх працоўных. У гарадах і вёсках сяляне і рамеснікі выходзяць насустрач шахцёрам-паўстанцам і нясуць ім усё, што толькі ёсць дома, каб частаваць чырвонаармейцаў. Яны ім падносяць рыс, чай; дораць халаты, захопленыя ў памешчыцкіх дамах, шыюць ім боты і наогул акружаюць Чырвоную армію мацярынскай любоўю і клопатамі.

А. Смэдлі ўзбагаціла міжнародную рэвалюцыйную літаратуру вельмі цікавымі мастацкімі творамі, дастойнымі кітайскай Чырвонай арміі і советаў. Яна паказала, як кітайская рэвалюцыя перарастае з антыімперыялістычнай барацьбы ў совецкую рэвалюцыю. Пераход з першай на наступную ступень робіцца больш марудньмі тэмпамі, бо кітайская рэвалюцыя адбываецца ў сялянскай краіне. Пролетарская праслойка тут тонкая. Няма тут буйных прамысловых цэнтраў, буйнай індустрыі. І бадай што адзін з істотных недахопаў цікавай творчасці Смэдлі заключаецца ў тым, што ў яе кнізе недастаткова паказан уплыў горада і гарадскога пролетарыята на рэвалюцыю.

Самыя цікавыя апавяданні А. С. гэта тыя, дзе яна апісвае выхаваўчую работу Чырвонай арміі і яе палітаддзелаў. У гэтым і сіла кітайскай Чырвонай арміі, і советаў. У гэтым і крыецца „сакрэт" іх перамог над добра ўзброеным ворагам. Нельга без глыбокага хвалявання чытаць апавяданні аб тым, як сялянскія палкі пускаюць у справу гарматы, зробленыя імі самімі з дрэва, як пяць палкоў чырвонаармейцаў ідуць праз цясніны гор з адной вінтоўкай на чатырох, або пяць чалавек. І не гледзячы на тое, што супроць гэтых сялянскіх прымітыўна-ўзброеных войск выступаюць гамінданаўскія палкі, узброеныя гарматамі сучаснай тэхнікі, Чырвоная армія атрымлівае перамогі над белымі.

А. С. ведае краіну, ведае класы, быт, традыцыі краіны і нават асобных раёнаў. Але самае галоўнае ў творчасці А. С. не толькі ў тым, што яна бачыць, як растуць масы ў рэвалюцыі, як актывізуецца вызваленая жанчына, як расце і рэвалюцыянізіруецца моладзь, але і ў тым, што гэта вялікае рэвалюцыйнае ператварэнне, справа вызвалення працоўнага народа робіцца пад непасрэдным кіраўніцтвам гераічнай компартыі Кітая.

Мы гэта падкрэсліваем таму, што А. С. не была комуністкай тады, калі яна пісала свае апавяданні пра кітайскую Чырвоную армію. Праўда, яна мае за сабой цяжкае працоўнае жыццё, але яна паехала ў Кітай у якасці карэспандэнткі германскай буржуазнай газеты „Франкфуртэр Цэйтунг". Будучы на месцы, яна пачала садзейнічаць барацьбе кітайскіх рабочых і працоўных.

Кніга А. С. гэта не толькі плод мастацкай творчасці, але і буйны палітычны акт абароны кітайскай рэвалюцыі і советаў, не гледзячы на праследванні, здзекі і пагрозы гаміндан аўскай і японскай ваеншчыны.

Нават буржуазны друк адзін час вельмі многа пісаў аб праследванні гэтага мужнага і бясстрашнага абаронцы кітайскай рэвалюцыі. Ненавісць гаміндан аўскіх сатрапаў стала яшчэ мацней пасля выхаду з друку яе апавяданняў у Англіі, бо А. Смэдлі з сарказмам малюе праўдзівы твар кітайскай контррэволюцыі—ненасытных памешчыкаў, труслівых генералаў, купцоў, ліхвяроў і ўсю банду паразытаў і катаў, на чым сёння трымаецца гаміндан аўская ўлада і імперыялістычнае панаванне ў Кітаі.

* * *

Вялікая колькасць мастацкіх твораў розных жанраў прысвечана лютаўскім баям аўстрыйскага пролетарыята. Большасць апавяданняў напісана самімі ўдзельнікамі баёў.

„Барыкады ў Аўстрыі[1])—гэта апавяданні саміх шуцбундаўцоў аб перажытым імі ў часы лютаўскіх узброеных баёў аўстрыйскага пролетарыята. Удзельнікі баёў, якія мужна трымаліся на барыкадах да апошняй мінуты, расказваюць нібы і сухім языком фактаў, проста, па рабочаму, без малейшых прыкрас і павелічэнняў. Але ў гэтых простых апавяданнях паказаны прыклады гераічнай барацьбы рабочых, якія не могуць не выклікаць у чытача велізарнага хвалявання.

У гэтых простых апавяданнях мы чуем грукат кананады, які даносіўся з Чырвонай Вены да рабочых усяго свету. Мы перажываем велізарнае хваляванне, калі Гейн Ромер малюе перад намі карціну, як каты цягнулі на шыбеніцу мужнага інжынера Вейселя. І „калі яны закідалі пятлю на яго шыю, мёртвую цішыню двара прарэзаў яго голас:—„Хай жыве пролетарская рэволюцыя.“ (ст. 108).

У сваіх апавяданнях шуцбундаўцы, якія пражываюць цяпер у Совецкім Саюзе, працуюць на заводах і будуюць разам з совецкімі рабочымі светлае бяскласавае грамадства,—паказваюць крывавыя ўчынкі аўстрыйскага фашызма. „Пролетарыі змагаліся да апошняга патрона, апошняй куляй забіваючы сябе, каб не трапіць ў рукі класавага ворага; як маткі барацьбітоў, ведаючы на працягу ўсяго свайго жыцця толькі голад і клопаты, насілі сваім сынам і мужыкам на барыкады замест хлеба і папярос—патроны“. (ст. 21).

Барыкады ў Аўстрыі“ і „Баі у Фюрысдорфе“ з'яўляюцца абвінаваўчым актам супроць правадыроў аўстрыйскай соцыял-дэмакратыі і II інтэрнацыянала, супроць іх здрадніцкай палітыкі, якая прывяла да аслаблення пролетарыята і да расколу яго. Галоўная прычына паражэння аўстрыйскага рабочага класа ў лютым 1934 года заключалася іменна ў тым, што як слаўны шуцбунд, так і соцыял-дэмакратычныя рабочыя яшчэ верылі ў сваіх рэфармісцкіх правадыроў, далі сябе абмануць.

Хаця гэтыя кнігі былі напісаны пасля сканчэння лютаўскіх баёў, можна, аднак, сказаць, што ў кожным з апавяданняў адчуваецца маса

[1]) „Профиздат“, 1935 г.

і іх узброеная барацьба. Кожны шуцбундавец памятае ўсе дробязі. Ён апісвае самыя характэрныя мо.анты, драматычныя перажыванні рабочых, якія пайшлі на барацьбу з фашызмам не на жыццё, а на смерць. Самі шуцбундаўцы далі нам апавяданні, народжаныя ў баях, далі нам жывыя вобразы мінулых баёў, далі нам жывых герояў, жывую карціну велізарнейшага гераізма і вялізарнейшых пакут. .

* * *

Вельмі цікавы раман маладога нямецкага пісьменніка Віллі Брэдэля[1]) аб пакутах у германскіх канцэнтрацыйных лагерах. Галоўны герой рамана Брэдля — гэта сын гамбургскага рабочага, якога фашысты на працягу трынацаці месяцаў катавалі ў фашысцкіх засценках.

„Карціны, намалёваныя мною ў рамане,—піша аўтар у сваёй прадмове,—гэта маё ўласнае перажыванне, тое, што я бачыў уласнымі вачыма. Некаторыя рэчы я пачуў ад штурмавікоў. некаторыя—ад маіх добрых таварышоў—палітзняволеных. У гэтым рамане няма ніводнага выдуманага героя“ і г. д.

Іменна таму, што ў рамане няма выдуманых герояў, іменна таму, што ён разам з палітзняволенымі перажываў усе здзекі, Брэдэль дае такія моцныя вобразы. З глыбокай ненавісцю паказвае ўсю погань, усю брыду нацыянал-соцыялісцкіх бандаў, якія па звярынаму расправаўляюцца з стойкімі германскімі палітзняволенымі Нельга без велізарнейшай ненавісці чытаць пра допыты сярэдневяковай інквізіцыі, варварства, якія чыняць нацыянал-соцыялісцкія служачыя і штурмавікі.

Штурмавікі здзекваюцца ўсякімі спосабамі над палітзняволенымі. Вывелі, напрыклад, усіх палітзняволеных на турэмны двор. Тут распачалі допыт. З зверскай ухмылкай на губах штурмавік пытае палітзняволенага: „Кім быў Ленін?“ Адзін адказвае: старшынёй Савета Народных Камісараў. У адказ на гэта штурмавік б'е па твару палітзняволенага. Другі палітзняволены адказвае: „Правадыр комуністаў“. Зноў удары па твару. Кожны адказ палітзняволеных сустракаецца крывавымі пабоямі. Штурмавікі так доўга мучылі арыштаваных такім допытам, пакуль адзін з іх не сканаў ад пабояў на вачох усіх прысутных.

Мільгаюць перад намі карціны сапраўднага сярэдневякоўя. Рэдактар яўрэй, зняволены ў канцлагеры, штодзень церпіць катаванні. Кожны дзень прыходзяць да яго п'яныя штурмавікі і збіваюць да няпрытомнасці. Урэшце, ім гэта надакучыла. Аднаго вечара штурмавікі прынеслі з сабой вяроўку, паклалі яе на стол і загадалі яўрэю-рэдактару пакончыць з сабой на працягу двух мінут. Роўна праз гэты час яны адчынілі дзверы камеры і з радасцю канстатавалі, што арыштаваны сканаў.

Але Брэдэль паказвае нам не толькі засценкі германскіх наёмных катаў, гэтых падонкаў і вырадкаў капіталізма, гэтых мракабесаў, здольных толькі на знішчэнне ўсяго лепшага, што стварала чалавечая гісторыя і культура. Брэдэль паказвае і іншы свет, свет герояў, пакутнікаў пролетарскай рэволюцыі, лепшых сыноў германскага про-

[1]) Віллі Брэдэль. „Испытание“. Издательство Молін Прага, 1935 г.

